Сяргей Чыгрын

# Хочацца дахаты

Гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы

Гутаркі

Лісты

Аўтографы

Мінск, «Кнігазбор», 2014

УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
Ч-11

**Чыгрын, С.**

Ч-11 Хочацца дахаты : гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы, гутаркі, лісты, аўтографы / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2014. — 240 с.
ISBN 978-985-7089-66-6.

У сваю кнігу Сяргей Чыгрын уключыў артыкулы пра людзей малавядомых, якія заслужылі ўдзячную памяць беларусаў, такіх як Андрэй Вайтовіч, Віталь Губарэвіч, Алесь Асіпчык, Ганна Кароль, Васіль Струмень, Ян Збажына і іншых. Асобныя раздзелы кнігі прысвечаныя Міколу Арочку, Янку Саламевічу, Аляксею Пысіну, Міколу Гайдуку, Юрку Геніюшу, Сакрату Яновічу. У кнізе змешчаны гутаркі з Арсенем Лісам, Міколам Чарняўскім, Міхасём Мірановічам. Апублікаваны і старонкі гісторыі Слонімшчыны, артыкулы пра новыя, выпушчаныя ў апошнія гады, кнігі беларускіх аўтараў і выданні пра Беларусь.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7089-66-6**



# Згадкі

## СПАТКАННЯЎ БОЛЬШ НЕ БЫЛО

Летам 2013 года грамадскі актывіст з Гродна Аляксандр Талерчык перадаў мне некалькі пісем беларускага грамадскага і царкоўнага дзеяча на эміграцыі Аляксандра Асіпчыка (1909–1990). «Аляксандр Асіпчык быў жанаты з маёй роднай цёткай Верай Селівончык з вёскі Парэчча Слонімскага раёна. Але вайна і сталінскія рэпрэсіі назаўсёды іх разлучылі. У 1960–1970-я гады я перапісваўся з Аляксандрам Асіпчыкам, які тады жыў у Саўт-Рыверы ў ЗША. Ён вельмі хацеў вярнуцца на Беларусь, моцна сумаваў і ўспамінаў Бацькаўшчыну. Напішы пра іх лёс», — параіў Аляксандр Сямёнавіч.

Сам Аляксандр Талерчык таксама родам з вёскі Парэчча. Пра сваю родную вёску ён нават напісаў кнігу, дзе вельмі




*Адзін з канвертаў ад Аляксандра Асіпчыка. 1971 г.*

добра апісаў паўстанне 1830–1831 гадоў пад кіраўніцтвам Міхала Валовіча. Таму не паслухаць свайго земляка я не мог. Тым больш, што шмат гадоў збіраў звесткі пра таго ж Аляксандра Асіпчыка.

## З біяграфіі Аляксандра Асіпчыка



*Аляксандр Асіпчык*

Аляксандр Асіпчык нарадзіўся 1 красавіка 1909 года ў вёсцы Пляшкі (цяпер вёска Партызанаўка. — *С. Ч.*) Слонімскага павета ў сялянскай сям'і Восіпа і Паўліны Асіпчыкаў. Перад пачаткам Першай сусветнай вайны іх сям'ю, як і многіх беларускіх вяскоўцаў, рускія казакі гвалтам выганялі ў Расію. Казакі палілі хаты і хлявы, палохалі беларусаў, пагражалі ім, нават некаторых забівалі, каб толькі іх з Беларусі адправіць у бежанства на ўсход.

У лістападзе 1915 года сям'ю Асіпчыкаў, як і многіх беларусаў, таксама пагрузілі ў вагон і адправілі ў Астрахань. Аляксандр Асіпчык у сваёй «Праўдзівай даведцы» (Запісы. Нью-Ёрк; Мінск, 2011. С. 265) прыгадваў: «Сям'я была досыць вялікая: сем асобаў. Таму едучы дарогай, яшчэ разам, бацька мой начаваў пад возам, а пры частых дажджах прастудзіўся на лёгкія і пасля пяці гадоў памёр ад сухотаў у Чэлябінскай губерні. У хуткім часе яшчэ памерлі дзве мае сястры. Я застаўся з маткай і дзвюма сёстрамі…».

У бежанстве жылося няпроста. Але Аляксандр хадзіў у школу. Скончыў там чатыры класы. Неяк валасны камісар паклікаў усіх бежанцаў і сказаў, што, хто хоча вяртацца на Радзіму, можа збірацца ў дарогу, бо вайна скончылася. Сабраліся дамоў і Асіпчыкі. Праўда, старэйшая сястра засталася, бо выйшла там замуж. Таму дамоў паехалі Аляксандр, яго малодшая сястра і маці. Паехалі цягніком праз Чэлябінск–Екацерынбург–Самару–Смаленск–Мінск–Слонім. Пакуль



заехалі да Беларусі, усё распрадалі за хлеб. Неяк іх эшалон спыніўся на тры дні ў Пензе. Маці выйшла пашукаць якойнебудзь стравы, а цягнік з бежанцамі перагналі на іншую станцыю. Маці, спалохаўшыся, некалькі дзён шукала дзяцей. Яна за гэты час згаладалася і замерзла. Калі прыйшла ў вагон, у яе паднялася тэмпература. У Смаленску Паўліны Асіпчык не стала.

У Слонім Аляксандр Асіпчык з сястрой прыехалі ў сакавіку 1922 года. Іх забраў Чырвоны Крыж у прытулак Жыровіцкага манастыра. Адтуль іх перавялі ў Варшаву, а потым — у Чанстахова. Там дзяцей апранулі, кармілі і вучылі польскай мове. Летам Аляксандр Асіпчык трапіў у вёску Дварэц (цяпер гэта Дзятлаўскі раён. — *С. Ч.*). У Дварцы адкрылі рамесную школу, дзе Аляксандр вучыўся сталярству. А вясною 1930 года, атрымаўшы дыплом, юнак пайшоў у жыццё самастойна зарабляць на хлеб. Але хутка яго забіраюць у польскае войска ў чацвёрты полк лётчыкаў у Торунь.

Пасля службы Аляксандр Асіпчык пэўны час жыў у Вільні, потым у Лідзе. А ў 1940 годзе прыехаў на родную Слонімшчыну. Працаваў настаўнікам у вёсцы Акунінава. А за заробленыя грошы купіў у Слоніме пляц. І з роднай вёскі Пляшкі перавёз свой дом у горад.

## Вера Селівончык



*Вера Селівончык. 1956 г.*

Яна паходзіла з беларускай сям'і, усе яе продкі займаліся сельскай гаспадаркай. З інвентару жыхароў вёскі Парэчча Слонімскага павета вядома, што Цімафей Селівончык жыў у сярэдзіне XVII стагоддзя, затым быў Селівончык Лявон (нарадзіўся ў 1796 годзе), потым Варфаламей (нарадзіўся ў 1818 годзе), затым Ігнат, а Селівончык Лявон (нарадзіўся ў 1872 годзе, памёр у 1937 годзе) — гэта быў бацька Веры. У яго было чацвёра

дзяцей: тры дзяўчынкі — Анюта (1900 года нараджэння), Алёна (1902 года нараджэння), Вера (1905 года нараджэння) і сын Мікалай (1908 года нараджэння). Мелі 4 гектары зямлі. Лявон у 1905 годзе быў мабілізаваны ў расійскую армію і накіраваны на японскую вайну, з якой хутка вярнуўся здаровым дамоў.

Першая бяда напаткала сям'ю ў 1915 годзе, калі падчас Першай сусветнай вайны расійскія войскі пацярпелі паразу на мазурскіх балотах і пад пагрозай акружэння вымушаны былі адступіць з Варшавы, Беластока, Вільні, Гродна, Слоніма, Брэста, Пінска і іншых гарадоў. Жыхарам было загадана пакінуць наступаючым немцам бязлюдны ды спустошаны край, праваслаўных жыхароў выгнаць у Расію, а вёскі спаліць…

Спачатку сям'ю Селівончыкаў размясцілі у Разанскай губерні, а потым перапravілі ў Казанскую, дзе яны ў татарскай вёсцы прабылі ўсю вайну. Грамадзянская вайна ды засуха спарадзілі там голад і хваробы. Людзей валіла халера, воспа, чума і сыпны тыф. Выміралі цэлымі сем'ямі. Надзею на выжыванне дала ў 1921 годзе Рыжская дамова, згодна якой было дазволена беларусам вярнуцца дамоў. Выехалі на радзіму позняй восенню і Селівончыкі, ехалі зімою ў халодных таварных вагонах, доўга затрымліваліся на розных станцыях, выменялі ўвесь нажыты скарб на ежу. У дарозе з голаду і хваробы памерла маці.

Горкаю была сустрэча з Парэччам праз сем гадоў блукання па Расіі. Вёска Парэчча месцамі выгарала. Тыя будынкі, якія ўцалелі, засталіся гнісці без стрэхаў, падворкі зараслі крапівою, палі пакрыліся дзірваном і кустамі. Але вёска паступова запаўнялася парадзелымі сем'ямі. Некаторыя дамы не дачакаліся сваіх гаспадароў. Прыехаўшы дамоў з голымі рукамі, першыя гады сяляне жылі ў страшэннай галечы. Каб не памерці з голаду, Вера Селівончык нанялася гаспадыняй у дом кіраўніка аднаго са слонімскіх банкаў.

Спрытная, працавітая, вельмі сумленная вясковая дзяўчынка спадабалася гаспадарам. Калі праз некаторы час



гэтага кіраўніка перавялі на працу ў Варшаву, ён забраў з сабою і служанку Веру. Пазней у Варшаве ён дапамог ёй паступіць у вячэрнюю школу, дзе Вера вывучылася на модную краўчыху. Яна шчыра развіталася з гаспадарамі, зняла памяшканне, атрымала патэнт і адкрыла свой «жаночы салон». Там яна трымала адну вучаніцу, мела сталых кліентаў і неблагі заработак. Некалькі разоў Вера прыязджала ў Парэчча. Калі моцна захварэў брат Мікалай, яна ўладкавала яго ў дарагую бальніцу, дзе яму павінны былі зрабіць складаную аперацыю. Аперацыя не ўдалася, і Мікалай застаўся калекам на ўсё жыццё: адна нага бяздзейнічала, таму ён мог хадзіць толькі на мыліцах.

Брат Мікалай меў добры слых. А каб неяк згладзіць яго нялёгкае становішча, Вера купіла яму скрыпку. Хутка ён стаў запатрабаваным на вёсцы музыкам. На жаль, на вёсцы хутка знайшоўся злодзей, які ўкраў гэтую скрыпку. Тым не менш, Вера ўсё жыццё апекавала свайго роднага брата.

Наладжанае жыццё Веры Селівончык у Варшаве парушыла нямецка-савецкая вайна з Польшчаю ў верасні 1939 года. Калі Варшаву занялі немцы, Вера вырашыла яе пакінуць і вярнуцца ў Парэчча. Наняла фурманку, пагрузіла на яе сваю швейную машыну, мадэльныя часопісы, астатні скарб і рушыла ў дарогу. Некалькі разоў мяняла фурманкі, але ўсё ж дабралася да мяжы, пераехала яе і прыехала ў Парэчча, дзе ўжо былі бальшавікі. Пасялілася ў бацькавай хаце, дзе жыла Анюта з Мікалаем. Зарабляла тым, што шыла вясковым дзяўчатам адзенне. З'явілася шмат заказаў. У старой бацькоўскай цёмнай хаце з малымі акенцамі стала цяжка працаваць. І тады Вера перабралася да сястры ў новую светлую хату з вялікімі вокнамі, якую пабудавалі трыма гадамі раней. Акупацыйная Заходняя Беларусь тым часам паступова саветызавалася і ачышчалася ад «ненадзейных» элементаў. З Баранавіцкай вобласці было дэпартавана 16 860 чалавек. У Парэччы да такіх ненадзейных элементаў былі залічаны дзве асобы: Вера Селівончык і Кандрат Талерчык,

чалавек, які пры Польшчы працаваў прыёмшчыкам камення на пабудове брукаваных дарог.

Ноччу 27 кастрычніка прыехаў «чорны варанок» і адвёз іх у баранавіцкую турму. За незаконны пераход нямецка-савецкай мяжы і антысавецкую агітацыю Вера Селівончык была прыгаворана «особым совещанием» ад 28 мая 1941 года да 5 гадоў зняволення ў паўночных папраўча-працоўных калоніях. Але адпраўка па этапу сарвалася, бо 21 чэрвеня 1941 года пачалася вайна паміж Гітлерам і Сталіным. Праз два дні немцы былі ў Слоніме. І Вера хутка вярнулася ў Парэчча і пачала зноў працаваць краўчыхаю.

## Пад акупацыяй

У верасні 1941 года нямецкімі ўладамі ў Слоніме была створана цывільная адміністрацыя. Для падтрымання парадку былі арганізаваны гарадская і павятовая ўправы, якія мелі ў сваім падпарадкаванні мясцовую дапаможную паліцыю. Усё грамадскае і культурніцкае жыццё было аддадзена ў рукі гэтых упраў, а палітычная дзейнасць забаранялася. Паўсюду адкрываліся школы. Быў дадзены загад, каб усе дзеці ва ўзросце ад 7 да 14 гадоў вучыліся ў школах. Мовай навучання была беларуская. У Слоніме дзейнічала беларуская настаўніцкая семінарыя, прагімназія і дзве школы. Ужо ў 1942 годзе ў Слонімскай акрузе было адкрыта 217 беларускіх школ, працавала 495 настаўнікаў, вучылася 25 380 вучняў.

Аляксандру Асіпчыку было даручана ў верасні 1942 года адкрыць у Слоніме рамесную школу, дзе вучылі кравецкай справе дзяўчат і хлопцаў. Апрача таго, хлопцы маглі вучыцца на кавалёў, слесараў, шаўцоў і кіроўцаў аўтамабілямі. Сам Аляксандр Асіпчык выкладаў гісторыю і геаграфію Беларусі.

У акупіраваным немцамі Слоніме ён штогод вывешваў на 25 Сакавіка бел-чырвона-белыя сцягі на брамах цэркваў і касцёлаў, на Народным доме, а на магіле палеглых жаўнераў Беларускай Краёвай Абароны паставіў крыж Ярылы.



«Усё гэта была мая ініцыятыва. Калі БЦР выслугоўвалася немцам, мне прыходзілася вучыць босых жаўнераў БКА гісторыі і геаграфіі, каб спярша навучыць, а пазней вымагаць абавязкаў свядомасці», — пісаў у сваёй біяграфіі Аляксандр Асіпчык. У 1942 годзе ён прымаў удзел ва Усебеларускім Царкоўным Саборы, каб абвясціць незалежнасць Беларускай Праваслаўнай Царквы і прыняць Статут, якім павінна кіравацца царква ў сваёй самастойнай дзейнасці…

У якасці інструктара па кравецкай справе была запрошана ў рамесную школу і Вера Селівончык. Там яны пазнаёміліся і пакахалі адзін аднаго. Вясною 1942 года Аляксандр Асіпчык ажаніўся з Верай Селівончык.

У Слоніме падчас акупацыі Аляксандр Асіпчык быў актыўным дзеячам беларускага культурна-асветніцкага жыцця. Апрача працы ў рамеснай школе ён быў дырэктар бібліятэкі і Народнага дома, дзе праходзілі ўсе важнейшыя мерапрыемствы горада і ставіліся беларускія спектаклі. Ён вёў заняткі па гісторыі і геаграфіі з вайскоўцамі, якія былі прызваныя служыць у Беларускую краёвую абарону, арганізоўваў выставы, сустрэчы. Ва ўсім яму дапамагала Вера. Яна шыла беларускія сцягі, нарукаўныя павязкі. Вязень сталінскіх лагераў Надзея Дземідовіч у адным з пісем да аўтара гэтых радкоў прыгадвае: «Алесь Асіпчык гадаваўся ў дзіцячым доме, умеў прыгожа вышываць, вязаў карункі ды рабіў розныя рэчы з саломкі і дрэва. Адным словам, быў сапраўдным майстрам на ўсе рукі, а тады, як і цяпер, гэта вельмі цанілася. І Асіпчык перадаваў свае веды беларускай моладзі, якая трымалася любых навучальных устаноў, каб толькі ў Нямеччыну не забралі. Алесь Асіпчык быў жанаты, ягоная жонка Вера ў той жа школе выкладала кравецкую справу (вучыла шыць вопратку)».

Аляксандр Асіпчык часта наладжваў у Слоніме розныя выставы народнага мастацтва слонімскіх вёсак. Вялікая выстава вышыванак, напрыклад, была адкрыта ў пачатку красавіка 1944 года. Найбольш яркімі і арыгінальнымі

былі вышываныя кашулі Аляксандра Асіпчыка і Веры Селівончык. Нават немцы іх куплялі. Пазней на эміграцыі Аляксандр Асіпчык напіша пра акупацыю роднага горада ўспаміны «Мая Слонімшчына» і пад псеўданімам А. Слонімскі апублікуе ў дадатку «Думкі й погляды» часопіса «Беларускі Сьвет» (ЗША) у 1986 годзе.

З Аляксандрам Асіпчыкам быў асабіста знаёмы і Аляксандр Талерчык. А пазнаёміўся ён з ім восенню 1943 года ў Слоніме. «Я ў тым годзе закончыў тры класы Парэцкай беларускай школы. На Слонімшчыне пачалі дзейнічаць партызаны, якія спалілі народны дом і школу ў Парэччы. Мае бацькі аддалі тады мяне вучыцца ў Слонімскую беларускую школу, якая знаходзілася на Студэнцкай вуліцы. Калі было цёпла і недажджліва, я хадзіў у школу з дому, а зімою жыў у цёткі Веры. Там адбылося маё больш глыбокае знаёмства з гэтай сям'ёй. Дзяцей у іх не было. Яны ўжо атрымалі новую кватэру, якая знаходзілася на правым баку Паркавай вуліцы (цяпер Пушкінская вуліца). Гэта быў двухкватэрны дом, у якім палавіну займаў Асіпчык, а палавіну — іншая сям'я. Уваход быў з надворку. Каля дома знаходзіўся добры хлеў, дзе гаспадары трымалі свіней і курэй. Меўся неблагі агарод…» — успамінае Аляксандр Талерчык.

## Эвакуацыя і новы арышт

Калі савецкія войскі пачалі набліжацца да Слоніма, Аляксандр Асіпчык вырашыў эвакуіравацца ў Нямеччыну, бо добра ведаў, што бальшавікі яго пасадзяць. Ён прапаноўваў Веры разам уцякаць, але яна адмовілася, бо трэба было даглядаць брата-інваліда, тут былі яе ўсе родныя і блізкія людзі, таму ехаць на Захад не было сэнсу. А яшчэ Вера Селівончык была ўпэўнена, што ніхто яе больш чапаць не будзе, бо яна нічога дрэннага не рабіла, а вучыла дзяцей шыць. Тады Аляксандр Асіпчык запрог каня, сеў і паехаў у бок Польшчы, развітаўшыся з каханым чалавекам, сябрамі і радзімай.



Слонім быў заняты савецкімі войскамі 10 ліпеня 1944 года, горад страшна згарэў. Пажарам быў знішчаны дом Асіпчыкаў і хлеў з парасятамі. Тады Вера перабралася жыць у Парэчча. Жыла заробкамі ад пашыву адзення. Але ўжо 27 верасня 1944 года па яе прыехаў карны «чорны воран», жанчыну арыштавалі і адвезлі ў баранавіцкую турму. Якое было здзіўленне Веры Селівончык, калі следчым па яе справе быў прызначаны той самы Іваноў, які дапытваў яе ў 1940 годзе. Вясковай жанчыне было пастаўлена ў віну, што яна не адбыла ранейшае пяцігадовае пакаранне, якое было прызначана ёй у 1940 годзе, а таксама дабаўлены тэрмін за супрацоўніцтва з немцамі. Вера не падпісала пратакол допытаў аб супрацоўніцтве з немцамі, але згодна арт. 63-1 УК БССР за «предательство» яе засудзілі на 10 гадоў з адбыццём пакарання на Калыме. «Балюча да слёз было слухаць успаміны цёткі Веры пра тыя жахлівыя ўмовы, у якіх ёй прыйшлося прайсці на катарзе. Спачатку яе адправілі на лесапавал будаваць нейкае паселішча для шахцёраў. Затым яна працавала на шахце, дзе ўручную кайлом дзяўбла касцярыт (свінцовая ці алавяная руда). Апошнія некалькі гадоў працавала па вырошчванні агародніны ва ўмовах кароткага палярнага лета. Дазвалялася пісаць два пісьмы і атрымліваць адну пасылку ў год. Заўсёды мы ёй пасылалі сала і часнык. У цяжкіх лагерных умовах выжывала дзякуючы рацыянальнаму складу розуму, працавітасці і кемлівасці. На лесапавалах збірала ягады, хвою, лісце лекавых раслінаў і гэтым ратавалася ад цынгі. Там вельмі неабходным было заўсёды мець з сабою некалькі пар пажадана шарсцяных альбо з любых нітак шкарпэткаў. Мокрыя ногі вялі да абмаражэння і смерці. Цётка раскручвала на ніткі любую тканіну, якая пападала на вочы, і змайстраваным адметным кручком вязала гэтыя шкарпэткі ці панчохі. Карысталася сама і давала катаржанам, якія дзяліліся з ёю харчамі. На цяжкай шахцёрскай працы выкройвала дзясяткі хвілін, каб паспаць у абедзенны перапынак: яна за некалькі хвілін праглынала абед, а затым

ссоўвалася пад стол і там засынала», — расказаў пра сваю цётку Аляксандр Талерчык.

Пасля адбыцця на катарзе 12 гадоў Вера Селівончык 26 лютага 1956 года была рэабілітавана Вярхоўным судом СССР. Ёй залічылі гады ссылкі ў працоўны стаж на Поўначы. Але патрэба было да льготнай пенсіі адпрацаваць там яшчэ тры гады. І Вера там засталася. А калі атрымала пенсію, яна вярнулася на Бацькаўшчыну. Жыць не было дзе, таму жанчына прыехала ў Парэчча ў старую бацькоўскую хату. Яна па-ранейшаму заставалася энергічнай, мужнай і працавітай жанчынай. А праз пэўны час Вера Селівончык ўстанавіла кантакты з Аляксандрам Асіпчыкам, які жыў у Амерыцы, і пачала з ім ліставацца.

## На эміграцыі

Пра жыццё на эміграцыі Аляксандр Асіпчык распавядаць і апісваць не вельмі любіў, хаця пражыў там 46 гадоў.

З Беларусі ён неяк дабраўся да Германіі. Там далучыўся да беларусаў. Шмат працаваў фізічна, матэрыяльна падтрымліваў беларускіх скаўтаў у горадзе Рэгенсбург.

5 мая 1946 года ў Рэгенсбургу адбыўся Першы з’езд праваслаўных беларусаў з амерыканскай, англійскай і французскай зонаў Германіі. Яго арганізавала ініцыятыўная група беларускага царкоўнага актыву, куды ўвайшлі М. Лапіцкі, Ю. Віцьбіч, М. Ігнатовіч, Хв. Шыбут, І. Касяк, Н. Арсеннева, М. Сяднёў і Аляксандр Асіпчык. Напачатку апошні з іх шчыльна супрацоўнічаў з беларускімі епіскапамі, а пасля пераходу іх у склад Рускай Замежнай Праваслаўнай Царквы ў 1946 годзе стаў іх ворагам. А праз год, у 1947 годзе, Аляксандр Асіпчык у Германіі арганізуе Беларускае Жыровіцкае праваслаўнае брацтва. Галоўнымі задачамі брацтва былі захаванне догмаў, традыцый і хрысціянскай дабрадзейнасці святой праваслаўнай веры, маральная і асветная дапамога сваім суродзічам на чужыне, апекаванне царкоўным жыццём, выданне рэлігійнай літаратуры на беларускай мове, трыманне Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы.



У 1947 годзе ў Баварыі Аляксандр Асіпчык выдаў сваю кніжку «Цудатворны абраз Жыровіцкае Божае Маці і Жыровіцкі манастыр», а таксама сам яе аформіў.

У 1950 годзе спадар Асіпчык выехаў у ЗША, жыў у Нью-Ёрку, потым у Таронта ў Канадзе, затым жыў і працаваў у Чыкага, Клiўлендзе, выдаваў на чужыне часопіс «Сіла веры» (1948–1965). Сам шмат друкаваўся пад псеўдонімамі Асіповіч-Асіпчык, Зьніч, Слонімскі А., пад крыптанімам А-віч у эміграцыйных «Беларускім праваслаўным календары — 1968», газетах «Бацькаўшчына», «Беларус» і іншых выданнях. Зора Кіпель у сваёй кнізе ўспамінаў «Дні аднаго жыцця» (Мінск, 2010. С. 617) прыгадвае: «Беларускі актывіст Аляксандр Асіпчык наш добры знаёмы з Нямеччыны з 1946–1948 гадоў. Блізка супрацоўнічаў з кліўлендскім культурным цэнтрам “Полацк”, даў на яго добрую суму грошай». А вось дзённікавыя запісы з гэтай жа самай кнігі: «Пабылі там крыху і паехалі да Асіпчыка. Асіпчык даў на Полацк 800 даляраў і на Інстытут 200»…

Апошнія гады жыцця Аляксандр Асіпчык правёў у г. Джэксан у штаце Нью-Ёрк (ЗША), дзе памёр 14 сакавіка 1990 года. Яго пахавалі там жа на мясцовых могілках «Фармы РООВА».

## Перапіска

З лістоў Аляксандра Асіпчыка Вера Селівончык даведалася, як ён жыве далёка ад Бацькаўшчыны. Яна з радасцю ўспрыняла тое, што яе любы чалавек далёка за акіянам заснаваў Беларускае Жыровіцкае праваслаўнае брацтва. А Вера адначасова ў Беларусі ахвяруе на той час даволі вялікія грошы на Жыровіцкі манастыр. Па просьбе Асіпчыка яна наведвае на Беларусі родных і знаёмых тых людзей, якія знаходзяцца разам з ім у Амерыцы на эміграцыі. Жанчына гасціла ў сясцёр паэта Сяргея Новіка-Пеюна ў Слоніме,

некалькі разоў ездзіла ў Мінск да яго. Асіпчык вельмі цікавіўся гістарычнымі помнікамі, таму Вера Селівончык і сям'я Талерчыкаў выпісвалі часопіс «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» і перасылалі яму. Па яго просьбе дасылаліся ў Амерыку і Канаду кнігі па беларускай архітэктуры Уладзіміра Чантурыя, а таксама кнігі Івана Мележа, Васіля Быкава, Івана Шамякіна. Разам з гэтым Вера Селівончык наведвала сваіх сяброўак па катарзе. Яна хадайнічала перад слонімскімі ўладамі, каб вярнулі ёй канфіскаваную маёмасць і перадалі дом, які пабудаваў яе муж Аляксандр Асіпчык у Слоніме на вуліцы 17 Верасня. Але яе высілкі былі марныя, дом ёй не вярнулі, а толькі далі аднапакаёвую кватэру ў Слоніме па Ружанскай вуліцы.

Вера Селівончык была мужнай і фізічна здаровай жанчынай. Яна нікога не баялася і амаль ніколі не хварэла. А калі здаралася праступа ці якія болі ў касцях, яна мела кніжку нямецкага лекара Кнейпа «Водалячэнне» і карысталася яго парадамі і травамі. Напрыклад, грып ці праступу жанчына лячыла наступным чынам: намочвала льняную прасціну ў халодную ваду, яе голую (у трусах) заварочвалі ў гэтую прасціну, давалі адвар ліпавых кветак ці ліпавага мёду, затым, каб не намачыць ложак, заварочвалі ў цырату, накрывалі коўдраю, і яна ляжала да таго часу, пакуль не спацее. Паважала лячэнне зёлкамі, якія сама збірала. Вяла вельмі актыўнае жыццё, а таксама ўсім людзям дапамагала.

Веры Селівончык не стала ў 1984 годзе. Яе пахавалі ў вёсцы Парэчча Слонімскага раёна на мясцовых могілках.

Летам 2013 года я разам з родным пляменнікам Веры Селівончык Аляксандрам Талерчыкам пабываў на могілках у Парэччы і адведаў магілу Веры Селівончык. Пахіліўся яе надмагільны помнік, амаль зраўнялася з зямлёй яе магіла. «Якой яна была мужнай жанчынай, беларускай, калі б ты толькі ведаў. На вялікі жаль, ёй і Аляксандру Асіпчыку ў жыцці ніколі больш сустрэцца не ўдалося. А так яны хацелі», — уздыхнуў Аляксандр Сямёнавіч.



З вясковых могілак мы паехалі ў Слонім і заказалі новы і дарагі помнік Веры Селівончык, які плануем устанавіць у бліжэйшы час.

Калі развітваліся з Аляксандрам Талерчыкам, ён дастаў з сумкі стосік старых пісем і сказаў: «Гэта некалькі лістоў з Амерыкі ад Аляксандра Асіпчыка, якія зберагліся. Ён пісаў мне ў 1960–1970-х гадах. Няхай будуць у цябе, можа калі спатрэбяцца…»

## З лістоў Аляксандра Асіпчыка да Аляксандра Талерчыка

Дарагі Шура! Дзякую табе за пісьмо, якое яшчэ атрымаў па старым адрасе. Цяпер я жыву па іншым і падаю яго ўсім вам ніжэй. Прашу перадаць адрас новы і Веры… Цешуся, што так прыгожа ты пішаш і разумна разважаеш пра жыццё, людзей. О, каб мы жылі разам… Я б быў бы вам шмат у чым памочнікам, любіў бы вашых дзетак, як любіў некалі цябе, Шура, калі ты быў маленькім і ціхенькім хлопчыкам… Але мая доля іншая — і як бачыш, больш гадоў свайго жыцця я адбываю на чужыне: 7 гадоў ад 1915–1922 гг. — у Сібіры, а цяпер — у Амерыцы…

*Аляксандр А. 31 кастрычніка 1967 года.*

Дарагі і мілы Шура! З прыемнасцю чытаю твае пісьмы, прыглядаюся да кожнай літары і слова. Як мудра і прыгожа ты пішаш па-беларуску!.. Чытаю я тут і польскія, і ўкраінскія кніжкі. Час ад часу ў газетах знаходжу некаторыя звесткі і пра Гродна, чытаю аб тым, як прыязджаў польскі тэатр і беларусы з Беластока. Мне прысылаюць беларускую газету «Голас Радзімы»… Перад гэтым пісьмом я напісаў Веры ў Слонім, бо яна пісала, што хутка будзе там. Пісала яна і аб паховінах Язэпа Стаброўскага (заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея. — *С. Ч.*). Вельмі хочацца прачытаць штось пра Слонім, але пра яго нідзе ніхто не піша… Дзякую

табе за Буквары, за геаграфію і гісторыю Беларусі. Я вельмі цікаўлюся картамі Беларусі. Часта іх разглядаю і ўспамінаю, дзе я быў, а дзе ніколі не быў…

*Аляксандр А. 5 сакавіка 1968 года.*

Мілы і дарагі Шура! Толькі што збіраўся падзякаваць табе за кнігі. Перадусім выяўляю сваю радасць, што маю такіх прыяцеляў на Беларусі, праз якіх маю так шмат прыемнасцяў і шчырага задавальнення, што я яшчэ не зусім адзін, а нехта думае пра мяне, як я аб усім тым, што мінула і што далёка ад мяне… Я вельмі ўдзячны і папракаю сёння сябе, што некалі мала меў часу размаўляць з табой, калі ты маленькі прыходзіў да нас, а цяпер ты вельмі аказаўся карысным не толькі для Беларусі і свае сям'і, але і для мяне няшчаснага… Ну, што ж, можа таму, што тады была вайна?..

*Аляксандр А. 25 чэрвеня 1968 года.*

Дарагі і паважаны Шура! Шчыра дзякую табе за пісьмо і весткі пра сябе… Прашу цябе выслаць мне кнігу У. Чантурыя «Гісторыя архітэктуры Беларусі». Я вельмі хачу яе мець. Цікава, дзе ты, Шура, цяпер жывеш?.. Я ўзяў карту Беларусі і пачаў разглядаць — з якога боку над Нёманам можа быць сасновы лес, каб уявіць тое месца вуліцы Каліноўскага, і ніяк не здагадаюся: ці з поўначы, ці з поўдня Гродна, бо Нёман плыве пасярэдзіне Гродна, ці на захад над р. Ласосна? Напішы мне, Шура, больш дакладна, бо я хачу ведаць…У 1970 годзе будзе 500 гадоў Жыровічам. І мы тут будзем святкаваць гэты юбілейны год…

*Аляксандр А. 30 верасня 1969 года.*

Дарагі і паважаны Шура! Дзякую табе за пісьмо і весткі з Беларусі… Маю вось такі вершык:

Час зусім нечакана
Знішчыў шчасны мой лёс,



На Радзіме каханай
Я праліў многа слёз.
І на чужыне не іначай
Сумна мне навакол,
Ці яшчэ я убачу
Цябе, мілы мой двор?
Пазірае мне ў вочы
Гора чорнаю хмарай,
Плачу ўдзень і уночы
Над разбітаю марай…

*Аляксандр А. 6 кастрычніка 1969 года.*

Дарагі і паважаны Шура! Я яшчэ жывы і здаровы і маю надзею яшчэ жыць колькі гадоў… Не забывай, дарагі Шура, пра мяне, бо я вельмі часта думаю пра вас і сумую, як так доўга не маю ніякай весткі з Беларусі. Вера таксама ездзіць і не піша так доўга. А я думаю: чаму?.. А на свеце ўсё мяняецца і, можа, так зменіцца, што я прыеду да вас…Чытаў я таксама, што нейкія кінамайстры ў ваколіцах Слоніма і Жыровічаў здымаюць фільм «Паланэз Агінскага». Вось каб калі гэты фільм пабачыць?!

*Аляксандр А. 4 верасня 1971 года.*

*2014*

# З КАГОРТЫ БЕЛАРУСКІХ ПАТРЫЁТАЎ

## З успамінаў Міколы Канаша

Напачатку 1990-х гадоў я пазнаёміўся з вязнем сталінскіх лагераў Міколам Канашам (1926–2006) са Жлобіна, перапісваўся з ім, пытаўся ў яго пра Ларысу Геніюш, Васіля Супруна, Тодара Лебяду і іншых беларускіх паэтаў, якія прайшлі ГУЛАГ. Аднойчы спытаў і пра сябра Саюза вызвалення Беларусі Віталя Губарэвіча. Спадар Мікола хутка даслаў адказ (перапіску з Міколам Канашам я апублікаваў у сваёй кнізе «Сярод сваіх людзей» (Мінск, 2012. С. 217–232). У ім ён шчыра прыгадаў і Віталя Губарэвіча (з ліста ад 21 сакавіка 1994 года): «Віталя Губарэвіча я сустракаў толькі ў зняволенні, захаваў каля двух дзясяткаў ягоных вершаў з тых часоў. Яго ўжо няма ў жывых, ён памёр дзесьці ў сябе на радзіме ў сярэдзіне ці пачатку 1970-х гадоў. Ведаю, што ў яго жывая яшчэ маці…». Я адразу адказаў на ліст Міколу Канашу, дзе прыгадаў, што Віталь Губарэвіч пісаў добрыя вершы. А ў адказ спадар Мікола паведаміў (ліст ад 11 красавіка 1994 года, усе пісьмы ад Міколы Канаша захоўваюцца ў аўтара гэтых радкоў. — *С. Ч.*): «Скуль Вы ведаеце, што Віталь Губарэвіч пісаў добрыя вершы? Я Вам даслаў толькі адзін, прысвечаны Ларысе Геніюш. Але я не сказаў бы, што вершы Губарэвіча вельмі добрыя, пісаў ён іх у лагеры экспромтам, захаваць магчымасці добрай не меў. Ён казаў мне, што ўсуну ў бутэльку і закапаю, магчыма, нехта натрапіць, але шансу на гэта не было ніякага. Таму ўзяў я іх сабе, перачытаў і лепшыя, на мой погляд, вывучыў на памяць, іншыя — прыхаваў у шахце. І толькі пасля выхаду на волю пачаў прыводзіць да парадку. І, такім чынам, што захаваў, тое маю і



*Віталь Губарэвіч. 1960-я гады*



сёння. Усе іншыя, відаць, прапалі, як ён пісаў сам. І ўсё ж, вядома, мне хацелася нейкім чынам зрабіць так, каб пачулі іх людзі. Я стараўся падобнае рабіць, але поўнай галоснасці дасягнуць так і не змог. Па-першае, вершы неабходна яшчэ адшліфаваць і толькі потым пусціць у друк, а гэта не так і проста. Па-другое, ёсць у Губарэвіча вершы і на расейскай мове, значыць, іх трэба перакласці на нашу родную мову…».

Пытаўся пра Віталя Губарэвіча пры жыцці ў Міколы Канаша і наш гісторык Міхась Чарняўскі. Спадар Канаш тады адказаў і яму. Адказ гэты быў апублікаваны ў кнізе «Саюз вызвалення Беларусі: 1946–1947» (Мінск: Беларускі Рэзыстанс, 2005. С. 59–60): «З Віталём Губарэвічам мне давялося пазнаёміцца ў страшных умовах ГУЛАГу 45 гадоў таму ў пасёлку Інта Комі АССР на 1-м ОЛП-е. Нічым асабліва ён не адрозніваўся ад іншых зняволеных: той жа бушлат з нумарам на спіне, тая ж аблавушка з рознакаляровых кавалачкаў тканіны на галаве, засмуголеныя невядомага колеру штаны ды кароценькія абгарэлыя вайлакі на нагах. Невысокага росту, з хударлявым тварам, на якім тырчэў нос. Уражвалі хіба вялікія вочы бледна-шэрага колеру. Ён, як пасля казаў мне, хварэў на сухоты. А родам быў з Дзятлаўскага раёна, што на Гарадзеншчыне. Пісаў вершы на беларускай і расейскай мовах.

На той час я ўжо быў знаёмы з Ларысай Геніюш, якая знаходзілася тамсама, толькі на 4-м ОЛП-е, жаночым. Аднаго разу я пару Віталёвых вершаў адаслаў Ларысе. І неўзабаве атрымаў адказ, што яны яшчэ далёка не дасканалыя, але нічога — няхай піша надалей, не варта адбіваць у яго ахвоту пісаць…

Наўпрост Віталь з Ларысай не ліставаўся, а час ад часу аддаваў мне свае лісты пераважна ў вершаванай форме, каб я адаслаў ёй. Але такая перапіска між імі працягвалася нядоўга. Узніклі непаразуменні ў думках, у поглядах, разважаннях. Віталь лічыў сябе выхадцам з беднай сялянскай сям'і, а Ларысу чамусьці далучаў да мяшчанаў і да тых, што стаялі “на версе”. Вядома, не меў рацыі. Па натуры ён

быў добры, ён у парыве злосці не ўмеў сябе стрымліваць. І ў дадатак яшчэ быў хворы.

У 1955 ці ў пачатку 1956 года — адным словам, ляжаў яшчэ снег і было зімна — на шахце № 2 забіла камбайнам нашага хлопца Міколу Граноўскага, ён быў з Шаркаўшчынскага раёна, што на Віцебшчыне. І мы, беларусы, вырашылі яго пахаваць па-Божаму. Быў гэта ўжо час "хрушчоўскай адлігі". Мікола Яцкевіч працаваў у інструменталцы шахты № 2 і дапамог цеслярам зрабіць труну й крыж. Слаўка Прыстаўка арганізаваў збор грошай, і купілі касцюм. Быў складзены й пададзены начальству лагера спіс зняволеных беларусаў з шахты № 2 (каля 20 чалавек), каб дазволілі выйсці з зоны на пахаванне. Дазвол быў дадзены. Быў там і Віталь Губарэвіч, які прачытаў над магілай свой верш "На смерць Міколы Граноўскага". А па нейкім часе яму з бетону зрабілі помнік, дзе на мармуровай дошцы выразалі надпіс. Тэкст цяпер ужо дакладна не памятаю, ведаю толькі, што ёсць словы «Не забудзем цябе, сябра». Пахаваны ён на могілках у лесе "Сангарадка" непадалёку ад "Пцічніка". Можа, тая мясціна захавалася яшчэ й сёння?..»

## Арышт

Віталь Губарэвіч нарадзіўся 3 студзеня 1926 года ў вёсцы Наваельня Дзятлаўскага раёна. Калі яму споўнілася два гады, памерла маці. Бацька Віталя спачатку працаваў псаломшчыкам у царкве, а потым, калі прыйшлі саветы, на чыгунцы. Ды аднойчы ў іх дом завіталі людзі ў цывільным з наганамі, зрабілі ў хаце вобыск, ператрэслі ўсе кнігі, але нічога крымінальнага і падазронага не знайшлі. Тым не менш бацьку Віталя Губарэвіча Міхася Губарэвіча арыштавалі. Больш сын і ўсе родныя і блізкія яго людзі, а таксама вяскоўцы ніколі Губарэвіча-старэйшага не бачылі, нават нічога не змаглі даведацца пра яго далейшы лёс.

Калі пачалася вайна, Віталь працягваў вучобу ў вячэрняй школе, а таксама падпрацоўваў на чыгунцы, каб дапамагчы



сям'і. Немцы неяк запрыкмецілі на чыгунцы юнака, і хутка яго адправілі на працу ў Германію. Па іншай інфармацыі, Віталь быў арыштаваны ў Вільні, там ён знаходзіўся ў роднай сястры. Выйшаў на рынак і трапіў у аблаву, дзе яго і схапілі. У Германіі ён цяжка працаваў на адным з ваенных заводаў.

На Дзятлаўшчыну юнак вярнуўся вясной 1945 года. Адразу пачаў працаваць, а таксама працягваў вучобу ў вячэрняй школе. Тады зачытваўся творамі беларускай літаратуры, сам пісаў вершы, але нікому іх не паказваў. На радзіме шукаў аднадумцаў, сяброў, якія яго разумелі б, з якімі ён мог бы падзяліцца сваімі думкамі і планамі.

У 1946 годзе Віталь Губарэвіч становіцца сябрам Саюза вызвалення Беларусі (СВБ). Найперш упаўнаважаным СВБ на Дзятлаўшчыне. Супрацоўнікі НКУС яго часта затрымлівалі, выклікалі юнака на допыты, але стопрацэнтных доказаў знайсці не змаглі. І хоць Віталю было толькі 20 гадоў, за гэты час ён шмат бачыў і перажыў, меў пэўны жыццёвы вопыт. Але ўлады хацелі зламаць яго дух. Як жа так: бацька быў ворагам народа, сам Віталь падчас вайны знаходзіўся ў Германіі, а вярнуўшыся дамоў, заўсёды размаўляў па-беларуску, пісаў вершы… За Віталем пастаянна сачылі. І неяк сярод сяброў СВБ знайшоўся здраднік, які іх выдаў НКУС. Сяброў арыштавалі: адных саслалі ў Сібір, іншых расстралялі. Не ўдалося толькі арыштаваць Губарэвіча. Але аднойчы такі момант здарыўся. У вячэрняй школе, дзе вучыўся Віталь, вісеў партрэт Сталіна. Неяк нехта выкалаў дыктатару вочы. Доўга шукалі вінаватага, пакуль нарэшце сын дырэктара школы не сказаў, што гэта зрабіў Губарэвіч, хаця ён да гэтай справы ніякага дачынення не меў. Хутка Віталя арыштавалі і далі яму 10 гадоў, адправіўшы ў Варкуту, а потым у Інту. Адбылося гэта ў траўні 1947 года.

У лагерах дзятлаўскаму хлопцу было невыносна цяжка, але дух юнака не зламалі. У яго пачаліся сухоты. Ад гэтай хваробы і ад цяжкай працы паміралі дзясяткі сяброў. Але Віталь трымаўся сваіх землякоў, якія разам дапамагалі адзін аднаму выжыць. Там ён пазнаёміўся з Ларысай Геніюш,

перадаваў праз сяброў ёй свае вершы, спрачаўся, разважаў. Адзін з вершаў нават прысвяціў паэтцы. У ім ёсць і такія радкі:

…Ты гамаю акордаў мілагучных
Напоўніла мне сэрца да краёў,
І вобразаў так родных, неадлучных
Чарга перад вачыма ўстала зноў.
І я за ліру ўзяўся міма волі,
І грозна песня загула мая,
Яна пяе братам маім аб волі,
Аб нашых родных, дарагіх краях.
Але не плач у песні гэтай льецца —
Яна гучыць, як атамана кліч,
Пракляццем грозным з сэрца майго рвецца,
Ўздымае помсты ўсенародны біч.

## Вяртанне

На родную Бацькаўшчыну Віталь Губарэвіч вярнуўся ў 1956 годзе, тады яму было толькі 30 гадоў. У Наваельні на Дзятлаўшчыне ён здаў экзамен за курс сярэдняй школы і паступіў на фармацэўтычны факультэт Ленінградскага хіміка-фармацэўтычнага інстытута, які скончыў, атрымаўшы спецыяльнасць правізара-фармацэўта. Працаваў у аптэцы вёскі Наваельня, у Навагрудку, а потым яго прызначылі на працу ў вёску Дварэц аптэкарам.

Вёсцы пашанцавала. Бо акрамя сваёй працы Віталь вёў актыўнае грамадскае жыццё. Ён іграў у Наваельненскім духавым аркестры, арганізаваў тэатральны гурток у мясцовым клубе ў Дварцы. Вясковыя артысты часта паказвалі пастаноўкі па творах беларускіх драматургаў. Сам Віталь выдатна іграў камедыйныя ролі, пісаў розныя вершаваныя гумарэскі на тэмы вясковага жыцця і выконваў іх на сцэне. У вольны час ён спрабаваў пісаць вершы, займаўся перакладамі гумарэсак з польскага часопіса «Шпількі», які выпісваў. Збіраў і запісваў у вёсках Дзятлаўшчыны легенды і паданні.





*Віталь Губарэвіч (пасярэдзіне) з сябрамі каля аптэкі ў вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна. 1965 г.*

Але страчанае здароўе ў Германіі і 9 гадоў лагераў рана забралі ў яго жыццё. Віталя Губарэвіча не стала ў 1976 годзе. Яго пахавалі на могілках у вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна, дзе да сённяшніх дзён стаіць сціплы помнічак.

## З успамінаў Міколы Грышана

У пошуках звестак пра Віталя Губарэвіча напрыканцы 2013 года сустрэўся з дзятлаўскім 82-гадовым паэтам, настаўнікам-пенсіянерам Міколам Грышанам, які некалі шукаў сляды Віталя Губарэвіча. Мы доўга пра яго і пра той час гутарылі.

— *Спадар Мікола, калі Вы займаліся пошукамі звестак пра Віталя Губарэвіча?*

— Гэта было ў пачатку 1990-х гадоў. Я тады наведаў вёску Дварэц, бачыўся з яго другой жонкай. Калі Віталь Гу-

барэвіч працаваў у Германіі, яму адарвала ўказальны палец на правай руцэ. Яго арыштавалі за ўдзел у Саюзе вызвалення Беларусі. Штаб арганізацыі знаходзіўся ў Навагрудку. Раскрыў арганізацыю правакатар, падасланы да іх. У раённай газеце Віталь Губарэвіч сваіх вершаў не друкаваў, відаць, яго вершы былі не для друку. У тых 1990-х гадах я напісаў і прысвяціў яму свой верш, праўда, ён нідзе не публікаваўся. Верш гучыць так:

На свеце жыў юнак-паэт,
Ад мерзлаты прыдбаў сухоты.
Не змог ускалыхнуць ён свет,
Ён плавіўся, гарэў употай.
Ды толькі душу груганы
Не змаглі вырваць кіпцюрамі,
Не ведалі тады яны,
Што ў цьме зырчыць яна агнямі.
Ён быў зраднёны са скалой,
Дзе б’юцца ў громах вадаспады.
Таму фальшывасці сляпой
Яго дух быў непадуладны.

*— А ці пыталася ў Віталя жонка, за што ён быў арыштаваны?*

— І я такое пытанне таксама задаваў жонцы Губарэвіча. Яна пыталася ў яго, але Віталь казаў, што на допытах яго абвінавачвалі ў тым, што падчас вайны ён дапамагаў немцам у Германіі, калі быў прымусова туды вывезены. Пра Саюз вызвалення Беларусі ён нікому нічога пасля вяртання з лагераў не казаў.

У Губарэвіча тады быў пасынак — Міша Кузьміцкі. Некалі ён працаваў педагогам, быў даволі адукаваным чалавекам. Меў вышэйшую адукацыю. Пісаў вершы, друкаваўся. Але ў 1990-х гадах ён ужо не пісаў нічога, працаваў вартаўніком, бо з’ела беднага гарэлка. А цяпер у жывых іх наогул нікога ўжо няма. Людзі казалі мне тады, што вершы Кузьміцкі пісаў не сам, а гэта былі вершы Губарэвіча, якія Міша прыпісваў сабе. Але я ў гэта мала веру, бо друкаваўся



Кузьміцкі ў 1960-х гадах, калі жыў Губарэвіч, а на такое Кузьміцкі не змог бы пайсці. Ды стыль вершаў Кузьміцкага не падобны на стыль вершаў Губарэвіча.

*— А ці вядома Вам, што за правакатар выдаў Саюз вызвалення Беларусі і ў прыватнасці Віталя Губарэвіча?*

— Калі ў вячэрняй школе ў Наваельні вучыўся Віталь Губарэвіч, інструктарам Дзятлаўскага райкама камсамола быў Алесь Бажко. Яны былі добра знаёмыя. Вось ён і аказаўся тым правакатарам. Справа ў тым, што пра яго як пра стукача мне распавядаў неяк былы выкладчык Гродзенскага педінстытута Браніслаў Ржэўскі (1905–1980). КДБ падаслала Бажко да Ржэўскага, калі той аднойчы быў выкліканы ў Мінск, нібы для ўдакладнення праграмы па беларускай літаратуры. Тры дні ўвіхаўся каля Ржэўскага тады Бажко, а потым змест іх размоў быў прыгаданы на допытах Ржэўскага, якія праводзілі супрацоўнікі КДБ у 1957 годзе. 25 сакавіка 1957 года Ржэўскага Браніслава асудзілі Гродзенскім абласным судом па артыкуле 72 КК БССР да 7 гадоў пазбаўлення волі. Так што і ўсім сябрам Саюза вызвалення Беларусі, у тым ліку і Віталю Губарэвічу, дасталося ад Бажко.

## Замест пастскрыптума

Вось такім быў кароткі лёс дзятлаўскага змагара Віталя Губарэвіча — беларускага патрыёта, творчага чалавека, фармацэўта. Яго жыццёвы шлях яшчэ трэба даследаваць, таму што пра такіх беларусаў мы павінны ведаць і не забываць ніколі. І яшчэ. Хачу шчыра падзякаваць настаўніцам Дварэцкай сярэдняй школы Дзятлаўскага раёна Наталлі Ляўкевіч і Вікторыі Воўкавай, а таксама сябрам гісторыкапатрыятычнага клуба «Спадчына» гэтай школы за дапамогу ў зборы матэрыялаў пра Віталя Губарэвіча.

*2014*

# АДЗІН З СЯБРОЎ БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНІЦКАЙ ПАРТЫІ



*Андрэй Вайтовіч у апошнія гады свайго жыцця*

Андрэй Піліпавіч Вайтовіч (1920–2008) жыў у Слоніме на вуліцы Касманаўтаў. Я яго ў канцы 1980-х гадоў часта сустракаў на гэтай вуліцы, бо вадзіў дачку ў дзіцячы садок, які якраз знаходзіўся недалёка ад дома Андрэя Піліпавіча. Нават звяртаў на яго ўвагу, бо чалавек быў ва ўзросце, заўсёды акуратна апрануты і некуды спяшаўся з кіёчкам у руках. Сустракаў яго і ў цэнтры горада. Хадзіў ён заўсёды пяшком і ніколі не ездзіў на гарадскім транспарце.

А блізка пазнаёміў мяне з Андрэем Вайтовічам зямляк гісторык Сяргей Ёрш у 1996 годзе. Пасля знаёмства я часта бываў у яго гасцінным, утульным і светлым, як і сам гаспадар з гаспадыняю, доме. Мы гутарылі пра жыццё, пра родны край і яго знакамітых землякоў.

Тады ад Андрэя Піліпавіча я даведаўся, што ён нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Залозкі на Навагрудчыне. Скончыў сем класаў у Любчы і паступіў у Віленскую электрамеханічную гімназію, але закончыць яе не паспеў, бо пачалася Другая сусветная вайна.

## Адзін з сяброў БНП

У час акупацыі Андрэй Вайтовіч вучыўся ў Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. А ў 1943 годзе ўступіў у беларускі батальён Барыса Рагулі, які ахоўваў вёскі Навагрудчыны ад нямецкіх карнікаў і розных марадзёраў. Летам 1944 года выехаў у Польшчу. Там трапіў у вядомы батальён «Дальвіц». Пасля падрыхтоўкі вярнуўся на Беларусь для арганізацыі падполля Беларускай незалежніцкай партыі. Яго дэсантавалі ў верасні 1944 года на Дзятлаўшчыне, хаця па планах ён павінен быў апынуцца ў іншым месцы. Тым не менш праз пэўны час Андрэй Вайтовіч пад мянушкай Андрук зноў апынуўся на Радзіме. Перад адпраўкай быў прызначаны кіраўніком Беларускай незалежніцкай партыі (БНП) у Баранавіцкай вобласці. Ён павінен быў вербаваць сяброў БНП, збіраць звесткі пра сітуацыю ў Беларусі, рыхтаваць лясную пляцоўку для прыёму самалёта і г. д.



Спачатку ўсё ішло даволі добра. Андрэй Вайтовіч ведаў родныя мясціны, людзей, хутка збіраў інфармацыю. Але не ведаў ён, што за ім пільна сочаць агенты дзяржбяспекі і яго сябра па вучобе ў Навагрудку Павел Турайкевіч. Той самы Павел, з якім яны разам уступалі ў БНП. Менавіта ён і выдаў Андрэя Вайтовіча НКУС. Яго арыштавалі ў канцы верасня 1944 года. Доўга дапытвалі, каталі. 64 дні ён правёў у камеры-адзіночцы мінскай «амерыканкі», а потым у карцары. Пасля тыднёвай галадоўкі яго прывялі на допыт да міністра дзяржбяспекі Цанавы. Допыт у Цанавы згадвае Сяргей Ёрш у сваёй кнізе «Вяртаньне БНП» (Мінск; Слонім, 1998. С. 36.): «Цанава пачаў здалёк: “Мы знаем, что ты не советский человек, но вот что тебя заставило вести борьбу с советской властью?..”. Пасля Цанава не вытрымаў і запытаўся пра галоўнае: “Так ты всё-таки скажешь ЦК своей партии?”. “Гражданін начальнік, што знаў, я вам сказаў”, — адказаў Андрэй Вайтовіч. “Нет, нет! Ты пойдёшь в камеру, подумаешь. Мы с тобой ещё встретимся”, — крычаў Цанава…».

Яны болей не сустрэліся. Андрэю Вайтовічу пасля допытаў далі восем гадоў лагераў, якія адбываў у Казахстане і ў Сібіры. У канцы 1952 года яго выслалі на пасяленне ў Паўночнаенісейск. Там пазнаёміўся і ажаніўся з рускай дзяўчынай з сям’і, якая таксама была выслана на поўнач. А ў 1958 годзе вярнуўся на зямлю роднай Беларусі, пасяліўся і жыў у Слоніме, працаваў на мэблевай фабрыцы, будаўніком.

Усё жыццё падтрымліваў сувязі з былымі байцамі «Дальвіца», у тым ліку і з Барысам Рагулем. А летам 1997 года прымаў удзел у сустрэчы «рагулёўцаў» у Вільні.

Сёння часта перачытваю кнігу ўспамінаў «Лёс аднаго пакалення», якая выйшла з друку ў Беластоку ў 1996 годзе. Янка Жамойцін у сваіх успамінах «З паражытага» прыгадвае некалькі разоў Андрэя Вайтовіча: «Асабліваю ўвагаю, аднак, абдзялілі мяне два блізкія мне сябры: гаваркі, упэўнены ў сваіх здольнасцях і дасягненнях Філя Давідчык і маўклівы, працавіты, салідны і скромны Андрэй Вайтовіч. Абодва яны ахвотна завязвалі ў інтэрнаце гутарку на грамадскія тэмы, цікавіліся маімі поглядамі і ацэнкай актуальных падзей. Стараліся папоўніць недахопы ў харчаванні, балазе абодва былі нядрэнна забяспечаны прадуктамі» (С. 79). І яшчэ: «Па-другое, у яго (маёра Вінакурава. — *С. Ч.*) распараджэнні былі пратаколы з допытаў маіх, раней спомненых, сяброў Філі Давідчыка і Андрэя Вайтовіча, якія былі ўжо зняволеныя…» (С. 145).

## Сяброўства з Ларысай Геніюш

Прайшоўшы ўсе жыццёвыя нягоды і сталінскія катаванні, Андрэй Піліпавіч Вайтовіч часта ўспамінаў пра Ларысу Геніюш, з якою шмат гадоў сябраваў. А адбылося ў яго знаёмства са слыннай беларускай паэткай з дапамогай сяброў па сталінскіх лагерах. У 1972 годзе Андрэй Вайтовіч у Вроцлаве наведаў свайго сябра Казіміра Гінца, які быў знаёмы з Ларысай Геніюш. Той папрасіў Вайтовіча з'ездзіць да паэткі ў Зэльве і перадаць ёй прывітанне, а таксама даў Андрэю хусцінку, якую некалі ў лагерах падаравала яму паэтка. Вярнуўшыся з Вроцлава, Андрэй Вайтовіч паехаў у Зэльву да Ларысы Геніюш…

Так яны пазнаёміліся і да апошніх дзён жыцця паэткі шчыра сябравалі. Гэта Андрэй Вайтовіч дапамог ёй зрабіць помнік на магілу Янкі Геніюша і прывёз яго з Навагрудка ў Зэльву. То свежанінкі прывязе, то мёду — ні ў чым і ніколі не адмовіла сям'я Вайтовічаў мужнай і таленавітай жанчыне з Зэльвы. Захаваўся ў маім хатнім архіве і арыгінал пісьма да Вайтовічаў ад Ларысы Геніюш. Гэты ліст пры жыцці



мне перадаў Андрэй Піліпавіч. «Ты даследуеш творчасць Ларысы Антонаўны, няхай гэта пісьмо будзе ў цябе», — сказаў Андрэй Піліпавіч. Пісьмо раней не публікавалася. Нават у кнігах эпісталярнай спадчыны Ларысы Геніюш, якія падрыхтаваў і выдаў Міхась Скобла, гэтага ліста да Вайтовічаў не было. Вось што пісала Ларыса Геніюш да Вайтовічаў 3 ліпеня 1981 года: «Даражэнькія! Як магла выканала Вашую просьбу (напісала верш для маладых — сына Вайтовічаў і яго нявесты. — *С. Ч.*). Шчыра вітаю маладых і жадаю шчасця і доўгіх год жыцця! У мяне па-ранейшаму былі нядобрыя весткі з Польшчы. Пачынаюць ужо чапляцца да Міхася (унука Ларысы Геніюш. — *С. Ч.*). Цяпер няма ні лістоў, нічога, і сэрца маё замірае, калі пра іх думаю. Айцец Васілій (Васіль Чыкіда (1937–2000) — святар, настаяцель зэльвенскай Свята-Троіцкай царквы. — *С. Ч.*) — на два прыходы, і рэдка цяпер яго бачу. Ён многа абяцае, але не ў сілах усё выканаць. Таму я прыехаць да Вас не змагу. Ды і здароўе няважнае. Пагоршала з сэрцам. Бядую, што няма з кім пад'ехаць па ягады, па суніцы. Пару дзён быў у мяне Коля Канаш (Мікола Канаш (1926–2006) — сябра Ларысы і Янкі Геніюшаў. Пазнаёміўся з паэткай у сталінскіх лагерах у Інце. Жыў у Жлобіне. — *С. Ч.*). Вельмі бадзёры, добра выглядае і чуецца. Заязджалі праездам з Навагрудка і нашыя слаўныя беларускія мастакі. Адзін быў з жонкаю. Фатаграфавалі і мяне, і хату з усіх бакоў. Пісаць мне ўжо неяк крыху цяжка, бо не тыя гады. Харошыя Вы людзі, і я Вам вельмі ўдзячная за ўсё, асабліва за дапамогу з пахаваннем с. п. мужа і з помнікам яму. Цукеркамі Вашымі пачаставала знакамітых мастакоў. Прыдаліся яны мне як ніколі. Буду рада бачыць Вас абоіх зноў у сваёй хаце, бо чуюся вельмі адзінока. Сын і Міхась у Беластоку вельмі просяць выклікаў, а іх не даюць тут. Усяго Вам добрага. Са шчырасцю да Вас — Ларыса Геніюш, Зэльва».

Аднойчы Андрэй Вайтовіч паказаў мне свой сямейны альбом. О, гэта быў незвычайны альбом! Справа ў тым, што пры сустрэчах з Ларысай Геніюш Андрэй Піліпавіч

расказваў ёй пра сваіх бацькоў, сясцёр, братоў, пляменнікаў. Паэтка ўважліва слухала і затым пераплаўляла пачутае ў вершаваныя радкі: некалькі соцень іх ён занатаваў у свой сямейны альбом са здымкамі сваякоў. А бывала, папросіць паэтку напісаць верш для сына, для суседа, у якога юбілей, ці нейкая іншая нагода — і яна пісала. Вось так і захавалася ў Андрэя Вайтовіча не вядомая нікому асабістая літаратурная спадчына Ларысы Геніюш, прысвечаная ягоным сваякам. Усе гэтыя вершаваныя радкі пры жыцці спадар Вайтовіч перадаў мне. У іх — любоў да сваіх сяброў, да беларускай зямлі і яе працавітых і мужных людзей, пачуццё нацыянальнай годнасці і гонару. Прывяду толькі некалькі строфаў з гэтых твораў:

* * *

Так раны людскія дабром сваім гоячы,
Часам ва ўмовах даволі цяжкіх,
Роду свайму памагаюць Вайтовічы,
Ў дастойныя людзі выводзяць сваіх.

* * *

…Родам з поля, і з лесу, і з бору мы,
Усе мы родзічы, усе сябры,
Дык будзьма мужныя і непакорныя
Й пушчам верныя, як зубры.

* * *

Каб згода, каб радасць аж праз берагі,
З вачэй каб слязіны ніводнай.
А ў сэрцах хай вечна жыве дарагі
Наш край наднямонскі і родны…



Бывала сям'я Вайтовічаў у Зэльве вельмі часта, ды і Ларыса Антонаўна наведвала Вайтовічаў у Слоніме.

## Развітанне

7 красавіка 1983 года Ларысы Геніюш не стала. Андрэй Піліпавіч прыехаў са Слоніма праводзіць яе ў апошні шлях. А ў памяці, як ён казаў, выразна гучалі радкі з паэмы «З вёскі Залозкі над Нёманам»:

Калі скончыцца дзень і сум душу кране
Успамінам трывожным нейкім,
Дык, здаецца, чутно, як калісь, як раней,
Быццам плача над доляй жалейка…

Гэту паэму Ларыса Геніюш прысвяціла сястры Андрэя Вайтовіча — Барбары і яе мужу Мікалаю. У ёй адлюстраваны лёс звычайнай беларускай сям'і — такіх лёсаў на нашай шматпакутнай зямлі было шмат. Паэма гэта таксама знаходзілася ў альбоме Андрэя Піліпавіча. У жніўні 1996 года ён дазволіў мне яе апублікаваць. І яна з'явілася ў зэльвенскай раённай газеце «Праца». Праўда, шмат радкоў Ларысы Геніюш, прысвечаных сваякам Андрэя Вайтовіча, застаюцца пакуль не апублікаванымі. Але час на іх яшчэ будзе.

Да сваіх апошніх дзён Андрэй Піліпавіч Вайтовіч заставаўся шчырым беларускім патрыётам, цікавіўся жыццём краіны, перажываў за ўсё тое, што адбываецца на нашай зямлі. Ужо хворы і слабы, ён з кіёчкам у руках прыходзіў у цэнтр горада і, як прафесійны будаўнік, дапамагаў аднаўляць слонімскі Спаса-Праабражэнскі сабор.

Пражыў ветэран беларускага вызвольнага руху 88 гадоў. Яго пахавалі пад бел-чырвона-белым сцягам 1 красавіка 2008 года на слонімскіх могілках.

*2014*

# ХТО ЗАСТРЭЛІЎ ГАННУ КАРОЛЬ?

Самае гучнае палітычнае забойства на Слонімшчыне ў першыя пасляваенныя гады адбылося 1 снежня 1947 года. У гэты дзень у вёсцы Шылавічы была застрэлена дэпутат Вярхоўнага Савета БССР і Шылавіцкага сельскага Савета 45-гадовая Ганна Кароль. Прайшло ўжо шмат дзесяцігоддзяў, але старэйшыя жыхары Слонімскага раёна памятаюць гэты дзень, і кожны з іх пра смерць дэпутаткі выказвае свае ўласныя розныя меркаванні, думкі і ўспаміны. Але ўсё па парадку.

## Змагарка

Слонімскі паэт Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско; 1912–1999) Ганну Кароль заўсёды называў змагаркай. І сапраўды, жанчына была смелая, мужная і самаадданая.

Нарадзілася яна ў 1902 годзе ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета. Скончыла пяць класаў мясцовай школы. З 1915 па 1922 гады працавала па найму ў заможных сялян, а потым на сваёй гаспадарцы.

Калі Слонімшчына апынулася пад Польшчай, Ганна Кароль адразу далучылася да падпольнага нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі. У 1925 годзе яна ўступіла ў падпольную кампартыю Заходняй Беларусі. Яе хутка выбіраюць сакратаром мясцовай парт’ячэйкі. І з той пары маладая падпольшчыца пастаянна знаходзіць сабе працу. Яна з сяброўкамі вядзе агітацыю ў сваёй роднай вёсцы Чамяры, а таксама ходзіць па хатах суседніх вёсак, раздаючы падпольную літаратуру. Бывала, зімовымі студзеньскімі вечарамі дзяўчаты сядзяць за кудзеляй, а Ганна распавядае ім, як трэба жыць



*Ганна Кароль*



і як жывуць людзі ў іншых краінах. І равесніцы ўважліва слухалі яе. А пасля паўночы, калі многія кудзельніцы разыходзіліся па хатах, яна з сябрамі не спала, а да самай раніцы вывешвала лістоўкі каля Чамяроў, Касцянёў, Хадзявічаў і іншых навакольных вёсак.

Раніцай польская паліцыя зрывала лістоўкі і пыталася даведацца, хто гэта зрабіў. І паліцыянты хутка дазналіся пра актыўныя дзеянні Ганны Кароль. Яны сталі за ёй уважліва сачыць. У Чамярах пачаліся арышты, асабліва шмат арыштоўвалі дзяўчат і юнакоў перад рознымі святамі. А 14 сакавіка 1928 года, калі паліцыя ўвалілася ў хату Ганны, дзяўчына адчула пагрозу. І яна не памылілася.

Спачатку Ганна Кароль трапіла ў дэфензіву, дзе яе каталі некалькі дзён, а потым пасадзілі за астрожную браму. За прыналежнасць да КПЗБ і ўдзел у вулічнай дэманстрацыі польскі суд прыгаварыў беларускую дзяўчыну да двух з паловай гадоў зняволення.

Польская турма падпольшчыцу не зламала, а, наадварот, яе загартавала. У канцы 1930 года яна выходзіць на волю і зноў бярэцца за сваю справу. Хутка яе выбіраюць членам Слонімскага акруговага камітэта КПЗБ.

Некаторыя сябры і сваякі неаднаразова ўгаворвалі Ганну пакінуць сваю рэвалюцыйную дзейнасць, а то палякі заб’юць. Але дзяўчына не пагаджалася. У снежні 1932 года яе зноў арыштоўваюць і саджаюць у турму на шэсць гадоў. Адбыла яна і гэты тэрмін. А калі выйшла на волю, зноў пачала выступаць супраць польскай улады. Трэці раз разам з сяброўкай Верай Іскрык яе арыштоўваюць 1 верасня 1939 года і без суда і следства адпраўляюць у Картуз-Бярозу. Там дзяўчына знаходзілася 16 дзён, да прыходу саветаў. А 17 верасня Ганна Кароль вяртаецца на родную Слонімшчыну.

17 верасня 1939 года — супярэчлівая дата беларускай гісторыі. З аднаго боку, гэта была радасная падзея — нарэшце аб’ядналіся Заходняя і Усходняя Беларусь і беларускі народ стаў адзіным. Але разам з Чырвонай Арміяй у Заход-

нюю Беларусь прыйшло НКУС, пачаліся рэпрэсіі, спачатку супраць палякаў, а потым хапалі беларусаў, татараў, яўрэяў.

Ганну Кароль ніхто ў Чамярах не чапаў. Наадварот, яна актыўна ўключылася ў грамадска-палітычнае жыццё. Спачатку яе выбіраюць старшынёй сялянскага камітэта ў вёсцы Чамяры, затым — старшынёй Парэцкага сельсавета Слонімскага раёна. Але хутка пачынаецца вайна, і актыўная дзейнасць Ганны Кароль на радзіме спыняецца. Яна пакідае Слонімшчыну і прыязджае ў Шклоў да сваёй сястры. Там і перажыла ўсю вайну. Чым падчас акупацыі на Шклоўшчыне займалася слонімская актывістка — застаецца загадкай. Праўда, пасля вайны Ганну Іванаўну ўзнагароджваюць медалём «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941–1945 гг.».

## Вяртанне дадому

Пасля вайны ў жніўні 1944 года Ганна Кароль са Шклоўшчыны вяртаецца на Слонімшчыну. Яе адразу выбіраюць старшынёй Шылавіцкага сельскага Савета. Ганна Іванаўна сярод сваіх землякоў зноў праводзіць актыўную растлумачальную работу, але на гэты раз па адбудове народнай гаспадаркі пасля вайны. Па яе ініцыятыве сяляне Шылавіцкага сельсавета за ўласныя грошы пабудавалі ў вёсцы школусямігодку. Пра дзейнасць Шылавіцкага сельскага Савета пад кіраўніцтвам Ганны Кароль у першыя пасляваенныя гады ёсць звесткі ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (ф. 4683, воп. 3, спр. 552, л. 28–36). У прыватнасці, у 1944 годзе ў вёску Шылавічы прыязджаў капітан Чырвонай Арміі і прасіў жыхароў вёскі датэрмінова сабраць і здаць мяса для байцоў Чырвонай Арміі. Ганна Кароль растлумачыла вяскоўцам на агульным сходзе важнасць гэтай справы. У выніку здалі для патрэб Чырвонай Арміі шмат збожжа, мяса і іншых прадуктаў. А сяляне Жылінскі Іван, Шухно Люба, Ёрш Іван і іншыя вяскоўцы здалі прадуктаў звыш нормы.



Актыўна была праведзена работа па распаўсюджванні дзяржаўнага займу. Для рэалізацыі задання Ганна Кароль далучыла актыў сельсавета. Жылінскі з Шылавічаў падпісаўся на 700 рублёў замест 200, Шухно — на 400, Тачоны — на 500 і г. д. План займу па сельсавету быў выкананы больш чым у пяць разоў. А ў верасні 1944 года вясковая актывістка тлумачыла вяскоўцам аб неабходнасці збіраць грошы на танкавую калону. У выніку сама Ганна здала 18 тысяч рублёў на тыя грошы, Маслянкова — 15 тысяч рублёў, Крупнік — 13 тысяч рублёў і г. д.

Ганна Кароль вельмі шчыра адносілася да дзяцей-сірот, састарэлых людзей. Сама купляла тканіну і шыла для дзяцей бялізну, сарочкі, размяркоўвала многіх, хто быў круглымі сіротамі, у дзіцячыя дамы. Старым вяскоўцам па яе просьбе падвозілі дровы, апрацоўвалі агароды.

Жыхар Слоніма Мікалай Ракевіч успамінае: «Я вучыўся ў Азярніцкай школе і памятаю, як да нас у 1946 годзе прыязджала і выступала ў сельскім клубе Ганна Кароль. Яна была апранута ў кажушок, сама невысокага росту. Выступала яна на той мове, на якой размаўляў тутэйшы люд на Слонімшчыне. Казала жанчына, што трэба аднаўляць пасля вайны народную гаспадарку. Людзей прыйшло поўны клуб, усе слухалі ўважліва і пагаджаліся з тым, што казала мясцовая актывістка».

9 сакавіка 1947 года Ганну Кароль выбіраюць дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. А праз дзесяць месяцаў, 1 снежня 1947 года, яе не стала.

## Смяротны стрэл у вакно

Вечарам Ганна Кароль вярнулася з чарговага сялянскага сходу дамоў. Села каля лямпы за сталом праглядзець пратаколы, запісы. І раптам з вуліцы ў вакно пакоя, дзе яна сядзела, нехта страляе. Ганна, параненая, падае. На выстрал прыбягаюць суседзі. Жанчыну хутка адвозяць у Слонім у раённую бальніцу, дзе яна праз чатыры гадзіны памірае.



*Паховіны Ганны Кароль у Слоніме. Снежань 1947 г.*

Пасля забойства народнага дэпутата ў Шылавічах прайшло ўжо амаль 67 гадоў. Але забойства Ганны Кароль так і засталося нераскрытым. Ці проста не хацелі яго раскрываць?

На паховіны зямлячкі прыйшлі сотні людзей. Яе пахавалі ў Слоніме, а на магіле ў 1949 годзе ўстанавілі чатырохгранны абеліск. Слонімская раённая газета «Вольная праца» тады апублікавала сціплы некралог, які пачынаецца словамі: «На баявым пасту загінула старшыня Шылавіцкага сельскага Савета, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Ганна Іванаўна Кароль…». Некралог падпісалі слонімскія кіраўнікі райкама і райвыканкама (заўважце, амаль усе яны рускія. — *С. Ч.*). А гэта — Мардашоў, Косава, Буланаў, Захараў, Башлакоў, Ананьева і іншыя. Праўда, сярод іх быў і слонімец — старшыня райвыканкама Іван Дабрыян. Пра гэта забойства ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь нічога не згадваецца. Няма звестак пра забойства дэпутата Ганны Кароль і ў Занальным дзяржаўным архіве ў г. Навагрудку. Ёсць там дакументы пра дзейнасць Шылавіцкага сельскага Савета дэпутатаў з 1944 да 1966 года (ф. 534, адз. зах. 70), але пра смерць Ганны Кароль не згадваецца. Дык хто ж застрэліў Ганну Кароль?



Такое пытанне я задаў сёння таму ж настаўніку-пенсіянеру Мікалаю Іванавічу Ракевічу. Ён сказаў: «На гэты конт я раскажу табе анекдот-быль, які вельмі папулярным быў у тыя 1940–1970-я гады. Вёз на калгаснай грузавой машыне вясковы шафёр старшыню калгаса. Раптам яны з’язджаюць у рышток, машына перавярнулася і.. загінуў старшыня калгаса. Шафёр застаўся жывы, вылез з кабіны, закурыў і кажа: “Што загінуў старшыня калгаса — гэта не бяда: райкам партыі заўтра новага прышле, а вось машыну прыйдзецца рамантаваць”. Вядома, што замест Ганны Кароль прызначылі ў Шылавічы новага старшыню сельсавета. Але ж каму перашкаджала слонімская актывістка? Афіцыйна лічылася, што жанчына загінула ад рук «ворагаў народа». Былы старшыня адной з гаспадарак Слонімшчыны Эдуард Арочка, які жыве ў вёсцы Міжэвічы, на маё пытанне пра смерць Ганны Кароль сказаў: «У той час на Слонімшчыне быў забіты і яшчэ адзін старшыня сельсавета, нехта Сончык. Казалі, што іх забілі банды. Але ж напрыканцы 1947 года на Слонімшчыне ўжо не было ніякіх бандаў. А мясцовая актывістка, відаць, некаму перашкаджала, вось яе і ліквідавалі».

У вёсцы Хадзявічы жыве Ніна Фёдараўна Баль, якая таксама добра памятае Ганну Кароль: «Гэта была родная цётка майго мужа Уладзіміра. Я памятаю, як мы бегалі слухаць выступленні Ганны Іванаўны. Тады людзі казалі, што яе забілі тыя, хто яе зрабіў дэпутатам».

Гісторык Сяргей Ёрш на маё пытанне сказаў: «Так, я калісьці таксама чуў версію, што маглі і ўлады з Кароль разабрацца. Але ні тады, ні цяпер не бачу прычынаў гэта рабіць. Тым больш, на наступны дзень пасля забойства, 2 снежня 1947 года, Цанава трымаў, верагодна, запланаваную раней справаздачу перад бюро ЦК КП(б)Б пра змаганне з антысавецкім падполлем на працягу года. Яму нявыгадна было дапускаць у гэты час забойства дэпутата Вярхоўнага

Савета БССР. А ініцыятыва мясцовага аддзела МГБ проста немагчымая.

Таму, мусіць, былі нейкія тайныя прычыны, нам пакуль невядомыя. Можа, нехта з мясцовых, можа не толькі нянавісць да ўлады, можа, і нешта асабістае было…».

Слонімскі гісторык Ігар Падгарадзецкі, які цяпер жыве ў Германіі, пра смерць Ганны Кароль паведаміў мне наступнае: «Мая маці добра ведала Ганну Кароль, але я ніколі з ёю на гэту тэму не размаўляў. Яна казала толькі, што Ганна Кароль была вельмі папулярнай сярод землякоў, што стралялі ў яе праз вакно з пісталета. І што пра вёску Шылавічы ў пасляваенны час людзі казалі, што гэта бандыцкая вёска».

Вёска Шылавічы на Слонімшчыне і пры Польшчы лічылася адной з найбольш рэвалюцыйных. Многія жыхары з гэтай вёскі сядзелі ў польскіх турмах. Аднак гэтая рэвалюцыйнасць, як потым выявілася, прыняла жахлівыя, нечалавечыя формы. Пасля таго як у верасні 1939 года Заходняя Беларусь адышла ад Польшчы, шылавіцкія «актывісты» пачалі здзекавацца над мясцовымі жыхарамі, зводзіць асабістыя рахункі, помсціць нават за дробязныя крыўды. Аднойчы гэтыя былыя «актывісты»-бязбожнікі пад кіраўніцтвам начальніка валаснай чырвонай гвардыі ў Шылавічах Фамы Кузняцова (прозвішча зменена па розных прычынах, сапраўднае аўтару вядома. — *С. Ч.*), дарэчы, былым палітвязнем польскіх турмаў, сагналі сялян да гумна, якое стаяла на беразе Шчары, і пачалі здзекавацца над адным з багатых людзей вёскі, мясцовым панам. Яны запрэглі яго ў воз і каталіся. А праз некалькі дзён «актывісты» закатавалі мясцовага святара Андрэя Куца і яго жонку Алену. Спачатку бандыты абрабавалі дом святара, прапаролі кіем жывот Алене, а айцу Андрэю выкалалі вочы, адрэзалі язык, нос, вушы, а пасля адвезлі і кінулі мёртвых у балота каля Шчары, а потым закапалі ў лесе. Іх пасля шукалі пашукавікі-вяскоўцы, але нічога не знайшлі. Але быў сведка гэтага злачынства і паказаў месца ў лесе. Святара і іншых забітых вяскоўцы адкапалі і перазахавалі. Такі лёс чакаў і лесніка Самсоніка з гэтай вёскі. Мясцовыя людзі бачылі і запомнілі ўсе зверствы, якія адбываліся ў іх Шылавічах. Вось у гэтай вёсцы і прыйшлося жыць і працаваць Ганне Кароль.



Як толькі застрэлілі яе, да старшыні Слонімскага райвыканкама Івана Дабрыяна прыйшлі супрацоўнікі НКУС і пачалі дапытвацца, а што ў гэты вечар рабіў і дзе быў Іван Дарафеевіч Міско (паэт Анатоль Іверс). Іван Дабрыян добра сябраваў з Іванам Міско. У гады вайны Іван Дабрыян быў адным з арганізатараў партызанскага руху на Слонімшчыне, камісарам атрада імя Дзяржынскага брыгады імя Ракасоўскага. А Іван Міско з’яўляўся адным з арганізатараў падпольнага антыфашысцкага руху, а з лістапада 1943 года — партызанам гэтай брыгады імя Ракасоўскага, сакратаром Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта. Іван Дабрыян сказаў, што ў гэты вечар Іван Міско быў у яго ў райвыканкаме, і яны разам вечарам пайшлі дамоў. Гэта і выратавала Івана Міско ад арышту. Тады на яго і маглі б ускласці ўсю віну ў смерці Ганны Кароль. Дарэчы, у 2012 годзе мне прыйшлося рыхтаваць да 100-годдзя трохтомнік твораў Анатоля Іверса (Івана Міско), у адну з кніг «З глыбінь жыцця» (Мінск: Кнігазбор, 2012) я ўключыў і ўспамін Анатоля Іверса пра Ганну Кароль. На старонках 183–184 ён успамінае: «Перабіраючы ў памяці тыя трагічныя падзеі, аж цяпер шкура шэрхне. Няўжо слонімскія і рэспубліканскія Шэрлак-Холмсы, у якіх я быў на падазрэнні, не ведалі, што ў мяне з Ганнай Кароль былі нармальныя, прыязныя адносіны? Ці, можа, самі следчыя не валодалі нармальнымі чалавечымі якасцямі? Няўжо яны не цікавіліся тымі асобамі, што замучылі святара?..».

Магчыма, не цікавіліся, а проста ведалі, чыіх рук гэта справа. Іван Міско гэтыя ўспаміны нават публікаваў у 1992 годзе ў слонімскай райгазеце. Далей ён прыгадвае: «Неяк я хацеў удакладніць дату гібелі заслужанай зямлячкі, але ні ў музеях, ні на Слонімскай фабрыцы мастацкіх вырабаў, калектыў якой трымае шэфства над магілай Ганны Іванаўны, не ведаюць дакладнай даты нараджэння і смерці. На

фабрыцы некалі быў альбом, прысвечаны жанчыне, але камсамольцы аддалі яго ў райкам камсамола, дзе і згубіліся яго сляды…».

Але як ні замятай сляды, яны ўсё ж застаюцца незамецанымі. На днях патэлефанаваў аднаму са старэйшых жыхароў вёскі Чамяры Пятру Фёдаравічу Бурсевічу і спытаў, ці чуў ён што-небудзь пра Ганну Кароль. «Вядома ж, гэта мая зямлячка з Чамяроў. Пасля вайны яе застрэлілі Кузняцоў са сваёй бандай…» — адказаў Пятро Фёдаравіч.

Лёс Фамы Кузняцова пасля вайны склаўся даволі добра. Ён меў шмат узнагарод, яго ўшаноўвалі як ветэрана вайны і працы, запрашалі на розныя сустрэчы, ён меў персанальную пенсію, пра яго пісалі газеты і кнігі. А тыя, хто ведаў яго мінулае, — маўчалі: ці баяліся, ці проста не хацелі яго варушыць.

Пра Ганну Кароль таксама ў Слоніме не забыліся. Яе імем названа адна з вуліц горада. А ў пачатку вуліцы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Праўда, аднойчы падчас аварыі яе збіла машына. І больш за паўгода шыльду не аднаўлялі. Гісторык Сяргей Ёрш патэлефанаваў намесніку старшыні Слонімскага райвыканкама. На трэці дзень яе аднавілі, знайшлі тую, арыгінальную, якая стаяла там дзясяткі гадоў.

І апошняе. Нядаўна я наведаў вялікі школьны Народны музей у СШ № 4 г. Слоніма. У адной з залаў убачыў бюст Кузняцова. Ён глядзіць проста на адзін са стэндаў, на якім знаходзіцца сціплы стары здымачак Ганны Кароль. Тут яны — побач, гісторыя іх яшчэ не рассудзіла: хто варты ганаровага месца ў музеі, а хто — не.

*2014*



# АЛЯКСЕЙ ПЫСІН І БЕЛАСТОЧЧЫНА



*Аляксей Пысін*

Жыццё і творчасць беларускага паэта Аляксея Пысіна (1920–1981) былі звязаны з Беласточчынай, хаця сам паэт нарадзіўся і жыў далёка ад беластоцкай зямлі — на Магілёўшчыне. Беласточчыну ён палюбіў, відаць, тады, калі 19-гадовага юнака ў 1939 годзе накіравалі ў Бельск. А было гэта якраз пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Аляксей Пысін у той час вучыўся на другім курсе Мінскага камуністычнага інстытута журналістыкі. Студэнта Пысіна датэрмінова і накіроўваюць на працу ў Бельскую раённую газету на пасаду літсупрацоўніка. Там ён вучыўся пісаць, сустракаўся з беларусамі Бельшчыны, гутарыў пра жыццё, заводзіў першыя знаёмствы. Калі б не вайна, Аляксей Пысін мог застацца на Беласточчыне назаўсёды. Але юнака забралі на фронт. Хутка пачалося адступленне аж да Гомеля, а потым эвакуацыя на Урал, у запасны полк, а далей шляхі вялі на фронт…

Вайну прайшоў сувязістам, двойчы быў паранены. Дамоў Аляксей Пысін дэмабілізаваўся ў 1946 годзе. Але лёс яго больш не закінуў у Бельск, бо Беласточчына ўжо стала польскай тэрыторыяй. Праўда, Аляксей Пысін заўсёды адсочваў падзеі, якія адбываліся на Беласточчыне. У 1965 годзе, калі ў Гарадку пачалі будаваць Дом культуры, дзе было месца і для бібліятэкі, ён напісаў ліст у рэдакцыю беларускага тыднёвіка «Ніва» ў Беласток: «Дарагія сябры! Прашу неяк пераслаць маю кніжку Дому культуры ў Гарадку. Аляксей Пысін. Магілёў, 14 жніўня (1965)» (Георгій

Валкавыцкі. Віры. Беласток, 1991. С. 83). Гэта быў зборнік вершаў Аляксея Пысіна «Мае мерыдыяны».

Рэдакцыя беларускага тыднёвіка «Ніва» ў Беластоку ведома ж, перадала кнігу Дому культуры ў Гарадок. А рэдактар тыднёвіка Георгій Валкавыцкі даслаў у Магілёў Аляксею Пысіну «Ніву», «Беларускі каляндар» і літаратурны альманах «Белавежа». Аляксей Пысін, калі атрымаў бандэроль, вельмі ўзрадаваўся, расхваляваўся. Ён адразу напісаў пісьмо рэдактару «Нівы» Георгію Валкавыцкаму: «Паважаны таварыш Валкавыцкі! Сардэчна ўдзячны за “Ніву”, “Беларускі каляндар”, “Белавежу” і тое задавальненне, якое атрымліваю ад чытання твораў беластоцкіх журналістаў і пісьменнікаў. У мяне даўняя мара: наведаць Бельск, у гэтым горадзе застала мяне мінулая вайна. На нашым з’ездзе (у красавіку) буду размаўляць на гэту тэму ў Саюзе пісьменнікаў. Дасылаю новыя вершы. Прывітанне ўсім вашым супрацоўнікам. З глыбокай павагай А. Пысін. Магілёў, 13.02.1966 г.» (Георгій Валкавыцкі. Віры. Беласток, 1991. С. 95).

Калі рэдактар атрымаў ліст з Магілёва ад Аляксея Пысіна і яго вершы, ён адразу аддаў іх у друк. А 20 сакавіка 1966 года тыднёвік «Ніва» на першай старонцы друкуе сем новых вершаў паэта. Пазней гэтыя вершы Аляксея Пысіна ўвойдуць у яго кнігу паэзіі «Твае далоні» (1967), за якую ён у 1968 годзе атрымае Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Янкі Купалы.

Аляксей Пысін вельмі любіў чытаць беларускі тыднёвік «Ніва». Калі ён яго атрымліваў, то чытаў усё да драбніц. А потым аб прачытаным расказваў іншым магілёўскім літаратарам. Ці часам і ім даваў пачытаць «Ніву». 16 лістапада 1966 года ён піша рэдактару «Нівы» Георгію Валкавыцкаму ліст, у якім просіць афарміць падпіску «Нівы» на 1967 год, а таксама просіць афарміць падпіску і для свайго сябра — магілёўскага пісьменніка-сатырыка Івана Аношкіна. Разам з просьбай Аляксей Васільевіч даслаў свой хатні адрас і адрас Івана Аношкіна. Магчыма, рэдакцыя ім выпісала «Ніву» і яны шмат гадоў яе чыталі. А 23 кастрычніка 1966 года



«Ніва» на першай старонцы апублікавала яшчэ тры вершы Аляксея Пысіна: «Агонь ці кроў сцякае на дубровах…», «Рэдка бачым мы птушак сваіх…», «Не ўсе лясы мае згарэлі…», якія таксама ўвайшлі ў кнігу паэта «Твае далоні».

Вершы Аляксея Пысіна друкаваліся і пазней у тыднёвіку «Ніва». Але самым шчаслівым для паэта быў 1980 год. У студзені ў «Ніве» былі змешчаны тры вершы паэта, а 19 і 20 чэрвеня паэт сам прыехаў на Беласточчыну. Прыехаў з пісьменнікам Аляксеем Гардзіцкім. Паездка на Беласточчыну была для Аляксея Пысіна вяртаннем у маладосць. Госці з Беларусі ў той час цікавіліся жыццём беларусаў на Беласточчыне, найперш іх культурнай і літаратурнай творчасцю. Аляксей Пысін з Аляксеем Гардзіцкім пабывалі ў рэдакцыі «Нівы», пазнаёміліся з яе супрацоўнікамі, вялі гутаркі пра ўзнікненне пры Беларускім грамадска-культурным таварыстве і «Ніве» літаратурнага асяродку, пра яго дзейнасць. Беларускія пісьменнікі расказалі пра літаратурныя справы ў Беларусі, пра культуру і гісторыю. Затым іх знаёмілі з Беластокам.

Візіт Аляксея Пысіна і Аляксея Гардзіцкага ў «Ніве» асвятлялі гісторык і журналіст Мікола Гайдук, паэт і журналіст Міхась Шаховіч. Першы пісаў, другі фатаграфаваў. «Аляксей Пысін, — паведамляў Мікола Гайдук у «Ніве» 13 ліпеня 1980 года, — зачараваў дэкламацыяй сваіх вершаў з розных гадоў — і тых, што паўсталі яшчэ ў школьныя гады, і тых, якія нарадзіліся ў апошнія дні. Уражвала глыбіня думак і пачуццяў гэтай самабытнай лірыкі. Яна перапляталася ў нейкае лагічнае цэлае з успамінамі паэта пра яго змаганне на



*Аляксей Пысін выступае ў тыднёвіку «Ніва». 1980 г.*

розных франтах вайны, працу ў мірны час, бо з гэтага і бярэцца яе радавод».

На другі дзень беларускія літаратары заехалі ў Бельск і Белавежу. У Бельскім беларускім ліцэі госці сустракаліся з ліцэістамі і настаўнікамі, наведалі спецыяльны кабінет-музей, прысвечаны Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе і яе заснавальніку і кіраўніку Браніславу Тарашкевічу, імя якога нададзена ліцэю. У Бельскім Доме культуры адбылася сустрэча з групай маладых мясцовых літаратараў.

Падчас візіту ў Бельск Аляксей Пысін наведаў і брацкую магілу ў Піліцкім лесе, дзе пахаваны яго сябры і проста знаёмыя, якіх да вайны ведаў паэт. Усе яны загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. І, як пісаў журналіст Мікола Гайдук, «балючае было вяртанне ў маладосць для Аляксея Пысіна. І хіба толькі пошум Белавежы змог суцішыць боль у душы паэта».

Калі Аляксей Пысін быў у рэдакцыі «Нівы», ён абяцаў рэдактару Георгію Валкавыцкаму, што напіша ўспаміны з бельскай маладосці. Але гэтыя ўспаміны Аляксей Васільевіч так і не напісаў. А ў «Ніву» прыслаў толькі тры сваіх вершы: «Балада сагнутых бабуль», «Даль вечнасці без берагоў…» і «Заспявай, мой дружа, заспявай…». Яны былі апублікаваны на першай старонцы «Нівы» 18 студзеня 1981 года. У адным з гэтых вершаў вялікі беларускі паэт пісаў:

Даль вечнасці без берагоў,
Ды час мы адлічваць павінны…

У «даль вечнасці» Аляксей Пысін адышоў 27 жніўня 1981 года. Ён памёр у Магілёве і пахаваны там на Польскіх (якое супадзенне!) могілках на вуліцы Лазарэнкі.

*2013*



# БЕЛАРУСКІ І ЎКРАІНСКІ СТРУМЕНЬ



*Васіль Струмень*

Ёсць на Дзятлаўшчыне вёска Зачэпічы, якую беларускі літаратуразнавец Уладзімір Калеснік шчыра называў «гняздом паэтаў». З гэтага гнязда былі родам заходнебеларускія паэты — Прамень, Граніт і Струмень. Псеўданімам Герасім Прамень падпісваў свае творы Іван Пышко, Петрусём Гранітам быў Іван Івашэвіч, а Васілём Струменем стаў у 1930-х гадах Аляксандр Лебедзеў. Праўда, Аляксандр Лебедзеў нарадзіўся ажно ў Кастрамской губерні Расіі. Бацька яго пайшоў на фронт Першай сусветнай вайны і не вярнуўся. Маці, Кацярына Пятроўна, працавала на чыгунцы, дзе ў 1919 годзе пазнаёмілася з беларусам Паўлам Івашэвічам, аглядчыкам вагонаў, за якога хутка выйшла замуж. Праз пэўны час сям’я Івашэвічаў пераехала ў вёску Зачэпічы на Беларусь.

Васіль Струмень пачаў вучыцца ў пачатковай школе, а потым прыватна ў загадчыцы школы Кучынскай. У 1928 годзе хлопчык атрымаў пасведчанне аб заканчэнні Зачэпіцкай сямігадовай школы. Тады Зачэпічы, як і ўсе іншыя вёскі Заходняй Беларусі, жылі пад уплывам нацыянальна-вызваленчага руху, у які ўключыўся і Аляксандр Лебедзеў (Васіль Струмень). Першыя здзекі і допыты ў беліцкім паліцэйскім участку юнак ужо зведаў у сакавіку 1930 года, за два тыдні да свайго 16-годдзя. А праз год у газеце «Малады камуніст» апублікаваў свой першы верш «Наша доля».

У 1935–1936 гадах юнак з Зачэпічаў працуе на шклозаводзе «Нёман». І там актыўна праводзіць рэвалюцыйную дзейнасць, публікуе антыўрадавыя вершы, удзельнічае ў забастоўках рабочых, дзе выступае супраць беспрацоўя

рабочых і сялян. Нават на вечарынках, калі дзяўчаты збіраліся прасці кудзелю зімовымі вечарамі, не абыходзілася без палітыкі. Васіль Струмень з моладдзю развучваў песні «Ад веку мы спалі», «Варшавянку», «Мы — кавалі» і іншыя. Пад уплывам актывістаў Таварыства беларускай школы, Сялянска-работніцкай грамады ў вёсках актыўна ставіліся спектаклі па п'есах Янкі Купалы, Францішка Аляхновіча, Леапольда Родзевіча, Міхася Чарота. На спектаклі і канцэрты прыходзілі сотні людзей. За палітычную дзейнасць юнака зноў арыштоўваюць і саджаюць у турмы ў Лідзе, Глыбокім і Вілейцы.

Пасля адбыцця тэрміну Васіль Струмень спрабуе перайсці польска-савецкую мяжу, аднак яго затрымліваюць і хутка прымусова здаюць у салдатчыну. Але і там нескароны Струмень праводзіць агітацыю сярод вайскоўцаў. З войска юнака адпраўляюць у Лідскую гарнізонную турму строгага рэжыму…

Але як паэт Васіль Струмень да турмы шмат публікуецца. Вершы маладога паэта з Дзятлаўшчыны друкуюць «Асва», «Наша воля», «Беларуская газета» і іншыя заходнебеларускія выданні. У паэтычных радках аўтар распавядаў пра боль затузанага ўладамі беларуса, яго імкненне да лепшага жыцця. Няшчасная доля простага чалавека была бачна і з верша Васіля Струменя «Беспрацоўны». Верш шмат дзе друкаваўся і перадрукоўваўся. Апублікаваў яго і Уладзімір Калеснік у зборніках «Сцягі і паходні» (Мінск, 1965) і «Ростані волі» (Мінск, 1990). Пачынаўся ён радкамі, дзе паказаны вобраз беларуса-беспрацоўнага, які шукае лепшай долі:

Шкандыбае з кіем ў сцюжы і марозы,
Вопратку благую іней серабрыць,
З вачэй люты сівер выціскае слёзы,
Стынуць ногі ў трэпах, але ён спяшыць…

У канцы 1938 года сям'я Васіля Струменя пераязджае на Ровеншчыну (Украіна). Там ён сустрэў уз'яднанне Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі з УССР і з БССР. На



Украіне вывучыў украінскую мову, працаваў настаўнікам у пачатковых школах. А калі пачалася Другая сусветная вайна, пайшоў на фронт. Пасля дэмабілізацыі ў 1945–1948 гадах працаваў настаўнікам украінскай мовы на Ровеншчыне. Завочна скончыў Ровенскі настаўніцкі і Львоўскі педагагічны інстытуты. Жыў у горадзе Сарны, дзе працаваў і настаўнікам, і дырэктарам школы, і журналістам.

У канцы 1980-х гадоў я, шукаючы звесткі пра літаратараў Заходняй Беларусі, завочна пазнаёміўся з Васілём Струменем (Аляксандрам Лебедзем). Некалькі гадоў мы перапісваліся. Сёння вырашыў перачытаць ягоныя лісты. У адным з іх ён піша: «У асноўным пра сваіх саратнікаў-пісьменнікаў у 1930-я гады мы ведалі праз газеты і часопісы, у якіх друкаваліся нашы творы. А сустрэцца даводзілася толькі ў вельмі рэдкіх выпадках на акруговых падпольных форумах, дзе мы толькі прадстаўляліся па партыйных псеўданімах. Толькі Ігната Дварчаніна мне ўдалося бачыць шмат разоў, калі я быў яшчэ падлеткам, і слухаць яго прамовы, а таксама размовы з сялянамі нашай вёскі Зачэпічы. З Піліпам Пестраком, Міхасём Васільком і Максімам Танкам сустракаўся таксама толькі выпадкова без канкрэтных дзелавых кантактаў, дзе нават не казалі мы адзін аднаму сваіх падпольных псеўданімаў, бо гэта была канспірацыя сугуба сакрэтная».

Штогод Васіль Струмень з Сарнаў стараўся прыязджаць на родную Гродзеншчыну. Спачатку ён ехаў у Зачэпічы, потым наведваў сяброў і знаёмых у Дзятлаве, Лідзе, Гродне, Мінску. Калі заходзіў у рэдакцыі газет і часопісаў, то заўсёды пакідаў там вязанкі новых сваіх вершаў ці ўспаміны аб перажытым у Заходняй Беларусі і на вайне. Былы рэдактар лідскай раённай газеты Аляксандр Жалкоўскі (1933–2011) нярэдка пры сустрэчах, калі я ў яго пытаўся, любіў распавядаць пра Васіля Струменя. «Будучы ўжо ў сталым узросце, Васіль Струмень часта наведваў Лідчыну, Дзятлава, Мінск. Адразу ж з чыгуначнага вакзала Ліды шпарка ішоў у рэдакцыю мясцовай газеты "Уперад", — прыгадваў Аляксандр Васільевіч Жалкоўскі. — Кожнага супрацоўніка, творчага

і тэхнічнага, лічыў тут сваім прыяцелем. Даведаецца аб нашым жыцці-быцці, потым распытвае пра сваіх сяброў яшчэ даваеннага часу. У іх ліку часта называў Вікенція Салыгу з Феліксава — колішняга актывіста Беларускай сялянска-работніцкай грамады і Таварыства беларускай школы, Івана Івашэвіча (Петруся Граніта) — вернага паплечніка з Зачэпічаў, актывіста КПЗБ Ісака Карабельніка з Ліды, Васіля Камянецскага (Міхася Ліста) з Краснай і многіх іншых сяброў. І тут жа міркуе, як і дзе з імі сустрэцца. З цеплынёй успамінаю сустрэчы з прыстойным і добразычлівым чалавекам: у рэдакцыі газеты "Уперад", у маёй лідскай кватэры, на адкрыцці ў Дзятлаве помніка Ігнату Дварчаніну, пра якога так узнёсла расказваў Аляксандр Мікалаевіч у таварыскіх гутарках і апублікаваных успамінах. У час кожнага прыезду ў Ліду Васіль Струмень заўжды запрашаў мясцовых журналістаў наведацца да яго ў Сарны. Першы раз я адправіўся туды разам з таварышам па рабоце паэтам Пятром Макарэвічам у сувязі з 70-годдзем пісьменніка, дзе ён нас частаваў і паказваў Сарны…».

Сапраўды, Васіль Струмень, калі прыязджаў на Бацькаўшчыну, любіў распытваць пра знаёмых журналістаў і паэтаў, то сам распавядаў цікавыя выпадкі з жыцця, то дэкламаваў свае вершы, то спяваў беларускія і ўкраінскія народныя песні. У яго да апошніх дзён жыцця (памёр 25 кастрычніка 1992 года) было шмат энергіі, дабра, сілы, імпэту. Яго вершы на беларускай і ўкраінскай мовах, якія друкаваліся пры жыцці, раскіданы па розных выданнях Беларусі і Украіны. Даўно іх разам трэба сабраць пад адну вокладку і выдаць асобным зборнічкам. А гэты артыкул-згадка напісаўся да 100-годдзя з дня нараджэння Васіля Струменя, які значыцца ў календары 1 красавіка 2014 года.

*2014, красавік*



# АБ ГЭТЫМ КАЗАЎ МНЕ САКРАТ


*Сакрат Яновіч*

З беларускім пісьменнікам з Беласточчыны Сакратам Яновічам я пазнаёміўся 22 красавіка 1989 года ў Слоніме, хаця яго творы ў беларускім беластоцкім тыднёвіку «Ніва» чытаў даўно. Тады ён з групай гарадзенскіх літаратараў наведаў Слонім, пабываў у рэдакцыі раённай газеты, дзе адбылася творчая гутарка пра сучасны стан беларускай літаратуры, пра ўзаемаадносіны літаратур краін-суседзяў. У канцы сустрэчы Сакрат дастаў з партфеля сваю кнігу на польскай мове «Bełarus, Bełarus» і хуценька паставіў аўтограф: «Паважанаму Сяргею Чыгрыну на памятку. Сакрат Яновіч. 22.04.1989. Слонім».

У другой палове 2000-х гадоў сустракаўся з ім часцей. Ён любіў гутарыць з тымі, хто прыязджаў з Беларусі, асабліва з тымі, хто жыў не ў Мінску, а ў беларускай правінцыі, як, напрыклад, я. Хаця, і мы ўсе гэта добра ведаем, з Сакратам Яновічам размаўляць любілі многія, і ён любіў і паважаў усіх. Праўда, з ім не так і проста было размаўляць, асабліва ў апошнія гады яго жыцця. Ён быў шмат чым незадаволены і пра гэта адкрыта казаў. Але спадар Сакрат быў шчаслівы і радаваўся тым, чым ён займаўся, радаваўся сустрэчам, радаваўся БЕЛАРУСКАСЦІ, якою жыў. Ён заўсёды быў адкрыты, як дзверы ў бацькоўскую хату. Не ведаю, можа, толькі з асобнымі людзьмі ён мог адкрыта гутарыць, разважаць, казаць праўду-матку. Вядома, ён быў і застаўся сучасным чалавекам у літаратуры і жыцці. Іншая рэч, што ён, як старэйшы па гадах, любіў свой час, сваё пакаленне. Але Сакрат Яновіч любіў і нас, хаця прэтэнзій да маладых, і не толькі да творчых людзей, у яго было нямала. Неяк сядзім з ім, гутарым, а ён кажа: «Вось унучка ў мяне, калі

ёй трэба злотыя і хоча, каб я ёй даў, размаўляе са мной і просіць іх у мяне па-беларуску. А калі злотыя ёсць, дык тады па-польску». «І вы, вядома ж, адразу ёй даяце злотыя?» — кажу. «Даю, бо на роднай мове ласкава пытае. Як тут не даць!» — адказвае Сакрат.

Сакрат Яновіч, мне здаецца, сам сабе пярэчыў. І гэтае пярэчанне прысутнічала ў яго пастаянна. Прыгадваецца яго герой Сцяпан Кішкель з кнігі «Хатняе стагоддзе» (Крынкі, 2008). Памятаеце: «Выклікае злосць у Сцяпана непашана да бацькоўскіх пажыткаў, заядлае выкідванне маладымі ў ямы шафаў, сталоў, табурэтак, крэдэнсаў, перагародак. Фанатычнае змаганне моладзі мець грошы на ўсенька навюткае, моднае. Што — магчымае, вынішчаючы датла вёску. Выводзячы з яе апошнія капіталы. Абсцябаўшы бацькоў. Без пагібелі вёскі гарадскі дабрабыт дзяцей застаўся б утопіяй. Цікава, на чым будзе грунтавацца раскошны быт унукаў? Без вёскі ўжо. Урослай тым часам лесам. Без вёскі не было б горада. Але той жа горад, разрастаючыся, глынае вёску. У прыродзе гатунак паядае гатунак. Беларушчына — гэта падла расейцам і палякам?..». І ў той жа час, калі я з ім рабіў інтэрв'ю ў 2008 годзе, у гутарцы Сакрат Яновіч казаў: «Крынкі — гэта мой свет… Крынкі для мяне — адкрыццё… Што Крынкі, што Варшава — усюды можна выдаваць добрыя кнігі…». Вядома ж, Сцяпан Кішкель у «Хатнім стагоддзі» казаў вуснамі Сакрата. І казаў тое, што тады думаў аўтар, што думаў наогул пры жыцці.

Я ў Сакрата пытаўся: а чаму вашыя бацькі далі вам такое рэдкае імя — Сакрат? Можа, гэта ў гонар старажытнагрэчаскага філосафа Сакрата? Ці ведалі вашы бацькі пра грэчаскую філасофію?

— Гэта мяне маці так назвала. Яна была ў бежанстве ў Расіі за Самараю. Там пэўны час хадзіла ў расійскую школу. І аднойчы яе настаўніца пасадзіла са сваім сынам за адну парту. А таго сына звалі Сакрат. Мама дрэнна вымаўляла словы па-расійску, дык ёй заўсёды дапамагаў сын настаўніцы. І калі мае бацькі вярнуліся з тае няшчаснае Расіі на Радзіму, і калі мама выйшла замуж і нарадзіўся я, то яна заўпарцілася і ахрысціла мяне Сакратам. Хаця яна зусім не разумела і не ведала пра Сакрата нічога. Але ў яе памяці заўсёды быў той расійскі хлопчык Сакрат.

*— А бацька не быў супраць, каб яго сын насіў такое імя?*

— А бацька ўвогуле не ведаў, у чым справа. Ды яго гэта мала цікавіла. Як назвала жонка — так і добра.

*— А ў школе з вас не смяяліся?*

— Спачатку смяяліся, бо не разумелі майго імя. Называлі мяне — крот. Але аднойчы святар Антон Савіч у сваёй пропаведзі згадаў, што быў такі грэчаскі філосаф, які пацвердзіў, што чалавек мае душу, што мудрасць — аснова высокамаральных учынкаў. Тады ўсе ад мяне адсталі.

*— А цяпер вы, мабыць, з гонарам носіце імя Сакрата? Дый гучыць — Сакрат Яновіч! А не Юрка Яновіч ці Міхась Яновіч…*

— Пэўна, так! Бо гэта імя не штодзённае. Дый Юркаў і Міхасёў цэлыя копы, а Сакрат у Беларусі адзін…

Сакрат Яновіч напісаў шмат добрых кніг. Я неяк у яго спытаў: а які ўплыў на вашую творчасць аказала літаб'яднанне «Белавежа», што існуе ў Беластоку? І наогул, што дала вам «Белавежа»? «"Белавежа" дала мне шмат, дзякуючы першаму рэдактару беларускага тыднёвіка "Ніва" Георгію Валкавыцкаму, першаму кіраўніку. Ён на пачатку існавання аб'яднання быў адзіным чалавекам, які добра арыентаваўся ў літаратуры. А я меў тэхнічную адукацыю, я — электратэхнік. Але дзякуючы Валкавыцкаму і майму швагру, які некалі прывёз кніжку Бабеля на польскай мове, я стаў пісьменнікам. Я прачытаў кнігу Бабеля з цікавасцю. Валкавыцкі даў паняцце, што такое літаратура, а Бабель паказаў мне, што можна пісаць не пад Пушкіна, не пад Міцкевіча, а пад маё мястэчка Крынкі, што на Беласточчыне», — адказаў тады спадар Яновіч.

Падчас сустрэч з Сакратам Яновічам я стараўся запытацца ў яго пра ўсіх, хто быў родам з яго Крынак. Пытаўся і пра Янку Генюша з Ларысай Генюш. Неяк не вельмі ахвотна

іх успамінаў ён, але ж калі я спытаўся, то шаноўны Сакрат павінен быў адказаць. Ён казаў, што з Ларысай Геніюш двойчы сустракаўся. Першы раз дзякуючы Аляксею Карпюку з Гродна, калі наведалі ў Зэльве Ларысу і Янку Геніюшаў. А пасля яна была ў Беластоку ў сына, дзе яны таксама мелі сустрэчу. Гутарка тады была трагічная. Бо яе жыццё было трагічным. «У Беласток паэтка прывезла мне стэнаграму выступлення Аляксея Карпюка на V з'ездзе Саюза пісьменнікаў БССР у Мінску 13 мая 1966 года. Яна была ўзрушана гэтым выступленнем. І я напісаў ліст Аляксею, выказаў сваю згоду з яго меркаваннямі і падтрымку. Але ж Аляксей Карпюк быў наіўным чалавекам і пачаў гэтым пісьмом хваліцца, што, маўляў, малады аўтар з Беласточчыны падтрымлівае яго. І тады зацікавілася мною савецкае КДБ. І я з-за гэтага страціў працу, быў беспрацоўным. Але мне шмат дапамагалі палякі, — адкрывае мне тайну Сакрат Яновіч. — З палякамі лёгка гутарыць, дамовіцца пра канкрэтную справу, а вось з беларусамі — цяжка. Палякі цяпер выдаюць цэлую бібліятэку беларускай літаратуры, а з боку ўладна-савецкай Беларусі ідзе толькі хамства…»

Пытаўся ў яго я і пра Юрку Геніюша. І вось што ён прыгадаў: «Юрка Геніюш у Беластоку жыў са мною побач. А я ў Беластоку пражыў 50 гадоў. Пазнаёміліся мы праз тыднёвік “Ніва”, я працаваў журналістам, а ён туды часта заходзіў. Мы разам нават выдалі адну кнігу п'ес пад загалоўкам “Зборнік сцэнічных твораў” (Беласток, 1976)». Я пытаўся пры жыцці ў Сакрата Яновіча, чаму ён не працягвае пісаць п'ес, на што ён адказаў, што ніколі не збіраўся быць драматургам, а на напісанне п'ес яго натхніў і накіраваў Юрка Геніюш, таму і напісалася некалькі п'ес.

У Крынках Сакрат Яновіч пісаў найчасцей прозу і вёў свае дзённікі, бо заўважыў, што дзённікаў ніхто не піша. Пісаў ён у апошні час вельмі марудна. Ды, як ён казаў, наша сялянскае асяроддзе не любіць пісаць дзённікаў. Ён запісваў факты, якія адбываліся і якія хутка знікнуць, і пра іх ніхто не будзе нічога ведаць. А для нашчадкаў жыццёвыя факты трэба захаваць. І ён занатоўваў іх.



У апошні час Сакрат Яновіч часта мне казаў, што беларускую літаратуру, культуру, мастацтва трэба **еўрапеізаваць**. Таму што ўвесь час беларуская літаратура з'яўляецца філіяй рускай, а так не павінна быць. Пры жыцці неяк між іншым спытаў у прафесара Алега Лойкі: паэзія якой краіны самая магутная ў свеце? Ён адказаў: польская, а на другім месцы — беларуская. Пытаюся: а расейская? Адказвае, што расейская — не, бо яна бальшавіцкая, камуністычная, савецкая і г. д. Алег Лойка пераклаў двухтомнік анталогіі польскай паэзіі «Напярэймы: ад Буга даВарты» (Мінск, 2003), куды ўвайшлі вершы, пачынаючы ад Цыпрыяна Норвіда, Марыі Канапніцкай і да Марціна Галася — разам 180 аўтараў. Працягваючы думкі Сакрата Яновіча — ды і руская літаратура ўзнікла пад уплывам еўрапейскай. І прывёў мне прыклад з рускім паэтам Аляксандрам Пушкіным. Скажам, каб зразумець Пушкіна, трэба ведаць французскую літаратуру. Калі яе не ведаеш, то Пушкіна дасканала не зразумееш. Бо Пушкін рос у асяроддзі французскай культуры. Яго маці ненавідзела расійскую мову. Яна Сашу Пушкіна, калі ён размаўляў па-расійску, нават біла! І напачатку ён пісаў выключна па-французску. Але хто нам аб гэтым сёння і пры бальшавіках казаў? Ніхто… У Савецкім Саюзе пераважаў расійскі шавінізм…

Сакрат Яновіч быў суб'ектыўным і розным і ў адносінах да беларускай культуры. Успамінаю яго радкі з дзённіка, якія былі апублікаваныя ў «Czasopise» ў № 07–08 2004 года і якія мяне вельмі ўсхвалявалі (я пра гэта пісаў), калі я прачытаў іх. Яны не даюць спакою мне і да сённяшніх дзён. А справа ў тым, што Сакрат Яновіч прыгадаў тое, як падчас сустрэчы са студэнтамі Брэсцкага ўніверсітэта Ян Чыквін вясною 2004 года сказаў (даслоўная цытата па дзённіку Сакрата Яновіча): «Янка Купала не быў той веліччу, якая нам уяўляецца: з мізэрнай адукацыяй, нядбайным пяром, з засцянковай ненаеднасцю, лёгка “куплены” саветамі і штучна ўзвышаны імі, тармазіў таленты, напр. Багдановіча, Арла. З перапевамі Mlodej Polski». Вось, аказваецца, якім быў наш

беларускі пясняр Янка Купала! Пры сустрэчах я некалькі разоў пытаўся пра гэта ў Сakрата Яновіча, і ён пагаджаўся з Янам Чыквіным. А сказанае пра Янку Купалу добра пракаментаваў па маёй просьбе народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін: «Янку Купалу саветам так і не ўдалося зрабіць сваім. Давялося знішчыць фізічна… Але Янка Купала — неба беларускай нацыі. А неба хапае на ўсіх…».

Вось такім і застаўся ў маёй памяці Сакрат Яновіч. У нечым я пагаджаўся з ім, у іншым — не. Але да сённяшніх дзён памятаецца яго рэпліка: «Толькі нацыя мае будучыню, ніколі насельніцтва, зазвычай бяздумнае, бо кіруецца не душою, а жыватом, тоўстай кішкаю…».

*2014*

## ПЛАЧА АЛЬТАНКА НА ЗАВУЛКУ ПАЎНОЧНЫМ



*Ян Збажына*

Пазнаёміўся я з Янам Збажыной (Іванам Савіцкім) дзесьці напачатку 2000-х гадоў у Гродне. Збіраліся мы там па краязнаўчых справах. Адных хлопцаў і дзяўчат я добра ведаў, іншых — не. Не быў знаёмы і з Янам. Ён першы да мяне падышоў, павітаўся, расказаў пра сябе і папрасіў, каб я яму падараваў свае кнігі з аўтографам. Так мы і пазнаёміліся. А калі пакідалі Гродна, ён напісаў свой хатні адрас, тэлефон і сказаў, што будзе чакаць маіх кніг.

Я прыехаў у Слонім і адразу запакаваў яму некалькі сваіх уласных выданняў і адправіў поштай у Баранавічы. Ён хуценька адрэагаваў на мае кнігі і аддзячыў сваёй кнігай паэзіі і прозы «Пыл саркафагаў» з аўтографам: «Шаноўнаму сп. Сяргею Чыгрыну з удзячнасцю за нястомную дзейнасць на



карысць Бацькаўшчыны і яе адраджэння. Шчыра аўтар — Ян Збажына. 11 жніўня 2005 года, г. Баранавічы».

Потым ён мне часта тэлефанаваў, распавядаў пра новыя кнігі, літаратурныя справы, пра пісьменнікаў, палітыкаў. Казаў шчыра і ў размовах быў справядлівы, даволі трапны і адкрыты. Аднойчы Ян Збажына сабраў вязанку кніг баранавіцкіх аўтараў і таксама выслаў мне ў Слонім. Нават некаторыя баранавіцкія аўтары напісалі аўтографы на сваіх выданнях для мяне, а я ў сваю чаргу дасылаў яму кнігі са сваёй хатняй бібліятэкі, якіх ён не меў.

У 2006 годзе група краязнаўцаў з Беларусі ад асветнага грамадскага аб'яднання «Фонд імя Льва Сапегі» пры падтрымцы цэнтра Фонду развіцця лакальнай дэмакратыі ў польскім Шчэціне наведала гэты прыгожы горад. Мы знаёміліся з гісторыяй горада, справамі мясцовых гісторыкаў і краязнаўцаў, сумесна з палякамі распрацоўвалі метадычныя парады і дыдактычныя матэрыялы па турызму і краязнаўству і г. д. Быў разам з намі і Ян Збажына з Баранавіч. Ён вылучаўся сваёй актыўнасцю, адукаванасцю, працавітасцю і, вядома ж, нейкай авантурнасцю. Я папрасіў сказаць пару слоў пра Яна Збажыну гродзенскага грамадскага актывіста Уладзіміра Хільмановіча, які, дарэчы, тады ўзначальваў нашу паездку ў Шчэцін. «Ян Збажына быў гэткім беларускім авантурнікам, які спалучаў у сабе філасофскае мысленне з рызыкоўнымі ўчынкамі, глыбокі патрыятызм і пэўную легкадумнасць. Ён быў вельмі неардынарным і творчым чалавекам, з якім у кампаніі ніхто ніколі не мог засумаваць», — трапна заўважыў Уладзімір. Сапраўды, з Янам сумаваць не прыходзілася. У яго было столькі энергіі, што, здавалася, яму далёка не 40, а ўсяго 25 гадоў. Ён гарэў ідэямі, роздумамі, планамі. Неяк мне кажа: «Разумееш, Сяргей, мне не пашанцавала ў жыцці, хаця я сам ва ўсім вінаваты. Але я ўмею пісаць вершы, прозу. Я ведаю, якую і аб чым трэба напісаць кнігу, каб атрымаць Нобелеўскую прэмію. Кажу табе без жартаў, бо маю на гэта творчую сілу і веды».

Веды і талент баранавіцкі літаратар меў. Пасля вяртання са Шчэціна мы, краязнаўцы, напісалі разам кнігу «Краязнаўства і адукацыя», якая пабачыла свет на беларускай мове ў 2006 годзе ў Шчэціне. Быў там змешчаны і вялікі артыкул Яна Збажыны «Беларускі досвед краязнаўства як адукацыі для насельніцтва». Хачу сказаць, што пісаў ён хутка, разумна, умеў разважаць, ставіць пытанні і адначасова адказваць на іх. У сваім цікавым краязнаўчым артыкуле аўтар прыйшоў да высновы, што «дэнацыяналізацыя і расеізацыя, згортванне суверэнітэту, фарміраванне свядомасці сучасных беларусаў адлегласцю ад вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх акупантаў, усталяванне постбэсэсэраўскага семантычнага асяроддзя, утварэнне культу адзінай (“правільнай і чэснай”) асобы загнала сёння беларускае краязнаўства па сутнасці ва ўмовы падполля». І з аўтарам сёння можна пагадзіцца, бо яно сапраўды так.

Ян Збажына вярнуўся ў Баранавічы. Ён мне па-ранейшаму часта тэлефанаваў, прасіў дасылаць кнігі, бо купіць ён не меў магчымасці — не было грошай. Я дасылаў яму розныя новыя выданні, якія прывозілі адусюль сябры. Прасіў прывозіць па некалькі асобнікаў, каб хапіла і Яну. Калі высылаў яму кнігі, між старонак заўсёды клаў 20, 50 ці 100 тысяч рублёў адной купюрай. Ён атрымліваў, дзякаваў і знікаў на тыдзень-другі.

У 2008 годзе мы сустрэліся. Ян падараваў мне баранавіцкі літаратурны альманах «Вечнасць… А там? Што там?..», які ён рэдагаваў. Я яму сказаў, што назва альманаха няўдалая. Ён пагаджаўся, але радаваўся, што альманах з’явіўся на свет. У ім была змешчана і падборка твораў Яна пад агульным загалоўкам «Альтанка на завулку Паўночным». Добрая падборка, якая складалася з хоку, танка, версэтаў, верлібраў і афарызмаў. Многія, якія прачытаў тады, запомніліся надоўга:



* * *

Абыякава
Пазірае фасоля,
Як спеюць вішні.

* * *

Дождж ліў як з вядра.
Парасону ўсё роўна.
Ён спаў на шафе…

Пра раптоўную смерць Яна Збажыны даведаўся ад сяброў з Баранавіч, а таксама з Інтэрнэту, што памёр ён у Брэсце ў шпіталі. Да слёз шкада стала Яна, якому было толькі 47 гадоў. І было ў яго сотні творчых задумак і планаў.

Нарадзіўся Ян 31 сакавіка 1964 года ў Баранавічах. У 1993 годзе скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. Як гісторык, выкладчык сацыяльна-палітычных дысцыплінаў, ён працаваў выкладчыкам у баранавіцкіх школах і ў ВНУ. Быў адным з актыўных удзельнікаў беларускага руху 1990-х гадоў, пачынальнікам скаўцкага руху ў Баранавічах. Яго творы друкаваліся ў розных беларускіх літаратурных выданнях. У 2004 годзе Ян Збажына выдаў адзіную кнігу паэзіі і прозы «Пыл саркафагаў». Яна была даволі станоўча ацэненая крытыкамі.

На днях зноў перачытаў ягоны «Пыл саркафагаў» — філасофскі роздум аб нашым жыцці і смерці. Магчыма, хуткую смерць ён прадчуваў, бо радкоў пра яе было напісана шмат. Смерць проста нахабна лезла ў яго паэтычныя вобразы і строфы: «Нават смерць пакідае мёртвае», «Ні на вокамгненне не губляй адчуванне смяротнасці, інакш смерць сама згадае аб табе», «Пасля смерці кожны сустракае самога сябе… Жахліва?», «Разважанні аб смерці прыемна супакойваюць тым, што і сама смерць падуладная ім» і г. д.

Але Ян Збажына, як і ўсе мы, любіў жыццё і хацеў жыць. Сваім сябрам ён заўсёды казаў: «Для творчасці мне патрэбна "хімізацыя мозгу": гарбата, кава, тытунь, алкаголь і… жанчыны». Гэтага ўсяго ў яго жыцці хапала, магчыма нават — было зашмат. А яшчэ ў апошні час паэт часта пісаў пра сваю альтанку на завулку Паўночным у Баранавічах, дзе ён жыў. Толькі альтанка яму не здраджвала ніколі, а ён не здраджваў ёй. Цяпер альтанка засталася адна, засталася без свайго філосафа і паэта:

Плача альтанка
Кароткімі начамі.
Як леташні снег,
На завулку Паўночным
Адцвілі язмін і бэз.

А ёй паэт нібы адказвае, суцяшае, спадзяецца:

І ўзыдзе сонца.
Вернецца твой матылёк,
Не плач, альтанка…

31 сакавіка 2014 года Яну Збажыне споўнілася б толькі 50. Магчыма, у гэты дзень да яго альтанкі прыляціць матылёк і нагадае ўсім, што зусім нядаўна з намі побач жыў цудоўны паэт, якому ў жыцці так і не ўдалося стрэсці пыл з саркафагаў.

*2014, сакавік*



## «МІРНА СПІЦЬ МАЯ БІБЛІЯТЭКА…»
### *Аўтографы на кнігах з асабістай бібліятэкі Міколы Арочкі*


*Мікола Арочка*

Апошнія дваццаць тры гады жыцця доктар філалагічных навук, беларускі паэт і літаратуразнавец Мікола Арочка (1930–2013) пражыў у роднай вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне. Там яго і правялі ў апошні шлях вяскоўцы на мясцовы пагост, правялі да сыноў, лёс якіх быў трагічным і кароткім.

У вясковай хаце засталіся на стале недапісаныя вершы і паэмы Міколы Арочкі, а на кніжных паліцах сумуюць сёння без свайго гаспадара дзясяткі кніг, многія з якіх падараваныя пісьменнікамі з аўтографамі і пажаданнямі. Жонка паэта Марыя Іванаўна Арочка дазволіла мне пазнаёміцца з бібліятэкай літаратара, а таксама ўзяць у сваю асабістую бібліятэку тыя выданні, якія мяне зацікавяць. Некалькі гадзін я сядзеў каля кніг асабістай бібліятэкі Міколы Арочкі. Даставаў з паліц то адну, то другую, то сотую кнігі… Усе яны напаміналі мне пра таленавітага літаратара-земляка, якога ведаў і з якім сябраваў шмат гадоў. Пераглядаючы кнігі, адразу прыгадаў выдатны верш Міколы Арочкі «Мая бібліятэка» са зборніка ягоных вершаў «Колас на ржышчы» (Мінск, 1980. С. 78):

Мірна спіць мая бібліятэка,
Толькі гэта вонкавы спакой.
Там, пад вокладкамі, страсці веку
І мяне уцягваюць у бой.
Часам, прахапіўшыся спрасоння,
Я да кніг цягнуся, да радкоў:

Чую — сэрца грукае і сёння
Ў гулкім рытме — цоканне падкоў.
Пазнаю па обліках паэтаў,
Іх усмешкі з сумам папалам.
Колькі іх тут песень недапетых
І нялёгка абарваных драм!
Словы, як мячы цяжкіх стагоддзяў,
Бразгаюць з пабоішчаў-арэн.
Са старонак песняры сыходзяць,
Як жывыя, скідваючы тлен…
Вашы мары, сённяшнюю яву
Раздзяляю я з прыязню ўваччу…
Мусіць, завару яшчэ я кавы —
З крэўнымі сваімі пасяджу.



*Мікола і Марыя Арочкі. 1950-я гады*

З «крэўнымі сваімі» Мікола Арочка ўжо не пасядзіць, бо ягоная бібліятэка «мірна спіць», як і ён сам. Толькі дзясяткі аўтографаў на кнігах, якія падаравалі беларускія літаратары Міколу Арочку, нагадваюць пра яго як асобу, як чалавека, як літаратара. З вялікай колькасці аўтографаў на кнігах, падараваных літаратару, я ўзяў тыя, якія прыцягнулі ўвагу, зацікавілі. Яны адкрылі перада мной вялікі, найцікавейшы свет чалавечых узаемаадносін, любові да роднай літаратуры, да мовы, да Бацькаўшчыны.

Найбольш кніг з аўтографамі ў асабістай бібліятэцы Міколы Арочкі ад слонімскіх літаратараў. Алег Лойка (1931–2008) на аўтарэфераце «Максім Багдановіч і праблемы развіцця беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя» (Мінск, 1969) напісаў: «Дарагому Міколу Арочку, каб не затрымліваўся ў дарозе. Трымаймася, браце, пакуль малады, крылаты вецер Слонімшчыны з намі. Пакуль жа мы ёсць самі, ён — з намі. Твой Алег. У красавіку 1969 г.».



У аўтографе на сваім зборніку вершаў «Каб не плакалі кані» (Мінск, 1967) Алег Лойка зноў нагадвае Міколу Арочку пра зямляцтва: «Дарагому Міколу Арочку. З-над Бяздоннага возера гэтыя матывы, нашага з табой, браце, возера. На дружбу, на ўсё найлепшае. Твой Алег. Кастрычнік, 1967 г.».

У 1968 годзе Алег Лойка выдаў кнігу «Сустрэчы з днём сённяшнім». У ёй аўтар распавядаў пра лепшыя творы беларускай паэзіі, напісаныя паэтамі розных пакаленняў, пра новыя імёны ў ёй і пра заканамернасці яе развіцця. Адну з кніг ён падпісаў Міколу Арочку: «Дарагому Міколу Арочку са словамі дружбы, душэўнай блізкасці. Твой Алег. 15.12.1968».

Зямляк Арочкі Уладзімір Сакалоўскі (1930–2013) на сваёй кнізе «Пара станаўлення» (Мінск, 1986) — пра вопыт параўнальнага вывучэння беларускай і некаторых класічных зарубежных літаратур — пакінуў аўтограф у вершаваных радках: «Дарагому сябру і земляку Мікалаю Мікалаевічу Арочку. Цяжкі твой шлях, які суровы лёс! Ты крыж збаўлення цярпліва нёс. Ахопленыя зайздрасцю, яны ці зналі? Якое сэрца на той пласе крыжавалі… Ты ж адплаціў ім шчодрасцю і дабратою, радкі запоўніўшы сваёю плоццю і крывёю. 12.12.86 г. Уладзімір Сакалоўскі».

Старэйшы сябра і зямляк Міколы Арочкі паэт Анатоль Іверс (1912–1999) пакінуў аўтографы на дзвюх сваіх паэтычных кнігах. На тытульным лісце зборніка «Жыву ў бацькоўскім краі» (Мінск, 1982) паэт напісаў: «Міколу Арочку — майму найлепшаму земляку на добры ўспамін і шчасце. Анатоль Іверс. 11.10.83». А на зборнічку «Прыдарожныя сосны» (Слонім, 1995) паэт пажадаў: «Дарагі

Мікола! Хай табе і тваім родным будзе добра. Анатоль Іверс. 16 сакавіка 1995 г.».

Кандыдат філалагічных навук, паэт-зямляк Іван Чыгрын (1931–2006) сваю кнігу «Крокі: проза “Узвышша” (Мінск, 1989) падпісаў Міколу Арочку коратка: «Міколу Арочку па-сяброўску, па-зямляцку. Аўтар. 22.10.1989».

Гісторык і краязнавец Аляксандр Талерчык, які напісаў і выдаў гісторыка-краязнаўчы нарыс пра родную вёску Парэчча Слонімскага раёна і пра беларускага нацыянальнага героя, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1830–1831 гадоў супраць Расійскай імперыі Міхала Валовіча (1806–1833), на сваёй кнізе «Парэчча» (Гродна, 2002) напісаў: «Шаноўнаму Міколу Арочку з павагай да тваёй творчай і патрыятычнай дзейнасці. Ад аўтара ў дзень народзін Міхала Валовіча 18.06.2002 г. Аляксандр Талерчык».

Яшчэ адзін зямляк Уладзімір Кароткі на сваёй кнізе «Творческий путь Мелетия Смотрицкого» (Мінск, 1987) зычыў: «Дарагому Мікалаю Мікалаевічу Арочку — майму земляку, добраму і шчыраму чалавеку, з пажаданнем новых, цікавых паэтычных і навуковых кніг. З удзячнасцю Ул. Кароткі. 16.01.87».

Сваім земляком Міколу Арочку лічылі і Мікола Грынчык, і Янка Брыль. У бібліятэцы Міколы Арочкі захаваліся і іх кнігі з аўтографамі. «Дарагому Міколу Арочку, земляку і сябру, з сардэчнымі пачуццямі і пажаданнем далейшых, яшчэ большых і большых творчых поспехаў — аўтар. 8.4.1969. Мінск», — такі аўтограф пакінуў Мікола Грынчык (1923–1999) на сваім даследаванні «Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі» (Мінск, 1969). А Янка Брыль (1917–2006) на кнізе сваіх апавяданняў, замалёвак і нарысаў «Працяг размовы» (Мінск,1962) напісаў: «Міколу Арочку — земляку і паэту. Янка Брыль. 31.8.62».

Мікола Арочка і яго жонка Марыя Іванаўна шчыра сябравалі з паэтам Уладзімірам Дубоўкам. Упершыню Мікола Арочка наведаў Уладзіміра Дубоўку (1900–1976) у Маскве ў лютым 1976 года. З самага ранку да цямна за сталом дубоўкаўскай маскоўскай кватэры ў Новых Чаромушках яны гутарылі пра жыццё, літаратуру, пра тых, хто быў рэпрэсаваны, хто выжыў, а хто назаўсёды застаўся на Салаўках і ў Сібіры. Мікола Арочка ў Маскве быў праездам, бо як навуковец ехаў у Казань на святочныя мерапрыемствы з выпадку 70-годдзя нараджэння татарскага паэта Мусы Джаліля. Ён — ці не апошні з беларускіх паэтаў, хто з Дубоўкам сустракаўся ў Маскве за месяц да ягонай смерці (Уладзіміра Дубоўкі не стала 20 сакавіка 1976 года. — *С. Ч.*). Седзячы за сталом, Уладзімір Дубоўка падпісаў яму сваю кнігу казак «Залатыя зярняты» (Мінск, 1975): «На добры ўспамін, ад шчырага сэрца М. М. Арочку — з сардэчным прывітаннем Ул. Дубоўка. 9.02.76».



У 1960-х гадах жонка Міколы Арочкі Марыя Іванаўна працавала ў рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач на Беларускім радыё. І калі ў Мінск прыязджаў Уладзімір Дубоўка, яна заўсёды яго запрашала на радыё, дзе ён чытаў свае празаічныя і вершаваныя творы. У 1961 годзе на зборнічку сваіх вершаў «Палеская рапсодыя» (Мінск, 1961) ён напісаў: «Марыі Іванаўне Арочка з вялікай пашанай, ад шчырага сэрца. Уладзімір Дубоўка. 31.06.61 г.». А ў 1966 годзе Уладзімір Дубоўка падараваў Міколу і Марыі Арочкам свой двухтомнік «Выбраныя творы ў двух тамах» (Мінск, 1965): «Дарагім, сардэчна паважаным Марыйцы і Міколу Арочкам з вялікай пашанай, ад шчырага сэрца. Ул. Дубоўка. 12.05.66».

Шмат гадоў Мікола Арочка сябраваў з доктарам філалагічных навук, членам-карэспандэнтам АН БССР, дырэктарам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, беларускім літаратуразнаўцам Віктарам Каваленкам (1929–2001). Амаль усе прыжыццёвыя кнігі Віктара Каваленкі падпісаны Міколу Арочку. На тытульным лісце кнігі літаратурна-крытычных артыкулаў «Давер» (Мінск, 1967) Віктар Каваленка напісаў: «Міколу Арочку — вядомаму беларускаму паэту, які адзін з нямногіх нашых паэтаў захапіўся літаратуразнаўствам і даказаў, што ён самы сапраўдны літаратуразнаўца. З

пажаданнем поспехаў. 21.01.1968. Віктар Каваленка». А на сваёй кнізе гуманістычных матываў у беларускай літаратуры «Голас чалавечнасці» (Мінск, 1970) Віктар Каваленка пакінуў такі надпіс: «Міколу Арочку — таленавітаму паэту, літаратару шырокіх творчых магчымасцей, каму паэзія памагае быць выдатным крытыкам. З глыбокай павагай В. Каваленка. 25.09.1970». Сваю кнігу «Прага духоўнасці» (Мінск, 1975) Віктар Каваленка падпісаў так: «Міколу Мікалаевічу Арочку, які выдатна нясе галоўную службу ў паэзіі і ў крытыцы. З пажаданнем, каб часцей дзяліўся вопытам. Шчыра — Віктар Каваленка. 10.03.1975».

У 1975 годзе Віктар Каваленка выдаў добрую сваю кнігу пра развіццё беларускай літаратуры XIX–XX стагоддзяў «Вытокі. Уплывы. Паскоранасць», якую таксама падараваў слонімскаму літаратару: «Мікалаю Мікалаевічу Арочку — з найлепшымі пажаданнямі і ўдзячнасцю за сур'ёзныя заўвагі па рукапісу гэтай кнігі. З павагай Віктар Каваленка. 11.05.1975». У аўтографе на ўласнай кнізе «Жывое аблічча дзён» (Мінск, 1979) яе аўтар шчыра прызнаецца: «Дарагому Міколу Мікалаевічу, у якога даўно вучуся пісаць страсна, вобразна і натхнёна і буду вучыцца далей, хоць сёння таксама дасягнуў у гэтым напрамку. З глыбокай павагай і добрай зайздрасцю В. Каваленка. 2.08.79 г.». На кнізе «Пакліч жыцця» (Мінск, 1987) прачытаў такі аўтограф ад аўтара: «Дарагому Мікалаю Мікалаевічу Арочку — беларускаму паэту і даследчыку буйнога таленту, з пажаданнем ніколі не стамляцца, ідучы сваёй пуцяводнай зоркай. Удзячны В. Каваленка. 30.04.87 г.». А кніга «Веліч праўды» (Мінск, 1989) таксама захавалася ў бібліятэцы Міколы Арочкі: «Дарагому Мікалаю Мікалаевічу Арочку — сапраўднаму паэту, сапраўднаму грамадзяніну, сапраўднаму вучонаму, чыя ўвага да мяне лесціць мне і радуе, з самымі найлепшымі пажаданнямі В. Каваленка. 30.10.89 г.».

У 1972 годзе Віктар Каваленка, Міхась Мушынскі і Алесь Яскевіч выдалі сумесную кнігу «Шляхі развіцця беларускай савецкай прозы». І першы экзэмпляр з аўтографам аўтары прынеслі Міколу Арочку: «Міколу Мікалаевічу Арочку — хадзі, дружа, на падсочку з нязменным поспехам у крытычную, паэтычную і празаічную дзялянку, а пры выпадку і яшчэ ў якую-небудзь. В. Каваленка, М. Мушынскі, А. Яскевіч».



У добрых адносінах Мікола Арочка заўсёды быў з Народным паэтам Беларусі Максімам Танкам (1912–1995). Пра Максіма Танка слонімскі даследчык выдаў у 1984 годзе кнігу «Максім Танк. Жыццё ў паэзіі». У ёй аўтар даследаваў жыццёвы і творчы шлях Максіма Танка, а таксама яго паэтычныя набыткі. Аўтар спыніўся на эстэтычных каштоўнасцях, створаных на высокім узроўні сучаснай паэтычнай культуры, разгледзеў майстэрства, паэтыку, багацце жанрава-стылёвых пошукаў паэта. Захаваліся і некалькі паэтычных зборнікаў Максіма Танка з аўтографамі. На зборніку «Хай будзе святло» (Мінск, 1973) народны паэт напісаў: «Дарагому другу Мікалаю Мікалаевічу Арочку з любоўю і найлепшымі пажаданнямі. Максім Танк. Мінск, 7.01.1973». На кнізе вершаў «Ключ жураўліны» (Мінск, 1972) чытаюцца такія радкі: «Майму цудоўнаму другу Міколу Арочку ад усяго сэрца. Максім Танк. 12.01.1973». А на «Дарозе, закалыханай жытам» (Мінск, 1976) Танк так напісаў: «Дарагому другу Мікалаю Мікалаевічу Арочку — з навагоднімі віншаваннямі і найлепшымі пажаданнямі. Ад усяго сэрца Максім Танк. Мінск. 7.01.1977».

Наогул, беларускія паэты пакінулі на ўласных кнігах аўтографы для Міколы Арочкі вельмі кароткія, але яркія. Напрыклад, Сяргей Дзяргай (1907–1980) на сваім зборніку вершаў «Свята ў будзень» (Мінск, 1964) размашыстым почыркам напісаў: «Другу Міколу Арочку. Сяргей Дзяргай. 6.12.64 г.». Алесь Разанаў на зборніку вершаў «Каардынаты быцця» (Мінск, 1976) пісьмова прамовіў: «Галоўнаму тэарэтыку паэмы — Міколу Арочку. Хай разважа. Аўтар. 12.05.76». А Кастусь Цвірка на сваім зборніку вершаў «Бягуць ручукі» (Мінск, 1962) пакінуў аўтограф вельмі про-

сты: «Міколу і Марыйцы Арочкам — шчыра, па-сяброўску. К. Цвірка».

Мікола Арочка заўсёды быў рады, калі выходзілі з друку кнігі Генадзя Кісялёва (1931–2008) — ягонага сябра і аднадумца. А кожную новую кнігу Генадзь дарыў Міколу Арочку, якога называў гросмайстрам беларускай паэзіі: «Гросмайстру беларускай паэзіі і доктару паэтычных навук Міколу Арочку з паклонам Кротус Генус. 9.12.1982», — напісаў Генадзь Кісялёў на сваёй кнізе «Героі і музы» (Мінск, 1982), куды ўвайшлі артыкулы, які напісаны былі даследчыкам на працягу больш як дваццаці гадоў пошукаў у архівах, і ўсе яны аб'яднаны былі адной тэмай — літаратура, культура, грамадскі рух Беларусі XIX стагоддзя.

У бібліятэцы Міколы Арочкі захаваліся і яшчэ кнігі Генадзя Кісялёва з аўтографамі. «Жыхару Парнаса Міколу Арочку з заўсёднай сімпатыяй Кротус Генус Кісялёў. 23.02.88», — такі аўтограф пакінуў наш даследчык на кнізе «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» (Мінск, 1988). А сваю кнігу «Ад Чачота да Багушэвіча» (Мінск, 1993) Генадзь Кісялёў падпісаў наступным чынам: «Бліскучаму майстру паэзіі і літаратуразнаўства Міколу Арочку — са спазненнем на чатыры гады. Генадзь Кісялёў. 26.05.97 г.».

У 1985 годзе з друку выйшла цікавая праца « Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20–30-х гадоў». У ёй было паказана станаўленне беларускай савецкай літаратуры. Асноўная ўвага звярталася на творчасць беларускіх пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя. Асобныя раздзелы ўпершыню ў гісторыі беларускай літаратуры былі прысвечаны А. Александровічу, А. Дудару, Я. Пушчу, П. Трусу, У. Хадыку, С. Баранавых, В. Кавалю, Б. Мікулічу, Р. Мурашку, Я. Нёманскаму, Хв. Шынклеру. Над кнігай працавалі Павел Дзюбайла, Уладзімір Конан, Альфрэд Матрунёнак, Кузьма Хромчанка. Усе яны паставілі свае аўтографы на выданні і падаравалі кнігу Міколу Арочку: «Мікалаю Мікалаевічу (Міколу) Арочку — нашаму песняру-земляробу (літаральна: "землю попашет — попишет стихи"), мужнаму чалавеку,



добраму таварышу — з глыбокай пашанай, пажаданнем дабра, здароўя, новых песень. Калегі-сябры».

Пра развіццё беларускай лірычнай паэзіі Міхась Яраш (1929–1987) і Варлен Бечык (1939–1985) выдалі кнігу «Беларуская савецкая лірыка» (1979). Аўтараў кнігі даўно ўжо няма на гэтым свеце, але засталіся іх аўтографы: «Мікалаю Мікалаевічу Арочку, творцу цудоўнай лірыкі і глыбокаму даследчыку, з удзячнасцю, павагай і самымі добрымі пажаданнямі. Міхась Яраш, Варлен Бечык. 27 мая 1979 г.». Паспеў падараваць Варлен Бечык і сваю ўласную кнігу «Прад высокай красою» (Мінск, 1984), якая пасля смерці аўтара была адзначана Літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа. Аўтар напісаў: «Мікалаю Мікалаевічу Арочку — ад душы і з многім добрым. Хай Вам пішацца, хай высокая краса будзе з Вамі, як і раней, па-свойску. Варлен. 14.12.84». А дзесяць гадоў таму гэты самы Варлен Бечык падараваў Арочку і першую сваю кнігу літаратурна-крытычных артыкулаў «Свет жывы і блізкі» (Мінск, 1974): «Мікалаю Мікалаевічу Арочку з многім добрым (у тым ліку — і шчодрай рэкамендацыяй). З вялікай павагай, з добрымі пажаданнямі. Сцежкі не разыходзяцца. В. Бечык. 22 лістапада 1974 г.».

У «мірнай» бібліятэцы Міколы Арочкі захаваліся аўтографы на кнігах Веры Палтаран, Пятра Шаўцова, Вячаслава Жыбуля, Антаніны Лысенка, Янкі Шпакоўскага, Уладзіміра Мархеля, Алеся Яскевіча, Барыса Сачанкі, Фёдара Янкоўскага і многіх іншых вядомых, малавядомых і забытых сёння літаратараў. «Міколу Арочку — добраму, шчыраму хлопцу, паэту, якога люблю і ў якога багата спадзяюся. З пажаданнямі найлепшых поспехаў ва ўсім. Шчыра Барыс Сачанка. 28.04.62 г.», — аўтограф Барыса Сачанкі (1936–1995) на кнізе «Барвы ранняй восені» (Мінск, 1962). А вядомы беларускі даследчык літаратуры Юльян Пшыркоў (1912–1980) на сваёй кнізе «Эпас рэвалюцыі» (Мінск, 1975), прысвечанай паэмам Якуба Коласа «Новая зямля», «Сымон-музыка» і трылогіі «На ростанях», напісаў: «Глыбокапаважанаму Мі-

калаю Мікалаевічу Арочку з павагай і сімпатыяй, добрымі пажаданнямі. Юльян Пшыркоў. 29 мая 1975 года».

Трапілі мне ў рукі кнігі з аўтографамі Івана Ралько (1929–1979), які першы паспрабаваў напісаць гісторыка-тэарэтычныя даследаванні праблем беларускага верша. Іван Ралько пражыў толькі пяцьдзясят гадоў, але паспеў выдаць некалькі кніг. На зборніку «Беларускі верш: старонкі гісторыі і тэорыі» (Мінск, 1969) ён напісаў: «Міколу Арочку — з пажаданнем самых высокіх вяршынь у паэзіі і ў навуцы. І. Ралько. 13.06.1969». А на кнізе «Вершаскладанне» (Мінск, 1977) Іван Ралько пакінуў такі аўтограф: «Мікалаю Мікалаевічу Арочку — таленавітаму паэту і навукоўцу, слаўнаму ва ўсіх адносінах чалавеку з заўсёднай сімпатыяй і самымі шчырымі пажаданнямі вялікага плёну і ў наступныя дзесяцігоддзі — аўтар Іван Ралько. 22.08.77.».

З цікавасцю чытаю аўтографы на кнігах Адама Мальдзіса, Серафіма Андраюка, Івана Штэйнера, Уладзіміра Гніламёдава, Міхася Тычыны, Уладзіміра Казберука і іншых літаратуразнаўцаў.

Пераглядаю, перачытваю кнігі за кнігамі, аўтографы за аўтографамі. «Добраму паэту, крытыку, па-суседску, ад душы Вера Палтаран» (на кнізе «Дзівасіл» (Мінск,1974). «Самаму зямному і самаму ўзнёсламу паэту, шаноўнаму Мікалаю Мікалаевічу Арочку з пажаданнем выдатных творчых поспехаў, сямейнага ладу і — час ад часу — грэшнай мары. Хай жа будзе ўсё добра! Аўтар Сцяпан Лаўшук. 8.08.1989 г» (на кнізе ««На драматургічных скрыжаваннях» (Мінск,1989). «Заўсёды шаноўнаму Мікалаю Мікалаевічу Арочку, які пранікліва зазірае ў нашу гісторыю і прароча бачыць шляхі адраджэння. Здароўя і плёну! 1 верасня 1989 г. Уладзімір Мархель (на кнізе «Вяшчун славы і волі» (Мінск, 1989)…

У 1969 годзе Мікола Арочка выдаў свой крытыка-біяграфічны нарыс «Валянцін Таўлай» (гэта была яго кандыдацкая дысертацыя). А пяць гадоў таму назад — у 1964 годзе — у Кіеве на ўкраінскай мове выходзіць зборнік



«Паэзія» Валянціна Таўлая. Жонка Валянціна Таўлая Лідзія Сяргееўна напісала словы падзякі Міколу Арочку за напісанае пра Таўлая: «Паважанаму Міколу ад шчырага сэрца свайго і Валянціна ў дзень абароны дысертацыі за мужнасць даследчыка, які не збаяўся зазірнуць у таямніцы творчасці і з гонарам выканаў задуманае. Лідзія Таўлай. 12.10.67 г.».

Сярод кніг з бібліятэкі Міколы Арочкі трапіла на вочы і кніжка твораў маладых беларускіх літаратараў «На сонечных сцежках» (Мінск, 1953), дзе былі апублікаваны і першыя вершы юнака-паэта са Слонімшчыны. Гэтую кніжку спадар Мікола адразу падараваў сваёй сяброўцы-зямлячцы па жыцці, — Марыі Кароцька, якая потым стане ягонай жонкай, да самай смерці будзе яго вернай сяброўкай і правядзе яго ў апошні шлях на пагост роднай вёскі Вецявічы. Але гэта будзе праз 60 гадоў пасля таго першага аўтографа любай сяброўцы. А тады малады Мікола Арочка ёй напісаў: «Свае першыя вершы пад вокладкай зборніка даю ў знак сардэчнай павагі і ўдзячнасці свайму першакрытыку Марыі Іванаўне Кароцька. Мікола Арочка. 12 лютага 1954 года. Мінск».

*2014, май*

# Выданні

## ПРА ДАСЛЕДАВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ ПЕРЫЁДЫКІ Ў 1918–1939 ГАДАХ

Скажу шчыра, я быў вельмі ўзрадаваны, калі даведаўся, што ў Седльцах выйшла з друку кніга выдатнага беларуска-польскага даследчыка Юрыя Трачука на польскай мове «Czasopiśmiennictwo białoruskie w II Rzeczypospolitej (1918–1939)» («Перыядычныя беларускія выданні ў II Рэчы Паспалітай (1918–1939)»). Адразу падумалася, што выдатную манаграфію аўтара неабходна тэрмінова перакладаць на беларускую мову і выдаваць у Беларусі.

Кніга складаецца з некалькіх грунтоўных раздзелаў. Гэта раздзелы, прысвечаныя гісторыі друкавання і прэсы ў Беларусі, перыядычным выданням Заходняй Беларусі (1918–1939), беларускім перыядычным выданням у 1918–1939 гадах, беларускім часопісам 1918–1939 гадоў, якія выдаваліся ў Заходняй Беларусі і на эміграцыі, і г. д.

Толькі прачытаўшы змест выдання, бачыш, які вялікі архіўны матэрыял пераглядзеў, перакапаў, сабраў і апрацаваў аўтар. І працаваў ён шмат гадоў. Таму разважаць пра грунтоўную манаграфію як першую спробу даследавання і аналізу беларускіх выданняў 1918–1939 гадоў я вырашыў разам з аўтарам кнігі. Дарэчы, у манаграфіі даследаваны не толькі выданні на беларускай мове, але і выданні на рускай, польскай, літоўскай і яўрэйскай (ідыш) мовах пра Беларусь і тыя, якія тады выдаваліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Чуў я шмат разоў, што ў спадара Юрыя Трачука было з гэтай манаграфіяй вельмі шмат розных прыгод, праўда, не на карысць аўтара. Таму, трымаючы ў руках выданне, я запытаў у яго: як манаграфія пісалася? І вось што адказаў сам аўтар.



— З манаграфіяй маёй і сапраўды было вельмі шмат прыгод. А дакладней з маёй дысертацыяй, на аснове якой яна і ўзнікла. І гэта ўсё адмоўна паўплывала на маю далейшую навуковую кар'еру. Кніжку я пачаў пісаць яшчэ ў 1987 годзе ў Варшаве, а закончыў яе пісаць у 1988 годзе ў Маскве. Матэрыялы да яе я збіраў у 1985–1988 гадах. Якраз пад канец 1985 года ўзнікла канцэпцыя яе напісання. Тэму падказаў нябожчык ужо прафесар Васіль Белаказовіч (1932–2010), у якога я тады працаваў у Сектары ўсходнеславянскіх літаратур Інстытута славяназнаўства (цяпер славістыкі) Польскай Акадэміі Навук у Варшаве. Праца была карпатлівай. Амаль кожны дзень з ранку да позняга вечара я сядзеў у бібліятэках, спачатку ў польскіх: варшаўскіх, познаньскіх, люблінскіх ды іншых, а затым у беларускіх у Мінску, літоўскіх у Вільні і рускіх у Маскве. Добрыя тады, у час ПНР і СССР, былі навуковыя ўмовы працы, якія пасля вельмі пагоршыліся, і так ужо засталося па сённяшні дзень. Працуючы ў той час у Польскай Акадэміі Навук, я практычна не меў ніякіх праблемаў выехаць на стажыроўку ў Мінск, Вільню ці ў Маскву. Вядома, што без гэтых стажыровак мая дысертацыя пра заходнебеларускі друк, а затым кніжка не атрымалася б. Таму я вельмі ўдзячны ўсім тым асобам і ўстановам, якія мне дапамагалі ў гэтай маёй працы, а асабліва тагачаснаму Інстытуту літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі Навук БССР (цяпер Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі), на чале з нябожчыкам ужо яе былым дырэктарам, акадэмікам Віктарам Каваленкам, які ў той час мне сказаў, што ягоны Інстытут заўсёды мяне прыме, ды Інстытут мовы і літаратуры Літвы ў Вільні таксама.

*— Многія ў той час камуністычныя выданні, ведаю, ляжалі ў спецфондах, як Вы да іх дабіраліся?*

— Хоць некаторыя, сапраўды, камуністычныя заходнебеларускія часопісы ляжалі ў той савецкі час у Літве ў спецфондзе, але доступ да іх я меў, і былі яны для мяне адкрытыя. У маскоўскіх бібліятэках заходнебеларускай перыёдыкі гэтага часу, што мяне здзівіла, я не знайшоў, хоць

і напаткаў там іншыя цікавыя рэчы. Так што ўвесь перыяд маёй працы ў Польскай Акадэміі Навук быў некалі для мяне вельмі плённым.

Можна толькі шкадаваць, што я гэтай маёй працы не абараніў яшчэ ў Інстытуце сусветнай літаратуры Акадэміі навук СССР (цяпер Расійскай акадэміі навук), у якім у той час (у 1987–1988 гады) адзін год па кантракту працаваў, таму што пазней меў з ёю шмат перыпетый.

*— А калі Вы прыступілі да абароны сваёй дысертацыі?*

— Да абароны сваёй доктарскай дысертацыі (у Беларусі адпавядае кандыдацкай) я прыступіў толькі ў 1993 годзе. Быў гэта час перамен. І гэтая мая праца, паводле нябожчыка ўжо і прыхільнага мне прафесара Рышарда Лужнага з каталіцкага Люблінскага ўніверсітэта і Ягайлаўскага ўніверсітэта ў Кракаве, не прайшла камісію як «бальшавіцкая, камуністычная і накіраваная супроць польскага дзяржаўнага інтарэсу». Гэтае здарэнне я моцна перажываў, і толькі дзякуючы прафесару Міхайлу Лесеву мне ўдалося яе абараніць у 2001 годзе ва ўніверсітэце Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне, які, дарэчы, я некалі закончыў.

*— Атрымліваецца, што Ваша кніга выйшла праз чвэрць стагоддзя?*

— Так, кніжку ўдалося мне выдаць толькі праз чвэрць стагоддзя ад яе напісання. Таму лічу гэта вялікай, нягледзячы на ўсе прыгоды, маёй перамогай. Яе выданне ажыццявіў Прыродна-гуманітарны ўніверсітэт у Седльцах, у якіх нарадзіўся сусветнай славы канструктар касмічных караблёў — акадэмік Уладзімір Чаламей (1914–1984).

*— Праглядаючы і перачытваючы Вашу грунтоўную манаграфію, я заўважыў, што ўсё ж не ўсе беларускія газеты і часопісы Вам удалося знайсці ў архівах і бібліятэках. Ды, мне здаецца, усіх адшукаць немагчыма, асабліва выданняў-аднадзёнак. Тым не менш, Вам удалося адшукаць тых самых газет-аднадзёнак вельмі шмат, разнастайных і цікавых. Ну, напрыклад, аднадзёнка «Рэха» (Вільня, 8 ліпеня 1925 года), якія пісала пра смерць адваката Тадэвуша Урублеўскага, які сябраваў з беларусамі, аб становішчы праваслаўнай царквы ў Польшчы і г. д. Ці палітычная аднадзёнка «Праўда» (Вільня, 30 мая 1931 года), якую выдаў Фабіян Акінчыц. Ці аднадзёнка «Першы крок» (Варшава, ліпень, 1935 года), якая была выдадзена для беларускіх студэнтаў у Варшаве, і г. д.*



— Сапраўды, на жаль, не ўсе часопісы ды газеты ўдалося мне тады адшукаць. Спіс тых, якія выходзілі і якіх не здолеў знайсці, змешчаны ў канцы кніжкі. Думаю, што надалей трэба яшчэ іх шукаць. Можа, у бібліятэках іншых гарадоў…

Юрый Трачук не толькі сабраў унікальныя беларускія выданні (1918–1939), але і апісаў іх, паведаміў, калі яны выдаваліся, хто рэдагаваў іх, аб чым яны пісалі, хто друкаваўся на іх старонках, дзе яны выдаваліся. Атрымалася не толькі ўнікальная манаграфія, а шыкоўны энцыклапедычны даведнік па беларускай прэсе першай паловы XX стагоддзя ў Заходняй Беларусі. Цікавым з'яўляецца і спіс тых выданняў, якіх знайсці не ўдалося, але яны выдаваліся не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і ў Літве, Расіі, Украіне, Нямеччыне, Польшчы, Латвіі, Чэхаславакіі, ЗША, Францыі, пра якія аўтар чуў, ведае, але адшукаць яму не ўдалося. А гэта ажно 103 выданні. Напрыклад, у Беларусі выходзілі ў 1924 годзе аднадзёнка «Абух», у 1925 годзе — аднадзёнка «Беларуская зорка», у Гародні ў 1924 годзе — аднадзёнка «Гудок», у Беластоку ў 1933 годзе — аднадзёнка «Засеў», у Гародні ў 1929 годзе — аднадзёнка «Пралом», у Вільні ў 1920 годзе — аднадзёнка «Саха» і г. д. Выдаваліся ў 1920–1930-х гадах на Беларусі і такія выданні, як «Зярно» (Беласток), «Краёвая сувязь» (Вільня), «Пякучая маланка» (Вільня), «Наш палетак» (Вільня), «Колас» (Радашковічы), «Васілёк» (Вільня) і іншыя. У замежжы выдаваліся, але адшукаць іх аўтару не ўдалося, таксама разнастайныя выданні на беларускай мове: «Беларускае жыццё», «Праца», «Гаспадар» (Латвія), «Дзянніца», «Змаганне», «Чырвоны сцяг», Чырвоны шлях» (Расія), «Беларускае слова», «Беларусы ў Адэсе», «Жыццё», «На пераломе» (Украіна), «Барацьба», «З роднага краю»

(Нямеччына), «Рух» (Польшча), «Наш покліч», «Светазар» (Літва), «Рэха» (Францыя) і іншыя.

330 выданняў аўтару кнігі ўдалося адшукаць не толькі на Беларусі, а і ў іншых краінах свету. Вядома, праца гэта была доўгай і клапатлівай, але, як сказаў аўтар, дзякуючы ягонай упартасці пісалася яна з ранку да вечара адносна лёгка. «Некаторыя прафесары былі здзіўлены, калі вялі гутарку аб маёй цяжкай працы, таму што гук друкарскай машынкі ў Доме замежнага вучонага ў Маскве, у якім я тады жыў на вуліцы акадэміка Капіцы, даходзіў да ніжэйшых паверхаў і яны чулі, як я працаваў. Усё ж я лічыў гэта ў той час нармальным. У нашым інстытуце ўсе тады цяжка працавалі, але і мелі пасля адпаведныя вынікі. Мяне тады гэта не здзіўляла. Я быў яшчэ малады і поўны энэргіі», — сказаў усміхаючыся Юрый Трачук.

Пачатак даследавання добры, але працу над пошукамі заходнебеларускай перыёдыкі і надалей трэба працягваць. Так лічыць беларускі даследчык і літаратуразнавец з Седльцаў Юрый Трачук. І з ім застаецца толькі пагадзіцца, а таксама падзякаваць за тое добрае і карыснае, што ён ужо зрабіў.

*2014*

## СЁМЫ ВЫПУСК «БЕЛАРУСА»

У Нью-Ёрку выйшаў з друку сёмы выпуск літаратурнага альманаха беларускіх пісьменнікаў замежжа «Беларус» пад уважлівай рэдакцыяй Марата Клакоцкага. Нават і не верыцца, што прайшло ўжо сем гадоў. Памятаю, першы выпуск мне з ЗША даслаў мой зямляк Барыс Данілюк. А потым неяк непрыкметна праляталі гады, і вось ужо пабачыў свет сёмы выпуск. Усе гадавікі альманаха стаяць у мяне на кніжнай паліцы, а я іх па неабходнасці перачытваю, пераглядаю, шукаю ў іх тое, што мне неабходна для працы. І ўсё-ткі гэта добра, што хоць раз у год беларусы з розных краін могуць на старонках «Беларуса» выказацца, пакінуць свае суб'ектыўныя думкі ў прозе, паэзіі, публіцыстыцы, апавядаючы пра



час і пра сябе. Не так і шмат на эміграцыі засталося добрых беларускіх выданняў. Таму на 350 старонках альманаха «Беларус» кожны чытач можа знайсці і прачытаць тое, што яго зацікавіць. А прачытаць, напрыклад, у «Беларусе-2014» ёсць што, і даволі шмат. А якія цудоўныя і таленавітыя аўтары там апублікавалі свае творы! Гэта — Валянціна Якімовіч, Алег Мінкін, Сяржук Сокалаў-Воюш, Аляксандр Тарановіч, Якуб Лапатка, Іна Снарская, Макс Шчур, Віталь Воранаў, Цімох Ліякумовіч, Дзмітрый Шатыловіч і многія іншыя. Гэта цэлы Саюз беларускіх пісьменнікаў замежжа! Калі іх усіх разам сабраць за адзін «круглы стол» — літаратурная сустрэча працягвалася б некалькі сутак. Літаратары не толькі чыталі б свае творы, але і спявалі б песні, выстаўлялі б уласныя творы мастацтва, танцавалі, ігралі і г. д. Усё ж таленавіты наш беларускі народ! Менавіта ім, паэтам замежжа, прысвяціла Іна Снарская адзін са сваіх вершаў. У ім ёсць і такія радкі:

Пішыце пра любоў, самотныя паэты,
Сучаснікі мае, сямейства вайдэлот.
Адчайна так любіць
Снягі старонкі гэтай
Мы ўмелі толькі там,
Дзе плакаў вечны Лот.

Пра любоў да Радзімы, пра каханне, успаміны пра мінулае, пра свае родныя карані і пра ўсё іншае піша паэтка. Для Іны родным быў і назаўсёды застанецца беларускі Полацк, так, як роднаю стала і ўкраінская Палтава, дзе яна жыве. Нават адзін з апошніх зборнікаў паэзіі Іна Снарская назвала «Ад сэрца да сэрца — дарога».

Кнігай у кнізе можна назваць вялікія ўспаміны Валянціны Якімовіч пад назвай «Імгненні, вырваныя з жыцця». Часы перабудовы і першыя гады незалежнасці, утварэнне БНФ і Коласаўскага ліцэя, асобы Зянона Пазняка і Анатоля Сыса і згадкі пра дзясяткі іншых таленавітых хлопцаў і дзяўчат падае Валянціна ў сваіх успамінах. Прыгадвае іх шчыра, адкрыта, лёгка і чулліва. Няпросты быў той час: канец

1980-х — пачатак 1990-х гадоў, але які цікавы, нацыянальна-светлы, яго чакалі ўсе беларусы, найперш творчая інтэлігенцыя Беларусі. У сваіх успамінах Валянціна Якімовіч, бадай ці не адна з першых, стварыла праўдзівы, далікатна-правільны вобраз, без махлярства і перабольшвання, таленавітага паэта Анатоля Сыса. Яна расказала пра яго і апісала яго такім, якім насамрэч ён быў. Я гатовы падпісацца пад кожным словам успамінаў Валянціны Якімовіч пра Анатоля Сыса. Магчыма, тыя, хто жыў у Мінску з ім побач, гэтага не заўважалі, а Анатоль Сыс быў і застаўся ў памяці аўтаркі менавіта такім. Такім памятаю яго і я, хоць, жывучы ў правінцыі, рэдка наведваў сталіцу. Але калі бываў, я заўсёды бачыўся з Анатолем. А калі мяне ў 2002 годзе прымалі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, ён казаў: «Сярожка, навошта табе гэты Саюз?! Я табе свой членскі білет аддам». А ў Доме літаратараў ён упаў на калені перад Вольгай Іпатавай і казаў: «Волечка, не марнуй хлопца!». Мне заўсёды і цяпер шкада яго. Вельмі шкада. І калі я чытаў успаміны Валянціны Якімовіч — слёзы самі выплывалі з вачэй. Скажу шчыра, сябры, у трагічнай смерці таленавітых нашых равеснікаў у многім вінаватыя і мы — тыя, хто жыве з імі побач. У тым ліку і ў смерці Анатоля Сыса.

А цяпер з пачатку XXI стагоддзя альманаха «Беларус-2014» вернемся ў 1945 год. Дзмітрый Шатыловіч — адзін са старэйшых беларускіх літаратараў Варшавы (нарадзіўся ў 1926 годзе на Беласточчыне) друкуе на старонках альманаха свае ўспаміны пра 1945 год, калі ён працаваў ва Усходняй Прусіі ў аднаго баўэра. Туды яго вывезлі немцы на прымусовую працу. У сваіх дзённікавых занатоўках Дзмітрый Шатыловіч апісвае той час, калі ва Усходнюю Прусію прыходзяць савецкія войскі. Чытаюцца ўспаміны даволі цікава. Аўтар хоць асцярожна, але звяртае ўвагу ў сваіх ўспамінах на тыя марадзёрствы, а таксама згвалтаванні нямецкіх жанчын і дзяўчат савецкімі салдатамі, якія яны чынілі, калі ўвайшлі ва Усходнюю Прусію. Аўтар піша: «Раптам з крыкам у пакой уварваўся п’яны салдат і пачаў



дамагацца, каб яму далі трынаццацігадовую дачку сястры баўэра…». Ці такое: «Пасля Лідка гаварыла, што хацелі яе згвалціць, але яна выплакала ў салдат, каб яе адпусцілі. Адзін з салдат заступіўся за яе, сказаўшы: «Оставьте её, разве немок у вас не хватает?..» і г. д. Дарэчы, англійскі гісторык Энтані Бівар напісаў кнігу, прысвечаную Другой сусветнай вайне, у якой ён сцвярджае, што ў пачатку 1945 года салдаты савецкай арміі на тэрыторыі Германіі згвалтавалі два мільёны нямецкіх жанчын. Спасылаючыся на савецкія і нямецкія архівы, аўтар сцвярджае, што толькі ў адным Берліне чырвонаармейцы згвалцілі 130 тысяч жанчын, з якіх 10 тысяч пасля гэтага скончылі жыццё самагубствам. І калі сёння расійскія СМІ аспрэчваюць такія страшэнныя факты і зверствы савецкіх салдат, дык успаміны Дзмітрыя Шатыловіча, які быў сведкам падзей 1945 года, з’яўляюцца пэўным дакументальным доказам.

Цяпер пра яшчэ адны ўспаміны. Гэта згадкі доктара філалагічных навук прафесара Цімоха Ліякумовіча з Чыкага пра літаратуразнаўца Віктара Каваленку. Я нават і не прыпомню, хто і калі згадаў добрым словам пра таленавітага Віктара Каваленку пасля яго смерці ў 2001 годзе. Магчыма, Цімох Ліякумовіч зрабіў гэта першы. А Віктар Каваленка напісаў дзясяткі кніг пра міфапаэтычныя матывы ў беларускай літаратуры, пра творчасць Івана Шамякіна, пра беларускую літаратуру аб Другой сусветнай вайне. Ён з’яўляецца суаўтарам кніг па развіццю беларускай прозы, беларускай літаратуры. Выдатны артыкул Цімоха Ліякумовіча раскрывае вобраз і талент гэтага ўнікальнага даследчыка нашай літаратуры. «Віктар Каваленка, — піша Цімох Ліякумовіч, — звяртаў увагу на майстэрства абагульнення ў творах беларускіх пісьменнікаў, аддаваў належнае тым творам, у якіх адчувалася свежасць думак, багаты эмацыянальны запал і моўная выразнасць. Каваленка падтрымліваў тых пісьменнікаў, творы якіх вылучаліся напружаным роздумам над грамадскімі падзеямі, узнімалі глыбінныя праблемы жыцця, аказваліся сугучнымі часу».

Люблю чытаць творы Алеся Тарановіча. Яго почырк адразу распазнаю, ён адрозніваецца ад іншых літаратараў і журналістаў метафарычным рэалізмам, кароткімі, але канкрэтнымі пабудовамі сказаў, якія багатыя колькасцю метафар і параўнанняў, адным словам — Алесь Тарановіч сюсюкання ў сваіх творах не дапускае. Ён — прыкметны, яркі, уважлівы, паэтычны. У штогодніку «Беларус-2014» аўтар вынес на суд чытачоў свае нататкі пад агульным загалоўкам «У Крынкі да Сакрата». Але гэта ўспаміны не толькі пра беларускага літаратара з Беласточчыны Сакрата Яновіча, але і пра тых, хто жыў і жыве там зараз. Давайце пачытаем. Пра Лявона Тарасэвіча ён кажа, што «яго адбойны малаток інтэлекту не падвёў яго яшчэ ні разу» (так і хочацца слова «інтэлекту» з гэтай рэплікі выкінуць). Пра Юрку Хмялеўскага: «Удумлівыя вочы. Тактоўны, стрыманы, ураўнаважаны». Пра Януша Корбеля: «Чалавек часоў Сцяпана Батуры. Сама дабрыня і спагадлівасць». Пра Ганну Кандрацюк: «У яе тонкае пачуццё літаратурных выяў, глыбокае веданне менталітэту жыхароў Пушчы. Яе кнігі адкрылі мне вочы на гэтых людзей». А вобраз Сакрата Яновіча Алесь Тарановіч стварыў, цытуючы яго крылатыя выразы: «Сёння вялікіх польскіх пісьменнікаў няма. А пры цары былі. Генрых Сянкевіч, напрыклад, жыў на расейскія ганарары», «Жыву на злосць лёсу і на радасць людзям», «Дзяды з магіл жыццём дыхнулі» і г. д.

Цяпер пару слоў пра пераклады. З імі ў штогодніку выступаюць Якуб Лапатка, Алег Мінкін, Ірына Верабей, Сяржук Сокалаў-Воюш. Калі я прачытаў іх пераклады з фінскай, англійскай, французскай, рускай моў, дык мне прыгадаўся адзін выпадак. Неяк рускі паэт Міхаіл Дудзін на поўным сур’ёзе сказаў Аркадзю Куляшову, што яго пераклад на беларускую мову «Яўгена Анегіна» Пушкіна лепшы, чым сам арыгінал.

Сяржук Сокалаў-Воюш пераклаў на беларускую мову вядомыя савецкія песні. Вось як, напрыклад, гучаць некалькі строфаў у арыгінале і ў перакладзе вядомай песні «Родная



вуліца» з савецкага старога, але папулярнага некалі кінафільма «Вясна на Зарэчнай вуліцы»:

Когда на улице Заречной
В домах погашены огни,
Горят мартеновские печи,
И день, и ночь горят они.
Я не хочу судьбу иную,
Мне ни на что не променять
Ту заводскую проходную,
Что в люди вывела меня.
На свете много улиц славных,
Но не сменяю адрес я.
В моей судьбе ты стала главной,
Родная улица моя.

* * *

Калі на вуліцы Зарэчнай,
Святло згасіўшы, ходзяць сны,
Гараць мартэнаўскія печы,
І дзень, і ноч гараць яны.
Шляхоў інакшых не крану я,
Бо не змяню ніколі, не,
Я завадскую прахадную,
Што ў людзі вывела мяне.
На свеце слаўных вуліц поўна,
Ды насыл свой трымаю я,
Бо стала роднаю галоўнай
У лёсе вуліца мая.

Пераклад песні даволі ўдалы, ён пад мелодыю Барыса Макравусава кладзецца лёгка, як арыгінал.

З вершамі адкрытых сэрцаў у альманаху можна пазнаёміцца, чытаючы Лявона Баравога, Уладзіміра Блюдніка, Зміцера Давыдзенку, Пётру Мурзёнка, Юрася Шамецьку, Макса Шчура. Дарэчы, паэтаў у штогодніку шмат, але гэта добра, бо, як сцвярджае Пётра Мурзёнак, «не згіне край і

мова родная ніколі — Бог шле паэтаў на зямлю для лепшай долі».

Чатыры вершы маладой паэткі Таццяны Саланко — як выяўленне свайго часу. Паэтка сцвярджае, што «жыццё — вайна, дзе кожны дзень яна як апошні пражывае». Магчыма. Пошук паэзіі яе адчуваецца ў кожным імгненні, кожнай з'яве, кожнай істоце, у кожнай радасці і бядзе — гэта імкненне адкрываць жыццё ў яго дыялектычнай складанасці. Верш «Шчасце» — працяг думак аб шырыні, паўнаце гамы чалавечых перажыванняў, да выяўлення якой паэтка паціху набліжаецца.

У 2012 годзе не стала Сержука Вітушкі — выдатнага нашага гісторыка і літаратара. З яго літаратурнай спадчыны, чытачам «Беларуса», без сумневу будуць даспадобы ягоныя «Ліхтарыкі і лухтарыкі». Таленавіты аўтар пакінуў нам сваё дрэва літаратуры, вельмі разгалінаванае, дзе аўтар развіваў новыя шматлікія матывы, нюансы думак, пачуццяў, адчуванняў. Думкі ягоныя і сёння — самыя глыбокія: аб сваёй прыналежнасці роднаму краю, слову, каханню, сябрам, Вільні і свабодзе.

Прадмову да «Беларуса-2014» Віталь Воранаў назваў «Сёмы — значыць шчаслівы». Ёсць вялікае спадзяванне, што і наступныя альманахі беларускіх пісьменнікаў замежжа будуць шчаслівыя і багатыя на творчыя адкрыцці і сустрэчы.

*2014, люты*



# ГАВОРКАЙ РОДНАЮ ЗАЛІВАЎ ТУГУ

Дастаю з паліцы кнігу «Беларуская Беласточчына» (Мінск, 1973) і на старонцы 49 чытаю: «Бела. Бела. Бела і пуста. Вялізная спакуса. Дзе ж мае фарбікі? А ну, мазнем чырвонай. Гу!..». Гэта пісаў сорак гадоў таму Юрка Геніюш. Слаўны, таленавіты, мужны Юрка Геніюш — адзіны сын у бацькоў. Але ў якіх бацькоў!!! Маці Ларыса Геніюш — найвялікшая паэтка Беларусі, патрыётка, змагарка, вязень сталінскіх ГУЛАГаў. Бацька Янка Геніюш — доктар, выпускнік Пражскага ўніверсітэта, беларускі патрыёт, бібліяфіл, вязень сталінскіх лагераў.

Мужнасці ён вучыўся ў мамы і таты, прафесію выбраў бацькаву, а творчы талент пісаць узяў ад маці. Георгій Валкавыцкі ў сваіх «Вірах» (Беласток,1991), прыгадваючы 1973 год, піша: «Пасля Новага года аднавіў я шыльду сваёй рубрыкі (Задрыпанка ў сонечных праменнях) і, запрыкмеціўшы ў Юркі Геніюша шчадрынаўскі дух, угаварыў доктара на арэнду суседняй дзялянкі. Канкурэнт пачаў назіраць “З маёй званіцы” пад фірмай “Ларс”. І тут ажыў праўдзівы Гарадок (працаваў Юрка ў Гарадку)».



*Вокладка кнігі*

Ажывалі і сябры, калі з'яўляўся Юрка Геніюш, ажывалі выданні, дзе ён друкаваўся, ажываў і беларускі Беласток. Хаця лёс Юркі Геніюша быў далёка не белым. І маюць рацыю Уладзімір Арлоў (кніга «Імёны свабоды». Радыё Свабода, 2007. С. 434) і Міра Лукша ў вершы «Юрка Геніюш», калі прыгадалі яго радкі: «Чаму я чорны, чаму я чорны,

мамо — Хоць белы маю твар? Чаму мне вецер заўсёды ў вочы дзьме?». Чорны вецер і вецер халодны часта дзьмулі ў твары Геніюшаў. Але яны выстаялі, не скарыліся, не паддаліся, не здаліся. Хаця ўсё ж скразной лініяй праз усю творчасць Юркі Геніюша праходзіць белы колер. Давайце прачытаем яго творы:

Зацвіла калінай родная зямля.
Белай, белай, белай — сувой палатна…

*(Верш «Зацвіла калінай родная зямля…»)*

Белай плямай вабіць-вабіць
Картка на стале.

*(Верш «Да свету»)*

Здаецца, сёння белае ўсё. Па белым свеце белыя дарогі… Белы-белы настане дзень… Ды толькі словам бела-бела беларускім прагна чакаеш, каб адгукнуўся хто…

*(Абразок «Чорным па белым»)*

І абразок «Запавет» таксама пачынаецца з белага колеру: «І падаў снег. І белым вершам астры ўпісалі памяць жывых над прахам небыцця…». Здаецца, і тут пра белы колер, але ён вельмі самотны, тужлівы, балючы.

Усе гэтыя разважанні прыйшлі да мяне, калі я чытаў новую кнігу ў чорнай вокладцы «Смыком па сэрцы» Юркі Геніюша. Кніга выйшла з друку дзякуючы прыватным фінансавым ахвяраванням і беларускай Інтэрнэт-Бібліятэкі kamunikat.org. Зборнік добра ўклала і напісала сціплую прадмову Міра Лукша, а рэдагаваў выданне Віталь Луба.

Здаецца, пералічыў усіх, хто шчыра працаваў над тым, каб літаратурная спадчына Юркі Геніюша з'явілася на свет. А гэта найбольш поўнае выданне яго разнастайных па жанру твораў. Тут і проза, і паэзія, і драматургія, а таксама шмат цікавых і рэдкіх фотаздымкаў.

У першым раздзеле «У Гарадку і наваколлі» кнігі Юркі Геніюша распавядаецца якраз пра тое, аб чым некалі прасіў пісаць Юрку Геніюша Георгій Валкавыцкі. Складальніца кнігі Міра Лукша вырашыла пачаць выданне менавіта з культурнага і працоўнага жыцця Гарадка і вёсак вакол яго, якія апісваў аўтар. Цікава чытаецца тое, аб чым аўтар паведамляў некалькі дзясяткаў гадоў таму. З кнігі мы даведваемся пра трыкатажны завод (1959–1995), пра дзяржаўнае агенцтва «Эстрада», пра фарміроўшчыка Гогаля, млынара Лапіча, пра крамы Гарадка, куды нават па тавары прыязджалі гараджане з Беластока, і шмат пра што іншае. Аўтар апісваў усё даволі цікава, шчыра, нават з нейкім светлым гумарам. Калі б і сёння падобныя нататкі з глыбінкі Беласточчыны хтось дасылаў, то рэдактар «Нівы» Яўген Вапа іх абавязкова друкаваў бы. Яны чытэльныя, лёгкія і невялікіх памераў. А сённяшнія чытачы не вельмі любяць чытаць вялікія тэксты, асабліва калі яны яшчэ без фотаздымкаў.



Чытаючы кнігу Юркі Геніюша «Смыком па сэрцы», прыхільнікі яго творчасці пабываюць і даведаюцца, як жылі і чым жылі беластоцкія вёскі 30–70 гадоў таму. Аўтар у свой час пісаў пра дзеда Няўдалага з вёскі Скупавічы, які некалі пырнуў віламі нямецкага жаўнера. З кнігі мы даведаемся і пра тое, што калісьці ў вёсцы Случанка вельмі дружна жылі вяскоўцы, а ў Меляшках раней смачны пяклі каравай, а ў Падазеры пачаў курсіраваць аўтобус…

Мне падабаецца, што ў кнігу Юркі Геніюша Міра Лукша ўключыла і пяць ягоных п'ес. Гэта п'есы «Хто — каго?», «Прыгоды Белага Грыба», «Зямля», «Вываражыла», «Дзіўны горад». Некалі пад адной вокладкай выходзілі п'есы Сакрата Яновіча і Юркі Геніюша. Кніга мела назву «Зборнік сцэнічных твораў» (Беласток, 1976). Я пытаўся пры жыцці ў Сакрата Яновіча, чаму ён не працягвае пісаць п'ес, на што ён адказаў, што ніколі не збіраўся быць драматургам, а на напісанне п'ес яго натхніў і накіраваў Юрка Геніюш, таму і напісалася іх некалькі.

Друкавалася п'еса Юркі Геніюша і ў «Зборніку сцэнічных твораў» (Беласток, 1969). Гэта была бытавая камедыя «Вываражыла», якая тады нават атрымала ўзнагароду ў конкурсе БГКТ.

Што датычыць паэзіі Юркі Геніюша, дык яна своеасаблівая, далёка не падобная на паэзію яго маці Ларысы Геніюш. Але сын вучыўся ў маці, спрабаваў, як казаў Ян Чыквін, удыхнуць дух аптымізму, творчую энергію, прывіць імунітэт непадатлівасці на чужыя вірусы, папярэджваў аб устойлівай палітыцы дэнацыяналізацыі розных «дабрадзеяў» з усходу і захаду:

> Пасля ночы будзе-будзе калісь дзень.
> Мы не можам жыць без свету…

Юрка Геніюш быў чалавек кампанейскі, меў шмат сяброў, у яго хапала энергіі і сіл на знаёмствы і сустрэчы, меў добрую памяць, шмат ведаў вершаў, анекдотаў, любіў іх распавядаць. Ён быў казачнік-выдумшчык і літаратар з гумарам. Мне вельмі падабаецца яго аповед «Як чэрці свіней у балота зацягнулі». Нагадаю чытачам сюжэт. Прасілі дзеці дзядзьку Рыгора расказаць пра гэта. І ён расказаў. Аднойчы пасвіў у пана свіней, але пан мала плаціў, а малады Рыгор некалі задумаў ажаніцца з прыгожай дзяўчынай. Тады ён вырашыў прадаць свіней пана гандлярам, але паадрэзваў у свіней хвасты. А потым гэтыя хвасты пазасоўваў у балота. А пану сказаў, што чэрці свіней пазавалакалі ў балота, толькі хвасты відаць. Пабег пан глядзець, схапіў за хвасты і «адарваў» іх. А Рыгора выгнаў з працы. Але за грошы Рыгор хутка ажаніўся з прыгожай Алесяй… Цікавейшая рэч. Вельмі добра чытаецца, проста не адарвацца. І такіх твораў у Юркі Геніюша шмат. Па іх можна нават вясёлыя мультфільмы і фільмы здымаць.

А цяпер пра ліст да Віктара Шведа. Я думаю, што вядомы беларускі паэт з Беластока Віктар Швед заўсёды памятаў і памятае тое, што некалі яму пісаў і казаў Юрка Геніюш. А казаў ён вось што: «І памятай, што хай цябе там нават клічуць Шведам — для нас ты быў і будзеш беларус».

І апошняе з нагоды выхаду кнігі «Смыком па сэрцы». А ці ведаеце вы, шаноўныя сябры, чым пры жыцці Юрка Геніюш заліваў тугу? А заліваў ён яе — гаворкай роднаю.



Дык давайце і мы далучымся да Юркі Геніюша і будзем яшчэ мацней любіць наша беларускае Слова. Памятаеце, ён пісаў: «Бойцеся Слова! Прад ім трапячыце. У ім Ваша смерць, нягоднікі ды злыдні…». Няхай ворагі баяцца нашага Слова, а мы будзем жыць доўга: «Бела. Бела. Бела і пуста. Вялізная спакуса. Дзе ж мае фарбікі? А ну, мазнем чырвонай…».

*2014*

# У ВЯНОК МІКОЛУ ГАЙДУКУ

## Ён ратаваўся беларускасцю

Цудоўную кнігу трымаю ў руках. Яна прысвечана памяці выдатнага беларускага празаіка, паэта, публіцыста, перакладчыка, фалькларыста, журналіста з Беласточчыны Міколы Гайдука (1931–1998). Таго самага Гайдука, які ведаў увесь беларускі свет Польшчы, якога ведала Беларусь. А кніга гэта мае назву «У беларускасці наш паратунак» (Беласток, 2014). Добрая назва кнігі. Бо Мікола Гайдук заўсёды ратаваўся і жыў беларускасцю. Так павінны рабіць сёння і мы, бо ратавання ў беларусаў іншага не існуе і ніколі не будзе. Мы павінны ратавацца менавіта беларускасцю.

Гэта дзякуючы руплівіцы Лене Глагоўскай, слаўнаму Янку Купалу Беласточчыны — Віктару Шведу, як называе яго ва ўспамінах Мікалай Панфілюк (я далучаюся да яго слоў), і апантанай у беларускасць і нашу роднасць Валянціне Швед кніга ўспамінаў пра Міколу Гайдука пабачыла свет. Прачытаўшы яе, я падумаў: які



*Мікола Гайдук і Вольга Іпатава ў Беластоку. 1992 г.*

ўсё ж быў таленавіты і працавіты гэты Мікола Гайдук! Магчыма, з яго трэба пачаць выдаваць поўны збор твораў. І тады Мікола Гайдук стане першым беларускім літаратарам Польшчы, спадчыну якога ў поўным аб'ёме мы збярэм і ў некалькіх тамах выдадзім. Бо зроблена Міколам Гайдуком ашаламляльна шмат.

Вельмі цікавай і даволі разнастайнай атрымалася і кніга ўспамінаў пра яго. Пра Міколу Гайдука і Падляшша напісалі Дарафей Фіёнік, Анджэліка Масальская, Славамір Іванюк і іншыя аўтары. Яўген Вапа распавёў пра Міколу Гайдука як журналіста тыднёвіка «Ніва», а Юрка Хмялеўскі — пра творчую сувязь Міколы Гайдука з «Czasopis»'ам, Яўген Чыквін — пра супрацоўніцтва яго з асяроддзем «Przeglądu Prawosławnego». Анна Сакові ч у артыкуле «Аўтабіяграфічная проза Міколы Гайдука» разважае, што пісьменнік з дзяцінства быў даволі дасціпным хлопчыкам, талент і зацікаўленне ён меў з маленства, бо, як успамінае Гайдук, у яго, пяцігадовага хлапчука, быў вельмі дапытлівы розум, што калі дзядзькі Міхал і Антон хацелі набыць шнур сенакосу, то ён бясконца надакучаў бацьку рознымі пытаннямі. І толькі тады, калі бацьку надакучылі розныя пытанні, то ён пагрозліва сказаў: «Зараз як гэтым шнуром намераю табе па мяккім месцы, тады зразумееш і адчэпішся!». Вядома, тады маленькі Міколка адчапіўся ад бацькі, але ж зацікаўленне не пераставала яго хваляваць усё жыццё. Гэта яно з маленства і зрабіла маленькага Міколку з Кабылянак вялікім Міколам Гайдуком, пра якога ведае ўвесь беларускі свет.

Другі раздзел кнігі «У беларускасці наш паратунак» прысвечаны ўспамінам. Хто толькі светлымі і разнастайнымі ўспамінамі не прыгадвае Міколу Гайдука. Віктар Швед распавядае пра апошні дзень жыцця Міколы, той дзень, калі ён памёр у лесе з поўным кошыкам грыбоў. А Янка Целушэцкі ўспамінае, як стукнуўся вечарам Мікола на сваім самаходзе ў паліцэйскую машыну ў той час, калі паліцыянты мянялі ў ёй колы. Васіль Петручук прыгадаў, як ён з Міколам Гайдуком пасварыўся ў «Ніве». А Міра Лукша прызнаецца:



«З яго падручнікаў вучыліся мы, якія сталі яго калегамі, хоць крышачку набраўшыся ў яго імпэту і пільнасці». Мікалай Панфілюк успомніў буквар Міколы і Лідзіі Гайдукоў, які «пахне роднай Беласточчынай, мовай, зямелькай, нівамі і праўдай і ў ім няма праяў штучнасці». А Надзя Запруднік успомніла той час, калі яна была ў Беластоку і гасцявала ў доме Гайдукоў, а Мікола ёй падараваў клубок нітак «на свэтар ад сваіх авечак»… І такіх розных і цікавых эпізодаў ад сустрэч і сяброўства з Міколам Гайдуком ва ўспамінах даволі шмат. Яны з захапленнем чытаюцца і запамінаюцца, бо даволі шчырыя і адкрытыя.

Трэці раздзел у кнізе — раздзел прысвячэнняў Міколу Гайдуку. Хачу адзначыць, што ён самы слабы з усіх раздзелаў кнігі. Творы, найперш вершы, прысвечаныя Міколу ці яго памяці, даволі кволыя. За выключэннем хіба двух вершаў Віктара Шведа і верша Сяргея Панізьніка з нагоды выхаду кнігі Міколы «Паратунак» у мінскім выдавецтве «Юнацтва» (1993):

Вяртаем з падзякай, віншуем з нагоды!
Няхай Вам спрыяюць змужэлыя годы!
На новы мацунак, на новы гадунак —
Юнацкі ўручаем мы Вам «Паратунак»!

Прыгадваю я выхад кнігі «Паратунак» Міколы Гайдука 21 год таму. Кніга накладам 12 тысяч асобнікаў у Беларусі разышлася імгненна. Яна, як пісаў у прадмове да выдання Вячаслаў Чамярыцкі, была напісана даволі цікава, добрай беларускай моваю, своеасаблівым стылем. Кніга дапамагала нам тады і, вядома ж, цяпер, азірнуўшыся ў смугу стагоддзяў, убачыць свой самабытны беларускі шлях, больш упэўнена глядзець наперад і больш настойліва змагацца за сваю будучыню, за сваё нацыянальнае Адраджэнне, неадлучнае ад еўрапейскай культуры.

Раздзел «З эпісталярнай спадчыны» пачынаецца лістамі Валянціны Трыгубовіч і Валянціны Пашкевіч. Валянціна Трыгубовіч у сваім лісце, датаваным 30 лістапада 1980 года,

распавядае пра юбілейную вечарыну Уладзіміра Караткевіча ў мінскім Доме літаратара. Я, студэнт-першакурснік, таксама прысутнічаў на гэтым мерапрыемстве, таму, прачытаўшы грунтоўны ліст Валянціны Трыгубовіч да Міколы Гайдука, нібы зноў пабываў на тым незвычайным і гістарычным вечары Уладзіміра Караткевіча з нагоды яго 50-годдзя.

Валянціна Пашкевіч у сваім пісьме паведамляе з Мінска Міколу пра прыезд у канцы 1980-х гадоў у Мінск спевака Данчыка, пра выхад часопіса «Спадчына», пра сварку Міколы Шаляговіча з Іванам Чыгрынавым, пра Чарнобыльскі шлях, калона якога была ад Палаца прафсаюзаў да плошчы Перамогі ў Мінску.

У пісьме з Нямеччыны ў 1983 годзе Юрый Попка (1912–1990) паведамляў пра свае справы, пра тое, як збірае экспанаты для свайго Беларускага музея Інстытута беларусаведы ў Ляймане (Германія). Ён радаваўся кожнаму беларускаму экспанату. Але ў яго лістах прысутнічаў і адчай: «На вялікі жаль, з беларусаў і беларусак, што жывуць у Нямеччыне, яшчэ ніхто не адведаў ані музею, ані памятніка, хоць я іх запрашаў. Адзін толькі прафесар Барыс Кіт наведвае і дапамагае мне».

24 лістапада 1985 года Мікола Гайдук адказвае Юрыю Попку: з вялікай горыччу паведамляе пра смерць Юркі Геніюша і адначасова выказвае свае думкі-расследаванні наконт яго смерці: «…Некалькімі днямі перад смерцю ён зайшоў у “Ніву” і падчас звычайнай сяброўскай размовы таямніча мне шапнуў: “У мяне былі госці. Узламалі дзверы. Атруцілі сабаку.Ператрэслі ўсё ў хаце, грэбліся ў паперах. Шукалі невядома чаго. На шчасце я застаў. Яны ўцяклі…”. Калі гэта звычайныя госці, то не мусілі доўга капацца, бо ў кватэры Геніюшаў каштоўнасці ўсе на сценах: цаннейшыя зборы старажытных іконаў, якім вартасці няма, ды іншыя каштоўныя старажытнасці ўверсе. Чаму смерць Юркі наступіла ў некалькі дзён пасля гэтага рабункавага нападу?..».

У кнізе апублікаваны і пісьмы Юркі Рапецкага, Міхася Раецкага, Янкі Мойсіка, Надзі Кудасавай, Пётры Кажуры, Мацея Канапацкага, Уладзіміра Гайдука, Зоські Верас, Лявона Луцкевіча. Усе лісты вельмі багатыя на факты, на падзеі, на развагі. Наогул, Мікола Гайдук шмат перапісваўся. Таму патрэбна выдаваць яго эпісталярную спадчыну асобным выданнем — так, як выдаліся асобнымі кнігамі лісты Ларысы Геніюш, Зоські Верас, Мар’яна Пецюкевіча. Эпісталярная спадчына Міколы Гайдука — гэта сапраўдныя гістарычныя дакументы. Таму нельга, каб яны зніклі бясследна.



Пяты раздзел кнігі «З рукапіснай і машынапіснай спадчыны» складаецца з чатырох твораў Міколы Гайдука. Найбольш цікавымі з’яўляюцца ўспаміны пра мітрапаліта Васіля Дарашкевіча і прамова на Першым з’ездзе беларускіх студэнтаў у Польшчы ў 1987 годзе. Мітрапаліт Васіль заснаваў Варшаўскую праваслаўную семінарыю і вучыў у ёй на беларускай мове, захапляўся беларускай паэзіяй, а «Новую зямлю» Якуба Коласа ведаў на памяць. Ён аднаўляў і адбудоўваў праваслаўныя храмы ў Польшчы. А на з’ездзе студэнтаў Мікола Гайдук казаў пра тыднёвік «Ніва», прапагандаваў яго, адзначаючы, што «Нівы» ўжо выйшла 1611 нумароў (на канец сакавіка 1987 года), значыць, на кожнага беларуса на свеце тады прыпадала па аднаму асобніку.

У апошні раздзел пад назвай «Альбом» кнігі «У беларускасці наш паратунак» увайшлі здымкі Міколы Гайдука ад маленства да апошніх дзён.

Некалі амерыканскі прадпрымальнік Стыў Джобс сказаў: «Мая праца — не палягчаць жыццё людзям. Мая праца — рабіць людзей лепшымі». Лепшымі людзей стараўся рабіць вандроўнік і збіральнік беларускасці Падляшша Мікола Гайдук. Памяць пра яго, у вянок яму — і новае выданне, пра якое можна разважаць бясконца.

# Песні Міколы Гайдука

Ніхто так з беларусаў Беласточчыны не любіў беларускі фальклор, як Мікола Гайдук. Вынікам гэтай любові, напрыклад, да народнай беларускай песні стаў выдатны дыск песень Беласточчыны, які выйшаў у Крынках. На дыску з назвай «Песні мае, песні…» запісана 22 народныя песні ў выкананні дуэта «Зараніца» ў складзе Іаанны Чабан і Галены Пухальскай.

Калі мая 83-гадовая маці праслухала гэты дыск, сказала: «Уключы яшчэ раз паслухаць “Зялёны дубочак”, “Рабіначку” і “Пасеяла агурочкі” — гэта песні маёй маладосці». І я зноў уключаў ёй дыск, а мама ўважліва слухала галасістых салістак, якія прыгожа спявалі песні Міколы Гайдука, і нібыта сама падпявала. Мама слухала, і на вачах у яе з’явіліся слёзы…

Толькі за запісы беларускага фальклору на Беласточчыне, за прапаганду яго ў друку Міколу Гайдуку трэба было пры жыцці даваць званне Народнага пісьменніка Беларусі. Дзіву даюся, калі ён паспяваў усё рабіць: збіраць, запісваць, апрацоўваць, друкавацца. Пагартайце тыднёвік «Ніва» за 1960–1980-я гады ці «Беларускі каляндар» за тыя ж гады, і вы ўпэўніцеся ў тым, як працаваў Мікола Гайдук і як трэба нам працаваць сёння на ніве беларускага фальклору, тым больш, што яшчэ жывуць беларусы канца 1920-х — пачатку 1930-х гадоў нараджэння, якія ведаюць народныя песні, прымаўкі, загадкі, легенды, паданні, казкі. Гэта мы цяпер мала ведаем і рэдка спяваем нашы народныя беларускія песні. А Мікола Гайдук іх ведаў шмат. Ён апублікаваў больш за 700 сваіх запісаў беларускіх народных песень з нотамі (іх расшыфроўвалі Людміла Панько, Сяргей Лукашук, Эдуард Гойлік, Ян Бондар і іншыя кампазітары). Ён сабраў і апрацаваў зборнік казак і легенд «Аб чым шуміць Белавежская пушча» (Беласток, 1982). На польскай мове выдаў «Белавежскія паданні» (Беласток, 1990), на беларускай мове — кніжку легенд і паданняў «Белавежскія былі і небыліцы» (Мінск, 1996). Са сваіх запісаў Мікола Гайдук уклаў том беларускай народнай творчасці (больш за 600 тэкстаў) «Песні Беласточчыны» (Мінск, 1997), сістэматызаваў іх, напісаў уступны тэкст і каментар. У той том увайшлі песні калядныя, шчадроўкі, юраўскія, траецкія, купальскія, пятроўскія, жніўныя, восеньскія, хрэсьбінныя, застольныя, жартоўныя, вясельныя (сватанне, запоіны, каравай, дзявочы вечар, пасад, сірочыя, прыпеўкі, пярэзвы) і іншыя. Змешчаны там таксама песні рэкруцкія, казацкія, чумацкія, любоўныя, сямейна-бытавыя, балады, гістарычныя і іншыя. Да шматлікіх тэкстаў дадаюцца ноты. Фальклорныя запісы Міколы Гайдука ўвайшлі таксама ў тамы беларускай народнай творчасці «Балады» (Мінск, 1977–1978), «Легенды і паданні» (Мінск, 1983), «Вяселле. Песні» (Мінск, 1986–1988).



Гартаю тыднёвік «Ніва» і чытаю даследчыя артыкулы Міколы Гайдука, прысвечаныя беларускім народным песням: «Вясна ў беларускіх народных песнях Беласточчыны» (1963, 4 красавіка), «Каляды ў народных песнях Беласточчыны» (1965, 7 студзеня), «Дажынкі ў фальклоры» (1971, 15 жніўня) і г. д. А ў «Беларускім календары» — артыкулы за артыкуламі па даследаванню беларускіх народных песень. У «Беларускім календары» за 1987 год чытаю артыкул «Песні тых часоў» пра Веру і Уладзіміра Хомікаў са Слоі, пра іх лёс і любоў да народнай песні. Ад Уладзіміра Хоміка Мікола Гайдук запісвае песні, з якімі той «ідзе праз усё працавітае і руплівае жыццё». А мелодыі песень расшыфроўвае былы дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук. Вось як гучыць першая страфа з песні «Велікодная»:

Вясёлы дзень паном настаў —
Пірог з гусём з пячы дастаў,
Вясёлы дзень,
Вясёлы дзень!..

А ў «Беларускім календары-1981» Мікола Гайдук у матэрыяле «Поколь сонце зыйдэ…» распавядае пра дзвюх жанчын з вёскі Мікулічы, што ў Мілейчыцкай гміне. Гэта пра

Ніну Такаюк і Яўгенню Вішэнка. Ад іх фалькларыст запісвае ў 1979 годзе вязанку песень. А мелодыю расшыфроўвае Ян Бондар. Гэта некалькі балад, жартоўных, вясельных, жніўных песень. Адна з балад пачынаецца жартаўліва:

— Ой, умру я, умру та й буду дывытысь,
Чы будэ мой мілы по мніе шчэ й журытысь.
Мілы зажурыўся — шчэ й сіеў, подголіўся:
— Коб тую сховаты, хутчэй бы жыныўся!..

І калі Міколам Гайдуком пры жыцці было запісана больш за 700 беларускіх народных песень з нотамі, а на дыску «Песні мае, песні…» змешчана толькі 22, то неабходна яшчэ выпускаць каля 30–35 дыскаў з песнямі Міколы Гайдука. А гэта будзе цэлая фанатэка і адначасова памяць пра беларуса з Беласточчыны. Тым больш, што добры пачатак ужо зроблены.

*2014, сакавік*

## ФРАЗЕАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК КОСАЎШЧЫНЫ

Настаўнік-пенсіянер з вёскі Заполле Івацэвіцкага раёна Алесь Зайка выдаў свой «Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны» ў ААТ «Брэсцкая друкарня» накладам 300 асобнікаў.

Унікальнае выданне, над якім аўтар працаваў усё жыццё. “Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны” — плён маёй доўгай руплівай працы. Працы, якая, праўда, аніяк не абцяжарвала. Наадварот, прыносіла радасць, адчуванне споўненага абавязку перад людзьмі, што зберагглі, захавалі ў маўленні жывое народнае слова», — так шчыра прызнаўся Алесь Фаміч у прадмове да кнігі.

Аўтар найперш дзякуе людзям, якія зберагглі фразеалагізмы, а мы, чытачы, а таксама тыя, хто цікавіцца народным словам, павінны шчыра дзякаваць аўтару за вялікую, карысную, клапатлівую і неабходную працу. Дарэчы, Алесь Зайка і раней цешыў нас «Дыялектным слоўнікам Косаўшчыны» (2011) і «Населенымі пунктамі Івацэвіччыны» (2012) — кнігамі, якія станоўча былі ацэнены і літаратурна-краязнаўчымі даследчыкамі, і навукоўцамі Беларусі.



У «Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны» ўвайшла фразеалогія насельнікаў паўночнай часткі Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. А размаўляюць на Косаўшчыне гаворкай, характэрнай для Гарадзенска-Баранавіцкай дыялектнай групы, якая вельмі блізкая да беларускай літаратурнай мовы і вызначае яе нацыянальную спецыфіку: дзеканне і цеканне, пераход *в, л* у пэўнай пазіцыі ў *у* нескладовае, цвёрдыя шыпячыя, *р, ц,* аглушэнне звонкіх зычных у канцы слова і склада перад глухім зычным, цвёрдыя губныя на канцы слова, чаргаванне *ро, ло, ле,* з *ры, лы, лі* і іншыя. Разам з тым у слоўнікавых артыкулах адлюстраваны дыялектныя адметнасці Косаўшчыны. Гэта, напрыклад, захаванне канцавога ненаціскнога *о* ў назоўніках і прыслоўях: сонцо, жыто, просо, слово, мамо, тато, моцно, кепско, мало, много, горло (на ўсё горло, закінуць слово, загнуўся як свіны татко, жабі па калено, як кот на сало, як іржа жалезо, хоць воко выкалі…), прыстаўное *г* перад пачатковымі *а, у* (гарэшнік, ганучa, гарацъ, гарабіна, гуліца), наяўнасць моцнага якання ў канчатках дзеясловаў другой і трэцяй асобы адзіночнага ліку (будзяш, трымаяш, танцуя, спявая), першай і другой асобы множнага ліку (выбіраям, колям, гуляяця, сябруяця), наяўнасць выбухнога *г* (ганок, гузік), разам з поўнай формай прыметнікаў, займеннікаў і лічэбнікаў ужываецца сцягнутая форма (добра карова, нова хустка, гэта сяло, сёма гадзіна) і іншыя адметнасці Косаўшчыны.

Акрамя ўласна дыялектнай фразеалогіі ў фразеалагічны склад Косаўшчыны ўваходзяць і агульнанародныя, літаратурныя, фальклорныя фразеалагізмы, зразумелыя кожнаму беларусу. Але вельмі шмат сабрана Алесем Зайкам і такіх фразеалагізмаў, якіх раней, напрыклад мне, не даводзілася чуць і сустракаць. Вось некалькі з іх.

*Жаба на языку не спячэцца* (так кажуць пра таго, хто не ўмее захоўваць тайны).

*Жывот на нос лезе* (так кажуць пра цяжарную жанчыну).

*Зайграць бублікі* (адмысловай мелодыяй вывесці з танцаў).

*Звязваць бараду* (закончыць жніво).

*З калена не выламіш* (не мець магчымасці выканаць).

*Казіняц у спіну ўбіўся* (анямець, заклякнуць, адзервянець (пра цела).

*Лёстачкамі душу даставаць* (падколваць, насміхацца).

*Мышы лемяха з'елі* (так кажуць, даючы ацэнку суду).

*Ні акыш, ні аюсь* (нічога не мець у гаспадарцы).

*Сена такого і пападдзя не ела* (пра вельмі смачную яду).

*У лісіцы пад хвастом заплецена хварастом* (так кажуць пра дзяўчыну, якая без патрэбы падкрэслівае сваю цнатлівасць) і г. д.

Усе мы добра ведаем, што народная фразеалогія — гэта згусткі народнай мудрасці. Яна была і заўсёды будзе крыніцай вобразнасці і эмацыянальнасці мастацкага слова. Шырока выкарыстоўвалі і выкарыстоўваюць народную фразеалогію ў сваёй творчасці беларускія пісьменнікі. Вось, напрыклад, якія фразеалагізмы ўжывае зямляк і сябра Алеся Зайкі празаік з Івацэвічаў Валерый Гапееў у сваёй кнізе «Я размалюю для цябе неба» (Мінск, 2013): «не трэба п'янаму пярэчыць», «ты свой крыж нясі, ды пра дзяцей думай», «сысці ўбок, не лезці на ражон», «аб нас ногі выціраюць», «за арла не лічаць», «стукнуць за думку», «вывесці на чыстую ваду», «не глядзі на мяне, як Ленін на буржуазію», «хварэю на мабільнікі», «слава Герастрата», «быць мужчынамі» і сотні іншых. Фразеалагічныя адзінкі дапамаглі аўтару ў іранічным і ў іншых планах больш дакладна характарызаваць сваіх герояў, апісваць іх, выказваць пагарду ці любоў да іх.

Тыя фразеалагізмы Косаўшчыны, якія сабраў энтузіяст з Івацэвічыны Алесь Зайка, маюць свае прыкметы. Яны, як



і свабодныя словазлучэнні, складаюцца не менш як з двух слоў: «землю грызці» (дабівацца, ажыццяўляць), «з душою» (старанна, з любоўю), «не год» (пра цяжкія, неспрыяльныя кліматычныя ўмовы), «палічыць рэбра» (набіць), «слацца лістом» (дагаджаць), «як калун» (вельмі дрэнна) і іншыя. Многія фразеалагізмы Косаўшчыны маюць адзінае лексічнае значэнне, якое ў многіх выпадках не вынікае са значэння слоў-кампанентаў, напрыклад, фразеалагізм «выйсці сухім з вады» (застацца беспакараным, апраўдацца), але яно не вынікае са значэнняў трох слоў, з якіх складаецца фразеалагізм. Тое самае бачым у фразеалагізмах «душа ў пятках» (так кажуць, калі моцна спалохаешся), «малоць языком» (гаварыць пустое), «язык праглынуць» (зацята маўчаць) і г. д.

Многія фразеалагізмы Косаўшчыны, як і словы, маюць па два і больш значэнняў. Так, фразеалагізм «адвясці душу» мае два значэнні: выказаць камусьці набалелае, падзяліцца перажываннямі, а таксама задаволіць моцнае жаданне. Фразеалагізм «адзін у адзін» у адным выпадку мае значэнне «падобныя», у другім выпадку — «добрыя па якасці», у трэцім выпадку — «аднолькавыя па велічыні».

Некаторыя фразеалагізмы Косаўшчыны надзелены эмацыянальнай афарбоўкай, перадаюць розныя стылістычныя адценні, напрыклад: фразеалагізм «залатыя рукі мець» мае адценне захаплення, «задзіраць носа» — асуджэння, іроніі, «сляза слязу пабівая» — адценне спагадлівасці і г. д.

Фразеалагічны склад кожнай мовы вызначае нацыянальную адметнасць народа, раскрывае самабытнасць яго духоўнага свету, маральна-эстэтычныя каштоўнасці, мастацка-вобразны лад маўлення. Фразеалогія ж пэўнага дыялекту спрыяе пашырэнню і ўзбагачэнню агульнанароднай фразеалогіі. «Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны» Алеся Зайкі — яркае таму пацвярджэнне. У ім сабрана каля 2500 фразем Косаўшчыны.

У папулярнай этнаграфічна-гістарычнай серыі Алеся Зайкі, якую запачаткаваў ягоны «Дыялектны слоўнік Ко-

саўшчыны» і працягнуў «Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны», у бліжэйшы час плануюцца да выхаду новыя кнігі аўтара. Гэта «Прыказкі, прымаўкі, выслоўі Косаўшчыны» і «Мікратапаніміка Івацэвіцкага раёна». Пажадаем жа яму здароўя, сіл і з надзеяй чакаем гэтых выданняў.

*2014, май*

## НА РОСТАНЯХ ЛУГОЎ

У Беластоку выйшла з друку прыгожая кніжка Багдана Дудко «Даліна з-пад Нарвы і Свіслачы» (2014). У ёй змешчаны вершы і фотаздымкі аўтара. Вершы Багдана Дудко апублікаваны на польскай і беларускай мовах. На беларускую мову паэтычныя радкі пераклала Міра Лукша.

Багдан Дудко нарадзіўся ў 1968 годзе ў Беластоку. Вывучаў польскую філалогію. На працягу 20 гадоў быў рэдактарам і аніматарам літаратурна-мастацкага часопіса «Карткі», а таксама рэдактарам серыі кніг, выдадзеных у бібліятэчцы «Картак». Ён быў лаўрэатам некалькіх літаратурных конкурсаў, у тым ліку пераможцам агульнапольскага літаратурнага конкурсу «Дэбют», які арганізаваў беларускі тыднёвік «Ніва» ў Беластоку. У 2008 годзе з друку выйшла яго кніга «40 і 4 вершы пра каханне».

У новым зборніку Багдана Дудко чытаю вершы і па-беларуску, і па-польску. Адчуваецца, што паэтычныя радкі вельмі добра дапаўняюць здымкі: яны то тужлівыя, то настальгічныя, то спакойныя, то шчымлівыя. Мне здаецца, што над гэтымі вершамі і здымкамі працавалі актыўна два аўтары: і Багдан, і Міра. Але спадар Дудко няхай не крыўдуе, калі скажу, што беларускі пераклад вершаў вельмі ўзмацніў і ўпрыгожыў само выданне, асабліва калі вершы чытае беларус не толькі з Беласточчыны, але і з Беларусі. Усё ж гэта кніжка пра нас, пра беларусаў, пра Бацькаўшчыну, пра зямлю родную, пра яе гісторыю. Вядома ж, аўтар насамрэч добры мастак і ў паэзіі, і ў фотасправе. І ён здолеў у сваёй



«Даліне…» сказаць настолькі шмат, чаго не здолеў бы нехта распавесці ў цэлай аповесці.

Багдан Дудко сумуе па радзіме, маленькай радзіме, «якой няма», але якая «кожнага чужога частуе лустай хлеба, глытком халоднае вады з калодзежа з жоравам…». Чаму з *калодзежа*, Міра? Ёсць прыгожае слова *студня*.

Даўно я не чытаў вершаў пра беларускіх партызанаў. А ў зборніку Багдана Дудко натрапіў на верш «Магіла партызанаў». Ён пачынаецца так: «Бярозы і сосны — сёстры партызанаў…». Прачытаў першыя радкі, і адразу прыгадаўся хрэстаматыйны верш Адама Русака «Лясная песня»:

Ой, бярозы ды сосны —
Партызанскія сёстры,
Ой, шумлівы ты лес малады.
Толькі сэрцам пачую
Тваю песню лясную
Ды успомню былыя гады…

Гэтая «Лясная песня» Адамам Русаком была напісана ажно ў 1950 годзе. Яе выконвалі і «Песняры», і гурты «N.R.M», і «Чысты голас», і хор Беларускага радыё і многія-многія іншыя калектывы.

«Даліна…» Багдана Дудко распачынаецца вершам «Я, Канстант». У ім аўтар прыгадвае Кастуся Каліноўскага (1838–1864) — аднаго з кіраўнікоў нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863–1864 гадоў, рэвалюцыянера-дэмакрата, публіцыста, літаратара. Згадваючы Каліноўскага, аўтар разважае:

Ці варта было
маючы дваццаць тры гады
паміраць за айчыну…

Кастусь Каліноўскі быў арыштаваны ў Вільні 10 лютага 1864 года. Ваенна-палявы суд прысудзіў яго да пакарання смерцю, і 22 сакавіка 1864 года Кастуся Каліноўскага публічна павесілі ў Вільні на гандлёвай плошчы Лукішкі.

Яму было 26 гадоў, але не 23 гады, які піша Багдан Дудко. Перад смерцю Кастусь Каліноўскі здолеў перасляць з-за турэмных кратаў «Ліст з-пад шыбеніцы» — свой духоўны запавет, у якім выказаў пэўнасць, што толькі тады, «народзе, зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжо не будзе». Магчыма, гэтыя словы Кастуся Каліноўскага і з'яўляюцца сёння адказам аўтару на яго радкі:

Ці варта
маючы сорак чатыры гады
каціцца ўніз ад думкі аб айчыне
якой няма
ці хоць раз
надарыцца такая хвіліна
калі перастану, халера, аб гэтым
думаць.

Мне спадабаўся вобраз вёскі ў вершах і ў здымках фотапаэта. Хораша і цёпла апісана вёска, адчуваецца сум з нейкай іскрынкай настальгіі па беларускай вёсцы, у якой сёння «толькі бабулі пры тэлевізарах аглядаючы чыёсьці цудоўнае жыццё засынаюць пры гарачай печы». Ці пра тое, як у зімовы вечар у далёкай вёсцы на Падляшшы «нейкая каралеўна пасярэдзіне вёскі са снегам крочыць». Ці пра вёску, якая «забітая наглуха дошкамі перагнілымі ад тугі…».

Разам з вёскаю паэт сумуе і прыгадвае каханне — вясковае, светлае, чыстае, тое, калі «ты прыйшла да мяне гасцінцам з боку Шымак, апранутая ў імглу, над табой ляцеў статак дзікіх гусей…». Прайшоў час. Паэт побач з каханай жанчынай, з якой яму добра і хораша, але толькі вось няма таго луга…

Паэт хату параўноўвае з жанчынай. Мне спадабалася гэта параўнанне. У вершы прысутнічае і выразная эратычная афарбаванасць пачуцця, ён вяртае не толькі ў маладосць чытачоў і аўтара, але і нагадвае першыя інтымныя парыванні і перажыванні:



Ведаеш
я быў у цябе
ты стаяла нерухома
шумелі твае валасы
мела ты шырока расплюшчаныя
зялёныя вочы
я пацалаваў цябе
абняў
увайдзі, ты сказала
увайдзі, калі ласка.

У кнізе твораў Багдана Дудко адчуваецца паглыбленасць думак, уласная пераканаўчасць. У яго вершах і фотаздымках прысутнічаюць радасць захаплення блізкім чалавекам, любоў да чалавека працы і прыроды, добрая лагодная ўсмешка і журботная задуменнасць, філасофскі роздум над жыццём. Пошук вобразаў, параўнанняў — гэта асноўнае, што заўсёды вызначае спробы амаль усіх паэтаў. Цікавымі паэтычнымі адкрыццямі і вобразамі засеяны амаль усе вершы аўтара «Далінаў…»: «на лугах закрытых буйнаю травой», «прытулі мяне імглiста», «дошкамі перагнілымі ад тугі», «выйшла хмара на шпацыр», «сумныя вочы мае гэтая вуліца», «на ростанях лугоў» і г. д.

Калі чытаеш і гартаеш кнігу Багдана Дудко «Даліна з-пад Нарвы і Свіслачы», адчуваецца, што родная беластоцкая зямля дае аўтару духоўны мацунак, акрыляе яго фотапаэтычны талент. А яшчэ яго вершы-верлібры, несумненна, даюць новыя істотныя мажлівасці для выяўлення духоўнага свету сучаснага чалавека.

*2014, май*

# АГЛЯД БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ ЗА 20 ГАДОЎ

Добрую справу зрабіла Барбара Томчук. Яна падрыхтавала, сабрала і выдала ўсё тое, чым займалася Беларускае гістарычнае таварыства ў Беластоку з 1993 года. Выданне называецца «Białoruskie Towarzystwo Historyczne XX Беларускае гістарычнае таварыства». А Таварыства на працягу 20 гадоў сапраўды актыўна вяло даследчую і выдавецкую дзейнасць. Ладзіла навуковыя канферэнцыі, выстаўкі ды гістарычныя лагеры для моладзі. А яшчэ Таварыства выдала 40 нумароў «Беларускага гістарычнага зборніка» ды некалькі дзясяткаў кніг. Апошні нумар «Беларускага гістарычнага зборніка» (№ 40) мяне здзівіў артыкулам Алены Говар «Беларускія анзакі» — выдатным матэрыялам-адкрыццём пра ўраджэнцаў Беларусі, якія ў 1915 годзе служылі і ваявалі ў корпусе ANZAC аўстралійскай арміі супраць туркаў. Нават напісаў аўтарцы ліст з падзякай за добры артыкул. Ён мяне яшчэ зацікавіў і тым, што там служыў Фёдар (Тодар) Лейка з вёскі Збочна Слонімскага павета. Магчыма, нейкі блізкі сваяк нашага беларускага драматурга, паэта, празаіка і педагога Кандрата Лейкі (1860–1921), які таксама быў родам з гэтай вёскі.

З Беларускім гістарычным таварыствам супрацоўнічалі і працягваюць супрацоўнічаць дзясяткі выдатных гісторыкаў з Польшчы, Беларусі, Украіны, Літвы, Расіі і іншых дзяржаў. А кіруе Таварыствам неўтаймаваны, далікатны і таленавіты гісторык Алег Латышонак.

Выданне Барбары Томчук — гэта бібліяграфічны даведнік, які з’яўляецца своеасаблівым гістарычным дакументам, і ён вельмі неабходны гісторыкам, філолагам, краязнаўцам і ўсім тым, хто цікавіцца гісторыяй Бацькаўшчыны. Аўтарка грунтоўна апісала ў сваёй кнізе: якія кнігі выдала за 20 гадоў Беларускае гістарычнае таварыства ў Беластоку, хто аўтары, калі яны выйшлі з друку, па гадах склала бібліяграфічны паказальнік усіх мерапрыемстваў, якія праводзіліся БГТ, найперш навуковых канферэнцый, выстаў, прэзентацый, іх тэмы і месцы правядзення. Шмат змешчана каляровых фотаздымкаў асоб, якія мелі непасрэднае дачыненне да тых мерапрыемстваў, якія праводзіла БГТ.



У пачатку выдання ва ўступным слове Алег Латышонак шчыра прыгадаў добрыя беларускія гістарычныя справы ў Польшчы, а таксама тых сяброў-гісторыкаў, якія шмат зрабілі і робяць на ніве беларускай гісторыі. Гэта Юры Туронак, Антон Мірановіч, Яўген Мірановіч, а таксама с. п. Сакрат Яновіч (1936–2013) і іншыя. Аўтарка кнігі спынілася і на аглядзе беларускай меншасці ў Польшчы, як на іх справах палітычных, так і на сродках масавай інфармацыі і выдавецкай дзейнасці.

Чытаючы выданне Барбары Томчук, я падумаў, што даўно пара рыхтаваць і паціху друкаваць падобныя творы пра «Беларускія календары» у Беластоку, пра літаратурныя беларускія выданні «Белавежы», а таксама бібліяграфічныя даведнікі пра публікацыі ў беларускім тыднёвіку «Ніва» (Беласток). Калі агляд календароў і беларускіх літаратурных твораў зрабіць прасцей, дык агляд усіх публікацый «Нівы» за 58 гадоў — справа клапатлівая, вялікая і сур’ёзная. Глядзіш — не за гарамі і 60-годдзе «Нівы». Магчыма, да гэтага юбілею і неабходна распачаць падрыхтоўку і выпуск кніг з указаннем ніўскіх публікацый па ўсіх тэмах — напрыклад, літаратура на старонках «Нівы» за 60 гадоў, культура, гісторыя, вясковае жыццё, асобы, гутаркі і г. д. Ці нeяк інакш рыхтаваць і выдаваць падобныя даведнікі. Але гэта рабіць трэба. Праўда, такая праца не дужа ўдзячная, але ж гістарычна важная.

*2014, красавік*

# СВЯТЛО ПАЭЗІІ ЮРЫЯ БАЕНЫ

З Беласточчыны беларускі паэт Юрый Баена даслаў мне ў Слонім свой новы паэтычны зборнік «Шкатулка святла». Ён выдадзены за кошт сродкаў культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Польшчы. Зборнік выйшаў у бібліятэцы беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа».

Пра што піша сёння 57-гадовы беларускі паэт? Што яго хвалюе, радуе, суцяшае? Аб чым думае наш творчы чалавек з Беласточчыны? А піша ён аб тым, аб чым пісаў і сорак гадоў таму. Праўда, тады чамусьці болей пісаў пра восень. Была яна ў яго такой, калі «пад нагамі залатыя лісты памяці шалясцяць несціханай просьбай», калі ён, паэт, нёс «сум асенні, сваю боязь». А цяпер? Цяпер «алеяй слёз самотная ідзе, на ўвесь свет галосіць восень, ніхто не адгукаецца». Як бачыце, восень у вершах Юрыя Баены заўсёды сумная, тужлівая, адзінокая. Іншай паэт яе не бачыць. Няма ў Юркі Баены восені прасторнай, светлай, залатой. Магчыма, ён не любіць восені. А што з вясной? А вясной паэт захапляецца. Можа, з-за таго, што ён нарадзіўся вясной — 24 сакавіка. Вясна ў паэта ніколі не бывае сумнай, яна ў яго параўноўваецца з каханай, якая «лашчыць далоні, вусны і твар…». Вясна п'яніць аўтара, аблівае майскім дажджом, ён «асветлены знутры добрай надзеяй на доўгія леты».

Прыгожа і светла піша Юрый Баена і пра зіму. У сваіх паэтычных радках паэт сцвярджае, што «няма нічога цішэйшага за снег, за белы далягляд, за каменны аледзянелы свет…». Ён чуе, як яго сцяжынкі ўсцілае снег… Вельмі даспадобы паэту белы колер. Наогул, і пра гэта я шмат разоў пісаў, беларускія паэты вельмі любяць белы колер. Можна прывесці сотні прыкладаў, дзе паэты яго апяваюць. Дый у беларусаў не можа быць іншага ўлюбёнага колеру, бо белы колер у назове нашай дзяржавы Беларусь, у нашым сцягу бел-чырвона-белым, у назвах, — як піша паэт, — Беласток, Белавежа, Бельск… таму «з чыстай белі, добры лёсе, засцілай абрусы».



А вось пра сонечнае лета паэт згадвае мала. Хіба што пра лета ў Мокрым. Тым не менш, лета — не паэтычны вобраз Юрыя Баены. Але прыродаапісальныя вершы ў новым зборніку аўтара, дзе паэтызуюцца вясна, восень і зіма, прасякнуты апяваннем хараства прыроды, ім уласцівыя пяшчотная мяккасць інтанацый, лірычная настраёвасць, шматколернасць тэмбравай афарбоўкі. Вельмі радасныя, узнёсла-экспрэсіўныя мелодыі гэтых твораў нагадваюць нейкія своеасаблівыя канцэрты. Вершы паэта зліваюцца з элегічнымі нотамі чалавечай душы, якая знаходзіцца ў нейкім невыказным тамленні.

З чуллівай своеасаблівай самотай чытаюцца моцныя вершы Юрыя Баены, прысвечаныя маленькай радзіме — вёсцы Мокрае Бельскай гміны, дзе нарадзіўся паэт. У іх адчуваецца туга па маленству, для якога родны кут — не больш і не менш, як ягоная дзяржава, «вытканая з зямных і нябесных нітак». Ды не толькі аўтар зборніка заўсёды сумуе па маленькай радзіме; па ёй з гадамі ўсё больш і больш сумуем мы ўсе. За нас, і я на ўсе сто працэнтаў пагаджаюся з Юрыем Баенам, штогод і заўсёды моляцца дарогі і сцежкі, сады, лугі, палі, каласы, рамонкі, бярозы, дубы, ясені, жаваранкі і буслы, вятры і росы, снягі і сонца, каб часцей мы вярталіся дадому:

Вярнуўся я
як сын, як брат
у абдымкі роднага
і хараства!

Вёска Мокрае для Юрыя Баены не толькі ягоная дзяржава, але і светлы далягляд, бастыён. Мне здаецца, ніхто болей за Юрыя Баену і Віктара Шведа не апеў сваіх маленькіх радзімаў на Беласточчыне так, як апелі яны Мокрае і Мора. Так і просіцца сказаць — Мокрае Мора, апетае паэтамі. На жаль, як піша аўтар, патрыётам Малой Айчыны гімнаў

не граюць. Хаця Малая Айчына заўсёды нараджае сваіх патрыётаў. І гэта так.

У кожным сваім паэтычным зборніку Юрый Баена не абыходзіць тэму жыта і хлеба. Калі я пачынаю чытаць вершы пра хлеб ці пра жыта, мне заўсёды прыгадваюцца радкі Аляксея Пысіна: «Забыта многае ў жыцці, з дарогі змецена і змыта. Мне ў жыта хочацца ўвайсці, мне вечнасцю здаецца жыта». Пысінскай вечнасцю заўсёды напоўнены вершы пра хлеб аўтара кнігі «Шкатулка святла». Паняцці “хлеб”, “жыта”, “колас” і ўсе вытворныя ад іх асацыяцыі і матывы — буйныя планы баенаўскай лірыкі, яе падаснова, яе чырвоны радок. Зборнікі ягоных вершаў без страфаў, адрасаваных хлебу і збожжу, проста не існуюць. Гэта святое:

Калі ў руках нясу хлеб,
Я лепш разумею сябе.
Дзялюся хлебам —
Я лепш разумею жыцця сэнс.
Ем хлеб —
Я лепш разумею свет…

Паэт спадзяецца толькі на хлеб, бо хлеб — святая тайна чалавечнасці. І кланяецца ён менавіта хлебу, паважае яго, пяе яму гімны. А дзе хлеб — там і слова. Будзе хлеб — будзе і слова. Слова, як піша аўтар, гэта «святло ў вялікім, чорным, быццам смала, пакоі ночы», «слова святое, нескаронае, вернае». Каму моліцца паэт? Паэт моліцца слову: «ля грані, нябыту і жыцця, цемры і святла малюся Табе, Магутнае Слова». А са слоў складаюцца вершы:

Першы верш — глыток вады.
Пах зямлі
І паветра.
Росны луг,
Над ракой світанак…

А пасля нараджаецца паэзія перажывання, роздуму, надзеі, вобразаў. Навізна паэзіі Юркі Баены — у глыбока творчай здольнасці аўтара шукаць і знаходзіць на старыя пытанні нестарыя адказы, насычаць іх новымі шматзначнымі ўяўленнямі пра свет, уласнымі назіраннямі, вопытам дарог, грамадзянскай мужнасцю пазнання набалелых праблемаў і шчаслівых радасцяў паэта. З характару вырашэння кроўнажыццёвых задач складаецца мікраклімат, тое духоўнае асяроддзе, якім жывём, ствараецца клімат часу, веку. Бо ў гэтым дапамагае паэзія:



Паэзія — білет у шырокі свет.
Добрай Надзеі мыс,
хвалі акіяна…

У новым зборніку паэта ёсць яшчэ адзін унікальны верш, які мае назву «За шчасцем» (па-беларуску правільна будзе — па шчасце). Адзінаццаць радкоў у вершы, але пра іх можна разважаць доўга. Сюжэт яго такі: паэт бачыць, як грамада людзей, стаіць у чарзе па шчасце, а ў той грамадзе тысячы людзей і ўсе хочуць дацягнуцца да шчасця. Тры дні яны стаялі і тры ночы. Сярод іх быў і аўтар, бо таксама захацеў шчасця. Ён так і піша: «я таксама там быў, горыч з келіха піў…». Вось і ўсё шчасце.

Свой новы зборнік паэзіі Юрый Баена назваў «Шкатулка святла». Шкатулка — гэта невялікая скрыначка для дробных, звычайна каштоўных рэчаў. Дык што, акрамя вышэйпералічанага, схаваў у ёй аўтар? А схаваў ён — пацалункі жыцця. І працягвае пісаць «лісты без дат — вершы на ўсю вечнасць», бо верыць, што ён як паэт на сваёй зямлі пакіне след. Яго пацалункі жыцця няпростыя, розныя, канкрэтныя, сімвалічныя, метафарычныя. Але ўсё гэта — ад роднай зямлі, усё — толькі яна. У вершах паэта больш за ўсё кідаецца ў вочы імкненне аўтара да гульні на кантрастах, на нечаканых паваротах думкі, на нюансах слова, якія асвятляюць, як маланкі, становячыся і тваім празарэннем, і тваім адкрыццём.

Вершы Юрыя Баены з новага зборніка «Шкатулка святла» хочацца чытаць і перачытваць. Вядома, не ўсе яны аднолькава моцныя. Ёсць у некаторых і свае слабасці. Але казаць пра

іх — ці ж мае гэта сэнс, якім звычайна такая неабходнасць дыктуецца? Значыць, трэба ўсё прымаць як ёсць? Усё! Бо, чытаючы паэта, верыш, што вось гэты імклівы рух, разварот, прага жыцця, адчуванне харавства Радзімы, прыроды, чалавечай працы, роднай мовы, слова, песні, — што ўсё гэта яшчэ працягнецца ў яго новых вершах і зборніках. Верыш, што святло паэзіі Юрыя Баены будзе яшчэ доўга асвятляць нашы душы і сэрцы.

*2014*

# Гутаркі

## АРСЕНЬ ЛІС: «ПРАЦЫ НА НІВЕ ГІСТОРЫІ НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ ВЕЛЬМІ ШМАТ»



*Арсень Ліс*

Беларускаму доктару філалагічных навук, літаратуразнаўцу і фалькларысту Арсеню Лісу 4 лютага 1914 года споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння. Родам ён са Смаргоншчыны. Скончыў філалагічны факультэт БДУ, настаўнічаў, паспытаў рэдактарскага хлеба ў выдавецтве. А з пачатку 1960-х працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

Усё сваё жыццё ён збірае і аналізуе каляндарна-абрадавы фальклор, з'яўляецца аўтарам шэрагу манаграфій і вучэбных дапаможнікаў. За ўдзел у падрыхтоўцы і выданні акадэмічнага збору беларускай народнай творчасці быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі.

Найвялікшая заслуга Арсеня Ліса — у вяртанні з небыцця імёнаў дзеячаў нацыянальнага руху. Ён напісаў захапляльныя біяграфіі мастакоў Пётры Сергіевіча, Язэпа Драздовіча, мастацтвазнаўцы Міколы Шчакаціхіна, палітыка Браніслава Тарашкевіча. Даследаваў і апублікаваў працы па жыццю і дзейнасці Аляксандра Уласава, Аркадзя Смоліча, Тамаша Грыба, Алеся Салагуба, Максіма Танка, Міхася Машары, братоў Гарэцкіх, Янкі Купалы, Рыгора Шырмы і іншых

вялікіх сыноў нашай Бацькаўшчыны. У 2010 годзе ў Мінску выйшаў вялікі збор твораў Арсеня Ліса ў адной кнізе, якая налічвае 753 старонкі. Кнігу аўтар назваў «Gloria victis!».

Нягледзячы на свой узрост і справы, Арсень Сяргеевіч знайшоў час адказаць на некалькі маіх пытанняў.

*— Арсень Сяргеевіч, пра што і пра каго сёння мала пішуць беларускія даследчыкі літаратуры?*

— Мала пішуць пра літаратуру XX стагоддзя. Не асвечана шырэй творчасць Алеся Гаруна. А ён не толькі выдатны паэт, а не слабейшы і як публіцыст. Гэта наглядна відаць на старонках газеты «Беларускі шлях», якую ён рэдагаваў. Зусім не даследаванай застаецца публіцыстыка Язэпа Лёсіка за час рэдагавання ім газет «Вольная Беларусь» і «Беларусь». Публіцыстыка абодвух гэтых пісьменнікаў цікавая не толькі як гісторыя беларускай грамадскай думкі, але і сваёй нястрачанай актуальнасцю сёння. Літаратуразнаўцы нашы, беручы па вялікім рахунку, у даўгу перад пісьменнікамі Іванам Пташнікавым, Вячаславам Адамчыкам, Іванам Чыгрынавым, Віктарам Казько, Віктарам Карамазавым, Алесем Жуком…

*— Каго з беларускіх літаратараў, напрыклад у серыі «Спадчына», павінны часцей выдаваць і выдаць сёння нашы выдавецтвы?*

— Не сказаць, што спадчына літаратурная наша занядбана. Акадэмічныя літаратуразнаўцы падрыхтавалі шматтомную «Залатую калекцыю беларускай літаратуры». Першы том яе «Літаратура XI–XVI стагоддзяў» выйшаў у 2011 годзе. Важкія тамы «Літаратура XVII–XVIII стагоддзяў», «Літаратура першай паловы XIX стагоддзя» пабачылі свет у 2012 годзе. Частка першая «Літаратуры другой паловы XIX стагоддзя» з'явілася ў 2013 годзе. Пачата серыя «Даўнейшая чытанка» кнігай Каруся Каганца. Вельмі плённа працуе праект Кастуся Цвіркі «Беларускі кнігазбор», заснаваны ў 1996 годзе. Ужо выдадзена больш за шэсцьдзесят кніг.

Калі казаць пра крытэрыі, што выдаваць, дык, думаю, перш-наперш тое, што працуе на імідж беларусаў як народа, прэстыж самой беларускай літаратуры, а менавіта творы, у



якіх адлюстраваны гістарычны лёс нашага люду, яго ментальнасць. Адным словам, тое таленавітае, што скіравана на ўзвышэнне духу народа, самасцвярджэнне яго, абарону. Геапалітычнае становішча беларускага народа заўсёды гэтага патрабавала. Сёння — не ў меншай ступені.

*— Арсень Сяргеевіч, за свае доўгія гады ці цікавіліся Вы і ці што чулі асабіста пра смерць Янкі Купалы, крыж Еўфрасінні Полацкай, архівы Максіма Багдановіча і г. д.?*

— Пра смерць нашага паэта-прарока Янкі Купалы ведаю не больш, чым усе. Нейкіх эксклюзіўных звестак, версій не згадаю. Янка Купала, як і ўсе знакавыя творчыя асобы ў таталітарнай дзяржаве, быў, бясспрэчна, шчыльна апекаваны спецслужбамі. Лёс паэта быў, зразумела, у руках іх. Яны вырашалі. Некалі, калі Расія зжыве свае імперскія амбіцыі, будуць, пэўна, апублікаваны і матэрыялы-дакументы, якія пральюць святло на трагічны зыход вялікага беларускага паэта.

Што да сакральнай каштоўнасці беларусаў — крыжа Еўфрасінні Полацкай, то, думаю, марна шукаць яго ў нейкіх заакіянскіх фондах. З XVII стагоддзя нашы культурныя каштоўнасці знікалі ў адным напрамку — на ўсходзе. Сёе-тое асела, канешне, і на Захадзе, але не столькі.

*— Дзе сёння яшчэ ляжаць некранутыя скарбы беларускай літаратуры, гісторыі і культуры, куды трэба ехаць беларускім даследчыкам і паднімаць гэтыя архівы?*

— Наконт твораў літаратуры, філасофскай думкі, народнай культуры, то яшчэ нямала можна знайсці іх у архівах Вільні-Вільнюса, Кракава, Львова. У Вільні досыць поўна захавалася спадчына нашага філосафа і крытыка Уладзіміра Самойлы. Даўно пара яе сабраць і выдаць. Варта там паглядзець рукапісы М. Нікіфароўскага, зяця Ігната Буйніцкага, вязня польскіх астрогаў даваеннай пары.

Пра беларускія матэрыялы ў польскіх архівах трэба раіцца з Адамам Мальдзісам, Язэпам Янушкевічам, Алесем Бразгуновым: яны паспяхова абжывалі архіўныя сховішчы ў Польшчы.

— *Пра каго і пра што Вы яшчэ не паспелі за сваё жыццё напісаць?*

— Не паспеў напісаць аналітычныя партрэты гісторыка, этнографа і эканаміста Мітрафана Доўнар-Запольскага. Моцная постаць, вучоны еўрапейскага маштабу. З рэжысёрам Юрам Лысятавым зрабілі пра яго ў 1990-я гады кінанарыс. Але сказана пра волата, падзвіжніка навукі да крыўднага мала.

Збіраўся напісаць нарыс-эсэ пра асабіста сімпатычнага асветніка, палітыка, культурнага працаўніка Сымона Рак-Міхайлоўскага. Планаваў выдаць песні з нотнымі запісамі першага беларускага этнамузыколага, руплівуца беларускай народнай песнятворчасці Антона Грыневіча. Пакуль не паспяваю ўсё гэта зрабіць. Таму спадзяюся, маладыя тое зробяць. На шчасце, кола мілоснікаў беларускага слова, беларускага лёсу шырэе. Ім будзе лягчэй і спарней працаваць. А працы на ніве беларускай і ў гісторыкаў, і ў літаратурады мастацтвазнаўцаў вельмі многа. Спадзяюся, што ўсім паспрыяе час.

*2014, люты*



# МІХАСЬ МІРАНОВІЧ: «ПАКУЛЬ ЖОНКА ПЯЧЭ БЛІНЫ НА СНЯДАНАК, Я ПАСПЯВАЮ ВЫПЕЧЫ ФРАШКУ»

Даўно хацеў набыць кніжку вершаў беларускага сатырыка і гумарыста Міхася Мірановіча з Віцебска. І вось нядаўна натрапіў у адной з кнігарняў Мінска на зборнічак «Жартачкі». Ехаў дамоў і чытаў. А многія проста запамінаў, каб калі-нікалі сяброў павесяліць. Ну, напрыклад, такімі радкамі:

Я цябе абдымаць не бяруся,
Хоць і маю жаданне нястрымнае.
Толькі гляну на стан твой, Маруся, —
Хіба ж можна абняць неабдымнае?!

Міхась Мірановіч сёння даволі папулярны сатырык на Беларусі. Яго друкуюць выданні найбольш дэмакратычных



*Міхась Мірановіч*

паглядаў, ён часта выступае сярод моладзі, выдаюцца яго кнігі.

Нарадзіўся паэт на Ушаччыне ў вёсцы Старына 65 гадоў таму. Скончыў Львоўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Івана Франко. Працаваў лабарантам, выкладчыкам, інжынерам-канструктарам, інспектарам дзяржнагляду за стандартам, начальнікам аддзела кадраў. Цяпер працуе вядучым інжынерам на адным з прадпрыемстваў Віцебска.

Найбольш вядомыя яго вершаваныя гумарыстычныя карацелькі-фрашкі. Піша і літаратурныя пародыі. Напісаў тры кніжкі для дзяцей. Перакладае з украінскай мовы: П. Глазавога, А. Вішню, С. Руданскага, А. Каламійца, В. Івашчанку, з польскай мовы: С. Лема, А. Пацямкоўскага, В. Брудзінскага, украінскі і польскі народны гумар. Пераклаў на беларускую мову камедыю М. Старыцкага «За двума зайцамі» і драму І. Масляніцынай «Крыж Еўфрасінні», якія ідуць зараз на сцэне Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. Мае больш за 1,5 тысячы літаратурных публікацый, выдаў шмат сатырычных кніг. У 2003 годзе стаў лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Кандрата Крапівы. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Нядаўна я пасядзеў за келіхам піва са спадаром Міхасём, і ў нас атрымалася вось такая гутарка, якую вырашыў уключыць у сваю кнігу.

*— Спадар Міхась, як так сталася, што радыёфізік раптам стаў вясёлым лірыкам?*

— У гады майго студэнцтва ў грамадстве і ў СМІ было вельмі модна дыскутаваць на тэму: фізікі і лірыкі. І хаця я быў фізікам (дакладней, згодна з дыпломам — радыёфізікам), але любіў часам, начытаўшыся фантастыкі, пагартаць і зборнік лірычных вершаў. І, каб канчаткова прыйсці ў процістаянні «фізікі — лірыкі» да кансенсусу, ахвяраваў сабой — сам стаў пісаць вершы. Такім чынам, магу канстатаваць, што зараз падзел паміж фізікамі і лірыкамі праходзіць менавіта па мне:



Ідуць дажджы, ідуць гады,
Ідуць у далеч магістралі…
І я іду, іду туды,
Куды вы зноў мяне паслалі…

*— У Вас шмат выйшла з друку гумарыстычных зборнікаў, нават ёсць і такі назоў зборніка, як «Міранізмы». Гэта Вамі прыдуманы аўтарскі брэнд?*

— Калі я думаў, як назваць сваю першую кніжку гумарыстычных вершаў, дык на памяць прыйшоў назоў, якім іншым разам называюць кароткія гумарыстычныя творы, — **іранізмы**. Не доўга думаючы, я прырабіў да гэтага слова першую літару ад свайго прозвішча — вось і атрымалася: **міранізмы**. З таго часу так і называю свае фрашкі — міранізмамі.

Дадам, што паэты — народ ганарысты. А гумарысты — і больш таго. Звычайна пад нізкай вершаў, што калі-нікалі друкуе якая-небудзь газета або часопіс, прозвішча аўтара ставіцца агулам адзін раз. А ў мяне кожны верш нагадвае прозвішча аўтара — міранізм! Вось адзін з іх:

Хоць мы тады не зараблялі,
Але ўсё роўна дружна адабралі.
Цяпер жа мы не адабраем,
Ды ўсё адно не зарабляем.

*— Мне падабаюцца назвы Вашых зборнікаў — «Жартачкі», «Хаханькі», «Смешачкі», «Фрашкі» і г. д. Ці лёгка яны пішуцца і ці пішуцца штодзень?*

— Я лічу, што форма павінна адпавядаць зместу. Таму хочацца, каб гумарыстычная кніга мела вясёлую вокладку, такую ж вясёлую назву. Ёсць у мяне, напрыклад, зборнікі гумару, якія называюцца: «*Квадратны дурань», «Віляй усмешкай», «Істэрыка гісторыка», «Бабулі-васьмікласніцы», «Ветэраны сексуальнай рэвалюцыі», «П’яная мэбля», «Палоннік палонкі», «Заслугі папругі», «Рэвізія і правізія»* і г. д.

Наконт таго, як я пішу. У Юрыя Алешы быў дэвіз: ні дня без радка! Я яго сабе крыху падправіў: ні дня без фрашкі! І кожным ранкам, прачынаючыся а палове шостай (старэчая

бяссонніца таму спрыяе), саджуся за стол. І пакуль жонка пячэ бліны на сняданак, я паспяваю выпечы фрашку-другую. Тым больш, што ранкам, на свежую галаву, пішацца намнога лягчэй:

Калі добра разабрацца —
Маем мы адказ прамы:
Так ніхто не любіць працу,
Як не любім яе мы!..

*— Ці часта Вас запрашаюць на сустрэчы і ці не ўзнікаюць праблемы пасля Вашых чытанняў і выступленняў?*

— Чаргі жадаючых запрасіць мяне на выступленне пакуль што няма. Але сяды-тады даводзіцца сустракацца з чытачамі тварам да твару (прынамсі, на юбілеях і прэзентацыях). Асаблівых складанасцяў падчас выступленняў не ўзнікала, бо імкнуся рэальна ацэньваць абстаноўку: што і каму чытаць?.. Вось напрыклад:

Гармоніі нам не ўтварыць,
Няма у гэтай справе зрухаў —
Шмат тых, хто ўмее гаварыць,
І мала тых, хто ўмее слухаць.

*— Ва Украіне, у Расіі, Польшчы на тэлебачанні шмат гумарыстычных перадач. У Беларусі іх мала, але і тыя даволі прымітыўныя, асцярожныя, нясмешныя. Чаму?*

— Калісьці, жывучы ў Львове, я рэгулярна бегаў да газетных шапікаў, каб купіць свежы нумар польскага гумарыстычнага часопіса «Шпількі», які чытаў запоем, дзівячыся смеласці асобных матэрыялаў, карыкатур. Ні савецкі часопіс «Крокодил», ні беларускі «Вожык» сабе такіх вольнасцяў не маглі дазволіць (ці, дакладней, ім не дазвалялі). Але праз нейкі час і «Шпількі» затупіліся — сталі такімі ж бяззубымі, як «Крокодил» у Расіі і «Вожык» у Беларусі. Якія часы — такі і гумар!

Тое ж самае і ва Украіне. У нядаўнім мінулым я з задавальненнем глядзеў з Кіева гумарыстычную (больш дакладна — сатырычную) тэлепраграму «Вячэрні квартал». Але ад нядаўна яна прапала з тэлепраграм.



Што да расійскіх гумарыстычных праграм, то намагаюся не прапускаць КВЗ (клуб вясёлых і знаходлівых). Іншыя ж «аншлагі» і «крывыя люстэркі» — не па майму густу.

Хто — ў фільматэку, хто — ў відэатэку.
І я нічым не горшы, чым яны:
Наладжвае мне жонка дыскатэку —
На кухні ў выхадны пячэ бліны.

*— Які гумар сёння любяць слухаць беларусы? Ці наогул яго баяцца?*

— Беларусы, як і ўсе нармальныя народы, любілі і любяць гумар. Заўсёды прыязна ўспрымаецца гумар на бытавыя тэмы, сямейны, пра п'яніц. Магчыма, трохі меншым поспехам карыстаюцца філасафізмы. Ды і не дзіўна — не кожнаму, хто прыйшоў, каб паслухаць гумарыста, адпачыць і пасмяяцца, хочацца пры гэтым яшчэ і думаць!

Не паўтарай
Дарэмна мне!
Не згодны я
Ні ў якім разе:
Я ж добра помню —
На гумне!..
А ты гаворыш —
У экстазе!..

*— Што сёння вясёлае ў Вас напісалася?*

— Летам 2013 года дзякуючы спонсару выйшла з друку першая кніжка маіх міранізмаў «Жартачкі» (у трох тамах). І ўвесь наклад (1000 паасобнікаў) — у мяне на руках. Ёсць дамова на продаж з асобнымі кнігарнямі Мінска і Віцебска, але ў крамах кніжка разыходзіцца не вельмі хутка. А ўмова спонсара — прадаць наклад першага тома і на гэта выдаць другі. Так і з трэцім томам. Лепш справы з рэалізацыяй ідуць на прэзентацыях. Але для гэтага трэба мець час, а я пакуль

што — працую. Магу высылаць кніжкі поштай, з аўтографам — калі хто зацікавіцца… Ну, гэта так, для рэкламы…

А вось сёе-тое з другога тома «Жартачак», які чакае свайго выдання:

**Межы**

Шкада,
Але прызнаць належыць,
Што розум недзе
Мае межы.
Ды толькі
Самае паганае,
Што глупства —
Неабмежаванае!..

**Грошы мяняюць людзей**

Нейк яно
Так ідзе,
Як не з усімі —
З асобнымі:
Грошы
Мяняюць людзей,
І, што істотна, —
Больш дробнымі.

**Ты мяне не заўважаеш**

Мяне няўвагай
Зневажаеш,
І твой галоўны
Недахоп:
Што ты мяне
Не заўважаеш —



Купі больш моцны
Мікраскоп!..

**Народ і мова**

Ёсць прыкладаў
У свеце дастаткова —
Няма народа,
Ды жывая мова.
А вось у нас
Усё наадварот —
Знікае мова,
Хоць жывы народ.

**Краса і розум**

Сябры,
Заўважу адназначна —
Лепш прыгажосць,
Чым розум, мець:
Краса адразу
Добра бачна,
А розум —
Трэба разглядзець!..

**Часцей страчаюцца**

Няўзнак
З'яўляецца трывога —
Ліхія весці
Прыкмячаюцца:
Благіх людзей
Не так і многа,
Але яны
Часцей страчаюцца.

**Угавораныя раней**

Ну што, сябрук,
Пра гэта гаварыць? —
Мы ад разваг —
Даўно ўжо ў старане.
Нам шмат каго
Ужо не ўгаварыць —
Мы ходзім
Да ўгавораных раней.

**Не выпіць столькі!..**

Раней я знаў,
Што з дамамі рабіць —
Крыху хільнуўшы
Перад гэтым толькі.
Раней я мог
Усякую любіць,
А сёння ўжо —
Не здольны выпіць столькі!..

**Гонар і ганарлівасць**

Шкадаванне ёсць,
А ёсць шкадлівасць…
Нам заўжды
Не тое выбраць сабіць.
Гонар май,
Але не ганарлівасць —
Ганарлівасць
Гонару не робіць.

*— Які лёс чакае беларускі гумар?*

— Я спадзяюся, што ў беларускага гумару, як і ва ўсёй нашай літаратуры, ёсць перспектывы. І цалкам верагодна,



што ў гэты самы час недзе пакуль што невядомыя аўтары, глынуўшы па чарцы для настрою, заселі ўжо за сучасны «Сказ пра Валасатую гару ці за Панаса на Парнасе». Вось пасмяемся!.. Колькі ж можна плакаць? Карыстаючыся нагодай, хацеў бы згадаць пра свае стасункі з польскім гумарам. Пра «Шпількі» я ўжо ўспамінаў. Многае з таго, што мне падабалася ў «Шпільках», я перакладаў на беларускую мову. Атрымаліся чатыры зборнікі польскага гумару: «Шпількі», «Прыколкі», «Ах, пані, панове!..», «Смеху варта», асобныя кніжкі Анатоля Пяцямкоўскага «Кніга скаргаў» і Веслава Брудзіньскага «Прыдумкі». Пераклаў зборнік польскай гумарыстычнай фантастыкі «Аазіс» і зборнік Станіслава Лема «Ратуйце космас!».

*— Ну і на развітанне раскажыце нам яшчэ адзін вясёлы жарцік.*

— Калі ласка.

Зайшоў да сваякоў Амброс,
Сказаў, на лаву сеўшы:
— Такі на вуліцы мароз —
Ажно спацеў, дрыжэўшы!

*2014*

## МІКОЛА ЧАРНЯЎСКІ: «ГРЭЦЦА ТЫМ, ШТО РОДНАЕ, СВАЁ…»

З беларускім літаратарам Міколам Чарняўскім зрабіць інтэрв'ю марыў даўно. Мае равеснікі, а таксама старэйшыя і маладзейшыя сённяшнія пісьменнікі Беларусі вельмі шмат абавязаны гэтаму чалавеку — нашаму настаўніку ў літаратуры. Гэта ён, працуючы некалі ў часопісе «Бярозка», на працягу больш двух дзесяцігоддзяў вучыў хлопчыкаў і дзяўчынак з розных куткоў Беларусі пісаць вершы, апавяданні, замалёўкі, вучыў, як стаць Пісьменнікамі.

Пісаў школьнікам у «Бярозку» і я. Сёння часта праглядаю Міколы Чарняўскага лісты-адказы на мае вершы, якія



*Мікола Чарняўскі. 1982 г.*

дасылаў у часопіс. Я іх амаль усе збярог. Гартаю і старыя нумары самай найпрыгажэйшай на свеце «Бярозкі», успамінаю маленства, школу, вёску — і слёзы, як сок з бярозы, льюцца з вачэй. Ніхто і ніколі сёння не замяніць іншым выданнем у Беларусі нашай «Бярозкі». Хаця цяпер выдаецца шмат розных «пераходных ўзростаў», але гэта зусім не тое, яно проста нам чужое. А часопіс «Бярозка», у якім працаваў літкансультантам Мікола Чарняўскі, быў літаратурнай кузняй, на талентах якой сёння трымаюцца ажно дзве пісьменніцкія арганізацыі ў Беларусі. На самы вялікі жаль, часопіс «Бярозка» сёння ў Беларусі ўжо не выдаецца. Але, дзякаваць Богу, жыве наш Настаўнік літаратуры Мікола Чарняўскі, з якім мне пашчасціла зрабіць гэта інтэрв'ю.

*— Мікалай Мікалаевіч, Ваш першы верш быў надрукаваны ў газеце «Піянер Беларусі» (цяпер «Раніца») 56 гадоў таму. Ці памятаеце Вы, як гэта было і як туды патрапілі Вашы вершы? Хто Вас на гэта натхніў?*

— Нярэдка бывае, калі сустракаюся з чытачамі ў школах і бібліятэках, мне задаюць пытанне: з чаго ўсё пачыналася, як з'явіліся першыя вершы, што падштурхнула ўзяцца за пяро, захапіцца паэзіяй? Адказ быў і ёсць адзін: кнігі, цікавасць да мастацкай літаратуры, захапленне ёю, асабліва паэтычнымі творамі, і, вядома ж, любоў да нашай роднай мовы. Шчырая, пранікнёная, ад першага пачутага і зразуметага табою слова ў хаце, ад першага прачытанага радка ў школьным «Буквары».



Яшчэ ж так склалася жыццё, што мой бацька, як казалі тады, быў «вечным пастухом» у калгасе. Зыходзячы з гэтых абставін я таксама змалку зведаў смак пастухоўскага хлеба. Ад рання да змяркання гойсаў з пугаю за статкам у полі, то падмяняючы бацьку ў пару сенакосу ды жніва, то самастойна падрабляючы на падручнікі ды на такую-сякую адзежыну ці чаравікі, адпасваючы за вяскоўцаў радоўкі. Аднак гэты нялёгкі, не такі ўжо вясёлы час успамінаецца ўсё ж з нейкім асаблівым пачуццём: ён таксама спрыяў майму захапленню, паддаваў ахвоты ў складанні вершаў, бо кожны раз, выганяючы ў поле статак, клаў у торбачку з полуднем адну ці дзве кніжкі, якія браў у небагатай школьнай бібліятэцы або ў вясковай хаце-чытальні. Знаходзілася ў той торбачцы і месцейка для запаветнага агульнага сшытка, куды, седзячы на купіне ці пад стогам, запісваў вершаваныя радкі, што прыходзілі ў душу ад сустрэчы з хараством летніх світанкаў і надвячоркаў, з васількамі на жытнёвых узмежках і сцежках.

Беліцкая сярэдняя школа, куды я пайшоў вучыцца, скончыўшы сямігодку ў роднай Будзе-Люшаўскай, знаходзілася за 13 кіламетраў ад нашай вёскі, ужо ў суседнім Рагачоўскім раёне. Матавозам, які падвозіў па вузкакалейцы рабочых торфапрадпрыемства «Беліцкае», а нярэдка і пехатою, кожны дзень, у дождж і завею ды мароз даводзілася дабірацца на заняткі ў школу, вяртацца прыцемкам з яе пад марш галоднага жывата. І ў такія «паходы» за дарогу шмат што прыходзіла ў галаву, круцілася ў ёй, складвалася ў радкі, тут жа, на хаду, занатоўвалася ў сшытак, каб, чаго добрага, раптам не выпала з памяці, не згубілася…

Менавіта ў час вучобы ў Беліцкай СШ найбольш сур'ёзна праявілася цяга да вершаскладання. Нямала паспрыяў гэтаму выкладчык рускай літаратуры Георгій Раманавіч Голухаў. Апрача свайго прадмета ён сэрцам любіў паэзію, усяляк імкнуўся падтрымаць тых вучняў, што цікавіліся ёй, спрабавалі займацца рыфматворчасцю. Пад яго непасрэдным прыглядам працаваў у школе літаратурны гурток, выходзіла насценгазета, выдаваліся рукапісныя альманахі,

дзе змяшчаліся першыя спробы пяра нашых пачаткоўцаў. Падахвочаны такой магчымасцю друкавацца, я нават прыдумаў для свайго літаратурнага выдання эпіграф. Ён быў вершаваны, прасякнуты пэўнай філасофскасцю ў дачыненні да свайго паэтычнага захаплення: «Хаця не звонкі яшчэ маю голас, не вельмі цвёрдая мая рука, ды знаю: з зерня вырастае колас, рака бярэ пачатак з ручайка». З тым, што пісалі, часцяком «выходзілі на людзі»: літаратурныя вечарыны ладзілі ў школе, ездзілі з выступленнямі да суседзяў — у вёскі Гарадзец, Стоўпню.

Знаёмства з творчасцю такіх жа пачаткоўцаў, як і я, чые вершы часта друкаваліся ў газетах «Піянер Беларусі» і «Зорька», падштурхнула мяне таксама (хоць зноў паўтараю гэта слова, ды яно сапраўды так) паспрабаваць удачы на іх старонках. З нецярпеннем чакаў адказаў з рэдакцыі. Адказы прыходзілі, ды не заўсёды суцяшальныя для зялёнага пачаткоўца. Шмат было крытычных заўваг. Здзіўляюся цярплівасці, якую праяўлялі ў адносінах да маіх паэтычных дамаганняў Хведар Жычка з «Піянера Беларусі» і Міхась Герчык з газеты «Зорька», разбіраючы іх прыдзірліва, грунтоўна, падказваючы нават, як вызначаць рытміку радкоў, бо гэты рытм чамусьці, як дрэнна падкаваны конь, часта «кульгаў». Памятаю, Міхась Герчык не-не ды апрача ўсяго астатняга не забываў нагадаць, што ў маіх рускамоўных вершах (а я спачатку спрабаваў «забрытаць» Пегаса, карыстаючыся двухмоўем) часта сустракаюцца беларускія словы. Параіў выбраць нейкую адну мову: ці рускую, ці беларускую. Што я ўрэшце і зрабіў. Пачаў пісаць на мове, якую лепш ведаў, якая была бліжэй да сэрца.

Першы мой верш надрукаваны ў газеце «Піянер Беларусі» 18 ліпеня 1958 года. І называўся — «Васілёк». Усяго восем радочкаў:

Пасяліўся ён у збожжы,
І віднеецца здалёк
Такі сіненькі, прыгожы —
Беларускі васілёк.



Пад праменнем жыта спее,
Долу гнуцца каласкі.
Васілёк між іх сінее,
Як нябесны той блакіт.

Забягаючы наперад, хачу прывесці такую дэталь, магчыма, цікавую для ўсіх, хто чытае гэтую нашу гутарку-споведзь: вобраз сінявокага васілька, дата яго з'яўлення ў друку, сталі ў маім далейшым жыцці, можна сказаць, пасвойму зорнымі, знакавымі. Пад дэвізам «Васілёк» я двойчы станавіўся лаўрэатам закрытых рэспубліканскіх конкурсаў на лепшы твор для дзяцей; менавіта 18 ліпеня, але ўжо 1970 года, нарадзіўся мой сын-першынец Саша, чаму я таксама быў бязмежна рады….



*Іван Курбека, Авяр'ян Дзеружынскі, Мікола Чарняўскі і Антон Бялевіч (злева направа) каля Дома-музея Якуба Коласа ў Мінску. 1960-я гады*

— *Але на гэтым Вы не спыніліся, працягвалі пісаць і дасылаць свае новыя творы ў іншыя выданні. Так?*

— Так. «Аблога» рэдакцый працягвалася, і праз год з хвосцікам пашчасціла «засвяціцца» ў часопісе «Вясёлка», куды я адважыўся разоў колькі «пастукацца» з вершамі і празаічнымі абразкамі. Асабліва мяне, дзесяцікласніка, дзівосна ўзрадавала «Вясёлка»: змясціла адразу два вершы — «Дзяжурны» і «Простая навука», ды на ўсю старонку!

— *А ганарар быў тады?*

— Яшчэ больш уразіў ганарар, што атрымаў я, — аж чатырыста «сталінскіх» рублёў. Іх хапіла на тое, каб у пасялковай сталоўцы разы два ці тры адведаць смажанай траскі і гарбаткі з булачкай, а сястра Рыма, можа, дабавіўшы трошкі

сваіх, купіла ў Гомелі прыстойны касцюм, у якім я потым прыехаў у сталіцу вучыцца.

Будучы школьнікам, шмат друкаваўся ў раённай газеце: вершы, нарысы, фельетоны, карэспандэнцыі, рэцэнзіі-водгукі на новыя кнігі. Сёе-тое з допісаў змагло прабіцца на старонкі рэспубліканскіх газет «Калгасная праўда» і «Чырвоная змена». Як на ўсё гэта пісанне хапала часу і цярпення — сам цяпер дзіўлюся!

*— Як Вы трапілі ў рэдакцыю газеты «Піянер Беларусі»?*

— Пры паступленні ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, куды я вырашыў пайсці вучыцца на беларускае аддзяленне філфака ўлетку 1960 года, мне да прыкрасці не пашанцавала: не дабраў на ўступных экзаменах патрэбных балаў і быў залічаны не на стацыянар, як разлічваў, а на вячэрняе аддзяленне, якое толькі адкрылася ва ўніверсітэце. Добра не ведаючы, што гэта такое — быць студэнтам-вячэрнікам, — прыняў «выклік», прыехаў у Мінск. Аказалася, трэба самастойна шукаць прытулак, спалучаць вучобу з працай. Першую праблему ўдалося вырашыць хутчэй: хоць «зайцам», ды ўладкаваўся ў інтэрнаце. За што ўдзячны быў хлопцам (найперш — Міколу Маляўку), з кім паспеў зблізіцца і здружыцца падчас здачы ўступных экзаменаў. А вось з працаўладкаваннем… Апынуўшыся ў ролі «вольнага студэнта», я зачасціў у рэдакцыю «Піянера Беларусі». Сядзеў, назіраў за працай людзей, якіх добра ведаў па шматлікіх газетных публікацыях, па пісьмовых адказах, што прысылалі яны мне з рэдакцыі, пранікаючы ў таямніцы рэдакцыйнай «кухні», назіраючы, як робіцца газета. Там ужо ведалі, што я рос без маці, у беднай сям'і, чакаць дапамогі з вёскі асабліва не выпадае, таму спагадліва паставіліся да той сітуацыі, у якой я апынуўся, і… адбылося тое, аб чым я нават марыць не мог: мне знайшлося месца ў рэдакцыі, я стаў супрацоўнікам газеты, атрымаў пасведчанне, займеў свой стол у рэдакцыйным кабінеце, з дрыготкай у душы, але пачаў брацца за літаратурную пошту. Хоць Васіль Зуёнак — загадчык аддзела, пераемнік Хведара Жычкі, — перад тым



як аддаць адказы, падрыхтаваныя мною, на машынку, сам іх прачытваў і нярэдка папраўляў, хвалявання было нямала: ці спадабаліся мае адказы, ці грунтоўныя, пераканаўчыя, як гэта ўмелі рабіць Хведар Жычка дый сам Зуёнак? Так воляй-няволяй вучыў іншых працаваць над вершамі і вучыўся гэтаму сам.

У рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», у вольны час, калі ўсе разыходзіліся дадому, я на старой машынцы спасцігаў майстэрства друкавання, адстукваючы адным пальцам радкі свайго першага зборніка вершаў для дзяцей «Дзе лета канчаецца». Ён выйшаў у 1963 годзе, калі мне толькі стукнула дваццаць, а сам я ўжо змяніў месца працы — год адпрацаваў рэдактарам зарубежнага вяшчання Беларускага радыё, рыхтаваў літаратурныя перадачы на роднай мове для слухачоў-землякоў, якія па волі лёсу ў розныя часы апынуліся за межамі Бацькаўшчыны. На той час з'яўленне маёй кніжкі выглядала нейкай неверагоднай выпадковасцю, бо прабіцца ў выдавецтва, трапіць у тэматычны план, адваяваць там «пазіцыю» было надзвычай цяжка. Ды кніжка выйшла. Не ведаю, колькі б я чакаў такога свята, каб не сяброўская падтрымка, якая нечакана паспрыяла мне стаць «ранняй птушкай» у дзіцячай паэзіі.

*— І што гэта была за сяброўская падтрымка?*

— Пры рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» тады вельмі ажыўлена працавала літаратурнае аб'яднанне. На пасяджэнні ў Доме друку збіраліся яго ранейшыя «выпускнікі» Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Юрась Свірка, Янка Сіпакоў, Уладзімір Паўлаў, Сымон Блатун, Кастусь Цвірка, Сцяпан Гаўрусёў, Васіль Макарэвіч — паэты, якія паспелі ўжо чынна заявіць пра сябе ў літаратуры, адзначыцца аднойдзвюма кніжкамі. Кіраўнічыя лейцы трымаў у руках такі ж малады Іван Калеснік, які на той час займаў у рэдакцыі пасаду загадчыка аддзела літаратуры і мастацтва. Стаўшы студэнтамі, блізка пазнаёміўшыся ў мінскім інтэрнаце на вуліцы Свярдлова, прыходзілі на пасяджэнні і мы, яшчэ маладзенькія, мала абстраляныя ў творчасці пачаткоўцы:

Анатоль Сербантовіч, Мікола Маляўка, Хведар Чэрня, Генадзь Дзмітрыеў, Алесь Масарэнка, Казімір Камейша, Марыя Шаўчонак, Вольга Іпатава, Пятро Сушко, Іосіф Скурко, Міхась Зарэмба, Міхась Вышынскі, Анатоль Чачотка, Мікола Міцкевіч, Рыгор Семашкевіч і іншыя. Праўда, больш незалежна і самастойна трымаўся адзін з нас — Толя Сербантовіч. У яго на гэта былі прычыны — яго вершы вылучаліся сярод нашых сваёй паэтычнай адмысловасцю, нечаканасцю вобразаў і параўнанняў, а яшчэ — максімалісцкай задзірыстасцю і смеласцю. Ды ў Міколы Маляўкі яшчэ….

Восенню 1961 года на адным з пасяджэнняў літаб'яднання прайшло абмеркаванне маіх вершаў (разбіралі ўсіх пачаткоўцаў па чарзе, усім перападала адпаведная доля крытыкі і пахвалы). Адзначалася і добрае, і няўдалае. Самі пачаткоўцы дужа не цырымоніліся, разбіралі прыдзірліва, да самых костачак, як кажуць. Не было скідкі і ў дачыненні да мяне. Аднак у той раз чамусьці ўсе прыйшлі да думкі, што мае дзіцячыя вершы вартыя таго, каб іх выдаць асобнай кніжачкай, ад імя літаратурнага аб'яднання прапанаваць іх выдавецтву. Вызначылі «куратара», як сказаў Юрась Свірка — «хроснага бацьку». «Збяры ўсё, што лічыш лепшым, пакажы мне, а пасля занясеш у выдавецтва», — сказаў пасля пасяджэння Рыгор Барадулін, той самы абраны ўсімі «хросны бацька». Ён паспеў ужо выдаць дзве ўласныя кніжкі «Маладзік над стэпам» і «Рунец, красавац, налівацца» і, нягледзячы на малады ўзрост, карыстаўся аўтарытэтам. За свой несумненны талент, канечне, адметнасць у тагачаснай паэзіі.

Я сабраў свой «скарб». Прагледзеўшы яго, дзе-нідзе падправіўшы, Рыгор Іванавіч (тады ж — проста Рыгор, як ён прасіў яго называць) напісаў пісьмо-суправадзілаўку на імя Авяр'яна Дзеружынскага, які працаваў рэдактарам выдавецтва і, мабыць, ужо меў з ім творчыя стасункі. З дрыготкай у каленях, з боязззю панёс я свой рукапіс у выдавецтва. Хваляванне прайшло, як толькі пераступіў парог рэдакцыі дзіцячай літаратуры і аддаў свой рукапіс. І загадчык рэдакцыі Уладзімір Шахавец, і Авяр'ян Дзеружынскі, тут жа прабегшы мой рукапіс, сказалі: «Аснова ёсць. А там — дабавіш яшчэ з новага, што напішацца. Будзем планаваць на 1963 год». А пісьмо-суправадзілаўку пакінулі: «Гэта замест рэцэнзіі будзе».



Праз няпоўныя два гады мая першая «ластаўка» якраз вясною, у майскія дні, на маю радасць «выпырхнула» ў свет. Сустрэлі яе, чаго я, прызнаюся, не чакаў, прыветліва. «Задушэўна, з пачуццём», — напісаў у газеце «Літаратура і мастацтва» Васіль Макарэвіч. «Ці канчаецца лета?» — запытвала Еўдакія Лось, разглядаючы кніжкі дзіцячых паэтаў, што выйшлі па тым часе. Загаловак рэцэнзіі ішоў ад назвы майго зборніка «Дзе лета канчаецца».

*— Але ж Вы акрамя дзіцячых вершаў пісалі і прозу. Калі і якім празаічным творам дэбютавалі?*

— Пройдзе яшчэ два гады — і адбудзецца мой дэбют і ў прозе: асобнай кніжкай выйдзе гумарыстычная аповесць «Бегунок пачынае думаць», напісаная па слядах нядаўняга школьнага маленства. Яна, лічу, яшчэ болей падмацавала мой літаратурны статус — статус дзіцячага пісьменніка. Маючы такі, здавалася б, даволі пераканаўчы літаратурны «задзел», можна было б, як раілі некаторыя старэйшыя таварышы, адважыцца падаць заяву на прыём у Саюз пісьменнікаў Беларусі, ды я не пабаяўся, а пасаромеўся зрабіць гэты крок: падумалася, замалады яшчэ, за выскачку палічаць. Куды спяшацца, паспею. Будуць кніжкі выходзіць — прымуць. Прынялі, але ў 1972 годзе, калі я ўжо быў аўтарам 5 кніг паэзіі і прозы.

*— А цяпер у Беларусі ў Саюз пісьменнікаў прымаюць і без кніжак. Так?*

— Цяпер дзіўлюся з некаторых маладых: толькі паспее «выціснуць» кніжачку з аркушык у нейкай прыватнай друкарні, а ўжо ляціць з ёю ў СП — прымайце! І, як ні дзіўна, дамагаюцца свайго, іх прымаюць. Не задумваючыся, магчыма, што зрабілі такому спрытняку мядзведжую паслугу: навошта дбаць пра майстэрства, творчы рост, калі

запаветнае пасведчанне ўжо ў тваёй кішэні? Можа, я памыляюся, сцвярджаючы такое, але ж пазнейшыя назіранні за творчасцю гэтых аўтараў даволі часта ўсё ж пераконваюць, прымушаюць заставацца пры такой сваёй думцы….

*— А цяпер, Мікалай Мікалаевіч, вернемся да часопіса «Бярозка», якому Вы аддалі амаль чвэрць стагоддзя.*

— Запрашэнне ў «Бярозку» я атрымаў восенню 1966 года. На гэты час я ўжо скончыў вучобу ў БДУ, меў дыплом філолага і ажно… месяц настаўніцкай практыкі ў мінскай вячэрняй сярэдняй школе. Доўга не раздумваў: праца ў часопісе была бліжэйшая майму сэрцу, а галоўнае — бліжэйшая да дзіцячай літаратуры, да многіх пісьменнікаў, да ўласнай творчасці. Дый тут ужо ўсе мяне добра ведалі, а я ў сваю чаргу гэтак жа добра ведаў усіх, хто працаваў тады ў рэдакцыі часопіса….

Першы раз парог «Бярозкі» я пераступіў у жніўні 1960 года, калі пасля школы прыехаў паступаць у Белдзяржуніверсітэт. Насустрач мне з-за стала, што стаяў упрытык да акна, рухава падняўся малады чарнявы хлопец і, падаўшы руку, скорагаворкай буркнуў сваё імя і прозвішча. Я хутчэй не пачуў, а здагадаўся: Рыгор Барадулін. Памыліцца не мог, бо раней бачыў яго партрэт у даведніку «Пісьменнікі Савецкай Беларусі». Да таго ж — разам надрукаваліся ў ліпеньскім нумары «Бярозкі». Ён выступіў з вялікім вершаваным рэпартажам «Гамоніць Наддзвінне», а я — з вершам «Залатыя рукі», які ўбачыў свет, напэўна, з лёгкай рукі паэта.

Бялявая прыгожая дзяўчына, якая сядзела за сталом бліжэй да дзвярэй, сказала: «Едзьце ў Дом друку, атрымайце ганарар, бо там не ведаюць, куды высылаць яго. Адрасу няма».

Я тады не мог падумаць, што праз нейкі час стану частым госцем і аўтарам у гэтым утульным рэдакцыйным пакойчыку ў будынку ЦК камсамола Беларусі, па вуліцы Карла Маркса, 40, пасябрую з паэтам, а праз шэсць гадоў займу месца за гэтым сталом ля акна, што не адзін год давядзецца шчыраваць над рукапісамі, рыхтуючы іх да друку пад «акампанемент» машынкі «Optima» гэтай бялявай дзяўчыны — Веры Васільеўны Сапега, бо нашы рабочыя сталы часта знаходзіліся па суседству, а праз нейкі час станем нават суседзямі па камунальнай кватэры….



*— І як Вам працавалася ў першыя гады ў «Бярозцы»?*

— «Літаратурную гаспадарку» часопіса я прыняў ад Анатоля Сербантовіча — у папках, надпісаных рукою непаўторнага Рыгора Барадуліна: «Хай аўтары не хвалююцца — адказы друкуюцца», «У друк — значыць, з рук», «Хведаровіч і ўсё на Х….» Скажу адразу: першыя дзве яшчэ доўга служылі мне, а трэцюю палічыў за лепшае прыхаваць, пакласці глыбей у шуфляду стала, каб яна не трапіла на вочы гэтаму самаму Хведаровічу, які часта заходзіў у рэдакцыю, папаўняючы літаратурны запас чарговаю нізкай вершаў.

Аднак не гэта турбавала мяне, навабранца рэдакцыі. Я прыйшоў сюды якраз у пярэдадзень набліжэння гарачай юбілейнай ліхаманкі, прымеркаванай да лічбы 50: гэта 50 гадоў Вялікаму Кастрычніку, камсамолу, БССР, СССР, піянерыі. Сярод іх асаблівую прыступку займаў самы круглы і сцяганосны юбілей — 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна.

І — пачалося! Ніводнага нумара без святочна-юбілейнага твора. Гэтага патрабавалі «зверху», наконт гэтых дат, скажам шчыра, была свая думка і ў галоўнага рэдактара часопіса Кастуся Кірэенкі. Як мы выкручваліся, як змаглі вытрываць усё — аднаму Богу вядома!

*— Як працавалі ў «Бярозцы», былі ў Вас і камандзіроўкі па рэспубліцы?*

— Вядома ж, былі. З тых дзён добра помняцца паездкі ў самыя розныя куткі Беларусі, далёкія і блізкія. З мэтаю падпіскі на часопіс. Тыя камандзіроўкі, трэба сказаць, знаходзілі зацікаўленую падтрымку нашага самага галоўнага «шэфа» — ЦК камсамола. Нам на тры-чатыры дні выдзялялі ведамаснага «казялка», і ціхмяна-ўсмешлівы шафёр Дзіма імчаў нас на Брэстчыну ці Гродзеншчыну, у тыя раёны, дзе падпіска на «Бярозку» ішла тугавата. Паспявалі пабываць у

двух-трох раёнах, «абскакаць» з дзясятак школ. Сустракалі ўсюды нас цёпла, шчыра: «“«Бярозка” прыехала!..» Часам у такія нялёгкія вандроўкі запрашалі пісьменнікаў — нашых актыўных аўтараў. Ніколі не адмаўляў Станіслаў Шушкевіч (бацька палітыка Станіслава Шушкевіча. — *С. Ч.*). Заўсёды ехаў з намі з ахвотай. І выступаў ён цікава, з прысутным яму імпэтам. Дзецям і настаўнікам (ды і нам заадно) было што паслухаць, шмат чаго даведацца: за яго ж плячамі — надзвычай багатае і поўнае нягод і выпрабаванняў у сталінскіх канцлагерах і ссылках жыццё, сотні незабыўных і памятных сустрэч. Аднойчы на Гродзеншчыне, здаецца, перад выступленнем у Рагатнянскай школе, Станіславу Пятровічу раптам стала кепска: пэўна, зрабілі сваё далёкая і дрогкая дарога, частыя выступленні, залішняе хваляванне, якое, напэўна, не-не ды падступае да кожнага з нас, калі выходзіш на сустрэчу з незнаёмай аўдыторыяй, тым болей — з дзецьмі. Па сабе гэта ведаю. А ў тым выпадку… На шчасце, у школе быў медпункт. Паэту зрабілі адзін ці два ўколы. І я, і Алена Міхайлаўна Мімрык, наш адказны сакратар, сказалі яму: «Паляжыце, Станіслаў Пятровіч, мы выступім без вас…» Памятаю, паэт неяк трошкі вінавата ўсміхнуўся і павольна вымавіў: «А чаго ж тады я сюды ехаў? Дзеці ж ведаюць, што я прыехаў, будуць чакаць… Вы пачынайце сустрэчу, а я трохі паляжу і падыду…».

І сапраўды, хвілін праз дваццаць ён з’явіўся ў школьнай зале, падняўся да нас на сцэну, дачакаўся, калі дадуць яму слова, і выступіў з тым жа запалам, што і раней. Напэўна, ніхто са слухачоў на той час і не здагадваўся пра яго немач. Мусіць, дзякуючы такой самаахвярнасці і няўрымслівасці сяброў «Бярозкі» наклад яе часамі падбіраўся да мяжы ў 35 тысяч асобнікаў.

*— А якую-небудзь падзяку ці вымову Вы атрымлівалі ў «Бярозцы», ці ўсё ішло спакойна, гладка, ціха?*

— Тады ж, недзе ўжо на пятым годзе працы ў часопісе, я атрымаў там першую і апошнюю сваю вымову. А было ўсё так. Нейкі адстаўнік-вайсковец (а такіх людзей заўсёды цягне да творчасці) прыслаў у рэдакцыю рускамоўнае апавяданне на ленінскую тэму — «Марка». Я прачытаў яго і здзівіўся: мы ж ужо друкавалі апавяданне пад такой жа назвай, на такі ж сюжэт нашага пісьменніка І. С.! Паспела нават выйсці яго новая кніжка для дзяцей «Марка». Пра гэта я і напісаў таму невядомаму аўтару, не ўдаючыся ў падрабязны разбор твора. Ды і што разбіраць, калі ўсё зразумела: напэўна, плагіят нейкі.



Мінула з тыдзень. Раптам выклікае мяне рэдактар Кастусь Кірэенка. Зайшоў да яго, бачу: сядзіць хмуры, нават сярдзіты. Перад ім нейкае пісьмо ляжыць. «Пачытай», — буркнуў галоўны рэдактар, падсунуўшы яго на край стала. Аказваецца, той аўтар-адстаўнік скардзіўся на мяне, што я западозрыў яго ў плагіяце, і на пісьменніка, якому аднойчы падчас сустрэчы на пагранзаставе аддаў сваё апавяданне з надзеяй, што І. С. яго апрацуе трохі і дапаможа надрукаваць. А той, як выйшла, апрацаваў яго ды… прысвоіў. «Пакажы, што ты адказаў яму», — загадаў Кірэенка. Я прынёс тое апавяданне, копію адказу. Адказ чамусьці не спадабаўся рэдактару: «Ды гэта ж чысцейшай вады адпіска! Чаму не даў аўтару падрабязны адказ, навёў цень на пісьменніка?» Я паспрабаваў запярэчыць: «Я ж напісаў тое, што ёсць. І. С. сам на сябе цень навёў…». Адным словам, апраўдацца не ўдалося, і з’явіўся загад, у якім мне аб’яўлялася вымова за халатныя адносіны да работы над пісьмамі. Відаць, для перастрахоўкі, бо пакрыўджаны аўтар, як падумалася галоўнаму, мог паскардзіцца ў ЦК. А шаноўны І. С. доўга не адважваўся «стукацца» ў рэдакцыю са сваімі новымі творамі.

*— Я памятаю той час, бо шмат школьнікам пісаў да Вас у «Бярозку», у «Піянер Беларусі», скуль на кожны верш атрымліваў адказы. Цяпер такой працы з чытачамі рэдакцыі, на жаль, не вядуць.*

— Хачу сказаць, да пісьмаў тады ставіліся не так, як цяпер. І сталым аўтарам, і дзецям у месячны тэрмін кожны з нас, супрацоўнікаў, павінен быў абавязкова даць адказ. А розных рукапісаў і школьных пісьмаў прыходзіла ў

рэдакцыю не менш за паўтары тысячы ў год. І, вядома ж, найболей іх адрасавалася аддзелу літаратуры і мастацтва. Таму, бывала, нават падчас хваробы папку з надпісам «Хай аўтары не хвалююцца — адказы друкуюцца», не барадулінскую, а ўжо абноўленую, даводзілася браць дадому, каб своечасова даць пісьмовыя адказы. Па сабе ведаў: атрымаць ліст з рэдакцыі, водгук на твой твор — цэлае свята! А калі пахваляць трохі, абнадзеяць мажлівасцю надрукаваць?! І яшчэ ведаў, як крыўдна часам бывае, калі бачыш, што табе адказалі шаблонна, трафарэтна. Вось чаму заўсёды стараўся трымаць далей гэту «трафарэтку», даваць адказы — толькі грунтоўныя, падрабязныя і справядлівыя, якія прынеслі б хоць нейкую карысць пачаткоўцу, дапамаглі яму хутчэй зразумець сакрэты творчасці. Можа, таму наш «Верасок» — старонкі дзіцячай творчасці ў часопісе «Бярозка» — ніколі не адчуваў недахопу ў творах, тут заўсёды было «завозна».

*— Цяпер многія былыя аўтары «Бярозкі» сталі вядомымі літаратарамі.*

— Гэта так. Я і па сённяшні дзень памятаю многія адрасы, тыя мясціны Беларусі, адкуль мне пісалі Алена Руцкая, Люба Тарасюк, Віталь Гарановіч, Анатоль Зэкаў, Вольга Савасцюк, Уладзімір Цанунін, Ірына Арлова, Алесь Усеня, Уладзімір Мазго, Уладзімір Ягоўдзік, Алесь Карлюкевіч, Сяргей Чыгрын, Алесь Гаўрон, Алесь Бельскі, Валянцін Жданко, Леанід Аноп, Галіна Самойла, Галіна Булыка, Алесь Бадак, Святлана Раманава, Уладзіслаў Рубанаў, Люба Дзікавіцкая, Галіна Ракоца, Ніна Гарагляд, Святлана Андрушкевіч, Леанід Пранчак, Алена Масла, Міхась Скобла, Ірына Сінкевіч, Анатоль Шушко, Віктар Шніп, Павел Марціновіч, Аксана Данільчык, Ала Дорская… Хоць і не ўсе, на каго тады спадзяваўся, хто падаваў надзеі, спраўдзілі спадзяванні, сталі літаратарамі, але былых выхаванцаў «Бярозкі», якія звязалі свой лёс з родным словам, сталі прызнанымі майстрамі паэзіі і прозы, таленавітымі журналістамі, навукоўцамі, усё ж такі нямала. Здаралася, некаторыя з іх часова «губляліся» ў віры жыцця, а потым



«знаходзіліся», ішлі далей у літаратуру. Як, скажам, той жа Алесь Емяльянаў, якому я потым даваў рэкамендацыю для паступлення ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Бязмежна рады, што праз дзясяткі гадоў зноў «засвяціліся» ў друку Уладзімір Цанунін, Галіна Самойла, Святлана Раманава… Даруйце, каго яшчэ не ўспомніў.

*— Мікалай Мікалаевіч, часопіс «Бярозка» — не толькі кавалачак нашага жыцця, бо там мы некалі пачыналі друкавацца, але гэта і Ваш асабісты лёс.*

— У «Бярозцы» мне выпала працаваць, кажучы сённяшняй мовай, аж пры чатырох «шэфах» — розных па характары, але падобных у адным: і Кастусь Кірэенка, і Васіль Зуёнак, і Анатоль Грачанікаў, і Вячаслаў Адамчык, будучы цікавымі творчымі асобамі, таленавітымі пісьменнікамі, з пашанай ставіліся да мастацкага слова, да літаратурнай творчасці, да ўсяго роднага, беларускага. Кожны з іх на той час, апрача ўсяго, паспеў зрабіць свой значны ўнёсак у літаратуру для дзяцей і падлеткаў. Ці не таму ёй, літаратуры, вольна і камфортна пачувалася на старонках часопіса: друкаваліся аповесці, шмат апавяданняў, вершаў, перакладаў. І, вядома ж, расквечана кусціўся «Верасок» — літаратурная старонка ў часопісе — з году ў год, з месяца ў месяц, як тых пчолак нектарам, прывабліваючы на свае старонкі сотні юных талентаў. Кожны з нас, ад галоўнага рэдактара да карэктара, клапаціўся, каб часопіс, нягледзячы на ўсе догмы і зацуглянасць, выходзіў змястоўным, цікавым, прывабным, карысным для сваіх чытачоў.

За дваццаць два гады, што пражыты мною ў «Бярозцы», не адпрацаваны, а менавіта пражыты, было ўсё: і радасці, і засмучэнні, і ідэалагічныя прыдзіркі ўладных «бажкоў». Помню, як радаваліся ўсе мы, калі ў дні 50-годдзя «Бярозкі» часопісу ў Тэатры юнага гледача ўрачыста ўручылі высокую ўзнагароду — ордэн «Знак Пашаны»; як здзіўлена паціскалі плячамі, калі за адзін год двойчы выклікалі «на дыван» — на бюро ЦК ЛКСМБ — і распякалі за тое, што часопіс, на іх погляд, слаба асвятляе піянерскае і школьнае жыццё, шмат

друкуе мастацкіх твораў, а менш, чым трэба, праблемных нарысаў, артыкулаў, публіцыстыкі. І зусім разгублена пераглядваліся, калі аднойчы загадчык аддзела прапаганды ЦК КПБ Савелій Паўлаў заявіў на адной нарадзе, што «Бярозка» выходзіць «уся ў крыжах». Такую выснову зрабіў ён пасля публікацыі на старонках часопіса каляровага фотарэпартажу са старажытнага Полацка. Потым, каб не было непрыемнасцей, мастацкаму рэдактару Пятру Драчову калі-нікалі даводзілася ў слайдах са здымкамі храмаў замалёўваць ці проста выразаць… крыжы. Можаце ўявіць сабе — храм без крыжа!

«Бярозка» — часопіс майго маленства, маёй маладосці. Я ўдзячны лёсу, што менавіта «Бярозка» прымала ў мяне экзамен на жыццёвую і пісьменніцкую сталасць. І пазней, калі гаварыў пра часопіс «Вясёлка», дзе мне давялося працаваць апошнія васямнаццаць гадоў, з языка, здаралася, міжволі злятала… «Бярозка». Калі ж чую песню Ігара Лучанка, дзе ёсць пранікнёныя словы паэта Анатоля Вялюгіна: «І сніцца сон з найлепшых сноў — бярозкі дзіўнае святло», я зноў і зноў вяртаюся ў тыя гады, дзе засталася часцінка маёй душы, майго сэрца, бо і песня гэта ствáралася ў рэдакцыі з думкаю пра часопіс «Бярозка». Пра нашу, любімую калісьці «Бярозку», чый лёс цяпер выклікае недаўменне і занепакоенасць, ахутаны туманам невядомасці. Не верыцца, але сёлетняя юбілярка (у снежні «Бярозцы» споўніцца 90 гадоў) змушана, як тая бежанка, сіратліва шукаць прытулку пад дахам часопіса «Маладосць», дзе ёй ахвяраваны нейкі дзясятак старонак, такіх жа шэра-газетных, як і ўсе астатнія.

*— Але чаму напаткаў яе такі незайздросны лёс, што стала прычынаю такога адчужэння і сумнага становішча, з-за чаго «Бярозка» страціла свой твар, а з ім і чытачоў?*

— Лічу (гэта не толькі мая асабістая думка), непапраўную памылку зрабіў у свой час яе галоўны рэдактар Вячаслаў Адамчык: падкуплены імкненнем да модных павеваў і вольнасці перабудовачнай пары, ён раптам, невядома з кім параіўшыся, перавёў часопіс на мову і правапіс граматыкі



Браніслава Тарашкевіча — «на тарашкевіцу». Адразу пасыпаліся скаргі ад школьных настаўнікаў роднай мовы і літаратуры: яны вучаць дзяцей правілам арфаграфіі па ўзаконеных падручніках, а «Бярозка» прапануе ім іншы правапіс, даўно забыты, у нечым нязграбны нават, не зусім сучасны. «Вярхі» асабліва не ўмешваліся, часопіс працягваў друкавацца такім, як задумаў рэдактар, а школы пачалі ігнараваць яго. Само сабой зразумела, цягам нейкага часу адсыпалася значная колькасць падпісчыкаў і чытачоў «Бярозкі». Можна сказаць, ад яе адвярнуліся… Пры той моўнай праблеме, якая склалася ў Беларусі, гэтага ніяк нельга было рабіць. А калі адбылася «змена кіраўніцтва», часопіс, па сутнасці, існаваў толькі адной назвай. І няўрымслівы Уладзімір Ягоўдзік, і Алесь Бадак, і ўвішная Алена Масла (заўважце, былыя бярозкаўскія пачаткоўцы), якім было даручана пазней «верхаводзіць» у «Бярозцы», шмат прыклалі старання, каб вярнуць часопісу былую славу, ранейшы, як кажуць цяпер, «імідж», і, здавалася б, усё пайшло на добры лад, аднак непрадбачаныя перапады ў фінансаванні дзяржаўных выданняў (і, чаго хаваць, тая ж моўная сітуацыя) паступова прывялі да такога невясёлага стану. Тое ж самае сталася і з любімай газетай нашага маленства — «Піянерам Беларусі»: спачатку страціла назву, бо перайменавалася ў «Раніцу», а потым — чытачоў, а затым ёй адвялі сціплы куточак у газеце «Переходный возраст», адкуль яна раз у месяц выходзіць на вочы чытачоў, сяброў роднай мовы. Як каму, а мне шкада, балюча… Праўда, з'явілася надзея, што з другога паўгоддзя, з ліпеня, часопіс «Бярозка» зноў пачне выходзіць у ранейшым фармаце, асобна, я нават з гэтай нагоды па просьбе рэдакцыі прывітальны верш напісаў, а вось «Піянеру Беларусі» («Раніцы») наўрад ці ўдасца выкараскацца з абдымкаў «Переходного возраста», зноў стаць жаданым сябрам для соцень юных літаратараў нашай рэспублікі… Што іх сотні — сам ведаю, бо амаль 30 гадоў быў аўтарам і вядучым на Беларускім радыё штомесячнай літаратурнай перадачы «Першыя сцяжынкі» (на вялікі жаль, і яна перастала існа-

ваць, як і сама рэдакцыя дзіцячых перадач) і ўжо 20 гадоў з'яўляюся кіраўніком літаратурнай суполкі «Купалінка», якая створана на базе школ Мінскага раёна. Можаш сабе ўявіць: толькі ў адным прысталічным раёне актыўна працуе больш за два дзясяткі школьных літаратурных гурткоў, а колькі іх набярэцца па ўсёй Беларусі?! Паказаць жа свае першыя пробы пяра, спазнаць радасць надрукаванага радка юным аўтарам, як самі можаце меркаваць, стала вельмі цяжка. Я міжволі зайздрошчу сабе і сваім равеснікам, у каго ўсё гэта было… І тым хлопцам і дзяўчаткам, да творчага лёсу якіх калісьці прычыніўся сам…

*— Няпростая сітуацыя сёння складваецца і з іншымі беларускамоўнымі выданнямі на Беларусі. У прыватнасці, з сатырычна-гумарыстычным часопісам «Вожык»…*

— Яшчэ гадоў пяць таму такое ж бязрадасна-невясёлае таптанне адбывалася ля парога нашага адзінага сатырычна-гумарыстычнага часопіса «Вожык»: ён таксама раптам перастаў выходзіць, потым, спахапіўшыся, аднавілі выпуск, ды ўжо ў статусе альманаха. Спачатку — двума выхадамі ў год, затым — штоквартальна. Але, дзякуй Богу, сёння «Вожык», маляўнічы, даволі багаты на вершы і прозу, і адпаведна — на гумар, зноў кожны месяц радуе ахвотнікаў усміхнуцца ці пасмяяцца. У залежнасці ад зместу твораў.

*— Мікалай Мікалаевіч, Вы яшчэ добры паэт-сатырык, шмат выдалі вясёлых кніг, а таксама шчыра сябруеце з «Вожыкам».*

— З «Вожыкам» у мяне даўні хаўрус, яшчэ са школьных часоў. Не схлушу, калі скажу, што ўжо тады пачуўся ўва мне сверб да вострага слова, да сатыры і гумару. Рыфмаваў у калгасную насценгазету, слаў фельетоны ў раённую газету. Хоць часам хаваўся пад псеўданімамі, але ж вяскоўцы хутка раскумекалі, хто гэта такі «М. Асака», «М. Люшаўскі». І сатырычны сверб ад няўмольнай «ласкі» пакрыўджаных нярэдка пераўвасабляўся ў канкрэтную рэальнасць — лупцоўку. Тады ж набраўся рашучасці выйсці за межы раёна і «ашчасліваць» сваімі гумарэскамі самога «Вожыка»: а можа, і там надрукуюць! Але ж ліст з рэдакцыі, дасланы Міхасём Пянкратам, прыкметна астудзіў мой запал, нібы падказаў: пачакай! Праўда, чакаў нядоўга, да прыезду ў Мінск. Бываючы ў Доме друку, на пасяджэннях літаб'яднання ў газеце «Чырвоная змена» (таксама ўжо не існуе), часам забягаў і ў рэдакцыю «Вожыка». Тут ужо на свае вочы ўбачыў таго самага Міхася Пянкрата, заўсёды ўсмешлівага Сяргея Дзяргая, цікаўнага Янку Сіпакова, не па-начальніцку лагодных Паўла Кавалёва і Уладзіміра Корбана, якіх рэдка бачыў нахмуранымі, а часцей — з усмешкаю. Прычына заходзіць была: пошукі гумару працягваліся, надзея ўдачы не пакідала.



Што ж да тэм, дык яны пачалі знаходзіцца тут жа, у студэнцкім інтэрнаце па вуліцы Свярдлова, 34, у Мінску ў тым побыце гарадскога жыцця, у якім па сваёй ахвоце апынуўся. У тых абставінах, да якіх трэба было прызвычайвацца…

Уваход у інтэрнат чамусьці знаходзіўся не з вуліцы, дзе ўзвышаўся парадны мураваны ганак і вісела шыльда, а з двара. Мяне, вяскоўца, які не прывык да такога строгага правіла, спачатку здзіўляла, што пры ўваходзе у інтэрнат стаяў стол з засаўкай — своеасаблівым шлагбаўмам, які адчыняўся і зачыняўся дзяжурнымі студэнтамі пасля іх звыклага патрабавання: «Пропуск!». Часам гэтага пропуска ніхто не пытаў, але за гэта дзяжурным, калі яны трацілі патрэбную пільнасць, нярэдка перападала ад «рэвізораў». Часцей — ад прарэктара ўніверсітэта, Героя Савецкага Саюза, генерала ў адстаўцы Кірсанава, які любіў праводзіць нечаканыя рэйды-праверкі нават у позні вечары.

Асаблівай пільнасці вымагалі вечары танцаў. А танцы ў інтэрнацкім вестыбюлі ўсчыналіся не толькі ў суботнія ды нядзельныя дні, але і ў будзённыя: варта было выйсці каму са студэнтаў з гармонікам ці вынесці радыёлу, — і танцы ўспыхвалі самі сабою. І так павялося ўжо, што ў час танцаў і розных там святочных вечарын, якія наладжваліся інтэрнацкімі актывістамі, дзяжурыць і правяраць пропускі заўсёды прымушалі нас, першакурснікаў: нас яшчэ мала ведаюць, мы

нікога не ведаем, асабліва гасцей з чужых інтэрнатаў, нам няма чаго баяцца. Старэйшыя хлопцы — тыя самі часцяком гойсалі на танцы ў суседнія інтэрнаты, дзе, мабыць, тагосяго нехта чакаў, дык яны не хацелі нажываць сабе ворагаў, асабліва не «засвечваліся» на нашай інтэрнацкай прахадной. Нам жа наказ быў строгі: каб ніхто з вуліцы не праслізнуў на танцы! Праўда, такое табу распаўсюджвалася толькі на хлопцаў. Дзяўчат дазвалялася прапускаць без пропускаў: відаць, такія «парушальніцы» не здаваліся «чужымі» і лішнімі для інтэрнацкіх сэрцаедаў.

У хаўрусе з хлопцамі-сябрамі дзяжурыць на нашай «заставе» не адзін раз даводзілася і мне. Калі б не гэтыя змушаныя «пасядзелкі», напэўна, не з’явілася б у мяне тады, кажучы цяперашняй мовай, вершаванага «хіта», які ў тым жа годзе прагучаў па радыё, а крыху пазней быў надрукаваны ў часопісе «Маладосць». Я сам не чуў, але мне казалі, што мой верш «Танцы ў інтэрнаце» ў радыёперадачы для моладзі «прывязалі» да аднаго рэпартажу, дзе пускаліся крытычныя стрэлы ў нейкага каменданта, які ўвёў у студэнцкім інтэрнаце надта суровыя парадкі.

Праязджаючы зімою міма інтэрната, з прыхаванай усмешкаю акідваю вачыма вокны: вокны як вокны, нічога прыкметнага, асаблівага. А тады з надыходам зімы, з прыбліжэннем Каляд, калі ў вёсках пачыналі свежаваць кабанчыкаў, вокны нашага інтэрната набывалі даволі «маляўнічае» відовішча — амаль усе падаконнікі быліastaўлены скрынкамі і скрыначкамі, стракацелі ад падвешаных знадворку торбачак і сетак: халадзільнікаў тады не было, і тыя пасылкі, што прыходзілі ад бацькоў з вёскі, выстаўляліся на холад — за акно. Па меры таго, як яны пусцелі, скрынкі і торбачкі перабіраліся з-за вокнаў пад ложкі і ў тумбачкі, чакаючы зручнага выпадку вярнуцца ў вёску, на адрас клапатлівых матуль і бацькоў. Менавіта з гэтага назірання ўзяўся ў мяне яшчэ адзін «хіт» — гумарыстычны верш «Балада пра скрынку ад пасылкі». Праўда, яму пашанцавала менш: ні на радыё, ні ў друк ён не прабіўся. Здаўся крышку негатыўным, «спісаным з натуры», што тады ў творчасці не



дужа ўхвалялася. Ён застаўся толькі ў рукапісе ды, мабыць, у тых, хто калісь перапісваў яго ў свой сшытак, каб не забыцца, пры нагодзе працытаваць страфу-другую. Спадзяюся, што і табе, Сяргей, падасца цікавай згадка маёй маладосці, а я сам усцешуся тым, што гэты верш будзе надрукаваны ў тваёй новай кнізе:

Гляджу, як за акном паблеклаю касынкай,
Апошняй іскрай дагарае дзень,
І вецер свішча ў скрынцы ад пасылкі,
Мяцеліца на ёй сляды кладзе.
З пахучаю і хрумсткаю скарынкай
Ніхто туды ўжо не працягне рук.
Мы сябравалі з ёй, паўнюткай скрынкай,
Цяпера жа ёй мароз найлепшы друг.
Гляджу на скрынку, а ў душы трывога:
Хутчэй схавай яе ты, змрок густы!
Эх, скрынка!
Як шкада, што вас так многа
За вокнамі студэнцкімі пустых!
Вунь верабей прысеў, не палахліва
Разглядвае цябе, як навасёл,
І вочкамі страляе мітуслівa,
Нібыта ўбачыў тут багаты стол.
Ну й аптыміст!
Хоць ні скрылька не ўгледзеў,
А заліваецца салаўём!
«Жыў-жыў» нам можаш не крычаць,
Суседзе,
І самі ведаем, што пражывём.
І ты жыў будзеш…
Скрынку ж ноч схавала…
Ды ўсё-ткі хлопцаў чую галасы:
— Каб дні сытыя не напаміналa,
Пад ложак захаваем да вясны!

Памятаю, калі паказаў гэты верш Рыгору Барадуліну, ён, прачытаўшы, не зганіў яго, нават пахваліў, толькі паправіў радок, дзе ў мяне спачатку было: «З пахучаю і ўсохлаю ска-

рынкай…» Замест «усохлаю» ён паправіў «хрумсткаю», ад чаго радок прыкметна «павесялеў». Майстар быў!

*— І ўсё ж Вам Рыгор Барадулін дапамагаў?..*

— Падахвочаны такой цікавасцю да маёй «інтэрнацкай лірыкі», я потым падгледзеў яшчэ некалькі сюжэтаў, якія адлюстраваліся ў вершах «Калі ў студэнтаў сесія», «Дзяўчаты разбіраюць пошту», «Хлопцы канспекты паляць…». Першы з іх нават прыйшоўся даспадобы не заўсёды лагоднаму «Вожыку», трапіў у мае гумарыстычныя зборнікі. Дэбютаваў жа я з кніжкаю «Казёл-моднік» у тагачаснай «Бібліятэчцы “Вожыка”». Як найбольш актыўны аўтар часопіса. І што надзвычай прыемна — «хросным бацькам» гэтага зборніка зноў жа быў Рыгор Барадулін. Ён напісаў прадмову да яго, у якой не пабаяўся выдаць мне аванс, з якім бы я змог смялей выйсці да чытацкай аўдыторыі і пераканаць яе: кніжка вартая… смеху. «Шмат выступае Мікола Чарняўскі перад слухачамі. Сам, як звычайна, на паўгубы ўсміхаецца, а аўдыторыя рагоча, жываты распеabsразаўшы. Няхай жа і далей так будзе: аўтар усміхаецца, а чытач рагоча», — пажадаў тады прызнаны майстар вясёлага слова.

І я, падахвочаны такой пахвалой, працягваў «усміхацца»: услед за гэтым, у розныя гады, праўда, выдаў яшчэ пяць зборнікаў сатыры і гумару — «І не косяць, і не жнуць», «Камар на матацыкле», «Нашто бабе агарод», «У трох соснах…», «Лёкса ў люксе». У нашым не такім ужо лёгкім жыцці стараюся давесці чытачам свой лекавы сродак, сваю думку, можа, і ў нечым спрэчную:

Жыццё як ні складзецца,
Трымайце ў галаве:
Хто часцей смяецца —
Той даўжэй жыве!

Удзячны паэту за шчырую падтрымку, сяброўства і прыхільнасць да маёй творчай асобы, я доўга раздумваў, як аддзячыць яму за ўсё добрае, што зрабіў для мяне Рыгор Барадулін. І нарэшце сабраўся: у мінулае лета напісаў даволі



ёмістае эсэ «Каб быць бліжэй да Буало…», у якім, зыходзячы са сваіх назіранняў і сустрэч, прыадчыніў дзверы ў творчую лабараторыю Рыгора Барадуліна — віртуознага майстра эпіграмы і пародыі. Аддаў у часопіс «Полымя». Ведаючы, што Рыгор Іванавіч цяжка хворы, збіраўся, як надрукуюць, прыйсці да яго з часопісам, перагарнуць старонкі эсэ, паўспамінаць, прыгадаць разам тое, што, магчыма, некаму з нас трошкі забылася праз далеч мінулых гадоў, абмяняцца аўтографамі… Не паспеў. Эсэ «Каб быць бліжэй да Буало…» убачыла свет у сакавіцкім нумары «Полымя», а з народным паэтам Рыгорам Барадуліным Беларусь развіталася на зыходзе лютага… І ад гэтай страты шчымліва на сэрцы.

Аднак жа, як кажуць, жыццё працягваецца, і я хачу не з барадулінскага парадыйнага куфэрка, а са свайго дастаць на свет белы жартоўна-парадыйны шарж «Спрэчка», які таксама паспеў «адляжаць бакі» ў цянётах майго пісьмовага стала. Мне здаецца, калі б не я, дык нехта б іншы не прамінуў зачапіцца за такі незвычайны «букет» прозвішчаў у нашай літаратуры, ад якога павявае і суровасцю, і, даруйце, крыміналам. А магчыма, знойдуцца чытачы, каго яны прымусяць… усміхнуцца. Уявіце, што сабраліся разам паэты Сяргей Законнікаў, Міхась Губернатараў, Уладзімір Правасуд і аўтар прыродазнаўчых апавяданняў Уладзімір Трыбуналаў.

Сяргей і Міхась — былыя аднакурснікі. Калі былі студэнтамі, я стараўся падтрымаць іх, друкуючы час ад часу ў «Бярозцы». Пасля вучобы яны раз’ехаліся: Сяргей — на сваю Ушаччыну, Міхась — на Гродзеншчыну. Там сталі аўтарамі першых паэтычных зборнікаў. Аднак болей пашанцавала Сяргею Законнікаву: ён праз колькі гадоў вярнуўся



*Мікола Федзюковіч, Алесь Емяльянаў і Мікола Чарняўскі на VIII з’ездзе Саюза пісьменнікаў БССР. 1981 г.*

ў Мінск. Папрацаваўшы ў газетах «Чырвоная змена» і «Звязда», ён нечакана ўзляцеў вышэй — трапіў у ЦК партыі, дзе заняў крэсла загадчыка сектара літаратуры. З часам стаў галоўным рэдактарам часопіса «Полымя», лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Што ж да Міхася, дык даўно ўжо не чуў, дзе ён, што з ім. Друкаваўся рэдка. Раблю такое тлумачэнне, каб вы, сябры, зразумелі сэнс гэтай эпіграмы, што да чаго, чаму ёй не адзін раз давалі «ад варот паварот».

Здавалася б, нічога крыўднага ў ёй, гульня слоў, не болей, але ж як падумаць…

На Алімп узабраўся Законнікаў,
Губернатараў лез —
Ды дарма.
Правасуд пазірае спакойненька:
Трыбуналава штосьці няма.
На Алімпе адзін з іх — карону
Захапіў, на макушку ўссадзіў.
Ты, Законнікаў,
Па закону
Сваіх брацціяў карай і судзі!
На адным не зайграюць гармоніку,
Муза вынесла свой прысуд:
Губернатараў —
Не Законнікаў,
Трыбуналаў —
Не Правасуд!

*— Арыгінальна атрымалася. А Міхась Губернатараў жыве ў Гродне. Ён выдаў некалькі зборнікаў вершаў, але мне найбольш падабаецца яго першы зборнік вершаў «Паверка», ён шчыры, лёгкі, музычны, юнацкі. А чым Вы яшчэ можаце пахваліцца за 56 гадоў працы на ніве беларускай літаратуры, акрамя вышэйназванага?*

— За 56 гадоў, што мінулі з часу надрукавання майго першага верша, зроблена, здавалася б, нямала: выйшла чатыры дзясяткі кніг для дзяцей і дарослых. Чатыры разы станавіўся лаўрэатам рэспубліканскіх конкурсаў на лепшы твор для



дзяцей і падлеткаў. У выдавецтве «Детская литература» ў Маскве асобным выданнем выйшаў пераклад маёй паэмы «Огненная баллада», а ў перакладзе на польскую мову — вершаваная кніжка «Адрас наш — дзіцячы сад». Асобныя творы перакладзены таксама на ўкраінскую, малдаўскую, кіргізскую, туркменскую, літоўскую, грузінскую, татарскую, башкірскую мовы…

Пераклаў на беларускую мову творы многіх паэтаў далёкага і блізкага замежжа, з якіх сабралася асобная кніжка для дзяцей «Як зрабіць вясёлым дзень». Яна выйшла ў 2012 годзе. Прыкметнай з'явай стала выданне зборніка «Казкі дзяцей Беларусі», падрыхтаванага мною.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1995) за зборнік вершаў і казак «Каго баіцца зубр?», прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001) за кнігу «Хто пакрыўдзіў кракадзіла», прэміі імя Васіля Віткі — за публікацыі ў часопісе «Вясёлка» 2002 года, Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010) за кнігу вершаў і казак «Сонечны кошык». Выдатнік народнай асветы БССР. Выдатнік друку Беларусі. Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Як гаворыцца ва Указе, «за высокае прафесійнае майстэрства, значны асабісты ўклад у развіццё нацыянальнай літаратуры і культуры». Як бачыш, Сяргей, працаваў плённа, і працу маю заўважалі.

*— Што напісана ў апошні час і што пішацца?*

— Хоць цяпер думаецца і пішацца не з той лёгкасцю, як раней, рынкавыя адносіны балюча стукнулі па таварнасці роднага слова, адціснуўшы на кніжных паліцах творы нацыянальнай літаратуры, а з ёй — і дзіцячай, далей ад чытацкага вока, за спіну камерцыйных выданняў, настойліва ўмешваецца ў кнігавыданне розная там электроніка, усё ж цягнецца рука да ручкі і паперы, верыцца ў свята роднай кнігі, нашай мовы. Трэба дзякаваць Богу, што яшчэ ёсць магчымасць выдаваць кнігі, не шукаючы падтрымкі ў розных там спонсараў, за сродкі саміх выдавецтваў. Летась, напрыклад, у мяне выйшла тры кнігі: зборнік аповесцей і

апавяданняў «Босая кавалерыя» і зборнікі вершаў «Колькі ў сонейка сяброў!» і «Села Мурка на падмурку». Усе яны адрасаваны дзецям.

Гэты год таксама абяцае быць, як мне падаецца, «ураджайным»: у мінскім выдавецтве «Чатыры чвэрці» ў серыі «Дзеці вайны» ўжо выйшла кніжка вершаў і паэм «На плошчы памяці маёй». Яе выхад прымеркаваны да нашай слаўнай даты — 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якое будзем адзначаць у ліпені. У ёй сабраны творы, у якіх гераічнае мінулае нітуецца з матывамі любові да роднай зямлі. Яшчэ тры кніжкі запланаваны ў выдавецтве «Народная асвета»: «Дзе схаваўся цень удзень» — зборнік гумарыстычных вершаў, а таксама зборнікі краязнаўчай прозы і вершаў «З думкай пра Беларусь, альбо Ёсць дзіва, адвечнае дзіва» і «Матуля Шо, дачушка Шоша». Іх я спадзяюся ўбачыць у гэтым годзе. Таму як бы ні складвалася жыццё, трэба думаць пра будучыню, глыбока ўсведамляць: хоць нешта, што ўдалося здзейсніць у гэтым жыцці, ды застанецца, не згубіцца, некаму спатрэбіцца. Не чужым людзям, дык хаця б сваім дзецям і ўнукам, а пакуль яшчэ жывеш, ходзіш па зямлі — і самому натхнення прыдасць, жадання быць у пошуку. Чаго? А — усяго, што радуе душу і сэрца, дае надзею:

Колькі б ні пражыў — усё тваё.
Колькі б ні зрабіў — тваё таксама.
Хоць жыццё парой — і фарс, і драма,
Колькі б ні пражыў — усё тваё.
Што прыдбаў — не змарнаваць ні грама,
Грэцца тым, што роднае, сваё.
Колькі б ні пражыў — усё тваё,
Колькі б ні зрабіў — тваё таксама.

Ці не так?

*— Сапраўды так, Мікалай Мікалаевіч. Плёну Вам, сіл, здароўя і новых твораў і кніг!*

*2014, красавік*

# Слонімскія старонкі

## 79-Ы ПЯХОТНЫ ПОЛК ІМЯ ЛЬВА САПЕГІ




79-ы пяхотны полк Войска Польскага быў створаны з Беластоцкага палка стралкоў, які ўваходзіў у 1919–1929 гадах у склад Другой Беларуска-Літоўскай дывізіі. 12 кастрычніка 1921 года Беластоцкі полк стралкоў быў перайменаваны ў 79-ы пяхотны полк імя Льва Сапегі і ўвайшоў у склад 20-й пяхотнай дывізіі арміі «Модлін».

У кастрычніку 1922 года 79-ы пяхотны полк імя Льва Сапегі, а таксама 80-ы полк наваградскіх стралкоў дыслацыраваліся ў Слоніме. Раскватаравалі вайскоўцаў у былых царскіх казармах, якія былі пабудаваныя разам з царквой у 1884–1886 гадах для царскага Шуйскага пяхотнага палка. Дарэчы, гэтыя казармы зберагліся да сённяшніх дзён, там цяпер знаходзяцца вайскоўцы Слонімскай 11-й механізаванай брыгады.

79-ы пяхотны полк размясціўся ў левых казармах ад царквы, а 80-ы полк — у правай. І хоць Слонім падчас Першай сусветнай вайны моцна быў знішчаны, царскія казармы і шматлікія прыбудовы ўсе ўцалелі. Засталіся непашкоджанымі і некаторыя дамы насупраць, дзе жылі сем'і вайскоўцаў. У адным з гэтых дамоў на вуліцы 3 Мая жыла беларуская паэтка Наталля Арсеннева. У Слонім яна прыехала разам з мужам Францам Кушалем, які, дарэчы, служыў пэўны час у 79-м палку. У Слоніме паэтцы добра пісаліся вершы, нарадзіўся адзін з яе сыноў. Пад многімі вершамі паэткі стаяць даты: Слонім, 1922, 1923 і 1924 гады. А адзін з вершаў «Калыханка» яна напісала ў Слоніме для свайго першага сыночка:

…Ноч рассыпала зораў агні,
Ў сінім небе яны патанулі…
Спіць усё, й ты, маленькі, засні.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

У той час значная колькасць беларусаў апынулася менавіта ў 79-м палку, а таксама ў 80-м у Слоніме і ў 78-м пяхотным палку, які знаходзіўся ў Баранавічах. Гэтую вясковую адзінку, як сцвярджае гісторык Ігар Мельнікаў, неафіцыйна называлі «беларускай». Гэта сапраўды так. А яшчэ 79-ы пяхотны полк называлі «палком слонімскіх стралкоў». А 15 ліпеня 1923 года 79-ы полк пры ўдзеле вышэйшых дзяржаўных чыноў і грамадскасці ў Слоніме атрымаў свой сцяг.

З'яўленне гэтых палкоў у Слоніме значна ажывіла гарадское жыццё. Бо вайскоўцы з першых дзён зарэкамендавалі сябе вельмі актыўна. Яны не толькі займаліся ваеннымі справамі, але і наладжвалі розныя культурна-масавыя мерапрыемствы. Былі створаны два саюзы — саюз падафіцэраў рэзерву і саюз вайсковых сем'яў. Для правядзення разнастайных мерапрыемстваў выкарыстоўвалася вялікая глядзельная зала. Арганізаваліся ў ёй выступленні аматарскіх тэатральных калектываў, якія ставілі і выстаўлялі афіцэрскія і унтэр-афіцэрскія кадры абодвух палкоў. У казармах ладзіліся таксама курсы для непісьменных вайскоўцаў. Такім чынам войска спрычынялася да павышэння ўзроўню асветы сярод жаўнераў, ліквідуючы ў пэўнай ступені занядбанні перыяду падзелаў Рэчы Паспалітай. У афіцэрскіх і унтэр-афіцэрскіх казіно адбываліся балі і танцавальныя вечарыны з удзелам мясцовага грамадства, што прыводзіла да шчыльнейшых сувязяў паміж беларуска-польскім грамадствам і войскам.

Вялікі ўклад у ажыўленне грамадска-культурнага жыцця зрабіў камандзір 79-ы пяхотнага палка ў 1921–1933 гадах палкоўнік Мар'ян Туркоўскі (1894–1948). Яму адзінаму ў гісторыі горада над Шчарай за заслугі ў вяртанні свабоды было прысвоена тады званне ганаровага грамадзяніна Слоніма.






*Паштоўка*

Вайскоўцы 79-га і 80-га палкоў шмат праводзілі розных спартыўных мерапрыемстваў, асабліва любілі катацца на лыжах. Разам з імі заўсёды быў іх камандзір Мар'ян Туркоўскі. На ўсе мерапрыемствы вайскоўцы запрашалі слонімскага фатографа В. Вайнштэйна. Ён іх фатаграфаваў на розных фэстах, а таксама ў сваёй фотамайстэрні.

Кааператывы спажыўцоў 79-га пяхотнага палка імя Льва Сапегі, а таксама 80-га палка навагрудскіх стралкоў мелі свае металічныя боны. Іх атрымлівалі жаўнеры, каб за іх купляць прадукты ў буфетах і крамах. Напрыклад, боны «Spółdzielnia 79 p.p., Słonim» (кааператыў 79-га пяхотнага палка, Слонім) былі надчаканены лічбамі «19/36», «19/34», «Spółdzielnia 80 p.p., Słonim» (кааператыў 80-га пяхотнага палка, Слонім) — «80/36». Пра металічныя боны 1920–1930-х гадоў на тэрыторыі Заходняй Беларусі — асобная і цікавая тэма.

Вялікай падзеяй для жыхароў Слонімскага павета і вайскоўцаў быў візіт прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага (1867–1946) 18 верасня 1929 года ў Слонім. Надоўга запомнілася гэта незабыўнае ўражанне жыхарам Слонімшчыны і, вядома ж, вайскоўцам двух палкоў. Бо з часу падзелу Рэчы Паспалітай, пасля ста з лішнім гадоў, нарэшце кіраўнік

дзяржавы наведаў Слонім і Жыровічы. Некалі даволі часта каралі гасцявалі на слонімскай зямлі, паломнічалі да цудатворнага абраза Жыровіцкай Божай Маці, які да сённяшніх дзён захоўваецца ў Жыровіцкім манастыры, а гэта каля 10 кіламетраў ад Слоніма, якраз па дарозе на Жыровічы, дзе знаходзяцца вайсковыя казармы. Нават кароль Ян III Сабескі паломнічаў у Жыровічы з просьбай аб перамозе пад Венай. Амаль кожны манарх з дынастыі Ягелонаў пабываў у Жыровічах.

Падчас свайго візіту прэзідэнт Ігнацы Масціцкі адкрыў у Слоніме рэгіянальны музей, які сабраў ураджэнец мясцовай вёскі Орлавічы палкоўнік рускай арміі Язэп Стаброўскі (1870–1968). У пачатку верасня 1929 года ўсе свае калекцыі ён перадаў Слоніму. Яны і ляглі ў аснову краязнаўчага музея, які існуе да сённяшніх дзён. Захоўваецца ў музеі і акт заснавання музея з подпісам Ігнацыя Масціцкага. Апрача таго прэзідэнт Польшчы на вуліцы 3 Мая ў Слоніме заклаў краевугольны камень пад будову тагачаснай школы практыкаванняў, школы, якая была забяспечана добрымі педагагічнымі кадрамі і ў якой праходзілі практыку вучні настаўніцкіх семінарый. А потым прэзідэнт Масціцкі наведаў Жыровічы.

Ацэньваючы знаходжанне 79-га пяхотнага палка імя Льва Сапегі, а таксама 80-га палка наваградскіх стралкоў ў Слоніме з перспектывы часу, можна сказаць, што ў Слоніме тады па-сапраўднаму шчыра вайскоўцы палкоў спрычыніліся да ажыўлення жыцця ў горадзе. Пасля перыяду войнаў Слонім пачаў вяртаць тоеснасць старажытнага і багатага на гістарычныя традыцыі горада.

Калі я рыхтаваў гэты артыкул да друку, патэлефанаваў з Гродна Аляксандр Місцюкевіч, які родам з вёскі Піронім Слонімскага раёна. «А мой бацька ў 1933 годзе служыў у 80-м пяхотным палку наваградскіх стралкоў у Слоніме», — сказаў Аляксандр Іванавіч. «А ці расказваў вам бацька штосьці пра службу?» — пытаюся ў земляка. «Распавядаў даволі часта, ён казаў, што з ім побач служылі яўрэі, палякі, а таксама шмат было беларусаў са Слонімскага павета. Бацька ўсяго адзін раз быў у адпачынку, яго адпусцілі на некалькі



дзён, калі ў роднай вёсцы згарэла яго хата, а ён жыў толькі з маці, бо бацька памёр у бежанстве. А яшчэ бацька казаў, што калі яны служылі, то старэйшыя вайскоўцы вельмі шчыра ўспаміналі візіт у Слонім прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага», — прыгадаў Аляксандр Місцюкевіч і даслаў здымак бацькі з саслужыўцамі ў 80-м пяхотным палку, зроблены ў Слоніме ў 1933 годзе.

*2014*

## КНІГА ПРА СЛОНІМСКУЮ ШЛЯХТУ

У Мінску з друку выйшла кніга на рускай мове Яўгена Анішчанкі «Шляхта Слонимского повета».

Наогул, даследаванняў беларускай шляхты не так і шмат, а яна мае сваю доўгую і славутую гісторыю. Беларуская шляхта заўсёды займала выразна патрыятычную пазіцыю, якая асабліва праявілася падчас змагання за адраджэнне дзяржавы ў паўстаннях 1794, 1831 і 1863 гадоў на Беларусі. Шмат пацярпела шляхта Беларусі пасля падаўлення царскімі войскамі гэтых паўстанняў, асабліва 1863 года. Цэлыя шляхецкія вёскі былі выселены ў расійскія губерні або ў Сібір, а маёмасць канфіскоўвалася. Аднак шляхта Беларусі распачала вызваленчы рух, дваранскі (шляхецкі) перыяд якога прыпадае на 1794–1863 гады. Менавіта шляхта пачала барацьбу за вызваленне Беларусі ад расійскага прыгнёту. Са шляхты пераважна выйшлі і кіраўнікі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху і Адраджэння канца XIX — пачатку XX стагоддзя, такія як браты Луцкевічы, Вацлаў Іваноўскі, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч і іншыя.

Наш зямляк гісторык Павел Лойка (1958–2010) пры жыцці выдаў унікальную кнігу «Шляхта беларускіх зямель у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай другой паловы XVI — першай трэці XVII ст.» (Мінск: БДУ, 2002). У ёй гісторык разгледзеў шляхту XVI–XVII стагоддзяў, якая была тады вызначальным саслоўем у грамадска-палітычным

жыцці Вялікага Княства Літоўскага. Шляхта некалькі стагоддзяў таму складала амаль 10 % насельніцтва, на той час як падобныя саслоўныя групы ў еўрапейскіх краінах — за выключэннем Іспаніі — не перавышалі 4 %. Павел Лойка ў сваім выданні паказаў станаўленне і юрыдычнае афармленне шляхецкага саслоўя, унутры- і міжсаслоўныя стасункі шляхты, яе палітычную актыўнасць, пазіцыю ў пытаннях унутранага і знешняга жыцця. Атрымалася цікавае даследаванне шляхты другой паловы XVI — першай трэці XVII стагоддзя.

У сваёй кнізе Яўген Анішчанка не даследуе слонімскую шляхту, а склаў поўны спіс шляхты Слонімскага павета першай паловы XVIII стагоддзя. Такое робіцца ўпершыню. Спіс слонімцаў, якія адносілі сябе да шляхты, даследчык узяў з судовых кніг па Слонімскаму павету, якія цяпер зберагаюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі. Улік шляхецкіх уладанняў, а ў іх маёнткаў і саміх уладальнікаў, вёўся ў кнігах па двух прынцыпах. У апісанні павета 1738 года перапіс маёнткаў вёўся па каталіцкіх парафіях: Слонімская, Мізгіроўская, Азгінавіцкая і г. д. Другім чынам групіроўкі былі тракты ці вялікія паштовыя дарогі з прылягаючымі да іх маёнткамі. Напрыклад, у 1738 годзе быў Мізгіроўскі тракт, у 1750 — Плаўскі, у 1779 — Азгінавіцкі і г. д.

Ёсць у кнізе і спіс вываду шляхты Слонімскага павета ад 10 сакавіка 1798 года. Гэты спіс быў пададзены праз земскі суд для доказаў шляхетнасці ў канцылярыю генеральнай вывадовай камісіі Літоўскай губерні на імя яе дэпутата Ігната Валовіча і генеральнага сакратара Тадэвуша Кукевіча ў дзвюх кнігах на 180 прозвішчаў. Сярод іх сустракаюцца прозвішчы Блажыеўскі, Жукоўскі, Куроўскі, Корчыц, Маркевіч, Вайніловіч, Рак, Міхневіч, Стаброўскі, Шаціла, Эйсмант і іншыя.

Друкуецца ў кнізе і спіс жыхароў Слонімскага павета ў першай палове XVIII стагоддзя. Давайце адсочым, якія людзі жылі ў вёсках Слонімскага павета 260 гадоў таму і якія мелі прозвішчы. Напрыклад, у Вараб'евічах жылі сяляне Адамчыкі Дзмітрый і Нічыпар, у Езярніцы (Азярніцы) жылі Лаўрын і Якім Апанасовічы, Лукаш, Грысь, Ян Белкі, Самусь Бенсік, у Сянкоўшчыне — Архор Бурштык, яго браты Ерамей, Ціхан, Хведар, у Акунінава — Мартын Бута, у Пасынічах (Пасінічах) — Андрэй і Рыгор Быцко, Даніэль і Міхась Важэўскія, у Касцянёва (Касцянях) — Яска, Аляксей, Антон, Васіль, Пятро Вашчылы, у Пераваломы — Гамаліцкі Адам і г. д.



Кніга Яўгена Анішчанкі «Шляхта Слонимского повета» з'яўляецца зыходным матэрыялам для дэталёвага даследавання генеалогіі названых асобаў Слонімшчыны ў любой яе рэтраспекцыі.

*2014*

## КАМЕННЫ КРЫЖ КАЛЯ ШЫЛАВІЧАЎ



Напісаць пра каменны крыж, які знаходзіцца з правага боку па дарозе з вёскі Шылавічы на вёску Савічы Слонімскага раёна, мне падказаў Павел Каролік з Гомеля. Павел Паўлавіч у сваім лісце да аўтара гэтых радкоў паведаміў, што ён родам з Баранавіцкага раёна. Некалькі гадоў таму ён быў на Слонімшчыне, ішоў пешшу з Шылавічаў у Савічы. Пры дарозе спадар Каролік убачыў вялікі каменны крыж. Ён проста валяўся ў кювеце. «Можа, каменны крыж — гэта Богам пасланы знак. Як калісьці абраз Божай Маці Жыровіцкай быў пасланы Аляксандру Солтану, дык каменны крыж пасланы быў нам. А цяпер ён, выходзіць, нікому не патрэбны…» — абураецца Павел Каролік.

Я вырашаў знайсці каменны крыж. Спачатку заехаў у вёску Шылавічы. Па дарозе спытаў у адной жанчыны, ці ведае яна пра каменны крыж. Жанчына адказала, што ёсць такі крыж за вёскаю Шылавічы, але скуль ён узяўся, яна не

ведае. «Магчыма, вам падкажуць старэйшыя жыхары нашай вёскі», — параіла пенсіянерка. Сапраўды, на панадворку адной з крайніх хат вёскі ўбачыў дзядулю, які паказаў, куды ехаць і дзе стаіць крыж. «Ён жа павінен ляжаць у кювеце», — папраўляю вяскоўца. «Раней ляжаў. А цяпер наш старшыня гаспадаркі загадаў паставіць каменны крыж пры дарозе, што хлопцы-трактарысты і зрабілі». — «А чаму ён так загадаў?» — пытаюся ў чалавека. «Дык надта прыгожы крыж. Каб ліхі дух адганяў ад людзей», — дадаў вясковец.

Паспрабаваў у жыхароў Шылавічаў спытацца, ці хто з іх ведае паданне, і пачуў вось што. Крыж з надпісам каля дарогі нібыта пастаўлены на магіле велікана-рабаўніка Семака. Семаком разбойнік зваўся таму, што рабаваў у наваколлі людзей сем гадоў. Велікана атруціў кухар, які напаіў яго вінам, а потым апарыў кіпятком…

Праз некалькі хвілін я быў ужо каля каменнага крыжа. Ён сапраўды быў укапаны ў зямлю пры дарозе з Шылавічаў на Савічы. На крыжы разгледзеў выбіты маленькі крыжык і нейкі неразборлівы надпіс ці то манаграму. Сам крыж даволі моцны, з роўнымі і непашкоджанымі вертыкальным брусам і перакладзінай. Як ён там з’явіўся — пакуль застаецца загадкай. Вядома толькі, што такіх каменных крыжоў на Беларусі крыху больш за сотню. Яны з’яўляюцца прадметамі культу хрысціянскай рэлігіі і выявамі сімвалаў веры. Каменныя крыжы падзяляюцца на памятныя, прыдарожныя, паклонныя і надмагільныя. Іх ставілі каля дарог, як гэта зрабілі ў Шылавічах, часцей на перакрыжаваннях, месцах бітваў, межах зямель, пры пракладцы новых шляхоў, закладцы гарадоў і храмаў, на могілках, краях вёскі, каб абараняць іх ад розных эпідэмій і ад заваёўнікаў. Шылавіцкаму каменнаму крыжу, магчыма, не менш як 200–300 гадоў. Але большую характарыстыку гэтаму каменю могуць даць толькі супрацоўнікі эксперыментальнай базы па вывучэнні ледніковых валуноў пры Інстытуце геахіміі і геафізікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

*2014*



# ЗГАДКА ПРА РЭЖЫСЁРА МІХАІЛА ФРЫДМАНА

Тэатральны рэжысёр Міхаіл Фрыдман прыехаў у Слонім у лістападзе 1948 года. Яшчэ ў разваліна х ляжаў старажытны Слонім пасля Другой сусветнай вайны, але развешаныя ўсюды афішы паведамлялі аб першым спектаклі толькі што створанага пры раённым Доме культуры тэатральнага гуртка. Кіраўніком гуртка тады быў дэмабілізаваны з арміі 27-гадовы франтавік Аляксандр Бялоў (1921–1985). У Слоніме Аляксандр Бялоў жыў да 1956 года. А пасля пераехаў у Мінск і працаваў акцёрам у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры Беларусі. У 1977 годзе яму прысвоілі званне заслужанага артыста Беларусі. Як удзельнік Слонімскага драматычнага гуртка ў 1951 годзе ён быў узнагароджаны дыпломам на Рэспубліканскім аглядзе сельскай самадзейнасці за выкананне роляў Курачкіна ў спектаклі «Вяселле з пасагам» па п’есе М. Дзяканава і Швандзі ў спектаклі «Любоў Яравая» па п’есе К. Транёва.



*Перад паездкай на гастролі. Міхаіл Фрыдман трэці злева. Слонім, 1960-я гады*

У лістападзе 1948 года Аляксандр Бялоў разам з Міхаілам Фрыдманам паставілі ў Слоніме свой першы спектакль «Шляхі-дарогі» па п’есе А. Фёдарава. Менавіта на гэтую прэм’еру клікалі слонімцаў развешаныя ўсюды афішы. Дарэчы, Міхаіл Фрыдман прыехаў у Слонім, маючы за плячыма вялікі тэатральны вопыт.

Родам ён быў з Варшавы, дзе з’явіўся на свет 29 сакавіка 1894 года. У 1910–1927 гадах ездзіў як акцёр з яўрэйскімі вандроўнымі тэатральнымі трупамі па Украіне і Беларусі, а таксама скончыў маскоўскую тэатральную студыю «Свабоднае мастацтва». Дарэчы, у 1932 годзе група студэнтаў тэатральнага вучылішча пры Маскоўскім дзяржаўным яўрэйскім тэатры, якія займаліся на курсе народнага артыста СССР С. М. Міхоэлса, заявілі аб сваім жаданні пасля заканчэння вучобы паехаць на Далёкі Усход, каб стварыць там малады Яўрэйскі абласны нацыянальны тэатр. У складзе тэатральнай групы рэжысёра Марка Рубінштэйна былі і Міхаіл Фрыдман з жонкай.

А пасля вайны Міхаіл Фрыдман асеў на васямнаццаць гадоў у Слоніме. Менавіта Міхаіл Фрыдман узначаліў у тыя першыя пасляваенныя гады тэатральны гурток Слонімскага РДК, а Аляксандр Бялоў быў кіраўніком танцавальнага гуртка. Вопытны рэжысёр Фрыдман сур’ёзна працаваў над першым спектаклем, хаця яму было даволі цяжка. Не хапала дэкарацый, касцюмаў. Выручала адно: для ўсіх пастановак патрэбны былі толькі вайсковыя мундзіры. А іх дастаткова пакінула вайна.

Тады, у 1948 годзе, драмгурток атрымаў ад слонімцаў першыя апладысменты. Спектакль меў поспех. Яго паказвалі 32 разы. Ён і замацаваў веру самадзейных артыстаў і рэжысёра ў свае сілы. Пачалася сур’ёзная, мэтанакіраваная работа на сцэне, якая не спынялася дзесяцігоддзямі. Колькі пакут творчасці, памылак і расчараванняў пераносіў кожны артыст, пакуль іх ігра рабілася сапраўднай, пакуль кожны самастойна выходзіў на сцежку ўпэўненасці. Але рос талент



артыстаў. Ён мацнеў на рэпетыцыях, раскрываўся ва ўсёй сваёй сіле на сцэне і гастролях.

У Слоніме ў драматычным гуртку з першых яго крокаў была абвешчана бязлітасная барацьба з дылетанцкімі захапленнямі, абыякавымі адносінамі да заняткаў. У пакоі, дзе праходзілі рэпетыцыі гуртка, знаходзіўся вялікі партрэт К. С. Станіслаўскага, а ўнізе — яго словы: «Любі мастацтва ў сабе, а не сябе ў мастацтве».

За час знаходжання ў Слоніме Міхаіл Фрыдман ажыццявіў пастаноўкі 27 спектакляў, сярод іх былі і лепшыя — «Выгнанне блудніцы» І. Шамякіна, «Вяселле з пасагам» М. Дзяканава, «Любоў Яравая» К. Транёва, «У добры час» В. Розава, «Кухарка замужам» А. Сафронава, «Жаніцьба Бялугіна» А. Астроўскага, «Апошнія» М. Горкага, «Нячыстая сіла» Г. Стафанскага, «У бэзавым садзе» Ц. Саладара і многія іншыя. А ў 1959 годзе драматычны гурток Слонімскага РДК атрымаў званне народнага тэатра.

У пачатку лютага 1964 года слонімскія артысты прывезлі ў Мінск спектакль «Апошнія» па п’есе Максіма Горкага. Прэм’ера адбылася ў сталіцы ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Паглядзець спектакль прыйшлі старэйшыя майстры беларускай сцэны — Ларыса Александроўская, Канстанцін Саннікаў, Вера Пола, Сцяпан Бірыла і іншыя. Зала тэатра была перапоўнена. Перад пачаткам спектакля выступіла народная артыстка СССР Ларыса Александроўская, якая шчыра павітала артыстаў са Слоніма, а таксама сказала, што ў спектаклі ролю Соф’і іграе народная артыстка Беларусі Вольга Галіна.

Спектакль сталічным гледачам спадабаўся. Пра гэту падзею напісалі амаль усе беларускія газеты. Пастаноўка таксама была паказана Мінскай студыяй тэлебачання. Тэатральны крытык Арсень Лабовіч у газеце «Знамя юности» 27 лютага 1964 года пісаў: «Дасягненне адзінства мастацкага стылю з’яўляецца пацвярджэннем высокага рэжысёрскага майстэрства пастаноўшчыка, кіраўніка Слонімскага народнага тэатра М. І. Фрыдмана. Усе выканаўцы аб’ядноўваюць

сваe намаганні вакол галоўнай ідэі спектакля — раскрыць перад гледачамі бесперспектыўнасць грамадскіх адносінаў, дзе чалавек чалавеку воўк. У гэтым — сучаснасць і актуальнасць пастаноўкі. Выканаўцы разумеюць, адчуваюць свае задачы, адчуваюць эпоху. Гэта добра. Разам з тым гэтыя індывідуальныя мэты не заўсёды зліваюцца ў агульную звышзадачу спектакля, у асобных сцэнах не хапае пачуцця ансамбля. Праўда, выключна вялікую дапамогу ў гэтым сэнсе аказала калектыву Вольга Уладзіміраўна Галіна. Сваёй выдатнай ігрой яна не толькі ўзбагаціла калектыў сцэнічным вопытам, — яе выкананне нібы сцэментавала творчыя намаганні астатніх выканаўцаў вакол вобраза Соф'і».

За спектакль «Апошнія» калектыў Слонімскага народнага тэатра і яго рэжысёр Міхаіл Фрыдман, а таксама артыстка Вольга Галіна атрымалі падзяку ад Міністэрства культуры БССР.

Добра быў падрыхтаваны і меў поспех спектакль у пастаноўцы Міхаіла Фрыдмана «Глыбокая плынь» па п'есе Івана Шамякіна. П'еса расказвала пра гераічную барацьбу беларусаў у гады Другой сусветнай вайны. Спектакль у канцы 1950-х — пачатку 1960-х гадоў выклікаў гарачыя пачуцці гледачоў. Многія ўдзельнікі вайны, калі глядзелі гэтую сцэнічную пастаноўку, плакалі, міжволі перакідваліся думкамі ў гады вайны і зноў перажывалі за сцэнічных герояў, як за сваіх сяброў.

У 1961 годзе Міхаіл Фрыдман паставіў спектакль «Кухарка» па п'есе А. Сафронава. Працягам гэтай камедыі праз год стаў спектакль «Кухарка замужам». Як з добрымі знаёмымі гледачы сустрэліся з кубанскімі калгаснікамі Паўлінай і Сцяпанам Казанцамі, Галінай Чайкай, Андрэем Пчолкам і іх сябрамі. Хаця ў новым спектаклі былі тыя ж лірычныя канфлікты, аднак многае змянілася. Цяпер ужо Паўліна і Галя адчувалі сваю жаночую перавагу над мужамі. Узнікалі новыя непаразуменні. Але па-ранейшаму ў зале не сціхаў смех. У спектаклі было шмат гумару, рэжысёрскай фантазіі, імправізацыі акцёраў. Пра ўсе спектаклі



Слонімскага народнага тэатра тады пісалі многія газеты і часопісы. Кожная прэм'ера ў пастаноўцы Міхаіла Фрыдмана асвятлялася ў друку.

У сярэдзіне 1960-х гадоў Міхаіл Фрыдман развітаўся са слонімскім тэатральным калектывам. А ў 1968 годзе яго замяніў Мікалай Варвашэвіч…

*2014, сакавік*

# ПРА ГІСТОРЫЮ СЛОНІМСКАГА КАСЦЁЛА СВЯТОГА АНДРЭЯ

На плошчы Льва Сапегі ў Слоніме ўзвышаецца фарны касцёл святога Андрэя — помнік архітэктуры барока XVIII стагоддзя. Храм здзіўляе пластыкай фасада, багаццем скульптурна-дэкаратыўнай апрацоўкі. Асноўны дэкор сканцэнтраваны на галоўным фасадзе. Гэта — глыбокія нішы, слаістыя пілястры, фігурны франтон. Дзве вежы, пастаўленыя пад вуглом да фасада, узмацняюць яго пластычную пабудову. Скульптурнае ўбранне інтэр'ера нясе рысы мастацтва ракако. У архітэктурны комплекс уваходзяць таксама брама і манастырскія карпусы. Касцёл святога Андрэя з'яўляецца сёння своеасаблівай брамай старажытнага горада над Шчарай. Хаця лёс касцёла складваўся на працягу стагоддзяў па-рознаму. Найбольш нягод яму прынесла другая палова XX стагоддзя. Тым не менш слонімскі помнік выстаяў, не скарыўся.



*Вітольд Жальветра*

Дзякуючы былому настаяцелю касцёла святога Андрэя дэкану Вітольду Жальветра ў 1990-х гадах помнік барока ў Слоніме ўдалося выратаваць і аднавіць для вернікаў. З 28 гадоў свайго святарства айцец Вітольд 22 гады аддаў Слоніму. Пад яго непасрэдным кіраўніцтвам быў адрамантаваны касцёл святога Андрэя, пабудаваны ў 1775 годзе. Дзякуючы айцу Вітольду ў касцёле заўсёды гучала беларуская мова. Ён пасадзейнічаў вяртанню вернікам іконы Жыровіцкай Багародзіцы, якая была падрыхтавана да каранацыі ў 1730 годзе.

Цяпер айцец Вітольд Жальветра служыць у касцёле святога Казіміра ў Ліпнішках Іўеўскага раёна. Але часта наведвае Слонім. У адну з такіх паездак у Слонім я сустрэўся з айцом Вітольдам і задаў яму некалькі пытанняў.

*— Айцец Вітольд, раскажыце трохі пра гісторыю касцёла святога Андрэя.*

— Драўляны касцёл святога Андрэя ў Слоніме з'явіўся ў 1493 годзе, а ў 1595 годзе яго пабудавалі з цэглы і з каменя. Касцёл дапамог аднавіць Леў Сапега пасля знішчэння крымскімі татарамі. Грунтоўна храм перабудоўваўся ў 1660 годзе, а ў 1775 годзе яго ўзвялі ў стылі барока.

*— Якое значэнне меў касцёл у часы Льва Сапегі?*

— У часы Льва Сапегі касцёл святога Андрэя ператварыўся ў адзін з цэнтраў рэлігійнага жыцця як Слоніма, так і ўсяго Вялікага княства Літоўскага. На тэалагічныя дыспуты сюды прыязджалі Сымон Будны, Пётр Скарга, падканцлер Казімір Сапега, які любіў паўдзельнічаць у дыспутах, і многія іншыя вядомыя людзі нашай зямлі. Акрамя касцёла святога Андрэя чальцы дынастыі Сапегаў узвялі ў Слоніме касцёл бернардынцаў, малітоўню для рэгулярных лютаранскіх канонікаў. Апрача гэтага, Сапегі спрыялі распаўсюджванню ў Слоніме школ ды калегіумаў, якія знаходзіліся пры гарадскіх касцёлах ды цэрквах. У Слоніме часоў Льва Сапегі існавала вялікая бібліятэка і друкарня, дзе, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, набіраўся вядомы на ўсю Еўропу Статут Вялікага Княства Літоўскага.



*— Мабыць, самым нялёгкім перыядам для касцёла святога Андрэя быў атэістычны савецкі час?*

— Сапраўды, найбольшую шкоду касцёлу прынеслі бальшавікі ў XX стагоддзі. Яны ледзь не поўнасцю знішчылі гэты славуты храм. А ў пасляваенныя гады тут месціўся склад са збожжам, а пасля — з соллю.

*— І ў канцы 1990-х гадоў лёс храма прыйшлося вырашаць менавіта Вам?*

— Так. У 1987 годзе я прыехаў у Слонім. І калі прыйшоў да касцёла святога Андрэя, у мяне ўзнікла думка-пытанне: хто і калі адновіць гэтую святыню? Аднойчы мяне выклікалі ў Слонімскі гарвыканкам і сказалі, каб я заняўся рамонтам гэтага храма. Хаця дапамогі не абяцалі ніякай. «Он всё-таки ваш!» — сказалі мне чыноўнікі. А я адказаў: калі б ён быў наш, дык не быў бы ў такім стане. Пакрыўджаны, я пакінуў гарвыканкам. Іду да свайго касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі, што на Першамайскай вуліцы, а голас падказвае: а што людзі скажуць? Болей за тое: калі да вайны ў Слоніме было пяць касцёлаў, а ў акрузе — 16, то цяпер застаўся толькі адзін на Першамайскай вуліцы, і я быў яго настаяцелем. І я вырашыў аднавіць касцёл святога Андрэя для Божай хвалы і Маці Божай Жыровіцкай, а таксама для людзей.

*— Як пачыналася аднаўленне касцёла святога Андрэя?*

— Неяк у Слонім прыехалі з Варшавы на машыне два чалавекі, яны былі родам з Ваўкавышчыны. Адзін з іх — Збігнеў Васюкевіч — меў у Варшаве сваю ўласную будаўнічую фірму. Я з імі пазнаёміўся і прапанаваў гэтай будаўнічай фірме заняцца рэстаўрацыяй храма. Мяне шчыра выслухалі, і праз два тыдні спадар Васюкевіч прыехаў са сваімі інжынерамі, якія абследавалі разбураны касцёл, зрабілі пэўныя замеры і праектную дакументацыю. У архітэктурным музеі ў Варшаве рэстаўратары гэтай фірмы знайшлі фотаздымкі, зробленыя да вайны ўнутры касцёла. І паводле гэтых фотаздымкаў абразоў і фрэсак усё аднаўлялася. Так пачынаўся рамонт і рэстаўрацыя каталіцкай святыні. Дапамагалі таксама будаўнікі — спецыялісты з рэспубліканскай Белрэстаў-

рацыі і, вядома ж, слонімцы. Бывалі такія суботы, што на працу прыходзіла да 50 чалавек розных веравызнанняў. За год мы зрабілі вельмі шмат: і накрылі храм, і дзверы змайстравалі, пачалі рабіць скляпенне, аднаўляць фрэскі і г. д.

*— Ці знаходзілі рэстаўратары і будаўнікі што-небудзь каштоўнае падчас аднаўлення касцёла?*

— Хачу сказаць, што перад пачаткам рэстаўрацыі тры гадзіны сем самазвалаў вывозілі з касцёла смецце і соль. Але перш чым соль вывезлі, мужчыны тры месяцы яе адбівалі. Вось у гэтым друзе і знайшлі шэсць мемарыяльных шыльдаў, якія раней месціліся на сценах касцёла. Многія з іх былі паколаныя. Знайшлі мы там і шыльдачку, прысвечаную вялікаму каталіцкаму дзеячу Пятру Скаргу. Аднавілі і замацавалі яе на сцяне касцёла. А аднойчы прыходзіць у касцёл адзін чалавек і кажа, што ў нішах касцельнага скляпення пахавана сэрца Міхала Казіміра Агінскага. Гэтае сэрца знаходзілася ў срэбным куфэрку з надпісам «Сэрца Агінскага». Калі разбураўся касцёл, куфэрак укралі і вывезлі на Усход.

*— Калі ў касцёле святога Андрэя адбылася першая служба?*

— 29 лістапада 1992 года.

*— Айцец Вітольд, а колькі сёння на Слонімшчыне налічваецца каталікоў і каталіцкіх храмаў?*

— На Слонімшчыне да гэтага часу адрэстаўравалі і аднавілі 14 касцёлаў, пабудавалі 2 новыя, якія наведваюць больш за 10 тысяч каталікоў. Касцёл святога Андрэя з’яўляецца фарным (галоўным, дэканальным) храмам каталікоў Слонімшчыны.

*2013*



# У ПОШУКАХ ПРАЎДЫ

Слонімскага доктара Івана Шэгу я ведаю даўно. З ім немагчыма было не пазнаёміцца. Ці то ў раённай паліклініцы, ці то ў бальніцы, ці на розных сустрэчах з выбаршчыкамі, ці проста так на вуліцы ў Слоніме.



*Іван Шэга*

Іван Шэга — прыгожы, інтэлігентны, адукаваны, нястомны ва ўсіх добрых і сур’ёзных справах — кідаецца ў вочы адразу. З ім цікава размаўляць, ён заўсёды дапаможа. Такімі людзьмі мы павінны ганарыцца.

## Штрых першы: маленства і юнацтва

Нарадзіўся Іван Шэга ў вёсцы Валеўка на Навагрудчыне 25 сакавіка 1953 года. Яго бацька Іван Іванавіч Шэга быў родам з вёскі Малюшычы Карэліцкага раёна. У 18-гадовым узросце ён пайшоў на фронт, а пасля вайны сем гадоў служыў у акупацыйных войсках у Германіі. Пасля дэмабілізацыі быў накіраваны на працу ў Валеўку, дзе і пазнаёміўся з будучай жонкай, тады Клаўдзіяй Зайка. Вынікам шлюбу бацькоў стала нараджэнне Івана, а праз 6 гадоў і сястры Наталлі.

Ваня Шэга вучыўся добра, навука давалася яму лёгка. Ды і з настаўнікамі Івану Шэгу вельмі пашанцавала. Ён і сёння часта ўспамінае іх з асаблівай цеплынёй. Беларускасці Ваня вучыўся ў такіх людзей, як настаўнік беларускай мовы і літаратуры Уладзімір Урбановіч, завуч школы Міхаіл Петрыкевіч, выхаванасці — у класнага кіраўніка Кацярыны Вінаград, ды і ўсе астатнія настаўнікі прымалі ўдзел у фарміраванні з вучняў сапраўдных людзей. У Валеўскай школе тады быў арганізаваны краязнаўчы музей, і вучні прымалі непасрэдны ўдзел у яго працы, праводзілі экскурсіі па музеі падчас канікулаў. Акрамя таго, каля школы вучні і настаўнікі стварылі вялікі парк-дэндрарый з экзатычнымі

для нашых мясцін раслінамі, за якімі школьнікі пастаянна наглядалі. У Валеўскую школу прыязджалі і выступалі ў свой час перад вучнямі вельмі многія вядомыя беларускія пісьменнікі і паэты.

Сярэднюю школу Іван Шэга закончыў з адной чацвёркай у атэстаце. Дарэчы, галоўны ўрач Слонімскай бальніцы Юрый Пяцельскі, з якім працаваў Іван Шэга і які выганяў яго з працы, таксама закончыў Валеўскую школу, але значна пазней. Тое, што Іван Шэга падаў дакументы на паступленне ў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, ён лічыць умяшаннем у ягоны лёс Бога. Шэга рыхтаваў дакументы ў політэхнічны інстытут, ды, прыехаўшы ў Мінск, у апошні момант памяняў рашэнне: нават сам не ведаў чаму, але аднёс паперы ў медыцынскі інстытут.

Падчас навучання на сельгасработах пазнаёміўся з будучай жонкай, якая вучылася на педыятрычным факультэце. У 1974 годзе яны ажаніліся, а ў 1975-м у іх нарадзіўся сын. У 1976 годзе Іван па размеркаванні быў накіраваны на працу ў Капыль хірургам, а жонка — педыятрам. Умовы працы для маладых спецыялістаў тады мала адрозніваліся ад цяперашніх: жылля не давалі, таму жылі на прыватнай кватэры, зарплаты былі малыя, таму без дапамогі бацькоў было б зусім цяжка. Адпрацаваўшы неабходны час, у 1980 годзе Шэгі пераехалі на радзіму жонкі — у Слонім.

## Штрых другі: шлях у медыцыну

У Слоніме ў 1984 годзе Іван Шэга з дапамогай жончыных бацькоў пабудаваў сабе дом. Працаваў у траўматалагічным аддзяленні, шмат аперыраваў, праходзіў стажыроўкі ў Мінску, Ленінградзе, Маскве, Запарожжы. Авалодаў методыкай мануальнай тэрапіі, што тады было вельмі модна. У Слонімскай паліклініцы па ягонай ініцыятыве быў адкрыты кабінет мануальнай тэрапіі, пазней на базе аздараўленчага комплексу слонімскага кардонна-папяровага завода «Альбярцін» ім было арганізавана малое прадпрыемства «Фенікс», якое



займалася аказаннем дапамогі хворым з астэахандрозам. На жаль, праз два гады, па прычыне рэканструкцыі тэрыторыі завода, прадпрыемства «Фенікс» было закрытае.

Але доктар Шэга стараўся працаваць сур'ёзна, павышаць свой медыцынскі вопыт, нягледзячы на ўсе праблемы і кур'ёзы. Ён у 1996 годзе стаў спецыялістам вышэйшай катэгорыі. Хворыя стараліся трапіць да яго на прыём. Доктара ў Слоніме сталі ведаць амаль усе.

## Штрых трэці: палітычны

У 1994 годзе Слонім наведалі тагачасныя дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі разам з Зянонам Пазьняком. На сустрэчу з імі прыйшлі каля тысячы чалавек, зала не магла ўсіх умясціць. Пасля выступлення Зянона Пазьняка Іван Шэга адразу напісаў заяву на ўступленне ў БНФ. З таго часу акрамя сваёй прафесійнай дзейнасці стаў паціху займацца грамадска-палітычнай. У выніку Іван Іванавіч перамог на мясцовых выбарах 2003 года, стаў дэпутатам Слонімскага раённага Савета.

Дэпутат Іван Шэга дабіваўся адкрыцця харчовай крамы на тэрыторыі свайго выбарчага ўчастка, бо людзі прасілі. Збіраў подпісы, пісаў скаргі, сустракаўся з людзьмі, з кіраўніцтвам райвыканкама і такі дамогся свайго. Старшыня райвыканкама Мечыслаў Касцюк нават даслаў яму запрашэнне на адкрыццё крамы! «Я вельмі стараўся працаваць у адпаведнасці з законам аб статусе дэпутата, праводзіў прыём выбаршчыкаў, ладзіў сустрэчы з імі, прычым рабіў гэта нефармальна. На фоне астатніх дэпутатаў выглядаў няблага, мяне мае выбаршчыкі ведалі і звярталіся пастаянна па дапамогу. Уладам мая дэпутацкая актыўнасць не падабалася. Пачаліся першыя праблемы на працы ў выглядзе прымусовага прызначэння мне дзяжурстваў на дні запланаваных мерапрыемстваў, адмоваў у прадастаўленні адпачынкаў і г. д.», — успамінае Іван Іванавіч.

На выбарах у Палату прадстаўнікоў Івана Шэгу не зарэгістравалі кандыдатам, бо баяліся, што за яго прагаласуе шмат людзей. Выбаршчыкаў прымушалі адклікаць сабраныя за яго подпісы. На чарговых мясцовых выбарах зноў не зарэгістравалі з-за дэкларацыі аб даходах. У даведцы аб даходах з бальніцы «забыліся» ўказаць 20 тысяч беларускіх рублёў прэміі. У 2007 годзе Іван Шэга арганізаваў кампанію за добраўпарадкаванне свайго мікрараёна, пасля чаго заасфальтавалі некалькі вуліц і завулкаў горада.

Выбары 2008 года ў парламент Іван Шэга і тысячы слонімцаў лічаць пераможнымі для доктара. Нягледзячы на ўсе падтасоўкі, ён набраў амаль 30 % галасоў па афіцыйных звестках. «Што галасы скралі — без сумнення, бо маю доказы, — распавядае Іван Іванавіч. — Пасля выбараў на мяне наехаў галоўны ўрач-зямляк Юрый Пяцельскі, які парэкамендаваў мне напісаць заяву аб звальненні, аднак я падзякаваў і запэўніў, што разбяруся ў гэтай праблеме сам. У адказ ён зволіў з працы старшыню майго выбарчага штаба Івана Бедку».

З гэтага часу Іван Шэга на працы быў пад пастаянным прэсінгам. Але па-сур’ёзнаму зачапіць не маглі, хаця крыві папсавалі. Маючы вышэйшую катэгорыю і з’яўляючыся аперыруючым хірургам, ён напісаў заяву аб пераходзе з паліклінікі ў траўматалагічнае аддзяленне Слонімскай бальніцы, бо там з’явілася вакансія. Галоўны ўрач Пяцельскі, канешне, адмовіў, а сам даў аб’яву ў СМІ, што яму патрэбен доктар для працы ў траўматалагічным аддзяленні.

Апошнім часам Іван Іванавіч узначальвае Слонімскую арганізацыю партыі БНФ. «На парламенцкіх выбарах 2012 года наша партыя прытрымлівалася тактыкі, прапанаванай Слонімскай арганізацыяй партыі БНФ. Лічу, што нам удалося пераламаць сітуацыю, упершыню ўладам прыйшлося гуляць па нашых правілах, шкада толькі, што не ўсе дэмакраты гэта зразумелі. Я ўдзельнічаў у гэтай кампаніі ў якасці кандыдата, але па рашэнні партыі зняў сваю кандыдатуру», — разважае Іван Шэга.



## Штрых чацвёрты: медыцынскі

У тым жа 2012 годзе Іван Шэга зарэгістраваў недзяржаўную інфармацыйна-кансультатыўную ўстанову «Шэгамедкансульт». Перад гэтым мясцовыя актывісты ў Слоніме правялі добрыя грамадзянскія кампаніі па паляпшэнні медыцынскага абслугоўвання насельніцтва. Была праведзена канферэнцыя па гэтым пытанні з удзелам медыкаў з Гродна і Мінска, выпрацаваны канкрэтныя прапановы, якія былі накіраваны ў Слонімскі райвыканкам і адміністрацыю Слонімскай ЦРБ. Вынікам яе сталі набыццё камп’ютарнага тамографа, адмена незаконнай аплаты хворымі рэнтгенаўскай плёнкі, рэфармаванне працы траўматалагічнага кабінета паліклінікі. Акрамя таго, Іван Шэга прааналізаваў стан і выпрацаваў прапановы па рэфармаванні сістэмы аховы здароўя Беларусі.

Працуючы ў Слонімскай ЦРБ, Іван Шэга пастаянна накіроўваў пісьмовыя звароты да галоўнага ўрача Пяцельскага наконт нізкай тэмпературы ў перавязачнай мінулай зімой, наконт няправільна ўсталяванай бясценевай лямпы, наконт неабходнасці папаўнення інструментарыю для амбулаторных аперацый і г. д. І, ведаючы яго настырнасць, адміністрацыя знаходзіла магчымасць тое-сёе зрабіць.

Калі заканчваўся працоўны кантракт, Іван Шэга атрымаў ліст ад галоўнага ўрача Пяцельскага з прапановай працягнуць кантракт: «Адміністрацыя УА “Слонімская ЦРБ” паведамляе, што з Вамі будзе працягнуты кантракт тэрмінам на адзін год з 28 чэрвеня 2013 года да 27 чэрвеня 2014 года».

Вядома ж, спецыялістаў у Слонімскай ЦРБ не хапае. Напрыклад, каб патрапіць да неўрапатолага, трэба чакаць месяц, да ўролага — каля двух месяцаў, тое самае і з траўматолагамі. Не хапае ў Слоніме траўматолагаў, бо нядаўна два добрых спецыялісты пераехалі ў Касцюковічы, адзін — у Мінск, уролаг — адзін на ўвесь раён, і то ён даўно пенсіянер. Маладыя спецыялісты прыедуць, адпрацуюць два гады і пакідаюць горад.

І раптам 21 мая Іван Шэга атрымаў ад таго ж Пяцельскага новае пісьмо, дзе галоўны ўрач папярэджвае: «Адміністрацыя Слонімскай ЦРБ паведамляе, што 27 чэрвеня Вы будзеце звольнены ў сувязі з заканчэннем тэрміну кантракта, п. 2 арт. 35 Працоўнага кодэксу Рэспублікі Беларусь».

## Штрых пяты: жыццё працягваецца

Даведаўшыся пра гэта, жыхары Слоніма пачалі збор подпісаў пад калектыўным зваротам у Слонімскі райвыканкам, Гродзенскі аблвыканкам, Міністэрства аховы здароўя РБ, адміністрацыю прэзідэнта, у якім прасілі даць ім магчымасць лячыцца ў вопытнага доктара, якому яны давяраюць і якога ведаюць шмат гадоў. У абарону доктара Івана Шэгі было сабрана звыш 1500 подпісаў і адпраўлена па адрасах.

Кіраўнікі слонімскіх суполак партый «Справядлівы свет» (Сяргей Бузун), БНФ (Віктар Марчык), БХД (Іван Бедка), АГП (Сяргей Бялько) і Алесь Масюк ад «Руху за Свабоду» звярнуліся да старшыні Слонімскага райвыканкама Іосіфа Паўлюкевіча з просьбай падтрымаць доктара. У лісце партыйцы напісалі, што «доктар Слонімскай цэнтральнай раённай бальніцы Іван Іванавіч Шэга 30 гадоў адпрацаваў у бальніцы. Доктар вопытны, спецыяліст вышэйшай катэгорыі, якога ведаюць як добрага спецыяліста ўсе жыхары Слонімшчыны і нават суседніх раёнаў, ён поўны сіл і энергіі працаваць і надалей доктарам у Слоніме». Але спадар Паўлюкевіч адказаў: «Слонімскі раённы выканаўчы камітэт паведамляе, што з Шэга Іванам Іванавічам спынены працоўныя адносіны ў адпаведнасці з дзеючым працоўным заканадаўствам».

Івана Шэгу звольнілі з працы. Следам за ім звольніўся са Слонімскай ЦРБ і траўматолаг Юрый Халупка. Слонім застаўся без вопытных дактароў. Але гэта галоўнага ўрача Пяцельскага не хвалюе: ён па-ранейшаму дае абʼявы ў «Медыцынскі веснік» і іншыя выданні, што ў Слонім запрашаюцца на працу дактары амаль усіх спецыяльнасцяў. Толькі



ніхто сюды не едзе. А Іван Шэга бясплатна лечыць хворых. Бывае па 5–6 чалавек у дзень, бо людзі просяцца да яго, яму давяраюць. А яшчэ доктар і палітык Іван Шэга ў Слоніме для сваёй уласнай установы «Шэгамедкансульт» знайшоў у горадзе памяшканне, дзе бясплатна дае медыцынскія кансультацыі. Ён у нястомных пошуках праўды — жыццё працягваецца.

*2013, лістапад*

# СЛОНІМЕЦ, ЯКІ РЭСТАЎРЫРУЕ КАРАН

Нават і не верыцца, што гэтаму фізічна моцнаму і паармейску падцягнутаму чалавеку ўжо 70. Мне здаецца, што яму значна менш. Знешне для мяне ён застаецца такім, які быў тады, калі я з ім пазнаёміўся дзесьці ў пачатку 1990-х гадоў. Слонімскі грамадскі і рэлігійны актывіст, імам-старшыня абʼяднання мусульман Слонімшчыны, былы намеснік муфція Беларусі. А яшчэ — выдатны чалавек, добры знаўца гісторыі роднага краю, гісторыі татарскага руху на Беларусі, сардэчны беларускі мусульманін. Гэта ўсё ён — Сулейман Байрашэўскі, якога мы ў Слоніме шчыра называем Сулейман Мацвеевіч.

Пра гісторыю татараў на Беларусі Сулейман Байрашэўскі можа распавядаць доўга. Таму што гэту гісторыю стваралі і яго далёкія і блізкія продкі. А пра Слонім і слонімцаў ён заўсёды расказвае з радасцю і нават нейкай балючай настальгіяй. «У гэтым доме некалі жыў мой дзед. А вось тут былі бабуліны агароды, там — цётчыны, а там стаяла старая мячэць. Яе перад адступленнем спалілі немцы ў 1944 годзе. Мячэць стаяла на былой Татарскай вуліцы, цяпер гэта вуліца Кірава. На ёй сёння жыве



*Сулейман Байрашэўскі*

пару татарскіх сем'яў. А перад Другой сусветнай вайной у Слоніме налічвалася аж 600 татараў. На жаль, татараў са Слоніма прымусова высялялі тры разы: у 1929, 1944 і ў 1946 гадах», — распавядае Сулейман Байрашэўскі.

Мы непрыкметна падыходзім да ладнага аднапавярховага будынка з паўмесяцам на даху. Гэта слонімская мячэць. Яна адкрыла свае дзверы для слонімскіх мусульманаў летам 1994 года. «Адкрыць мне тады дапамог былы старшыня беларускага парламенту Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, — успамінае Сулейман Мацвеевіч. — Я напісаў яму пісьмо, расказаў пра слонімскіх татараў, пра іх лёс і пра гэты будынак. Ён даў загад аддаць будынак мясцовай суполцы мусульманаў. Так нам і дастаўся гэты будынак».

Зімой мячэць не ацяпляецца, бо сёння вельмі дорага каштуе гэтая паслуга. Тым не менш, кожную пятніцу а 13-й гадзіне адданыя вернікі-мусульмане спяшаюцца ў мячэць. Яны па-ранейшаму разам, абшчынай, хоць невялікай, але заўсёды спраўляюць свае святы — то Курбан-байрам, то Рамадан-байрам і г. д. Працуе і нядзельная школка, дзе вывучаецца арабская мова, гісторыя ісламу, праводзяцца розныя мерапрыемствы і ў мячэці, і ў іншых месцах Слонімшчыны. І гэта дзякуючы Сулейману Байрашэўскаму.

Родам Сулейман Мацвеевіч са Слоніма. Пасля школы паступіў у ваеннае вучылішча, шмат займаўся спортам, стаў майстрам спорту па баскетболе. Службу праходзіў у Расіі — на Чукотцы (Анадыр), на Украіне, а потым вярнуўся ў родную Беларусь. Служыў добра, бо мае медалі былога Савецкага Саюза. Праўда, да пенсіі даслужыцца не паспеў: калі Байрашэўскаму споўнілася 40 гадоў, яго ў званні маёра звольнілі з радоў узброеных сіл СССР.

Пасля звальнення Сулейман Байрашэўскі прыехаў у Слуцк, дзе працаваў інжынерам спорткомплексу. Але праз год вярнуўся ў родны Слонім, дзе пэўны час узначальваў спорткомплекс горада, потым быў намеснікам дырэктара школы.



У 1992 годзе Сулейман Мацвеевіч арганізаваў у Слоніме мусульманскае рэлігійнае таварыства і стаў яго кіраўніком, а больш канкрэтна — аднавіў праз 48 гадоў. Як кіраўнік мусульманскай абшчыны, ён найперш звярнуў увагу на добраўпарадкаванне мусульманскіх могілак, якім 300 гадоў. Могілкі знаходзяцца ў лясным масіве каля пяці кіламетраў ад горада. Займаюць яны плошчу 2,7 гектара зямлі. Сярод памерлых слонімцаў-мусульман там ёсць шмат магіл вайскоўцаў, якія служылі ў рускай арміі і загінулі альбо памерлі ад атрыманых ранаў падчас Першай сусветнай вайны. Гэтыя вайскоўцы былі родам з Уфімскай, Казанскай і Самарскай губерняў Расіі. На могілках паспелі тады паставіць агульны помнік-абеліск. А на кожнай магіле цяпер зроблены надмагільныя пліты з пазначэннем прозвішча, імя і палка, дзе служыў і з якой губерні паходзіць вайсковец. Усё гэта дзякуючы Сулейману Мацвеевічу і іншым мусульманам падтрымліваецца ў належным стане і сёння. Праўда, некалькі разоў вандалы шкодзілі помнікі, разбівалі, пераварочвалі. Але іх аднаўлялі зноў.

Па словах Сулеймана Байрашэўскага, у першай палове XX стагоддзя і да пачатку Другой сусветнай вайны ў Слоніме усе дзеці мусульман навучаліся рэлігіі ў Годжэго муадзіма слонімскай мячэці Сулеймана Шчэнсновіча. А жаўнерымусульмане прымалі прысягу на Каране. З адстаўных жаўнераў-мусульман быў створаны атрад стралкоў, якім камандаваў адстаўны маёр Войска Польскага Давід Яновіч-Чаінскі. Маёр Чаінскі быў арыштаваны НКУС і ў 1940 годзе расстраляны пад Мінскам. Яго жонку з дзвюма маленькімі дочкамі вывезлі ў Сібір. Наогул, у Сібір у 1939–1949 гады бальшавікамі былі вывезены са Слоніма 20 заможных сем'яў мусульман, а гэта 24 чалавекі. Чацвёра з іх памерлі з голаду на высылцы, а астатніх лёс раскідаў па розных краінах свету. Чатыры слонімскіх мусульманіны загінулі ад рук немцаў — сям'я адваката Багдана Шэгідзевіча.

Сёння Сулейман Байрашэўскі робіць усё, каб памяць пра знакамітых слонімскіх і беларускіх мусульман на Ба-

цькаўшчыне ўшаноўвалася. У жніўні 1994 года ў Слоніме быў праведзены Міжнародны з’езд татараў, на які прыехалі госці з Англіі, ЗША, Польшчы, Расіі і з іншых краін свету, а таксама з розных куткоў Беларусі.

Імам-старшыня аб’яднання мусульман Слонімшчыны Сулейман Байрашэўскі ніколі не сядзіць без справы. У 1996 годзе ён выдаў малітоўнік для мусульман, напісаны кірыліцай. Пачаў рэстаўраваць Караны, якім па 100 і болей гадоў. Выдаў малітоўнік арабскім шрыфтам. Усе гэтыя выданні сталі настольнымі кнігамі ў дамах мусульман не толькі Беларусі, але і за яе межамі.

Тры гады Сулейман Байрашэўскі за свае ўласныя грошы выдаваў газету «Нур-свет», якая распаўсюджвалася ў 18 гарадах Беларусі. Ён і зараз жадаў бы яе выдаваць, але на гэта не хапае сродкаў.

Імя Сулеймана Байрашэўскага цесна звязана і з дэмакратычным рухам на Слонімшчыне. Ён заўсёды наведваў розныя мерапрыемствы, семінары, сустрэчы. І калі слонімскіх грамадскіх актывістаў выганялі з памяшканняў, не давалі іх пад арэнду, Сулейман Байрашэўскі клікаў усіх да сябе ў мячэць. Нават заклік у слонімцаў узнік такі: усе — ў мячэць! І там шмат разоў праводзіліся і семінары, і сустрэчы, і канферэнцыі. Цяпер час змяніўся, ды і не так актыўна сёння наладжваюцца тыя ж семінары і канферэнцыі, асабліва звязаныя з гісторыяй роднай Беларусі.

Па-ранейшаму Сулейман Байрашэўскі шмат увагі аддае добраўпарадкаванню мусульманскіх могілак. Амаль штотыдзень наведвае іх, аглядае, прывозіць на экскурсіі гасцей з іншых краін, наладжвае мерапрыемствы па ўшанаванню ўсіх тых, хто загінуў падчас розных войнаў. А аднойчы, калі ён вяртаўся па лясной дарозе дамоў на скутары, убачыў дзвюх дзяўчынак. Узяўшыся за рукі, малыя крочылі проста яму насустрач. «Куды вы ідзяце, дзяўчаткі?» — спытаўся Сулейман Мацвеевіч. «У Слонім», — адказалі дзеці. «Але Слонім знаходзіцца зусім у іншым баку. Ці не заблудзіліся вы?» — пацікавіўся дарослы.



Дзяўчынкі сапраўды заблудзіліся і ўжо паўтары гадзіны блукалі па лесе, шукаючы дарогу на Слонім. Адной з іх было пяць гадоў, другой — тры. Разам з бацькамі яны прыехалі на дачу. Калі бацькі працавалі, дзеці вырашылі нарваць лясных кветак для сваіх матуль. Збіраючы кветкі, малыя заблудзіліся. Сулейман Мацвеевіч напаіў іх вадой, пасадзіў на скутар і накіраваўся ў Слонім. Па дарозе ён сустрэў нарад міліцыі, які ўжо даўно шукаў дзяцей. У суправаджэнні міліцыянераў дзяўчынак вярнулі іх бацькам.

І апошняе. У 2009 годзе Сулейман Байрашэўскі здзейсніў Хадж у свяшчэнную Мекку. Дый за сваё жыццё шмат дзе быў, пабачыў і шмат з кім сустракаўся, гутарыў, працягвае сябраваць. «Але лепш за ўсё дома», — кажа Сулейман Мацвеевіч.

*2014, студзень*

# Мой зямляк Янка Саламевіч

## ВЯЛІКІ БЕЛАРУСКІ ЭНЦЫКЛАПЕДЫСТ



*Янка Саламевіч*

31 ліпеня 2012 года не стала майго слыннага земляка і старэйшага сябра са Слонімшчыны, кандыдата філалагічных навук, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, вядомага беларускага энцыклапедыста, літаратуразнаўца Янкі Саламевіча. Гэта для мяне была асабістая вялікая страта, бо шмат гадоў я з ім сябраваў, перапісваўся, сустракаўся. Таму гэты раздзел я вырашыў прысвяціць Івану Уладзіміравічу: уключыць сюды дзве гутаркі з ім, яго лісты і аўтографы.

Янка Саламевіч вельмі хацеў выдаць трохтомнік слоўніка псеўданімаў і крыптанімаў. Не паспеў. Але паспеў ён за сваё жыццё зрабіць, акрамя слоўніка, яшчэ вельмі шмат.

Ён быў вялікім беларускім энцыклапедыстам, роўнага яму ў Беларусі больш не было. Я шмат гадоў з ім сябраваў і не мог наталіцца ягонымі ведамі, аповедамі пра нашу Беларусь, яе гісторыю, літаратуру, выданні і, вядома ж, людзей. З ім гутарыць можна было бясконца. З ім цікава было прысутнічаць на розных мерапрыемствах, фэстах, вяселлях, сустрэчах. Ён мог так развесяліць грамаду, што



людзі проста «рвалі жываты» ад смеху, бо выдатна ведаў беларускі гумар, фальклор, ён умеў прыкмеціць і запомніць нейкае добрае слоўца, выраз, прымаўку. А пра землякоў сваіх з роднай вёскі Вялікая Кракотка, што на Слонімшчыне, ён мог распавядаць бясконца. Ну, напрыклад, пра тое, як на судзе пры Польшчы судзілі беларускага селяніна. Пракурор кажа: «Прошэ паньства, оскаржоны обзывал сонсяда псэм», а абвінавачаны суседу ў адказ: «Сабака ты, сабака! Калі я на цябе казаў пес?!».

А як ён файна згадваў сваіх бацькоў, іх крылатыя выразы, прымаўкі, слоўцы! Прывяду некалькі прыкладаў. Бацька пра маму, якая пачынала драмаць перад тэлевізарам і кляваць носам, казаў: «О, ужэ жыдоў возіць!». А пра сучасную моладзь ягоны бацька казаў: «Вянец пад плотам, а вяселё потым». А мама загадвала малым такую загадку: «Суну-пасуну, Трахім смяецца». Ніхто з дзяцей не адгадваў. Потым яна тлумачыла: «Месяц відзён, калі адсунуць юшку ў коміне!». Ён да апошніх сваіх дзён памятаў розныя вясковыя кракоцкія выразы і тыя, якія яму казалі бацькі: зняхаліся (г. зн. злюбіліся); спадніца тоўста, як падруба; далікатны, як панскі цюцька; вада халодная, аж у зубы заходзіць; ідзе, як назаўтра; пляце смалянога дуба (гаворыць абы-што); ужэ налавіў рыбы (нацубарыў у пасцель) і г. д.

Але ж што гэта я пачаў зусім не з таго? Трэба ж згадваць Янкі Саламевіча працы, жыццёвы шлях і яго заслугі перад нашай Бацькаўшчынай і народам. А заслуг у спадара Янкі (так ён у апошнія гады прасіў яго называць) шмат. Ён у свой час скончыў Белдзяржуніверсітэт, абараніў кандыдацкую дысертацыю. З 1968 года працаваў у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя», спачатку старэйшым навуковым супрацоўнікам, пасля загадчыкам навуковай рэдакцыі народнай асветы і беларускіх слоўнікаў, вядучым рэдактарам, а потым вядучым рэдактарам рэдакцыі літаратуры, мовы, фальклору і этнаграфіі.

У 1972 годзе з друку выйшла яго манаграфія «Міхал Федароўскі», прысвечаная чалавеку, які выяўляў мастацкія



*Янка Саламевіч, Язэп Янушкевіч і Уладзімір Конан*

здабыткі беларускага народа і тым самым прычыніўся да паўнейшага раскрыцця духоўнага воблiку беларусаў перад светам. У кнізе Янка Саламевіч разгледзеў і прааналізаваў жыццёвы і творчы шлях і навуковую дзейнасць Міхала Федароўскага, звяртаючы ўвагу не толькі на яго песенную спадчыну, як гэта рабілася дасюль польскімі вучонымі, але і на казкі, прыказкі, загадкі, паданні, легенды, замовы і анекдоты.

У 1983 годзе Янка Саламевіч выдае першы ў Беларусі «Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў XVI–XX стагоддзяў». Потым ён яго дапоўніў і чакаў, каб слоўнік выдаць у некалькіх тамах. Былі яшчэ іншыя кнігі, якія ён напісаў, склаў, падрыхтаваў. Тысячы ягоных артыкулаў змешчаныя ў розных беларускіх энцыклапедыях, даведніках, календарах. Ён напачатку 1980-х гадоў вёў на беларускім тэлебачанні цудоўную перадачу «Роднае слова» і г. д. Усю яго працу сёння проста немагчыма ацаніць. Дзякуй яму за гэта!

Раздзел «Мой зямляк Янка Саламевіч» — даніна яго светлай памяці.



# ДЗВЕ ГУТАРКІ З ЯНКАМ САЛАМЕВІЧАМ

## Гутарка першая. «Я мару выдаць слоўнік гаворак роднай вёскі»

У канцы 1989 года, працуючы ў «Газеце Слонімскай», я задаў Янку Саламевічу два пытанні.

— *Чым памятны ў жыцці і творчасці быў для вас 1989 год?*

— Стаў двойчы дзедам — 15 верасня нарадзілася ўнучка Каця (унуку Паўліку пайшоў нядаўна пяты год). З сакавіка месяца я — член СП СССР. Абраны старшынёй Рады Таварыства беларускай мовы Першамайскага раёна г. Мінска і БелСЭ. Гэта вельмі адказная грамадская нагрузка. Яе хочацца выконваць сумленна і як найлепш. Тым больш ва ўмовах нашага страшэннага нацыянальнага нігілізму і бяспамяцтва. На Слонімшчыне гэта таксама вельмі актуальнае пытанне.

У 1989 годзе публікаваўся ў часопісах «Беларуская мова і літаратура ў школе» (артыкул пра Зоську Верас і падборка яе вершаў, каляндар юбілейных дат на 1989 і 1990 гг., які хочуць мець настаўнікі), «Крыніца» (матэрыял пра Фабіяна Шантыра — беларускага пісьменніка, публіцыста, грамадскага дзеяча, камісара па нацыянальных справах Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі ў 1919 годзе, разам з В. Скалабанам), у альманахах «Свіцязь» (артыкул пра Максіма Багдановіча і яго невядомыя творы), «Дзень паэзіі 1989» (забытыя вершы Янкі Купалы і прадмова да іх), «Шляхам гадоў» (архіўныя матэрыялы пра невядомую перапіску Янкі Купалы з А. Новікам-Прыбоем). Выдавецтва «Навука і тэхніка» выдала том «Беларуская фалькларыстыка», дзе змешчаны мой нарыс пра Міхала Федароўскага.

На працягу года склаў зборнікі паэзіі паэта-нашаніўца М. Арла (з уступам і каментарыямі), зборнік вершаў і паэм Янкі Купалы ў рускіх перакладах (упершыню ўвайшлі творы Купалы, якія ніколі не перакладаліся на рускую мову), паўтома (гады 1900–1917) новай анталогіі беларускай паэзіі —

усё для выдавецтва «Мастацкая літаратура». Уклаў кніжку апісаных М. Федароўскім у XIX ст. беларускіх вяселляў (адно са Слонімскага павета) — для выдавецтва «Полымя». Калі ўлічыць, што на рабоце ў выдавецтве я з 8.30 да 17.30 штодзённа, то, здаецца, на год замнога.

*— Што чакаеце ад 1990-га года?*

— Ведаю, што вольнага часу, як заўсёды, не будзе хапаць. Хацелася б, каб у новым годзе не падводзіла здароўе. А работы запланавана процьма: трэба ў асноўным завяршыць распачаты том «Памяць. Слонімскі раён», які мне, як земляку, выдавецтва даручыла рыхтаваць на грамадскіх пачатках. Спадзяюся, што гэту кнігу будуць памагаць рабіць усе нашы землякі, у тым ліку школы, сельсаветы, калгасы, паасобныя людзі. Думаю неўзабаве расказаць пра гэту работу ў нашай раённай газеце. Тэрмінова раблю падкінутыя мне прафесарам Алегам Лойкам каментарыі да ўкладзенага ім зборніка твораў Максіма Багдановіча, які выйдзе ў Маскве да 100-годдзя нашага паэта. Складаю зборнік твораў Зоські Верас і кніжку ўспамінаў пра Уладзіміра Дубоўку, з якім я 9 гадоў перапісваўся. Мару завяршыць том (з прадмовай і каментарыямі) твораў нашага земляка са Збочна Кандрата Лейкі. Хачу напісаць артыкул пра славутага фатографа Яна Булгака, які і Слонім здымаў у 1930-я гады, і падрыхтаваць публікацыю пра песню Гальяша Леўчыка «Мне трэба ўмярці», ноты якой шчасліва зберагліся (дарэчы, адзіны пакуль што музычны твор нашага земляка-сланімчаніна). Як бачыце, многа ў планах і зямляцкага, звязанага з роднай Слонімшчынай. Буду нешта рабіць і з матэрыяламі слоўніка маёй кракоцкай гаворкі, якія збіраю даўно, і набралася іх на сёння каля 6 тысяч картак-слоў з прыкладамі-сказамі, з раскрыццём значэнняў слоў, іх адценняў, з украпленнем фразеалагізмаў, якія найлепш выяўляюць самабытнасць мовы любога народа, любой тэрыторыі, рэгіёна, вёскі.

*1989, снежань*



## Гутарка другая. Пра Арла і Коршуна

У 2010 годзе споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння двух беларускіх паэтаў, якія былі родам з Беласточчыны, — М. Арла (Сцяпана Пятэльскага) і Коршуна (Янука Дарашкевіча). Жыццём і творчасцю іх некалі займаўся мой зямляк — кандыдат філалагічных навук, вядомы беларускі літаратуразнавец Янка Саламевіч. Ён нават у 1991 годзе сабраў спадчыну М. Арла і выдаў асобнай кніжачкай пад назвай «Лірнік». А вось паэтычную спадчыну Янука Дарашкевіча пакуль выдаць не ўдалося. Пра Арла і Коршуна я вырашыў пагутарыць з Янкам Саламевічам.

*— Спадар Янка, чаму Вы пакрыўдзілі сябрука Сцяпана Пятэльскага Янука Дарашкевіча і не выдалі яго паэтычную спадчыну, так як зрабілі з Пятэльскім (М. Арлом)?*

— Гэта я табе, Сяргей, прапаную зрабіць. Тым больш, што ты ўжо сёе-тое з яго з паэтычных твораў сабраў, шмат надрукаваў добрых згадак пра Янука Дарашкевіча. Ведаю, што ў бліжэйшы час ты будзеш яшчэ працаваць у бібліятэцы Акадэміі Навук Літвы. А там у фондзе № 21 захоўваецца яго рукапіс зборніка «Абразкі». Таму што «Абразкі» я там бачыў, але не змог у свой час іх перапісаць.

*— Можа, так і назваць зборнік Янука Дарашкевіча — «Абразкі»?*

— Гэту назву выкарыстоўваць нельга, бо такую назву меў адзін са зборнікаў лірычных імпрэсій Змітрака Бядулі, які выходзіў з друку ў 1913 годзе ў Пецярбургу. Назву яму тады падказаў Янка Купала. Ды да зборніка вершаў такі назоў не падыходзіць. Ён больш падыходзіць да кнігі прозы.

*— Усё ж у М. Арла больш захавалася твораў, чым у Янука Дарашкевіча?*

— Усё, што давялося мне знайсці пра М. Арла, увайшло ў ягоную кнігу «Лірнік». Рукапіс «Лірніка», на шчасце, давялося мне займець. Дый Пятэльскі больш друкаваўся за Дарашкевіча. У Сцяпана Пятэльскага было напісана і знойдзена каля 50 вершаў, перакладаў з В. Бялінскага, карэ-

спандэнцый розных, якія ён падпісваў псеўданімам С. Бас. У Янука Дарашкевіча напісана каля 20 вершаў. Ён карыстаўся псеўданімамі Коршун, В. Каршун, Янук Д., Д-іч Янук.

*— А Сцяпан Пятэльскі меў толькі псеўданімы М. Арол і С. Бас?*

— Быў у яго і крыптанім М. А. Але найбольш падпісваў свае творы ён псеўданімам М. Арол. Алег Лойка ў сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд» (Т. 2) абазваў М. Арла Мікалаем. Але той так ніколі не падпісваўся. Услед за Лойкам Пятэльскага Мікалаем неяк называла і «Ніва» ў Беластоку.

*— А чаму гэтыя беластоцкія беларускія хлопцы пабралі сабе птушыныя псеўданімы?*

— Нават і не ведаю. Ды гэтага, думаю, не ведае ніхто.

*— Творчасць М. Арла даследавалі Юры Туронак, Вы, Алег Лойка, Віктар Швед, згадвалі пра яго Яўхім Карскі, Максім Гарэцкі і іншыя літаратары. Пры падрыхтоўцы кнігі твораў М. Арла Вы перапісваліся з ягонымі сваякамі?*

— Пры падрыхтоўцы «Лірніка» М. Арла я не перапісваўся з яго сваякамі. Ды іх, відаць, ужо і не было, як казалі беластоцкія журналісты. Хаця, магчыма, далёкія нашчадкі Пятэльскага жывуць у Гарадку.

*— Мне заснавальнік літаратурна-краязнаўчага музея ў Гудзевічах Алесь Белакоз даслаў паэму «Чаму ж усыхаюць кветачкі польскія на гною беларуска-літоўскім?», якую напісаў М. Арол. Але гэта паэма не была ўключана ў зборнік «Лірнік». Чаму?*

— Я ведаю гэту паэму. Яе сапраўды напісаў М. Арол. Але гэта іншы Арол, а не Пятэльскі-Арол. Паэма М. Арлом была напісана ў 1921 годзе ў Лідзе. А як мне вядома, беластоцкі М. Арол, як пісала віленская «Крыніца», памёр у 1917 ці ў 1918 годзе на Украіне з тыфусу, маючы 28 гадоў ад роду.

*— Але спадар Алесь Белакоз мяркуе, што аўтар вышэйназванай паэмы не хто іншы, а менавіта Сцяпан Пятэльскі. І памёр ён не ў 1917 ці 1918 годзе, а значна пазней. М. Арол, па словах Алеся Белакоза, загінуў напачатку 1920-х гадоў, магчыма ў Латвіі. Родныя яго людзі ведаць не маглі, бо яны не вярнуліся яшчэ з бежанства, а таму былі аддзелены мяжой ад Беларусі і Латвіі. Ды і тая віленская «Крыніца» паведаміла пра смерць М. Арла не калі-небудзь, а менавіта ў 1925 годзе.*



— Пры падрыхтоўцы спадчыны М. Арла мне падобныя факты не траплялі. А каб даказаць на 100 % версію Алеся Белакоза, трэба яшчэ шмат перакапаць архіваў і дакументаў.

*— Спадар Янка, а як насамрэч склаўся лёс Янука Дарашкевіча?*

— На вялікі жаль, Янук Дарашкевіч жыў у Расіі і ад сваёй беларускасці адмовіўся. Ён загінуў на фронце Другой сусветнай вайны 24 лютага 1943 года ў Арлоўскай вобласці. Ды і архіў яго не захаваўся.

*— Тым не менш, Сцяпан Пятэльскі і Янук Дарашкевіч з'яўляюцца аднымі з пачынальнікаў нашай беларускай літаратуры.*

— Так. Іх смела можна называць пачынальнікамі новай беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя, пачынальнікамі шчырымі і таленавітымі. І памяць пра іх у нашым народзе павінна быць дзейснай і жывой. Іх літаратурная спадчына служыць нашай літаратуры, беларускай культуры. Яна — яшчэ адна цаглінка, выкладзеная ў падмурак беларускага прыгожага пісьменства яшчэ разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам. І добра, што мы зноў гэтых паэтаў прыгадалі.

*2010*

# ЛІСТЫ ЯНКІ САЛАМЕВІЧА

*9 лютага 1987 года*

Дарагі Сяргей!

Ты малайчына, што збіраеш усё па Слонімшчыне. Гэта выдатна! І неўзабаве прыдасца. Наша выдавецтва БелСЭ выдае серыю «Памяць» (выйшаў Шумілінскі раён, выходзіць Бярозаўскі). Туды ідуць усе матэрыялы пра гісторыю і культуру раёна. Дык вось твае зборы можна будзе апублікаваць, калі будзе ісці Слонімскі раён. Збірай і надалей усё па Слонімшчыне!

Пасылаю табе «Кола дзён-87», а таксама перададзеную мне кнігу «Помнікі культуры. Новыя адкрыцці» (перадаў І. Крамко[1]) з артыкулам І. Крамко і А. Мальдзіса[2] пра гісторыю жыровіцкага манаха Феадосія[3]. Так што твае зборы папаўняюцца.

Я шукаю зборнікі У. Дубоўкі[4] «Залатыя зярняты» і «Ганну Алельку» (рыхтую Збор твораў Дубоўкі ў 6 тамах). Мо ў школе ці якой бібліятэцы можна абмяняцца на што хочуць? Мне трэба для расклейкі. Пацікаўся, калі ласка.

Калі хочаш ведаць глыбей, як мы ставілі п’есы ў Кракотцы[5] ў 1950-я гады, пазнаёмся з Яўгеніяй Мікалаеўнай Філітовіч (у Альбярцінскай школе). Яна многа табе можа расказаць. Яна з першага выпуску Вялікакракоцкай школы, а я з другога. Спашліся на мяне. Яна раскажа.

Добрага табе здароўя, энергіі, плёну ў пошуках!

*Янка Саламевіч.*

*11 лютага 1987 года*

Дарагі Сяргей!

Ліст твой да мяне дайшоў. У мяне іншы адрас — новая кватэра. На старой, на Я. Маўра[6], застаўся мой сын з нявесткаю і ўнукам.

Твае намеры напісаць пра мяне, шчыра кажучы, мяне крыху збянтэжылі. Чаму пра мяне? Ёсць жа нашы славутыя



землякі! Скажам, прафесар Алег Антонавіч Лойка[7], доктар навук, паэт Мікола Арочка[8] і г. д.

І якраз у мяне цяпер запарка. Сабралася столькі ўсялякай работы, што я ў поўным цэйтноце. Таму, не адмаўляючыся адказаць на твае пытанні, буду прасіць, каб даў мне адтэрміноўку. Ну, хоць на месяц. Добра?

Прызнаюся табе, што якраз цяпер паўстала пытанне пра тое, каб прыняць мяне ў Саюз пісьменнікаў. А гэта цягучая цырымонія — абмеркаванні, рэкамендацыі, галасаванні і г. д., і г. д.

Акрамя названых табою кніг, я склаў анталогію «Беларуская балада» (1978), зборнік Гальяша Леўчыка[9] «Доля і хлеб» (1980), зборнічак «Беларускія загадкі» (1982), «Хрэстаматыю па беларускай дзіцячай літаратуры» (1966, з Налівайкам), бібліяграфічны даведнік «Беларускі фальклор» (1964), толькі што выйшаў беларускі літаратурна-мастацкі каляндар «Кола дзён», дзе я таксама адзін са складальнікаў і, пахвалюся, аўтар назвы календара (на гэтым тыдні канчаем такі ж каляндар на 1988 год — таму я і ў цэйтноце).



*Янка Саламевіч у гасцях у Зоські Верас і ў сям’і Луцкевічаў у Вільні*

Вельмі многа пісаў у апошнія 6 гадоў у энцыклапедыю «Янка Купала»[10] (165 маіх артыкулаў там — проста жах!). Дарэчы, як «Янка Купала» ў Слоніме прадаецца? Вось калі б ты напісаў пра гэту кнігу ў раёнку! Кніга, па-мойму, вартая таго, каб пра яе напісаць.

Забірае час і тэлеперадача «Роднае слова», якую я вяду даўно, ці не 10 гадоў хутка.

Таму пакуль дай мне атрасці тэрміновае — пасля календара адразу мушу напісаць рэцэнзію на кнігу нашага земляка з Мяльканавіч У. Л. Сакалоўскага[11] «Пара станаўлення», якая нядаўна паявілася. Трэба ж падтрымаць хлопца. Тым больш, што ён ужо напісаў працяг гэтай кнігі.

У № 1 часопіса «Полымя» ты, відаць, прачытаў ужо мой вялікі артыкул пра 30-томнае выданне беларускага фальклору. Таксама трэба было спешна напісаць, бо часопіс падвёў адзін з аўтараў. Вось і загараў я на кастрычніцкія святы, трое сутак не выходзячы з хаты.

Фота дашлю таксама пазней — будуць здымаць на Дошку гонару — мая рэдакцыя народнай асветы і беларускіх слоўнікаў БелСЭ заняла першае месца за IV 1986 года, — таму давядзецца павісець на Дошцы.

Так што пакуль не крыўдуй, крыху пацярпі. Напішу табе пасля пра ўсё, што просіш. Жадаю табе добрага здароўя! Будзеш пісаць мне — колькі слоў пра сябе, калі ласка, скажы. Бывай здаровы!

*Янка Саламевіч.*

P. S. Ці ведаеш ты Сідаровіча[12] з СШ № 7 г. Слоніма? Ён мае матэрыялы Кандрата Лейкі[13], але не друкуе. Баіцца, што яго абкрадуць. Я з Алегам Лойкам ужо былі дамовіліся ў ЛіМе, дык не даў тэкстаў і па-сутнасці сам замаўчаў 125-годдзе Лейкі, які пісаў па-беларуску да Багушэвіча[14].

*23 жніўня 1987 года, Мінск*

Добры дзень, Сяргей!

Думаю, што ты ўжо ў Слоніме, таму і пішу. У мяне май і чэрвень гэтага года былі чорнымі: 11 мая памёр мой бацька, 19 мая — яго родная сястра, цётка Надзя, што жыла ў Слоніме, 1 чэрвеня — яшчэ адна мая цётка ў Кракотцы, 20 чэрвеня — сваяк у Вецявічах. Таму я не пісаў.



Летам (ліпень) тры тыдні быў у мамы ў Кракотцы. Пару разоў быў у Слоніме па розных клопатах і справах.

Чаму пішу цяпер? Наша выдавецтва выдае серыю кніг пра раёны рэспублікі — «Памяць». Выйшаў Шумілінскі раён. Мне даручылі падрыхтоўку тома Слонімскага раёна. Быў ужо ў райкаме партыі. Гутарыў з Л. І. Мукасей[15] і з першым — У. П. Разінкевічам[16]. Атрымаў іх згоду на супрацоўніцтва, падтрымку. Будзем распачынаць работу.

Дык вось калі ўсе твае зборы пра вядомых людзей Слонімшчыны нам спатрэбяцца (дарэчы, былі мы з А. А. Лойкам у С. А. Прасняка[17] ў рэдакцыі раёнкі, казаў, што твой вялікі артыкул дасць у некалькіх нумарах восенню).

Што я хацеў бы цяпер? Паспрабуй скласці спіс тых людзей, пра якіх ты хацеў бы напісаць у слонімскі том. Пісаць давядзецца ў выглядзе нарысаў, невялічкіх, старонкі на 3–4.

Твая жонка, здаецца, працуе ў 4-й школе. Вельмі прасіў бы яе даць адрас і імя і імя па бацьку А. Жукоўскага[18]. Ён наш патэнцыяльны аўтар і па ўдзельніках рэвалюцыі і па ўсёй мілітарыі, якой займаецца. І мо пару слоў, што гэта за чалавек, што ад яго можна чакаць (каб не М. Сідаровіч!).

Вось пакуль усё. Усяго табе і сям'і найлепшага!

*Янка Саламевіч.*

P. S. Учора памёр Міхась Стральцоў[19]. Шкада, таленавіты быў хлопец.

P. P. S. Сяргей! Мо цябе цікавяць якія выданні, штонебудзь іншае — пішы. Будзеш у Мінску — не мінай.

*13 кастрычніка 1987 года*

Добры дзень, Сяргей!

Дзякую за ліст, за згоду працаваць на наш слонімскі том, за адрас А. С. Жукоўскага.

Пакуль дасылаю толькі кніжку У. Сакалоўскага «Пара станаўлення». Кніжкі Кароткага[20] ў мяне лішняй няма, і ў кнігарнях яна хутка знікла. Трэба дабрацца да самога аўтара. Але гэта будзе пазней.

Два словы пра Уладзіміра Лявонавіча Сакалоўскага. Нарадзіўся ён 4 чэрвеня 1930 года ў вёсцы Мяльканавічы на Слонімшчыне. Сёлета вясной там памёр бацька. Скончыў Гродзенскі педінстытут у 1953 годзе. Кандыдат філалагічных навук. Працуе ў Інстытуце літаратуры АН БССР. Жыве ў Мінску.

Нядаўна мы з Алегам Антонавічам Лойкам[21] закончылі работу над «Анталогіяй беларускай паэзіі» для Лодзінскага выдавецтва (Польшча). Трэба скарачаць. Неяк зробім.

Але тут жа падваліла новая работа — скласці хрэстаматыю (ці як хочаш абзывай) беларускай літаратуры (ад фальклору, паэзія — проза — драматургія) для венграў. На нарадзе перакладчыкаў беларускай літаратуры ў Мінску была адна мадам з Будапешта і ўгаварыла нас з Лойкам на такую нялёгкую працу. Але дзеля патрыятычнай справы мы далі згоду (зарабіць там не заробіш — УАПП усё забірае для дзяржавы).

Вось пакуль усё.

*Янка Саламевіч.*

*14 і 15 лістапада 1987 года*

Дарагі Сяргей!

Па-першае, дзякую за ліст і за плакаты (яны мне добра прыдадуцца для будучага тома пра Слонімшчыну) (ліст без даты — гэта ў цябе бывае чамусьці).

Па-другое, 7-га быў каля тваёй хаты ў Слоніме, але… пацалаваў прабой. Я ехаў дадому і меў каля 1,5 гадзіны. Хацеў сустрэцца — не ўдалося. А 8-га ехаў назад, але не меў часу.

Бачыўся з Валодзем Кароткім (ён цяпер на філфаку БДУ працуе, Лойка забраў на сваю кафедру). Пытаў у яго кнігу пра Мялеція Сматрыцкага[22] — няма. Так што дастаць не змагу. Мо дзе выпадкова выплыве — тады дашлю. Але не спадзяюся.



Два тыдні — з 20.10. да 4.11. — быў на курсах павышэння кваліфікацыі кіруючых кадраў. Тое-сёе гаварылі цікавае ў лекцыях. Разам быў і Валодзя Ягоўдзік[23]. Даў яму чытаць «Нашу ніву» (1914 і 1908 гады ўжо вярнуў, чытае 1912 год). Харошы ён хлопец, выдатны пісьменнік — слова добра адчувае, шчыры сын Бацькаўшчыны.

Калі ёсць час, то мо давай паспрабуем пісаць для тома слонімскага. Для пачатку, напрыклад, пра А. М. Валынчыка[24] і А. Я. Пракапчука[25].

Што ты можаш сказаць пра Яўгена Васільевіча Валатоўскага — вучонага сакратара Жыровіцкай духоўнай семінарыі, выкладчыка Жыровіцкага тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі? Мальдзіс піша пра яго ў сваёй кнізе «Таямніцы старажытных сховішчаў» (Мінск, 1974. С. 20).

Спытай у Васіля Рыгоравіча Супруна[26], ці не жадае ён уключыцца ў работу над слонімскім томам па археалогіі (Ягоўдзік мне казаў, што ён добра ведае археалагічныя помнікі Слонімскага раёна).

Чым цяпер займаецца Рылко[27]? Ці варта з ім звязвацца? Ён пры першай нашай сустрэчы зрабіў на мяне не лепшае ўражанне. Нават не паказаў Леўчыкаўскіх (маецца на ўвазе Гальяша Леўчыка. — *С. Ч.*) матэрыялаў, якія заграбастаў у Польшчы.

Да А. С. Жукоўскага буду пісаць.

Мы збіраемся запрасіць у Мінск групу са Слоніма, тых, хто будзе працаваць над томам, каб пракансультаваць. Ці не запрасіць і цябе? Вось пакуль і ўсё.

*Янка Саламевіч.*

P. S. Зараз еду віншаваць свайго ўнука — сёння (а канчаю ліст 15-га) яму споўнілася 2 гады! Во які я ўжо стары!

P. P. S. Калі якія плакацікі ці што падобнае па Слонімшчыне з’явіцца — не забывай і на маю долю ўзяць.

*16 ліпеня 1989 года*

Дарагі Сяргей!

На тым тыдні зайшоў я ў «Мастацтва Беларусі». У гаворцы высветлілася, што яны надрукавалі б вялікі артыкул пра літаратурна-мастацкае жыццё Слонімшчыны. Каб не адна літаратура, а і мастацтва, архітэктура, мо якія самадзейныя ансамблі, народныя легенды і паданні, мастакі, скульптары і г. д. Аб'ём даюць 30 старонак машынапісу. Гэта не многа — можна разгарнуцца. Патрэбны і ілюстрацыі. Я назваў цябе як магчымага аўтара. У цябе напісана многа, сабрана шмат. Возьмешся? Паведамі, калі ласка.

У адной бібліяграфіі наткнуўся на такое: Известия Академии Наук СССР. Отдел общественных наук, 1932, № 1 — Puskarevic K. Die Umgesfaltung der Geistes eines Volkes-Epizode aus der Geschichte der Russificierung Weissrusslands (Gyt. w Slav. Rundsehau Jg. 4. № 4). Трэба праверыць, што гэта за артыкул Пушкарэвіча[28].

У кнізе «Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Новыя даследаванні» (Мінск, 1989) на с. 154–160 артыкул І. Д. Назіной[29] «Арганы на Беларусі». У ім ёсць і пра слонімскія арганы на с. 157, 158, 159. У гэтай кнізе на с. 149 пра іераманаха Тарасія 1643 года, закончаны ў Жыровічах. На с. 117 — пра касцёл канонікаў лютэранскіх у Слоніме (1635). На с. 57–61 — артыкул «Інтэр'ер слонімскага храма бернардзінак» — помнік віленскага барока. Так што раю паглядзець гэту кнігу. Там, можа, яшчэ што слонімскае ёсць, ды я не дагледзеў.

Ці збіраецца наша слонімская раёнка друкаваць спісы землякоў, якія загінулі ў вайну? Для кнігі «Памяць».

Шкада, што ты не з'ездзіў у Міжэвічы да Віктара Сямёнавіча Пякарскага. Цікавы матэрыял быў бы. Хочацца мне дабрацца да яго, ды не маю пакуль мажлівасці.

З пашанаю

*Янка Саламевіч.*



*23 верасня 1989 года*

Дарагі Сяргей!

З 27-га буду ў адпачынку — еду ў Друскенікі ў санаторый.

Што папрашу цябе, калі можна, даслаць на мой мінскі адрас за гэты час? Па-першае, калі ў цябе ёсць фота Кандрата Лейкі. Я ўключыў яго вершы ў анталогію беларускай паэзіі (т. 1, выдавецтва «Мастацкая літаратура»). Патрэбна фота, а яго я не маю. Па-другое, калі маеш вершы Лейкі яшчэ (не дзіцячыя!). «Пчол» я ўзяў з «Вожыка» і «Навальніцу» з «Нашай нівы». Хацелася б даць больш. Мо маеш што? Калі так — дашлі, калі ласка. Калі зможаш памагчы, буду ўдзячны вельмі.

Самая вялікая навіна ў нас: 21-га Алег Антонавіч Лойка абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР! У мяне і свая навіна: 15-га нарадзілася ўнучка (унуку 15.11. будзе 4 гады).

З кніг выйшлі новыя: т. 1–2 «Гісторыі беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд» А. Лойкі і «Крокі: проза "Узвышша"» І. Чыгрына[30]. У будучым магу даслаць. Вярнуся ў Мінск 27 кастрычніка.

Паклон жонцы.

З пашанаю

*Янка Саламевіч.*

*7 снежня 1989 года*

Дарагі Сяргей!

Дзякую за вершы Кандрата Лейкі і фота.

Усё ніяк не магу дапяць да кнігарні, каб выслаць табе 2-томнік «Гісторыі беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд» Алега Лойкі. Там вельмі каштоўны другі том, дзе ўжо ёсць і Гарун[31], і Луцкевіч[32], і Ластоўскі[33], і Зоська Верас[34], і К. Сваяк[35], і А. Зязюля[36] і г. д. Дапоўнена салідна. Пастараюся выслаць.

На выхадныя мушу ехаць у Вільню. Зоська Верас вельмі дрэнна пачуваецца — з лесу яе перавезлі ў горад. Ці не

апошні перыяд яе жыцця? Хай бы яшчэ пабыла, расказала таму-сяму што. Ведае яна шмат. Толькі зусім сляпая і глухая. Гэта — самае складанае для кантакту.

Здароўя і шчасця табе і сям'і ў Новым годзе!

*Янка Саламевіч.*

*3 студзеня 1990 года*

Дарагі Сяргей!

У 1990-м жадаю з сямейкаю быць здаровым, як зіма, вясёлым, як вясна, рабочым, як лета, багатым, як восень! Спаўнення ўсіх планаў і надзей! Шкадую, што не спаткаліся ў Мінску на краязнаўчай канферэнцыі. Трэба неяк дабрацца да «Мастацтва Беларусі», хай раскажуць, чаго яны хочуць.

Да «Піянера Беларусі» яшчэ не дабраўся, але помню і дабяруся абавязкова!

Яшчэ раз усяго самага светлага!

*Янка Саламевіч.*

P. S. Ці не ўзяўся б пан напісаць нарыс пра сваю родную вёску Хадзявічы?

*1 лютага 1990 года*

Дарагі Сяргей!

З-за вялікай занятасці тэрміновымі работамі не магу, на жаль, выканаць тваю просьбу поўнасцю. Але, каб падтрымаць старонку «Бацькаўшчына» ў нашай слонімскай раёнцы, дасылаю ўспаміны Івана Пятровіча Генеюша[37] пра Гальяша Леўчыка. Яны прызначаліся для кніжкі Г. Леўчыка «Доля і хлеб», але тады не пайшлі з-за прозвішча аўтара ўспамінаў. Цяпер іншы час (гл. «Маладосць», 1990, № 1, дзе ідуць нават фатаграфіі). Таму можна друкаваць.

Горш іншае. Я поўнасцю, як на тое ліха, забыўся (склероз, ці што?!), ад каго атрымаў тэкст (ці не ад Зоські Верас?). Калі будзеш друкаваць, можаш знізу пазначыць: «Публікацыя Я. Саламевіча» — і хопіць.



На будучае цяпер буду думаць, што даваць у гэту вельмі патрэбную старонку. Яна стане пэўнай крыніцай і для кнігі «Памяць. Слонімскі раён».

З пашанаю

*Янка Саламевіч.*

*7 мая 1991 года.*
*Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач»*

Дарагі Сяргей!

Па-першае, шчыра віншую цябе і ўсю тваю сям'ю з кватэраю — гэта надзвычай важная падзея. Цяпер будзеш мець магчымасць жыць па-чалавечы, мець месца для работы. Віншую ад душы.

А маўчаў я, думаю, ты ведаеш чаму. 11 снежня мяне падкасіў цяжкі трансмуральны інфаркт. Вось яшчэ дасюль ачухваюся.

Пасля бюлетэня чатырохмесячнага (з-за не вельмі добрага адчування) выйшаў на работу і адразу ўзяў чарговы адпачынак, каб крыху падмацавацца, акрыяць. Ад пасады загадчыка рэдакцыі ў БелСЭ адмовіўся. Што будзе далей — не ведаю. Алег Лойка мяне валачэ амаль сілком на філфак БДУ чытаць фальклор. Ці будзе гэта работа спакайнейшай за рэдактарскую? Бо дактары настойліва раяць работу і рытм жыцця — без лішніх хваляванняў.

Тут, у «Іслачы», у лесе, адчуваю сябе пакуль няблага. Маю асобны пакой, ёсць сталоўка. Можна адпачываць, можна, калі хочаш, і працаваць. Тут цяпер А. Дзеружынскі[38] (са мною за адным сталом і гуляем разам часта), Алена Васілевіч[39].

1-га мая ездзіў у Мінск, каб павіншаваць Алега Антонавіча Лойку з 60-годдзем. Пакрышку працую.

Калі можна, дашлі мне раёнку з юбілейнымі матэрыяламі пра А. Лойку, а то я яшчэ не бачыў новага яе загалоўка.

В. Р. Супрун павінен перадаць табе кніжку М. Федароўскага[40] «Люд беларускі. Вяселле», якую я паслаў на яго адрас для цябе.

Вось пакуль і ўсё. Што новага ў цябе, на Слонімшчыне? Пішы.

*Янка Саламевіч.*

*17 чэрвеня 1991 года*

Дарагі Сяргей!

Дасылаю кнігі, якія прапалі пры перасылцы на адрас В. Р. Супруна. Перадай яму і Анатолю Іверсу[41].

Усіх апытаў наконт «Свіслачы» — ніхто не ведае нічога. Адкуль у цябе інфармацыя?

Ажыццяўляю ідэю Генадзя Кісялёва[42] — збіраю матэрыял да кнігі пра псеўданімы. Назаві свае, калі ласка, скажы, адкуль яны паходзяць.

Думаў, што сустрэну цябе на з'ездзе ТБМ. Са Злучаных Штатаў ад Яна Пятроўскага[43] атрымаў 37 пісем Гальяша Леўчыка. Трэба рыхтаваць іх да друку.

Усяго добрага!

*Янка Саламевіч.*

*14 студзеня 1992 г. Стары Новы год*

Дарагі Сяргей!

Здароўя, шчасця, сямейнай утульнасці, радасці, спору і плёну ў пачынаннях, здзяйсненнях!

Дасылаю кніжку М. Арла[44], сваю чарговую работу! На стале такая работа над кнігаю А. Зязюлі.

Буду ўдзячны, калі дашлеш мне спіс твораў К. Лейкі, якія ў цябе ёсць. Я тады скажу, чаго ў мяне няма. Ці варта пытаць у Сідаровіча што-небудзь? Не хочацца.

З пашанаю

*Янка Саламевіч*

*1 лютага 1992 года*

Дарагі Сяргей!

Паслаў табе зборнік Т. Лебяды[45], два календары (дай адзін В. Р. Супруну). «Нашай долі» я ў продажы не бачыў (яна выйшла тыражом 1000 экз. — на ўсю Беларусь!).



Перагледзеў спіс К. Лейкі. Аказваецца, усё друкавалася ўжо (пераважна табой і Сідаровічам). Не знайшоў толькі трох рэчаў: празаічных — «Паймала і пазнала», «На споведзі» і верш «Песня ластаўкі». Калі не маеш звестак аб публікацыях, дашлі, калі ласка, тэксты гэтых рэчаў мне (калі публікаваліся — назаві крыніцы і дзе, я іх знайду).

Калісьці Сідаровіч сярод недрукаваных твораў Лейкі называў яшчэ «Сляпы дзед Якаў», «Дзед і баба», «У шпака і ў Зыдара», «Песня», «Як гэты, так і адгэты», «Ядзерэц», «Ганулька», «Альбом для сына», «Экскурсия воспитанников… в Киев», «О правовом положении слепых», «Письмо в редакцию», «Основа» (апошнія 4, відаць, артыкулы) і дадаваў і іншыя. Відаць, гэта ўсё ў яго ёсць.

Успамінаю, што ты казаў пра сваю сувязь са Здалбунавым лістоўную. Хто там яшчэ застаўся са сваякоў Лейкі? Ці маеш ад іх што пра самога Кандрата? Яго рукапісы, відаць, усе трапілі да Сідаровіча.

Віншую цябе, як лепшага аўтара «Нашага слова». Гадзіннік з Пагоняй я бачыў.

Усяго найлепшага табе і тваёй сям'і.

*Янка Саламевіч.*

*8 лютага 1998 года*

Дарагі Сяргей!

Нядаўна я выйшаў з бальніцы — чыкнулі апендыкс. Восенню, відаць, будуць рэзаць яшчэ, бо знайшлі ў жоўцевым пухіры камень ажно на 6 см. Пажывем — пабачым.

Толькі што выйшаў мой пераклад «Успамінаў пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану» — дасылаю. Я ўжо махнуў на гэты пераклад рукою, бо валяўся ён у выдавецтве 4 гады. Ажно выйшаў! Дык і добра.

Знайшоў на рабоце ў стале брашуру Гены Каханоўскага[46], падпісаную ім табе і Супруну Васілю яшчэ ў 1992 годзе. Я пра іх абсалютна забыўся. Прашу дараваць. Генадзь быў цудоўны чалавек, толькі Бог не даў яму пажыць. Прысвячу яму новае выданне свайго «Слоўніка беларускіх псеўдані-

маў» (калі ўдасца выдаць! У картатэцы ўжо 13 тысяч расшыфраваных). Відаць, у «Газеце Слонімскай» многія матэрыялы падпісваюцца выдуманымі прозвішчамі. Трэба было б іх у маю картатэку ўкінуць. Пакуль няма часу канчаткова аформіць слоўнік. Але мы з дачкою нават камп'ютар купілі, каб гэты слоўнік туды ўсадзіць, бо ўсё бывае — брыкну, то з картатэкай няпроста будзе каму-небудзь разабрацца. Пайду на пенсію — буду займацца толькі слоўнікам.

Кажуць, у Гродне, ці што, выйшла кніжка пра І. Дварчаніна[47]. Ці бачыў? Як бы яе дастаць, каб купіць?

Каго з беластоцкіх беларусаў трэба даць у энцыклапедыю? Напішы пра Міру Лукшу[48]. Буду ўдзячны. І далей па алфавіту. Цяпер робім 6-ы (ідзе карэктура) і 7-ы тамы. Начальства наша энцыклапедычнае цяпер такое, што нават рэпрэсіі выкрэслівае. Слова «русіфікацыя» забаронена ўжываць у любым кантэксце. Так што змагаемся, як можам. Хоць што-небудзь уратоўваем. 4-ы том «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» бачыш які тоненькі — Петрыкаў[49] усё павыкрэсліваў.

Як гэта падпісацца на «Газету Слонімскую»? Які яе індэкс?

Прывітанне жонцы, Іверсу, Супруну! Цісну лапу!

*Янка Саламевіч.*

*11 лютага 1999 года*

Братка Сяргей!

Шчыра дзякую за газеты, артыкул да юбілею. 1998 год быў для мяне няўдалы: 13 студзеня аперацыя апендыцыту, а 21 красавіка — інсульт. Далі 3 рабочую групу (і гэта пасля інфаркту і інсульту). Жонка ляжыць хворая. Яшчэ не старая, бо толькі 63 гады. Але цукрыца дабівае.

Напішы ты мне пра Міру Лукшу, пра яе як пісьменніцу. І хутка. Бо трэба ў гэтым месяцы здаць.

Другое. Паабяцалі (Цьфу! Цьфу!) мне перавыдаць мой слоўнік псеўданімаў у 2-х тамах. Цяпер толькі ім і займаюся. Ужо перадрукаваў да літары С — 700 старонак. Да



канца яшчэ многа работы. Давай псеўданімы журналістаў «Газеты Слонімскай». Уключу з радасцю ўсіх. Толькі трэба яе пагартаць і даць нумары, напрыклад: Акулка Міхась = Чыгрын Сяргей М.[50]. 1998, № 7, 18, 24, 90 і г. д.

Патрэбны і звесткі пра журналістаў: дата і месяц нараджэння. Добра было б, каб зрабіў кожны сам. Гэта лёгка.

Вось пакуль і ўсё.

З пашанаю

*Янка Саламевіч.*

*16 лістапада 1999 года*

Дарагі Сяргей!

Дзякую за кніжку. Шкада, што яна з'явілася толькі цяпер. Не трапіць ужо ў энцыклапедыю. На літару Г прайшлі артыкулы. І на літару К таксама ўжо позна.

Дапрацоўваю цяпер свой слоўнік псеўданімаў. Хачу, каб уключыць слонімскіх хлопцаў. Але трэба не толькі іх псеўданімы, але і даты, і месца нараджэння (для паказальніка). Хай даюць, бо пасля будзе позна. А ўключу з задавальненнем.

21 сакавіка 1999 года памерла мая жонка. Жыву цяпер пакуль з дачкою.

З пашанаю

*Янка Саламевіч.*

*10 снежня 2005 года*

Сяргей!

Думаў, што ты будзеш на сходзе Саюза пісьменнікаў. Падрыхтаваў табе падарунак — «Беларускі фальклор», т. 1, выпіску з майго хрышчэння (ксеракопію) і адказ на пытанне пра дзіцячы фальклор.

Адказ на пытанне дасылаю. Такую махіну, як «Беларускі фальклор», не пашлеш. Неяк будзеш у Мінску — забярэш.

Быў Валодзя Сакалоўскі, але пайшоў дахаты. Мусіць, падняўся ціск.

Іду ў бібліятэку.

*Янка.*

*18 жніўня 2006 года*

Сяргей!

Адсылаю лісты нашай будучай кніжкі. Здаецца, вычытаў уважліва. Каб не была такой доўгай назва, можна яе скараціць, скажам, «Дарога дадому» (а мо што прыдумаеш сам).

Дасылаю і фатаграфію, хоць ранейшую.

Хацелася б, каб тэкст ты паказаў Алегу Антонавічу Лойку, з якім часта сустракаешся. Там жа пра яго нямала. Хай бы прачытаў — усё можа быць у жыцці. Можа і падкажа што-небудзь.

Баляць ногі. Усе кажуць адно і тое — трымайся.

Дзякую за ўсё шчыра.

*Янка Саламевіч.*

*3 сакавіка 2007 года*

Сяргей!

Знайшоў кніжку М. Пецюкевіча[51] «Лісты (1956–1982)» (Беласток, 2005). На с. 120 Л. Глагоўская[52] падае: «Янка (Ян) Пятроўскі (20.01.1905, Слуцк — 3.01.2005, Гэйнсвіл)».

*Янка Саламевіч.*

*22 сакавіка 2007 года*

Сяргей!

Дасылаю табе ксеракопію сваёй метрыкі, падпісаную 12.01.1942 г. а. Антонам Неманцэвічам[53].

Сваю кніжку «У пошуках слонімскіх скарбаў» пашлі журналісту Алесю Львовічу Ільіну[54] ў Пінск. Ён будзе рады і дашле табе «Гістарычную браму», якая хутка выйдзе.

Урочышчаў вакол мае Малое Кракоткі наўспамінаў болей за 30. Пазней дашлю. Цяпер сяджу над сваім слоўнікам псеўданімаў.

Ян Пятроўскі памёр у 2005, а не ў 2002 годзе. Высветліла Лена Глагоўская. Не дажыў крыху да 100. Не магу знайсці яе кніжкі. Напішу пасля з указаннем старонкі.

Пакуль.

*Янка Саламевіч.*



*19 снежня 2007 года*

Сяргей!

Канчаю першы том свайго шматпакутнага слоўніка псеўданімаў і крыптанімаў. Сын Алесь, якому 16-га гэтага месяца было 46, адбіў мне 1250 старонак (калі звярстаюць, будзе нейкіх 600). Але ёсць яшчэ такія-сякія пытанні.

1. Язэп Палубятка[55] ў друку выступаў як Палубетка і Я. П. Але не маю даты і месца яго нараджэння. Можа мае якія-небудзь іншыя псеўданімы? Ці не дапаможаш?!

2. У «Советской Белоруссии», 1992, друкаваўся нехта Л. Александров і Л. Полоцкий. Ці не Аляксандр Леанавец гэта? Мо Валадашчук[56], які там друкаваўся таксама, прыпамінае што-небудзь.

3. У «Свабодзе» (1994, 1995) друкаваўся Яўген Аладка. Ці не В. Валадашчук і гэта?

4. Падабаецца мне Васіль Кроква (па-мойму, хлопец з Полацка) у розных выданнях. Але пакуль ніхто мне не сказаў, хто гэта. Мо памятае В. Валадашчук?

5. Ты добра ведаеш Яўгена Вапу[57] з «Нівы». Няўжо ён, як журналіст, не мае хоць пару прыдуманых прозвішчаў? Па «Ніве» мне дапамагае былы рэдактар. Але гэта ўжо не малады чалавек (1923 г. н.). Не хочацца яго нагружаць. Спытай як-небудзь у Вапы, калі ласка.

6. Дасюль не ведаю, калі памёр Ян Пятроўскі. У кніжцы М. Пецюкевіча «Лісты (1956–1982)» (Беласток, 2005. С. 120) сур’ёзная даследчыца Лена Глагоўская дае 20.01.1905, Слуцк — 3.01.2005, Гэйнсвіл. Ажно не верыцца, што чалавек пражыў амаль 100 гадоў. Але ў жыцці ўсё бывае.

У другім томе майго слоўніка псеўданімаў будзе лацінка і паказальнік аўтараў (амаль энцыклапедыя, болей за 800 рукапісных старонак). Трэба будзе яшчэ перапісаць больш за 1000 старонак. Паказальніка, пакуль усё не зроблена, не перапішаш (там жа пералічваюцца і ўсе псеўданімы і крыптанімы кожнага). Выдавацца слоўнік будзе ў Варшаве ці ў Нью-Ёрку. Ганарару не абяцаюць. Колькі дадуць аўтарскіх, таксама невядома.

Будзеш мець маю манаграфію пра М. Федароўскага. Падпісаў я яе ў 1973 годзе аднаму мінчаніну. Абыдзецца і без кніжкі.

Гэты год у мяне нялёгкі. Давялося ездзіць у Чэрвень да аднакурсніка Гены Несцяровіча (70 гадоў), да братавай у Докшыцы (50 гадоў), да свахі ў Гародзькі Валожынскага раёна (70 гадоў). Усё выдаткі. Але перажывем. 17-га сыну было 46. 25-га снежня дачцэ Вераніцы (галоўны рэдактар «Бярозкі») — 33. А яшчэ былі: 15 лістапада ўнук, 4 лістапада нявестка, 15 верасня ўнучка. Усе асенчукі. А дзед давай напружвайся.

З Саратаўскай вобласці прыязджаў брат Сцяпан з жонкаю. Ездзілі ў Кракотку, да сястры Тамары ў Барысаў (настаўніца роднай мовы і літаратуры), куды з Докшыцаў прыязджаў брат Віця з жонкаю.

Я ў Барысаў не ездзіў — цяжка. Ды і работы над слоўнікам хапае. Брат Васіль жыве 25 км ад Адэсы, хварэе. А яму толькі 66. У бацькавай хаце жыве толькі брат Анатоль, алкаш, таму і адзін, хоць у Слоніме меў кватэру, жонку, дачку і сына.

Алег Антонавіч Лойка ўжо ў Слоніме.

Усяго найлепшага ў Новым годзе табе і сям'і, асабліва здароўя!

З пашанаю

*Янка Саламевіч.*

*27 снежня 2007 года*

Сяргей!

Не адкладваючы, пішу некалькі пытанняў для Валадашчука. Мо памятае што. У «Свабодзе»: Аладка Яўген — 1994, № 43–45, 48.

Кастусь Скуратовіч[58] — Константин Комель, 1997, № 28, 34, 50, 62, 68. Кастусь Камель, 1997, № 87.

Алесь Мікалайчанка[59] — Язэп Сініцкі, 1997, № 84, 91, 94, 95, 102, 118.



Нехта Яцэк Гарбузовіч — 1997, № 6, 36, 41, 42, 50, 56, 73, 74.

Вацэк Гарбузовіч (відаць, той жа Яцэк) — 1997, № 49.

Нехта Кастусь Гарбузевіч — 1997, № 107.

Кастусь Гарбуз (відаць, той жа Гарбузевіч) — 1997, № 112.

Наконт Васіля Кроквы. Каб тут была памылка друку, то не сустракалася б так часта ў розных выданнях. Мо Аркуш і Кропка, але я яго не сустракаў пакуль. Добра было б расстарацца адрас Аркуша-Козіка[60]. Я яму сам напісаў бы.

«Наша ніва» за 1910 год каштуе 15 000 руб. Гэта факсімільнае выданне. За 1914 год — арыгінал. Сам не ведаю, колькі ён каштуе. Буду пытаць, скажам, у Генадзя Кісялёва, мо ў Ліса[61], Скалабана[62]. Трэба з імі параіцца.

Як Язэпа Палубятку па бацьку?

Дабіваю першы том. Але ўсё вылазяць і вылазяць пытанні. Віталь Скалабан сказаў: «Не можаш зняць пытання — выкрэслівай, хопіць і таго, што набралася». У 2008 годзе першы том слоўніка псеўданімаў павінен выйсці, хоць у канцы года.

Дзякую за адказы. Л. Глагоўскай я напісаў. Толькі ці адкажа? І што адкажа, цікава. Напісаў яшчэ Г. Валкавыцкаму[63] пра Аляксея Карпюка (не гарадзенскага!), які друкаваўся ў «Ніве». Што ён скажа?! Пад псеўданімам Ян Кропка ў «Ніве» (1957) выступаў Г. Валкавыцкі. Ён гэта мне сам паведаміў.

З пашанаю

*Янка Саламевіч.*

*13 студзеня 2008 года*

Сяргей! Са старым Новым годам! Хай ён не лянуецца, а прыносіць табе здароўе, новыя адкрыцці і знаходкі!

Усе гэтыя выданні ёсць у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Godel Goldberg, Zarys dziejów miasta Słonimia, Słonim, 1934, ss. 63.

Pisma przedślubne i przedsplinowe Johna of Dycalpa, Wilno, t. 2, ss. 1999 + [3].

Walerian Charkiewicz, Zmierzch unii kościelnej na Litwie i Białorusi (przyczynki do dziejów kultury polskiej na północno-wschodnich ziemiach Rzeczypospolitej), Słonim, 1929, ss. 153.

Wołyniak (Jan Marek Antoni Giżycki), Z przeszłości powiatu wołkowyskiego, Kraków, 1905, ss. 127.

Stanisław Lorentz, Wycieczki słonimskie. Krótki przewodnik krajoznawczy po Słonimie oraz Albertynie, Byteniu, Dereczynie, Mereczowszczyźnie, Różanie, Synkowiczach, Zdzięciole i Żyrowicach, Słonim, 1933, ss. 39.

Прывітанне Алегу Антонавічу Лойку.

*Янка Саламевіч.*

*14 студзеня 2008 года*

Сяргей!

Трэба мне дату нараджэння Ірыны Валынчык (Юрыны Патата)[64]. Ёсць 1973 год, але гэтага мала для зямлячкі. Гэта не тэрмінова.

Як Вольгу Шынкевіч[65] па бацьку, бо ў мяне няма. Дата нараджэння ёсць.

А калі нарадзіўся Леанід Бялькевіч[66] (Леанід Клён) з вёскі Юхнавічы? Мо ёсць даты нараджэння і смерці Аляксандра Канстанцінавіча Бяленкі[67] (Нічыпар Жальба, Слёзнавокі)?

*Янка Саламевіч.*

*24 студзеня 2008 года*

Сяргей!

Дзякую за адказы на пытанні. Як бачыш, першы том амаль гатовы. Я здаў на канчатковую праўку літар А-Г.

За гэты месяц я падчышчу ўсе пытанні па першым томе. Калі звярстаюць, будзе 600–700 старонак. У другім томе — лацінка і паказальнік. Перапісваць давядзецца старонак 1000. Буду старацца да юбілею закончыць усё. Першы том павінны выдаць, але ганарару не будзе.



Відаць, ведаеш, што памёр Міша Бортнік[68]. 46 гадоў было хлопцу. Гаварыў па тэлефоне і ўпаў. Абшырны інсульт.

Пакуль усё. Яшчэ раз дзякую за ўсё.

*Янка Саламевіч.*

*28 мая 2008 года*

Сяргей!

Пасылаю табе часопіс «Снапок». У звычайным сэнсе вокладкі ў яго не было. Быў малюнак дзяцей, якія пасуць кароў і нешта чытаюць. Далей ішоў тэкст. Мо спатрэбіцца і такое.

Не памятаю, ці гаварыў я табе, што 15 мая загінуў мой меншы брат Віця. Хлопцу было амаль 54 гады. Варыў сеялку, якая яго і забіла: перабіла шыйны пазванок, патрушчыла рэбры. Смерць наступіла імгненна. Сеялка важыла болей за тону. Пахавалі яго ў Докшыцах 17 мая. 24 мая сышліся дзве даты: Віцю было б 54 і 9 дзён ад яго смерці. Завёз мяне туды Віцеў сын Юра, што жыве ў Мінску. Засталіся тры ўнучкі і ўнук: у дачкі Олі сын Артур і дачка Аня, у Юры дочкі Насця і Віка. Яшчэ малыя. Дзеда Віцю памятаць не будуць.

Канчаю свой слоўнік псеўданімаў (першы том). Каб не бальніца (быў у ёй 28.4–20.5.2008), ужо закончыў бы.

Што з Кракоцкаю бібліятэкаю?

Сёння быў у букіністычным магазіне. «Наша ніва» за 1910 год каштуе 35.000 руб.

Як табе даставіць «Міхала Федароўскага»? Мо прыеду ў Слонім да Алега Лойкі, то прывязу. Яшчэ не тэлефанаваў Ул. Дамашэвічу[69], адзін ехаць баюся. У. Ягоўдзік ці паедзе?

Валодзя Содаль[70] напісаў да майго юбілею артыкул. Хоча змясціць яго ў № 10 «Полымя». «Роднае слова» пакуль А. Лісу не заказвала. Можа адмовіцца, хоць я пісаў пра яго ў адрыўным календары «Родны край» і ў часопісе «Роднае слова». Пачакаем. Ты, відаць, дасі ў «Газеце Слонімскай».

У мяне ёсць болей за 100 старонак успамінаў. Мо дадуць што-небудзь у «Маладосці»?! Як там у Лойкі са здароўем?

Пакуль, здаецца, усё!

*Янка Саламевіч.*

*9 красавіка 2009 года*

Братка Сяргей!

Дзякую за кніжку Сяргея Хмары[71] «Рабінавы хмель».

На вялікі жаль, фатаграфій людзей, дасланых у спісе, не маю. Нават няма ніякіх фота М. Федароўскага, бо дзе я іх мог узяць. У Варшаве тады сустракаўся з апошнім жывым сынам этнографа, але ён амаль нічога больш не меў. Як М. Федароўскі давозіў свае матэрыялы ў Варшаву, не ведаю.

У сваіх запісах знайшоў бібліяграфічную нататку, што ў газеце «Hryscianskaja dumka», 1938, № 10 (158), 1 красавіка быў апублікаваны артыкул П. Ластаўкі[72] «Беларусы ў Варшаве». Самога артыкула ў мяне няма. Але я пішу, каб ты ведаў, што такі быў. Мо хто знаёмы з Польшчы дашле табе яго ксеракопію.

Чакаю тваю кніжку «З беластоцкай зямлі». Маладзец, што многа выдаеш. Дай Бог табе здароўя.

Нядаўна глядзеў уручэнне прызоў за «Тэлеваршыню»: ніводнага беларускага слова. Горка, сумна!

Анатоль Сумны[73] нарадзіўся 14.4.1912 года на Беласточчыне. Сапраўднае яго прозвішча Анатоль Кунцэвіч. У Аўстраліі быў святаром і паэтам.

Пра Зміцера Кісяля[74] ў тваёй кнізе «Беларуская Беласточчына» (С. 146) сказана, што ён памёр. Што пра яго вядома? Ведаю, што ў газеце «Рэанімова» (Гродна, 1989) ён выступаў як Праўдзец з Няпраўдзельску.

У кнізе С. Хмары «Рабінавы хмель» (С. 147) ён называе зборнік перакладаў Г. Леўчыка «Духоўнай лірай». Але зборнік называўся «Божая ліра». На с. 148 Інстытут гаспадаркі і культуры ў Вільні называе Інбелкультам.

Можа што вядома табе пра Міхася Ліста (Васіля Іванавіча Камянецкага (1903–?)?..

*Янка Саламевіч.*



*28 красавіка 2009 года*

Сяргей!

Расшукаў свае запісы ўспамінаў Алега Антонавіча Лойкі пра слонімскіх настаўнікаў. Зрабіў матэрыял. Мо апублікуеш? Дасылаю.

*Янка Саламевіч.*

*21 мая 2009 года*

Сяргей!

Дасылаю фота. Пераздымі тыя, што зацікавяць, адашлі мне са спісам. Думаю, што фота жонкі Гальяша Леўчыка не маеш. Астатнія — як выбераш.

Ці надрукуеце матэрыял пра слонімскіх настаўнікаў Алега Лойкі? Успаміны пра яго занёс у «Полымя» на папярэдняе чытанне. Бо 31 старонка — многа месца займае, а ім трэба на дыскеце. Ніхто не хоча мне набіраць. Але да № 11 набярэм неяк.

17 мая ездзілі ў Докшыцы: ужо год па Віцю.

Думаю, што мае «Іскрачкі ўспамінаў» у «Маладосці» (2008, № 10,12; 2009, № 1, 4) чытаў. Як яны табе?

Дабіваю слоўнік псеўданімаў. Дачка Вераніка ўносіць апошнія праўкі ў літару А. Пасля пашлем Ю. Гарбінскаму[75] ў Варшаву. Літара А займае 102 старонкі.

Б — стар. 103–181. Таксама я ўжо закончыў. Пасля ўнясення правак можна адсылаць.

В — стар. 182–270. Засталося пару пытанняў. Але фактычна ўсё ўжо гатова.

Г — стар. 271–330. Амаль гатова.

Д — стар. 331–386. Амаль гатова.

Е — стар. 387–398. Амаль гатова.

Ж — стар. 398–415. Амаль гатова.

З — стар. 416–459. Амаль гатова.

Як бачыш, не гультайнічаю. Каб не ацёк ног — усё было б добра. Гэтыя 459 старонак хочацца выслаць у маі.

У «Роднае слова» напісаў нешта 7 артыкулаў пра псеўданімы. Цяперашні рэдактар працуе апошні тыдзень. Што будзе з новым?!

З 1968 года маю невядомыя ўспаміны пра Максіма Багдановіча[76] (3 старонкі). Ніяк не мог вызначыць аўтара. Але вызначыў нарэшце — Леанард Заяц[77] з БНР. Ужо напісаў уступ. Думаю, што будзе цікава.

Збіраю матэрыял да артыкула пра псеўданімы, якія хто каму параіў або якія прыдумалі рэдакцыі. Напрыклад, у «Беларускай крыніцы» пад вершам Пятра Сакала (Масальскага)[78] стаіць Гальяш Леўчык (верш «Беларускі сцяг»). У паштовай скрынцы напісалі Пятру Масальскаму: «Чаму пад вашым вершам не ваш подпіс — і самі не ведаем».

Шнэку[79], аўтару «Драбаў», параіў узяць псеўданім Хв. Ільяшэвіч[80], Міхаілу Гольдману (Міхасю Ясеню)[81] — Алена Васілевіч, Э. Агняцвет[82] — Я. Купала, артыстцы В. Галіне[83] — Я. Колас[84]. У рэдакцыі «ЛіМа» С. Ліхадзіеўскаму[85] прыдумалі Л. Сцяпанаў, А. Лісу — Л. Арсенка і г. д. Матэрыялу — заваліся. Напрыклад, у «Крыніцы», 1924, № 18, 16 ліпеня К. Сваяк піша, што подпіс «Сваяк» у № 2 «Грамадскага голасу» не яго. Такіх лістоў многа. А як дасюль Максіму Багдановічу прыпісваюць артыкул «Цензурные мытарства Н. А. Некрасова[86]» у «Голосе» пад літарай Б?. Але ж аўтар — У. Бурцаў[87]. Нават вопытная Н. Б. Ватацы[88] М. Багдановічу прыпісвала словы Я. Лёсіка[89] «Беларусь, Беларусь, агнём імя тваё мне гарыць». Думаю, што матэрыялу назбіраецца. І будзе артыкул. Чакаю тваю новую кнігу пра Беласточчыну, на якую буду спасылацца ў слоўніку псеўданімаў. Бывай здароў!

*Янка Саламевіч.*

P. S. Што там чутно з Кракоцкай бібліятэкай? Псеўданім Павел Любецкі (П. Г. Каравайчыка)[90] у кнізе «Расстраляная літаратура» (Мінск, 2008. С. 666) прыпісалі Раку-Міхайлоўскаму[91]. А я ж у сваім «Слоўніку беларускіх псеўданімаў» (Мінск, 1983. С. 83) расшыфраваў яго правільна.

Трэба, відаць, прасіць Ю. Гарбінскага, каб рабілі тры тамы слоўніка псеўданімаў. Лягчэй будзе перавозіць. Бо



толькі грамадзянскі шрыфт займае больш за 1256 старонак. Як звярстаюць, будзе на 300 старонак у томе, а мо і болей, бо дапісваю яшчэ на адвароце.

*30 мая 2009 года*

Братка Сяргей!

Кнігі, фота і лісты атрымаў — шчыры дзякуй.

Кніжку тваю «З беластоцкай зямлі» адразу «праглынуў». Хачу выказаць некалькі сваіх заўваг і дапаўненняў. Не даваў бы нарыса пра Я. Бранштэйна[92]. Каб ты пачытаў, што ён напісаў пра Янку Купалу, сам прыйшоў бы да такой высновы. Гэта быў дрымучы, вульгарны сацыёлаг. А М. Лынькоў[93] яго бараніў несправядліва, неаб'ектыўна, бо першая яго жонка была яўрэйкаю.

Пра Іраіду Царук[94]. Іраіда Царук некалі казала Міколу Ермаловічу[95]: «Белорусы первые откажутся от своего языка, поэтому они первые придут в коммунизм». Мову свайго народа яна паталагічна ненавідзела.

Вось некалькі ўспамінаў. Калі я ў Гродне зайшоў у аддзяленне Саюза пісьменнікаў, за сталом сядзеў Аляксей Карпюк[96]. На стале на шкляной паласе было напісана белым:

Вышли мы все из народа,
Как нам вернуться в него?
*Игорь Кобзев*[97]

Кніжку «Доля і хлеб» Г. Леўчыка рэдагаваў П. Макаль[98]. Заходжу да яго раніцай. З тумбачкі дастае бутэльку каньяку і налівае мне. «Пятрусь Міхайлавіч, — кажу яму, — я на рабоце». «А я дзе?!» — адказвае Макаль.

Шукаю матэрыялы пра Юзафа Вяжынскага[99], сябра мастака Ф. Рушчыца[100]. Яшчэ ў 1966 годзе ў Варшаве я натрапіў у газеце «Wieś Ilustrowana» за 1913 год яго пераклад на польскую мову «Слуцкіх ткачых» Максіма Багдановіча. Не знаю, ці ведаў пра гэта сам М. Багдановіч. Ужо маю партрэт Ю. Вяжынскага, зроблены Я. Булгакам[101]. У музеі М. Багдановіча пра Вяжынскага не ведаюць. У 1939

годзе Ю. Вяжынскі жыў, бо апісаў дзіцячыя гады мастака ў велізарным зборніку «Ferdynand Ruszczyc: życie i dzieło. Księga zbiorowa» (Wilno, 1939). Кніга ёсць у бібліятэцы АН Беларусі. У Нацыянальнай бібліятэцы яе няма. Мо ў Польшчы хто-небудзь ведае, як знайсці матэрыял пра Юзафа Вяжынскага?

Буду шукаць табе «Chryścijanskuju dumku» з артыкулам П. Ластаўкі «Беларусы ў Варшаве». З 1968 года я захоўваў невядомыя ўспаміны пра М. Багдановіча. Некалі пасылаў іх тэкст Зосьцы Верас, бо ў іх яна ўспамінаецца як Л(юдвіка) С(івіцкая). Яна нічога не сказала.

Нарэшце я расшыфраваў, што іх аўтар Леанард Заяц (гл. «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі» на З), бо ён з 1925 года апублікаваў у віленскай «Іскры» успаміны пра М. Багдановіча, падпісаныя Л. З-ц. Не ведаю, куды аддаць іх у друк. Відаць, у «Полымя». Колькі мы маем успамінаў пра М. Багдановіча? Вельмі мала. Таму мая публікацыя павінна быць сенсацыяй.

Кніжка твая «З беластоцкай зямлі» багатая не толькі зместам, але і фотаздымкамі. Беластаччане павінны быць задаволеныя.

З пашанаю

*Янка Саламевіч.*

*1 чэрвеня 2009 года*

Сяргей!

Недзе ў мяне была фатаграфія Варшаўскага беларускага гуртка, на якой Зоська Верас назвала ўсіх, хто ёй памятаўся. Буду шукаць, дашлю, як знайду. Там ёсць і Леўчык.

Тэлефанаваў у «Полымя». Успаміны пра Алега Лойку ім не падабаюцца, бо вялікія (31 старонка). А што скарачаць, Мікола Мятліцкі[102] не сказаў. Сказаў толькі, што трэба перапісваць, падкараціць. Паглядзім. Заўтра пайду туды. Паслухаю, што скажуць.

*Янка Саламевіч.*



*9 чэрвеня 2009 года*

Сяргей!

Высылаю табе ксеракопію артыкула П. Ластаўкі «Беларусы ў Варшаве». Дзякую за газету з маім артыкулам «Настаўнікі Алега Лойкі», які, відаць, атрымаўся нязгорш.

Ніяк пакуль не магу знайсці фота беларускага гуртка ў Варшаве 1912 ці 1913 года, на якім Зоська Верас расшыфравала амаль усіх, каго памятала. Там былі і Г. Леўчык і Р. Зямкевіч[103], і Сталыгва[104] і іншыя.

Успомніў, што пра кампазітара Казуру[105] пісаў Віктар Швед[106]. Ён, відаць, мае і яго фота. Трэба толькі памятаць, што ён з 1925 года, але яшчэ добра трымаецца. Прыслаў мне сваю апошнюю кніжку «Смяшынкі». Амаль у кожным нумары «Нівы» друкуе вершы для дзяцей. Мо ён дапаможа знайсці што і пра Юзафа Вяжынскага — сябра Фердынанда Рушчыца, першага перакладчыка Максіма Багдановіча па-польску.

На мае пытанні ты не адказаў. Мо ў цябе ёсць звесткі пра гродзенскага Зміцера Кісяля? Напішы, калі ласка.

З «Полымя» мае ўспаміны пра Алега Лойку вярнулі (31 старонка) без канкрэтных заўваг. «Перарабі, каб чыталася», — сказаў Мятліцкі. Алесь Карлюкевіч[107] забраў і аддаў у «Маладосць». Яны, вядома, завялікія для часопіса, але ўлезуць у два нумары. А яшчэ ж трэба даць фота Лойкі. Не магу знайсці яго фота з «узлётаўцамі». Там і ты ёсць, і Рыгор Семашкевіч[108]. Мо ў цябе ёсць гэта фатаграфія? Але вярнуць не магу, бо не маю адпаведнай тэхнікі. Каб мне мець копію гэтага фота! Я маю фота А. Лойкі, Ю. Пшыркова[109], У. Навумовіча[110] і мяне каля дома Пшыркова на вуліцы Светлай. Другое: Лойка, Дубянецкі[111], Жыдліцкі[112] і я ў майстэрні Мішы Раманюка[113], 1978 г. Гэтыя добрай якасці здымкі. А. Карлюкевіч спадзяецца, што Тоня Лойкава[114] нешта дасць.

Артыкул «Дэтэктыўныя прыгоды з псеўданімамі» буду ўжо пісаць. Бо што ні закажаш у Нацыянальнай ці Акадэмічнай бібліятэках, нічога няма. Нават «Свабоды» за 1995 год, «Нашага слова» за 2007 год і інш.

Юрась Гарбінскі абяцаў прыехаць у Мінск пад 30 чэрвеня. Яму пасланы пачатак слоўніка псеўданімаў і літара А (102 старонкі). Ён дасць В. Кіпелю[115] для прадмовы. Па літары А можна меркаваць, што гэта будзе за кніга. Хутчэй за ўсё будзе 3 ці 4 тамы. Бо як кадэбісты канфіскуюць, то хоць меней. Лягчэй будзе перавозіць тамы па 350–400 старонак.

Працую, але духу ў мяне меней і меней. Што зробіш? Такое жыццё. Але хочацца яшчэ тое-сёе зрабіць. Праглядаю цяпер літары Л і М. Заўтра мая ўнучка Каця здае экзамены. Спадзяюся, што пасля будзем здымаць апошнія пытанні.

З пашанаю

*Янка Саламевіч.*

P. S. Фота беларускага гуртка ў Варшаве буду шукаць. Маю ўспаміны Зоські Верас, як у 1913 годзе яна хадзіла ў Варшаве з сяброўкаю да Гальяша Леўчыка. Ён паказваў сваю бібліятэку, частаваў гарбатаю з нечым смачным.

*15 чэрвеня 2009 года*

Сяргей!

Атрымаў твой ліст, дзе просіш з «Нашай нівы» за 1913 год пра Буйніцкага[116]. За 1913 год «Нашай нівы» не маю, але яна ўжо тры гады як у Зміцера Санько[117]. Рыхтуюць перавыданне. Хочуць даць 1912–1915 і яшчэ тыя нумары, што выйшлі ў 1920-я. Відаць, будзе дарагі камплект.

Назбіраў кучу матэрыялаў пра Г. Леўчыка. Будзем рыхтаваць кніжку на аркушаў 15–20. Відаць, пойдзе сюды і матэрыял Я. Пятроўскага. Не ведаю, што рабіць. Пятроўскі некалі даслаў мне яго (Леўчыка) 37 лістоў і паштовак за 1932–1939 гады. Як іх падрыхтаваць? Стаў перапісваць. Але ж іх трэба набраць і адбіць для кніжкі. Даваць будзем і лісты яго. Іх даволі многа. Баюся, каб гэта не перабіла мне работы над слоўнікам псеўданімаў. Юрась Гарбінскі сказаў, што будзе ў Мінску 30 чэрвеня ці ў пачатку ліпеня. Перагаворым. Відаць, будзе 3 ці 4 тамы, бо ў два не ўлезе.

Я ўжо пісаў табе, што даслаў яму пачатак (прадмова да 1-га і 2-га выданняў), скарачэнні, спіс крыніц і літару А.



Недзе 140 старонак. Літару А ён павінен даслаць В. Кіпелю, бо той хоча напісаць 1–1,5 старонкі. Але па літары А можна меркаваць пра ўсё выданне. Я падрыхтаваў матэрыял да літары М уключна. Сёння здае экзамен мая ўнучка Каця. Тады разам з ёй буду правіць далей, бо літару Б не закончылі. В папраўлена раней. Таму А-В будзе ісці хутка. Далей пойдзе марудней, бо трэба правіць і правіць канчаткова, але ўжо адступаць няма куды. Чакаюць на канчатковы прагляд Н-Я. Найперш Н-Р. Думаю, што спраўлюся.

Што рабіць з 1913 годам? Найхутчэй пераздыму пазней. Устракаў у «Ніве» (Беласток) пра гэтыя гастролі Буйніцкага. І не толькі. Памятаецца нейкі беларускі вечар у Варшаве, дзе Леўчык чытаў свае вершы і, здаецца, спяваў.

Знайшоў! Ура! Пра Буйніцкага ў Варшаве яшчэ ў 1961 годзе ў № 53 пісаў М. Гайдук[118]. Спатрэбіцца табе. На гэтым вечары з вершамі выступаў і Леўчык. Цікава, ці ёсць фота?

Халера! Ніяк не знайду фота беларускага гуртка ў Варшаве, які амаль поўнасцю расшыфравала Зоська Верас. Не дзіва, што мая дачка Вераніка паўтарае словы нябожчыцы жонкі: «Ператварыў хату ў склад макулатуры!».

Трэба рыхтаваць кнігі Ф. Шантыра[119] (яго лісты да Зоські Верас я апублікаваў у часопісе «Полымя»), К. Лейкі (пойдуць і твае артыкулы), Янука Д[120]. Я рыхтую вялікую кнігу (А. Карлюкевіч сказаў, болей за 20 аркушаў) Зоські Верас. Матэрыялаў гібель. Адных успамінаў старонак 150, не меней. Трэба аддаць бабулі маральны доўг. Тым болей, што на паховінах я казаў, што пастараюся выдаць яе творы.

Пакуль усё, еду да Ніла Гілевіча[121]. А ў 16.15 сустракаемся з Язэпам Янушкевічам. Падару Нілу Гілевічу свой артыкул «Настаўнікі Алега Лойкі» з «Газеты Слонімскай».

Не хапае мне пакуль матэрыялаў пра Юзафа Вяжынскага, першага перакладчыка на польскую мову Максіма Багдановіча «Слуцкіх ткачыхаў» (1913 год, яшчэ быў жывы сам паэт).

Канчаю. Бывай здароў! Пішы. Ці атрымаў мой артыкул для беластоцкай «Нівы»?

*Янка Саламевіч.*

*18 чэрвеня 2009 года*

Высвятляў наконт «Вестника ком. просв. ССРБ» (1922, № 2). Ёсць толькі 1921, № 1, 2. 1922-га года няма ў бібліятэках. Гэты год абарваўся на № 12. Але яго нідзе няма, на жаль.

«Песня — душа народа» Р. Шырмы[122] ў мяне адзін экзэмпляр. Прагледзеў, здзіўляюся, што там няма чаго цытаваць. Пераважна выступленні на пленумах Саюза кампазітараў. Выступленні цікавыя, пісьменныя, але не Бог ведае што. Будзеш ведаць, што кніжка ў мяне ёсць. Калі трэба нешта зацытаваць, дашлю ксеракопію старонкі. Пакуль усё.

Давай будзем збіраць творы і лісты Гальяша Леўчыка. Кніжку складзем добрую. Фота таксама трэба.

Некалі Пятрусь Макаль не даў верш пра чыжыка. Нешта яму не падабаўся. Цяпер дамо ўсё. Нават твае артыкулы. Трэба толькі іх перагледзець. А з лістоў даем усё, што знойдзем.

«Настаўнікаў Алега Лойкі» паслаў у Нью-Ёрк Кіпелю і ў Варшаву Ю. Гарбінскаму. Там яны «Газету Слонімскую» не знойдуць. Хай чытаюць.

Фота Раісе Баравіковай[123] у «Маладосць» дасылай. Праўда, боязна, каб не згубілі. Невядома ж, у якія нумары будуць даваць — у 10-ы ці ў 11-ы, найхутчэй. А гэта ж яшчэ далёка. Сёння паказваў хлопцам фота з кнігі А. Лойкі «Дрэва жыцця» (Слонім, 2004). Сказалі, што не дадуць, бо бледныя, нейкія невыразныя, хоць і папера добрая. Хацеў, каб далі яго і Люсю з бацькамі 1938 г. і 50-годдзе Алега, калі мы ехалі з Жыровіч. На фота, праўда, айцец Канстанцін (памёр у 2002 годзе), апошнім часам быў архіепіскапам Брэсцкім (жартаваў, помню, што яго сапраўднае прозвішча як у футбаліста — Хоміч[124]).

Напішы, што будзем рабіць з Леўчыкам. Думаю, што трэба даць і ўспаміны Яна Пятроўскага. Фота ў цябе, відаць, ёсць.



Ці не маеш якіх матэрыялаў Зоські Верас? А. Карлюкевіч сказаў, што яе кніжку можна рабіць на 20 аркушаў. Быў у мяне машынапіс яе ўспамінаў пра таварыства «Пчала». Не магу знайсці. Пакуль усё. Пішы.

*Янка Саламевіч.*

*21 чэрвеня 2009 года*

Сяргей!

Наткнуўся на здымак М. Федароўскага, які нідзе не друкаваўся. Пераздымі і вярні мне. Пасылай на паштовую скрынку 103, бо ў пад'ездзе мая скрынка паламана нашымі слаўнымі дзецьмі даўно. Можа прапасці.

Г. Леўчык з ім быў знаёмы ў Варшаве. Зоська Верас успамінала, што ён меў ад Федароўскага цэлыя тры тамы «Люду беларускага», чым хваліўся, як паказваў ёй з сяброўкаю ў 1913 годзе сваю бібліятэку.

Назбіраў кучу матэрыялаў Г. Леўчыка, трэба іх парадкаваць. Бо ўсе ў кніжку не дасі — многія слабыя ў літаратурных адносінах. Гэта вершы. Многія лісты вельмі расцягнутыя. Таксама не дасі. Не магу знайсці «Долю і хлеб». Недзе паставіў у другі рад. Каб знайсці, патрэбен час.

Напісаў Ю. Гарбінскаму ў Варшаву ліст. Там жа ёсць музей Ф. Рушчыца, у якім павінны быць матэрыялы пра Ю. Вяжынскага. Хай папытаецца.

Ніяк не знайду тое фота, што расшыфравала Зоська Верас. Куды я засунуў — чорт яго ведае. Але буду шукаць.

Слоўнік псеўданімаў давялі ўчора да с. 330 — Г. У Каці сесія. Сёння Лена сказала, што не прыйдзе. Пайду ў бібліятэку. Шукаў ліст Г. Леўчыка да А. Луцкевіча ў «Спадчыне» — не знаходжу. Але добра помню, што такі быў апублікаваны. Трэба даць у кніжку.

У «Долі і хлебе» я хаваў іх перапіску. Напісаў, што лісты да невядомай асобы. Цяпер трэба сказаць праўду.

Зайду на пошту. Мо ёсць што ад цябе. Пакуль усё.

*Янка Саламевіч.*

*28 чэрвеня 2009 года*

Сяргей!

Мо ты прыслаў бы мне тую беластоцкую «Ніву», што даваў свой артыкул да майго 70-годдзя. Я зраблю копію і вярну назад табе. У бібліятэцы сшылі так, што нельга добра зняць. А сядзець і дапісваць у мяне не хапае часу.

Давай будзем абмяркоўваць, як будзем рабіць кніжку Гальяша Леўчыка. З успамінаў будзем даваць і тое, што Ян Пятроўскі змясціў у Светачы Хрыстовае навукі» (1985, № 2 (81): і яго ўспаміны, і А. Асіповіча-Асіпчыка[125]. І фота Леўчыка з крыжыкам трэба даваць, а не абрэзанае. Будзем прасіць варшавян, каб даслалі нам ксеракопіі яго твораў з гэтага часопіса.

Энцыклапедысты запланавалі выданне «Культура Беларусі» ў 7 тамах. Ужо гісторыкі звярталіся да мяне па артыкулу «Альманах», які пісаў я і давёў яго да 1995 года. Трэба шукаць новае. 7 новых альманахаў за 2006–2008 гады я знайшоў. Але ж іх было больш. Асабліва 1995–2005. Ці ў Слоніме акрамя «Золаку над Шчарай» што-небудзь выдавалася? Што ведаеш, падказвай мне, калі ласка. Ведаю, што выходзілі ў Гродне і Гомелі. У 2006 годзе выйшла «Жырандоля» — літаратурны альманах Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў (№ 1). Мо ўжо выдалі 2? Не бачыў яшчэ альманаха пад рэдакцыяй Алеся Масарэнкі[126] «Панядзелак» (в. 1–3). У Баранавічах у 2006 годзе выйшаў альманах «Святліца», а ў Мінску навукова-метадычны альманах «Беларускае літаратуразнаўства» (в. 2).

*Янка Саламевіч.*



*4 ліпеня 2009 года*

Сяргей!

Усё атрымаў. Ю. Весялкоўскі[127] найперш гісторык. У яго зборніку я не знайшоў ніводнага верша. Рыфмаваць — гэта не паэзія. Мой дзед раман некалі таксама рыфмаваў, але паэтам ён сябе не лічыў (у адрозненне ад Ю. Весялкоўскага).

Другое. Шкада, што няма звестак пра Юзафа Вяжынскага. Ён — мінчанін, сябра Фердынанда Рушчыца. Разам канчалі мінскую гімназію. Ф. Рушчыц быў з 1870 года. Відаць, і Ю. Вяжынскі таксама. Казімеж Вяжынскі — паэт. А гэтага звалі Юзаф. З Ф. Рушчыцам ён жыў адзін час у адным доме ў Вільні. Разам ездзілі на Крэўскі замак недзе ў пачатку 1930-х гадоў (Рушчыц памёр у 1936 годзе). Маю іх сумесную фатаграфію з «Роднага слова». Але гэта ўсё, што я пакуль ведаю пра Ю. Вяжынскага.

У Варшаве ёсць музей Ф. Рушчыца. Там могуць быць звесткі пра Ю. Вяжынскага. Паслаў ліст Ю. Гарбінскаму. Прасіў патэлефанаваць у музей. Адказу не маю пакуль.

Асіповіч-Асіпчык А. нарадзіўся 1.4.1909 года ў Слоніме. У яго ёсць псеўданімы Жыровіцкі, Слонімскі. Успаміны пра Г. Леўчыка надрукаваў у «Светачы Хрыстовае навукі», 1965, № 2 (81). С. 13–14. Маю. Подпіс А. Асіповіч —А. З Г. Леўчыкам сустракаўся ў Слоніме ў 1938 годзе ў дамку Г. Леўчыка. Слабаватыя ўспаміны, як для кніжкі Леўчыка сойдуць. Памёр А. Асіповіч 14.3.1990 г. у ЗША.

У 1914 годзе перад ад’ездам з Варшавы Зоська Верас з Марыяй Галубянкаю[128] наведалі кватэру Г. Леўчыка. Паказваў ім сваю бібліятэку. На шчасце, яна пра гэта напісала ўспаміны «У гасцях у Гальяша Леўчыка». Зраблю ксеракопію і дашлю табе. Спатрэбіцца. Зраблю табе таксама ксеракопію і дашлю і ўспаміны Зоські Верас «Варшаўскі гурток». Маю ад яе. Кароткія, але табе неабходныя.

Высылаю ксеракопію партрэта Ю. Вяжынскага работы Яна Булгака. Давядзецца пераламаць, каб улез у канверт. Хай і ў цябе будзе. У музей Максіма Багдановіча я занёс. Яны нават не чулі пра такога перакладчыка «Слуцкіх ткачых» на польскую мову (1913).

З рэдакцыі беластоцкай «Нівы» дзве газеты мне прыслалі. Фота М. Федароўскага табе прыдасца. Г. Леўчык ведаў яго асабіста, дапамагаў яму перапісваць беларускія народныя песні. У рукапісным аддзеле бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта зберагаюцца нашы народныя песні, перапісаныя рукою Гальяша Леўчыка (яго почырк).

Чакаю з Паставаў Юрася Гарбінскага, бо тыдзень таму тэлефанаваў, што ён ужо ў Мінску, едзе ў Паставы (ён адтуль родам). Не бачыўся з адным з братоў 9 гадоў. Прыедзе назад у Мінск у суботу. Не прыехаў, бо ўжо 9 вечара. Можа, прыедзе заўтра. Пакуль усё.

*Янка Саламевіч.*

P. S. Мы ўжо падрыхтавалі для Юрася слоўнік псеўданімаў да літары І ўключна. Знялі пытанні і з К, але Алена Кобец-Філімонава[129] памяняла Сандыгу на Драча Міхайлу. А як па бацьку? Цікава, што ў яе пашпарце? Кобец быў Рыгор Якаўлевіч[130]. У біяграфіі пісаў, што ён Рыгор Мусіевіч. А цяпер пакуль невядома, бо Алена нідзе не напісала, як бацька зваўся па бацьку, толькі Міхайла Драч. Буду ёй тэлефанаваць, але ці высветлю. Яна — злосная, скандальная баба. Некалі казала нашым энцыклапедыстам: «Я падам на вас у суд». Дзеўкі зрабілі, як яна хацела, а Пашкоў[131] усё выкрасліў. І правільна. Кобец — не геній.

Каб мае ногі лепш хадзілі, трэба было б схадзіць у Прэзідэнцкую бібліятэку. Мо там ёсць «Вестник нар. к-та просв. ССРБ», 1922, № 2 і «Наша ніва» за 1913 год. Але надзея слабая. Мо неяк дабяруся. Але гэта пазней.

*12 ліпеня 2009 года*

Сяргей!

Калі ты пачытаеш артыкулы А. Бужанскага (раскрыў яго псеўданім У. А. Калеснік[132] яшчэ ў 1993 годзе ў сваёй кнізе «Усё чалавечае», с. 33), звар'яцееш. Магутныя да нельга.

Аўген (ніколі не падпісваўся Яўген) Бартуль[133] вельмі часта друкаваўся ў заходнебеларускай прэсе. Я ж табе не Нацыянальная бібліятэка, каб мець бібліяграфію, каго ты захочаш.



Давай спачатку зробім Гальяша Леўчыка. Я маю горы матэрыялу пра яго, а потым, пасля К. Лейку і Янука Д. Я разумею, што ты хочаш схапіць усё адразу. Так не бывае.

У «Скарынічы» (Масква, 2006, выпуск 6) Стась прыпісаў А. Бужанскага Рамуальду Зямкевічу. А Аляксей Каўка[134] яму паверыў. Стась не чытаў ні Р. Зямкевіча, ні А. Бужанскага, таму сказаў такую лухту. Калі б ён пачытаў хоць адзін артыкул А. Бужанскага-А. Бартуля, глупства не гаварыў бы. Рамуальд Зямкевіч не гадзіцца ў падноскі А. Бужанскаму, не той талент, не тая галава, не той розум.

Першы том слоўніка псеўданімаў закончыў (А-М). Напісаў рэцэнзію на кніжку А. Мяснікова[135] «Сто асоб беларускай гісторыі» (выдатная, але ў ёй тысячы фактычных памылак, адным словам, былы журналіст «Звязды»). Занёс у «Полымя». Цяпер пішу серыю артыкулаў (5 або 6) пра беларускія календары ў «Роднае слова». Маю немалы ілюстраваны матэрыял, пра які шырокі чытач не ведае.

Паслаў табе ўспаміны Зоські Верас пра Варшаву 1914 года. Думаю, што прыдадуцца.

Заўтра еду з У. Дамашэвічам да Г. Шупенькі[136], які поўнасцю страціў памяць, заве мяне на «вы». Бедная яго Галя. Але церпіць. Што зробіш? Такое жыццё.

Пра Ю. Вяжынскага прасіў патэлефанаваць у Варшаве ў музей Фердынанда Рушчыца Юрку Гарбінскага. Ён тут у Мінску. Сустракаўся з ім і забыў спытаць, ці тэлефанаваў ён. Але яшчэ спытаю, бо ён сказаў, што будзе тут яшчэ каля двух тыдняў.

Цяпер ён у Заслаўі, дзе жывуць яго сын і дачка. З першай жонкаю ён развёўся. У Заслаўі купіў дзецям дом.

Калі будзеш у Беластоку, хай той, хто шукае звесткі пра Ю. Вяжынскага, не апускае рук. Гэта ж сябра Ф. Рушчыца. Я абавязкова пра яго павінен напісаць. Ксеракопію, што праслаў табе, занёс у музей Максіма Багдановіча. Пакуль усё.

*Янка Саламевіч.*

*16 ліпеня 2009 года*

Сяргей!

Дасылаю ксеракопію артыкулаў, якія табе прыдадуцца: Ластаўка П. Беларусы ў Варшаве да 1939 г. // Ніва, 1957, № 10 (54), 8 сакавіка. Орсы М. Беларускі арганізаваны рух у Варшаве // Ніва, 1991, № 42, 20 кастрычніка. Чыквіна Я.[137] Беларускі літаратурны рух у Польшчы // Ніва, 1991, № 51, 22 снежня.

Ці атрымаў ты ксеракопію ўспамінаў Зоські Верас?

Звесткі пра Юзафа Вяжынскага пакуль трэба перапраўляраць. Няўжо гэта той сябра Ф. Рушчыца? Няўжо ён быў татарынам (караімам)? Мо супадае прозвішча і імя? Такое бывае. Буду перапраўляраць. Добра, што такое стала вядома.

Учора быў на фальклярыстычнай канферэнцыі ў Інстытуце гісторыі АН Беларусі. А яна ішла па-англійску. Сядзеў, як баран. Ведаў Зіну Мажэйку[138] і Уладзіміра Бярберава[139], кіраўніка «Ліцвінаў». Зіна паказвала фільм пра палескіх спевакоў. Яшчэ раз паслухаў, як спявае Сцяпан Дубейка[140] з жонкаю (ужо памерлі). А я некалі слухаў іх жывых. У Мінск прывозіла тая ж Зіна Мажэйка.

*Янка Саламевіч*

P. S. Ю. Гарбінскі падараваў мне сваю кніжышчу «Беларускі рэлігійны друк на Захадзе. 1945–2005» (887 старонак, у нас не сшылі б).

*27 ліпеня 2009 года*

Дарагі Сяргей!

Валынчыкам я не займаўся, таму не маю нічога, на жаль.

Пазаўчора першы том псеўданімаў (А-М) паехаў у Варшаву. Сёлета павінен выйсці.

Едучы ў Паставы (ён з Паставаў), Юрась Гарбінскі абяцаў у жніўні прывезці вёрстку.

*Янка Саламевіч.*



*2 верасня 2009 года*

Сяргей!

У «Chryścijanskaj Dumcy», 1939, № 11 сустрэў матэрыял Nie-varsauskaha (думаю, што гэта П. Ластаўка) «Беларусы ў Варшаве». Дасылаю. Можа прыдасца. Тым болей, што ў матэрыяле называюцца прозвішчы ўрада Беларускага асветнага таварыства ў Варшаве.

10.09. павінен прыехаць з Варшавы Юрась Гарбінскі. Будзем даводзіць першы том майго слоўніка псеўданімаў.

Нешта кепскавата сябе адчуваю. Халера яго ведае, што такое. Цяпер такое мне якраз не трэба.

*Янка Саламевіч.*

*29 снежня 2009 года*

Дарагі Сяргей!

Табе і ўсім тваім родным у Новым годзе добрага здароўя! Поспехаў у працы! Як кажуць у нашым народзе:

Дай, Божа, каб усё было гожа,
А што нягожа — не давядзі, Божа!

*Янка Саламевіч.*

*5 лютага 2010 года*

Сяргей!

Сяджу над трэцім томам свайго слоўніка псеўданімаў. Дайшоў да літары І (без лацінкі). Кашляю з месяц. Хочацца зрабіць яшчэ тое-сёе. «Маладосць» у № 12, 2009 дала мае ўспаміны пра Алега Лойку. З № 3 сёлета буду весці ў «Маладосці» рубрыку «Займальнае мовазнаўства». Хоць я і не мовавед, але ўгаварылі. Ды і дзе цяпер зробіш капейку — ніхто не плаціць ганарару. Крыўдна, што за т. 1–3 слоўніка псеўданімаў ганарару не будзе. Але што зробіш?!

*Янка Саламевіч.*

*27 і 28 лютага 2010 года*

Братка Сяргей!

Дзякую за кніжку Леаніда Трубача[141]. Гэта будзе яму добры помнік.

Перакіднога краязнаўчага календара Гродзеншчыны на 2010 год не маю. «Колас беларускай нівы» (Гродна, 1913) вокладкі не меў. Прынамсі, той, што я адшукаў у віленскім архіве (фонд 21).

«Педагогического дела» за 1912 год я нават не трымаў у руках. Не бачыў і фота Юркі Снапка[142]. Яго псеўданімы Бацька і Dziadzko я раскрыў у выданні слоўніка псеўданімаў (Мінск, 1983. С. 186) са слоў Зоські Верас.

У кніжцы «Краю мой — Нёман. Гродзеншчына літаратурная» (Мінск, 1986. С. 249–250) Аляксей Пяткевіч[143] апублікаваў артыкул «З кагорты пачынальнікаў», дзе раскрыў біяграфію Язэпа Лявіцкага і змясціў 7 яго вершаў. Я меў 2 экз. кніжкі, але адзін аддаў Валодзю Ягоўдзіку.

Што да фатаграфіі Я. Лявіцкага, дык яе бачыць не даводзілася. Можа, Аляксей Пяткевіч мае здымак Гродзенскага гуртка беларускай моладзі, на якім ёсць і Язэп Лявіцкі. Трэба спытаць у яго. А асобнага здымка Я. Лявіцкага я не бачыў, на жаль.

Аляксей Пяткевіч пісаў, што рыхтуе каляндар па Гродзеншчыне на 2011 год. Яго сястра Зіна — мая аднакурсніца. Жыве ў Фаніпалі пад Мінскам. Крыху перапісваліся.

Сёлета будзе 50 гадоў, як мы закончылі БДУ. Вельмі хацелася б сустрэцца, пабачыцца, пагаварыць. Ці давядзецца?

Выкладчыкаў нашых ужо няма нікога. З 13 хлопцаў-аднакурснікаў ужо не стала 8. Засталося нас 5. Адзін у Чэрвені — Яўген Несцяровіч, у Мазыры — Валодзя Піскун, у Мінску — Косця Цыбулька, Валодзя Агіевіч (сын былога крытыка) і я. Несцяровіч ужо меў тры інфаркты.

Апошнім часам нешта слаба сябе адчуваю. Нават 12 лютага ў 9-ю бальніцу трапіў: ішла кроў з носа моцна.



Думаю, што мае ўспаміны пра Алега Лойку ў № 12 «Маладосці» за 2009 год ты бачыў. Хай будзе тое, што прыйшло ў галаву.

Многія пішуць, просяць тое-сёе, хочуць. Каб зрабіў тое, ці гэта. Забываюць, што я ўжо не малады чалавек (ідзе 8-ы дзясятак), што духу ўсё меней і меней. А яшчэ ж трэба дарабіць самае цяжкае — 3-і том слоўніка псеўданімаў. Смяюся: «Я яго, ці ён мяне». Усе хочуць і я таксама, каб усё ж я яго.

Ты малайчына — столькі робіш, столькі ведаеш. Дай Бог табе здароўя. Трымаймася!

*Янка Саламевіч.*

*16 верасня 2010 года*

Сяргей!

«Новая дарога» ёсць у нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Заўтра 40 дзён па Генадзю Шупеньку. Жонка яго просіць быць. Тэлефанавала са Слоніма Люся Лойка, сястра Алега Лойкі. Казала, што помнік яму паставілі харошы. Толькі нікому не спадабаўся барэльеф на ім. Успомніў словы бацькі: гаспадыні хлеб удаўсё — пад скарынку кот схаваўсё.

Мой слоўнік псеўданімаў не выйдзе. Юрась Гарбінскі казаў, што ён цяпер у Я. Запрудніка[144]. Нешта там рэдагуе, правіць. Што — невядома. Ды і немалады ўжо, з 1926 года.

*Янка Саламевіч.*

## Каментар

[1] Іван Крамко (1931) — беларускі мовазнавец, кандыдат філалагічных навук.

[2] Адам Мальдзіс (1932) — літаратуразнавец, празаік, доктар філалагічных навук.

[3] Феадосій Баравік — уніяцкі манах, у XVII стагоддзі знаходзіўся ў Жыровіцкім манастыры.

[4] Уладзімір Дубоўка (1900–1976) — беларускі паэт.

[5] Вёска Малая Кракотка (цяпер Вялікая Кракотка) Слонімскага раёна — родная вёска Янкі Саламевіча.

[6] Янка Маўр (Іван Фёдараў) (1883–1971) — беларускі пісьменнік.

[7] Алег Лойка (1931–2008) — беларускі пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар.

[8] Мікола Арочка (1930–2013) — беларускі пісьменнік, доктар філалагічных навук.

[9] Гальяш Леўчык (Ілья Ляўковіч) (1880–1944) — беларускі паэт, калекцыянер, музыкант.

[10] Янка Купала (Іван Луцэвіч) (1882–1942) — народны паэт Беларусі, класік беларускай літаратуры.

[11] Уладзімір Сакалоўскі (1930–2013) — беларускі літаратуразнавец, перакладчык, кандыдат філалагічных навук.

[12] Мікалай Сідаровіч (1928–2003) — слонімскі настаўнік, краязнавец.

[13] Кандрат Лейка (1860–1921) — беларускі пісьменнік, педагог. Памёр у г. Здалбунаў Ровенскай вобласці ва Украіне.

[14] Францішак Багушэвіч (1840–1900) — адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

[15] Лідзія Мукасей — былая сакратарка Слонімскага райкама партыі, жыве ў Слоніме.

[16] Уладзімір Разінкевіч — былы першы сакратар Слонімскага райкама партыі, жыў і памёр у Слоніме.

[17] Сяргей Прасняк (1937) — слонімскі журналіст, былы рэдактар слонімскай раённай газеты.

[18] Аляксандр Жукоўскі (1920–1995) — слонімскі настаўнік, краязнавец, заслужаны работнік культуры Беларусі.

[19] Міхась Стральцоў (1937–1987) — беларускі пісьменнік.

[20] Уладзімір Кароткі — кандыдат філалагічных навук, дацэнт філалагічнага факультэта БДУ.

[21] Алег Лойка (1931–2008) — доктар філалагічных навук, прафесар, літаратуразнавец, паэт, перакладчык, педагог.

[22] Мялецій Сматрыцкі (1577–1633) — вялікалітоўскі філолаг, грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч, старабеларускі пісьменнік-палеміст, полацкі праваслаўны архіепіскап.

[23] Уладзімір Ягоўдзік (1956) — беларускі пісьменнік.

[24] Антон Валынчык (1896–1985) — беларускі кампазітар, харавы дырыжор, педагог.



[25] Андрэй Пракапчук (1896–1970) — доктар медыцынскіх навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Беларусі.

[26] Васіль Супрун (1926–2007) — беларускі паэт, краязнавец, археолаг.

[27] Міхаіл Рылко (1934–2012) — журналіст, краязнавец, калекцыянер.

[28] Канстанцін Пушкарэвіч (1890–1942) — доктар філалагічных навук, прафесар, перакладчык.

[29] Іна Назіна — доктар мастацтвазнаўства, прафесар.

[30] Іван Чыгрын (1931–2006) — кандыдат філалагічных навук, беларускі літаратуразнавец, паэт.

[31] Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі) (1887–1920) — пісьменнік і грамадскі дзеяч, класік беларускай літаратуры.

[32] Антон Луцкевіч (1884–1942) — палітычны і грамадскі дзеяч, гісторык і літаратурны крытык, прэм’ер-міністр Рады БНР.

[33] Вацлаў Ластоўскі (1883–1938) — палітычны і грамадскі дзеяч, этнограф, гісторык, пісьменнік, акадэмік Акадэміі навук Беларусі.

[34] Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая) (1892–1991) — беларуская пісьменніца, публіцыстка, лексікограф, перакладчыца, асветніца, грамадская дзяячка.

[35] Казімір Сваяк (Стаповіч) (1890–1926) — каталіцкі святар і паэт.

[36] Андрэй Зязюля (Аляксандр Астрамовіч) (1878–1921) — каталіцкі святар усходняга абраду, літаратар.

[37] Янка Генюш (1902–1979) — доктар з Зэльвы, выпускнік Карлавага ўніверсітэта ў Празе, муж паэткі Ларысы Генюш.

[38] Авяр’ян Дзеружынскі (1919–2002) — беларускі паэт.

[39] Алена Васілевіч (1922) — беларуская пісьменніца.

[40] Міхал Федароўскі (1853–1923) — беларускі і польскі фалькларыст, этнограф і археолаг.

[41] Анатоль Іверс (Іван Міско) (1912–1999) — беларускі паэт.

[42] Генадзь Кісялёў (1931–2008) — доктар філалагічных навук, даследчык беларускай літаратуры.

[43] Ян Пятроўскі (1905–2002) — пратэстанцкі прапаведнік, рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч міжваеннай Заходняй Беларусі і на эміграцыі, перакладчык, выдавец.

[44] М. Арол (Сцяпан Пяцельскі) (1890–1917?) — беларускі паэт, публіцыст.

[45] Тодар Лебяда (Пятро Шырокаў) (1914–1970) — беларускі паэт, драматург, празаік.

[46] Генадзь Каханоўскі (1936–1994) — беларускі пісьменнік, гісторык, краязнавец.

[47] Ігнат Дварчанін (1895–1937) — беларускі літаратар, перакладчык, грамадска-культурны дзеяч.

[48] Міра Лукша (1958) — беларуская паэтка і журналістка з Беластока.

[49] Пётр Петрыкаў (1927–2007) — савецкі і беларускі гісторык.

[50] Сяргей Чыгрын (1958) — беларускі літаратар, гісторык, краязнавец і журналіст.

[51] Мар’ян Пецюкевіч (1904–1983) — беларускі этнограф, грамадскі дзеяч, паэт і публіцыст.

[52] Глагоўская Алена (1958) — даследчыца беларускай літаратуры з Польшчы.

[53] Антон Неманцэвіч (1893–1943) — беларускі каталіцкі святар усходняга абраду, грамадска-культурны дзеяч, публіцыст, выдавец.

[54] Аляксандр Ільін (1956) — кандыдат фізіка-матэматычных навук, краязнавец.

[55] Язэп Палубятка (1955) — беларускі літаратар, журналіст.

[56] Віктар Валадашчук (1958) — рэдактар «Газеты Слонімскай».

[57] Яўген Вапа (1965) — беларускі дзеяч у Польшчы, рэдактар тыднёвіка «Ніва» ў Беластоку.

[58] Кастусь Скуратовіч (1952) — беларускі журналіст, сацыёлаг і філосаф.

[59] Алесь Мікалайчанка (1946) — беларускі літаратар, журналіст.

[60] Алесь Аркуш (1960) — беларускі літаратар.

[61] Арсень Ліс (1934) — беларускі літаратар, доктар філалагічных навук.

[62] Віталь Скалабан (1947–2011) — беларускі літаратар, архівіст, гісторык, кандыдат гістарычных навук.

[63] Георгій Валкавыцкі (1923–2013) — беларускі паэт, публіцыст, журналіст з Беластока.

[64] Ірына Валынчык (1973) — слонімская паэтка.

[65] Вольга Шынкевіч (1980) — слонімская журналістка.

[66] Леанід Бялькевіч (?–1931) — заходнебеларускі грамадскі актывіст і паэт.



[67] Аляксандр Бяленка (?–?) — заходнебеларускі дзеяч і паэт. Жыў і памёр на Дзятлаўшчыне.

[68] Міхась Бортнік (1962–2008) — беларускі філолаг, педагог.

[69] Уладзімір Дамашэвіч (1928–2014) — беларускі пісьменнік.

[70] Уладзімір Содаль (1937) — беларускі краязнавец, літаратуразнавец.

[71] Сяргей Хмара (Сяргей Сіняк) (1905–1992) — беларускі паэт, публіцыст, выдавец.

[72] Пятро Ластаўка (1907–1968) — публіцыст і грамадска-культурны дзеяч у Заходняй Беларусі, жыў у Варшаве.

[73] Анатоль Сумны (Анатоль Кунцэвіч) (1912–?) — беларускі царкоўны дзеяч у Аўстраліі, паэт.

[74] Зміцер Кісель (1963–2005) — гродзенскі грамадскі дзеяч, журналіст.

[75] Юрась Гарбінскі (1963) — беларускі літаратуразнавец, педагог.

[76] Максім Багдановіч (1891–1917) — класік беларускай літаратуры.

[77] Леанард Заяц (1890–1935) — палітычны дзеяч, дзяржаўны сакратар урада БНР.

[78] Пятро Сакол (Пятро Масальскі) (1905–1985) — беларускі грамадска-культурны дзеяч у Латвіі, паэт.

[79] Уладзімір Шнэк (1927–1995) — беларускі пісьменнік, дзеяч беларускай дыяспары ў Аўстраліі.

[80] Хведар Ільяшэвіч (1910–1948) — беларускі паэт, гісторык, журналіст.

[81] Міхась Ясень (Міхаіл Гольдман) (1924–2006) — беларускі паэт-песеннік.

[82] Эдзі Агняцвет (Эдзі Каган) (1913–2000) — беларуская паэтка.

[83] Вольга Галіна (1899–1980) — народная артыстка Беларусі.

[84] Якуб Колас (Канстанцін Міцкевіч) (1882–1956) — народны паэт Беларусі, класік беларускай літаратуры.

[85] Сцяпан Ліхадзіеўскі (1911–1979) — беларускі пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар.

[86] Мікалай Някрасаў (1821–1877) — рускі паэт.

[87] Уладзімір Бурцаў (1862–1942) — рускі публіцыст і выдавец.

[88] Ніна Ватацы (1908–1997) — беларускі бібліёграф.

[89] Язэп Лёсік (1883–1940) — беларускі пісьменнік, мовавед, публіцыст, нацыянальны і палітычны дзеяч, акадэмік.

[90] Павел Каравайчык (1896–1937) — беларускі крытык, публіцыст, паэт, медык.
[91] Сымон Рак-Міхайлоўскі (1885–1938) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, паэт, публіцыст, выдавец.
[92] Якаў Браништэйн (1897–1937) — беларускі і яўрэйскі пісьменнік.
[93] Міхась Лынькоў (1899–1975) — беларускі пісьменнік.
[94] Іраіда Царук (1928) — доктар гістарычных навук, прафесар.
[95] Мікола Ермаловіч (1921–2000) — беларускі гісторык, пісьменнік.
[96] Аляксей Карпюк (1920–1992) — беларускі пісьменнік.
[97] Ігар Кобзеў (1924–1986) — рускі паэт, крытык, публіцыст.
[98] Пятрусь Макаль (1932–1996) — беларускі пісьменнік.
[99] Юзаф Вяжынскі (1871–1941) — літаратар, педагог, перакладчык, сябра дзіцячых і школьных гадоў Фердынанда Рушчыца.
[100] Фердынанд Рушчыц (1870–1936) — мастак, графік, тэатральны дэкаратар, педагог.
[101] Ян Булгак (1876–1950) — польскі і беларускі фатограф.
[102] Мікола Мятліцкі (1954) — беларускі паэт.
[103] Рамуальд Зямкевіч (1881–1943?) — грамадскі і палітычны дзеяч, калекцыянер і бібліяфіл.
[104] Уладзіслаў Сталыгва (?–?) — беларускі грамадскі дзеяч у пачатку XX стагоддзя. У 1908 годзе быў адміністрацыйным супрацоўнікам пецярбургскай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца». Потым выехаў і жыў у Варшаве.
[105] Станіслаў Казура (1882–1961) — беларускі і польскі кампазітар, дырыжор, музыкант, педагог.
[106] Віктар Швед (1925) — беларускі пісьменнік з Польшчы, жыве ў Беластоку.
[107] Алесь Карлюкевіч (1964) — беларускі пісьменнік, краязнавец і журналіст.
[108] Рыгор Семашкевіч (1945–1982) — беларускі пісьменнік і педагог.
[109] Юльян Пшыркоў (1912–1980) — беларускі пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар.
[110] Уладзімір Навумовіч (1943) — беларускі пісьменнік, педагог.
[111] Міхаіл Дубянецкі (1927–1990) — беларускі пісьменнік, перакладчык.



[112] Вацлаў Жыдліцкі (1931–2002) — чэшскі перакладчык і літаратуразнавец.
[113] Міхась Раманюк (1944–1997) — беларускі мастацтвазнавец, мастак, этнограф.
[114] Антаніна Шалемава (Лойка) (1953) — беларускі літаратуразнавец, педагог, доктар філалагічных навук.
[115] Вітаўт Кіпель (1927) — беларуска-амерыканскі грамадскі дзеяч, публіцыст.
[116] Ігнат Буйніцкі (1861–1917) — беларускі тэатральны рэжысёр і акцёр, стваральнік нацыянальнага тэатральнага мастацтва.
[117] Зміцер Санько (1949) — беларускі біёлаг, адзін з заснавальнікаў Таварыства беларускай мовы.
[118] Мікола Гайдук (1933–1998) — беларускі пісьменнік, краязнавец, журналіст, педагог. Жыў на Беласточчыне.
[119] Фабіян Шантыр (1887–1920) — беларускі літаратар і грамадскі дзеяч.
[120] Янук Д. (Янук Дарашкевіч) (1890–1943) — беларускі паэт.
[121] Ніл Гілевіч (1931) — народны паэт Беларусі.
[122] Рыгор Шырма (1892–1978) — беларускі харавы дырыжор, кампазітар, фалькларыст, народны артыст Беларусі.
[123] Раіса Баравікова (1947) — беларуская пісьменніца.
[124] Аляксей Хоміч (1920–1980) — савецкі футбаліст, галкіпер.
[125] Алесь Асіповіч-Асіпчык (1909–1990) — беларускі царкоўны і грамадска-культурны дзеяч на эміграцыі.
[126] Алесь Масарэнка (1938) — беларускі пісьменнік.
[127] Юры Весялкоўскі (1924) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч у Вялікабрытаніі, гісторык, выдавец.
[128] Марыя Галубянка (Голуб) (?–1939) — грамадская дзяячка, лекарка, жыла ў Празе.
[129] Алена Кобец-Філімонава (1932) — беларуская пісьменніца.
[130] Рыгор Кобец (1898–1990) — беларускі пісьменнік.
[131] Генадзь Пашкоў (1948) — беларускі пісьменнік.
[132] Уладзімір Калеснік (1922–1994) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, педагог.
[133] Аўген Бартуль (1908 — пасля 1944) — беларускі паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч.
[134] Аляксей Каўка (1937) — беларускі літаратар, гісторык, грамадскі дзеяч.

[135] Анатоль Мяснікоў (1950–2011) — беларускі пісьменнік, гісторык.
[136] Генадзь Шупенька (1936–2010) — беларускі літаратар.
[137] Ян Чыквін (1940) — беларускі паэт з Польшчы.
[138] Зінаіда Мажэйка (1933–2014) — беларуская этнамузыказнаўца, доктар мастацтвазнаўства.
[139] Уладзімір Бярбераў (1957) — беларускі музыкант, дудар, фалькларыст.
[140] Сцяпан Дубейка — выканаўца народных песень з Лельчыцкага раёна.
[141] Леанід Трубач (1963–2009) — беларускі паэт і педагог, жыў і памёр у Паставах.
[142] Юрка Снапко (Язэп Лявіцкі) (1893–1916) — беларускі грамадска-культурны дзеяч, сябра Гродзенскага гуртка беларускай моладзі.
[143] Аляксей Пяткевіч (1931) — беларускі пісьменнік, педагог, прафесар Гродзенскага ўніверсітэта.
[144] Янка Запруднік (1926) — беларускі дзеяч у ЗША, гісторык.



# АЎТОГРАФЫ ЯНКІ САЛАМЕВІЧА

* * *

На беларускім літаратурна-мастацкім календары «Кола дзён-87» (Мінск, 1987): *«Сяргею Чыгрыну на добрае знаёмства ад аднаго са складальнікаў. Янка Саламевіч. Менск, 19.2.1987».*

* * *

На кнізе «Беларускія загадкі» (Мінск, 1989): *«Сяргею Чыгрыну з пажаданнем шчасця, творчага плёну на роднай ніве — складальнік Янка Саламевіч. 11.01.1990, Менск».*

* * *

На кнізе Міхала Федароўскага «Люд беларускі. Вяселле» (Укладанне, прадмова і пераклад з польскай мовы Янкі Саламевіча. Мінск, 1991): *«Сяргею Чыгрыну з пажаданнем спору і плёну ў працы на карысць Бацькаўшчыны — Янка Саламевіч. 17.6.1991».*

* * *

На кнізе Янкі Саламевіча «Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX стст.)» (Мінск, 1983): *«Сяргею Чыгрыну, жадаючы поспехаў у задумах на карысць Бацькаўшчыны, хоць запознена — аўтар Янка Саламевіч. 17.08.1992 г. У хаце Сяргея першы раз».*

* * *

На кнізе Леана Патоцкага «Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану» (Мінск, 1992): *«Сяргею Чыгрыну — рупліўцу на роднай ніве, ад перакладчыка Янкі Саламевіча. 8.2.1998, Мінск».*

* * *

На першым томе энцыклапедыі «Беларускі фальклор» (Мінск, 2005): *«Сяргею Чыгрыну па-зямляцку шчыра Янка Саламевіч. Тут даволі многа маіх артыкулаў. Менск, 7.12.2005».*

* * *

На кнізе Мар’яна Пецюкевіча «Сляды незабыўныя продкаў» (укладальнік Янка Саламевіч. Мінск, 2007): *«Сяргею Чыгрыну з найлепшымі пажаданнямі Янка Саламевіч. 26.2.2007. Менск».*

* * *

На кнізе Янкі Саламевіча «Міхал Федароўскі» (Мінск, 1972): *«Сяргею Чыгрыну па-зямляцку шчыра — удзячны аўтар. 20.10.2008».*

# Імянны паказнік

А



Б

В







Г



Д

Е



Ё



Ж



З



І



К







Л

М







Н



О



П



Р

С







Т



У



Ф



Х



Ц



Ч

### Ш



### Э



### Я





# Змест

## ЗГАДКІ

## ВЫДАННІ



## ГУТАРКІ



## СЛОНІМСКІЯ СТАРОНКІ







## МОЙ ЗЯМЛЯК ЯНКА САЛАМЕВІЧ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

ХОЧАЦЦА ДАХАТЫ

*Гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя*
*артыкулы, гутаркі, лісты, аўтографы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Н. Кучмель*
Набор *С. Чыгрына*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *Н. Кучмель*

Падпісана да друку 10.06.2014. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 12,6. Ул.-выд. арк. 9,01.
Наклад 100 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/218 ад 14.04.14.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.